# ПОЛЫМЯ



БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

(СЁМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)







## № 4
## 1928

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва
МЕНСК—1928



# ДРАПЕЖНІКІ *)

*Роман у трох частках*

**Я. Нёманскі**

## Частка першая

### VI

Сымону Кавальчыку было ўжо пад пяцьдзесят, ён меў дарослых сыноў і дачку, але ўсё яшчэ ня мог пазбавіцца ад блазенскіх лятуценьняў. Можа з самага дзяцінства, калі ён упяршыню пагнаў пасьвіць каровы, у ім зарадзілася нахільнасьць да лятуценьняў. Шмат іх пралящела ў яго жыцьці, не пакінуўшы сьледу ў рэальнасьці. Ён калісьці цацкаўся з надзеяй, што ў яго будзе хоць з паўвалокі зямлі:—як яна апынiцца ў яго руках, ён добра ня ведаў, але жаданьне яго было такім моцным, што часамі ён быў упэўнены ў сваім багацьці. Гады ішлі, дзеці падрасталі, а яго палоскі ня шырыліся. Бывала таксама, што ён гадзінамі любаваўся коньмі высялкоўца Шкілёнка, якія былі гладкімі і, быццам гуляючы, лёгка цягнулі альбо вялізарны плуг, альбо кары са збожжам ці сенам. Вось гэта коні! Гэта не яго аблезлы, бяззубы конік з казу велічынёю, якому трэба было памагаць за пастронак нават цягнуць дрыўляную барану. Ня інача як трэба завесьці каня накшталт Шкілёнкавага. Але добра сказаць—завесьці, а на справе праходзілі год за годам, і заставаўся ўсё той самы аблезлы, са сьлязьмі ў вачох стары каняка. Адмовіўся, напасьледак, дзядзька Сымон ад свае надзеі мець здатнага каня. Было шмат яшчэ якіх шашляў у Кавальчыка, яны прыходзілі, валодалі нават даўгі час яго думкамі, потым пакрысе вылятаці, даючы месца іншым. Асабліва шмат хімэр зараілася пад аўчыннаю шапкаю дзядзькі Сымона пасьля „бунтаў“ 1905 году: вось цяпер ужо Дума дасьць зямлю, можна будзе купіць каня, паправіць пуню, ды ці мала яшчэ што. Аднак час ішоў, думалі там ці ня думалі—гэтага Сымон ня ведаў,—а зямлі не прыбаўлялася. Горш яшчэ стала: старэйшы сын ажаніўся і захацеў аддзяліцца. Сымон Кавальчык зусім быў падбіты.

Была, аднак, думка ў Сымона, якую ён гадаваў з маладых гадоў і з якою не расставаўся ні пры якіх абставінах, ні пры якіх прыкрасьцях жыцьця. Гэта—пабудаваць новую хату, дзе-б печ была з комінам. Як

*) Гл. „Полымя“ № 2.

стаў помніць сябе Сымон, кожны дзень раніцою хата была паўнюсенька дыму; агонь лучыны ледзь відаць быў скрозь цемру, дым з печы проста валіў на хату. Таму, мусіць, вочы Сымона і яго жонкі заўсёды сьлязіліся. Днём сьцены ў хаце блішчэлі чорным лякам, і трэба было толькі датаркнуцца да іх, як чорная тлустая пляма садзілася на адзежу, на цела. Сам Кавальчык пах дымам, твар яго быў спаласованы шэрымі шрамамі: гэта адвечная сажа моцна засела ў маршчыны, адкуль яе нельга было выжыць ніякім мыцьцём. Вось у гэтай нібы пасечанай галаве зарадзілася вялікая ідэя—пазбавіцца ад курнае хаты. Гэтая ідэя настолькі глыбока захапіла самога Сымона Кавальчыка, што ён змог запаліць ёю і сваю жонку і малодшых дзяцей. Ці зарабляла дачка залатоўку жнівам, ці прадавала жонка пяток-дзесятак яек, ці зарабляў ён сам выпадкова зімою ў лесе які-небудзь рубель—усё гэта адкладалася ў граз- ную анучку, якую хаваў сам гаспадар у шуфлядцы за абразом.

— Трэба было-б Ганулі купіць мультану на спадніцу к вялікадню,— іншы год асьмельвалася жонка папрасіць Сымона.

— А! няхай пачакае трохі, вось зьбяром на хату, тады ўжо будзеце думаць аб спадніцах,—адказваў ён.

І Ганулю з году ў год на вялікдзень хадзіла ў зрэбнай дамотканай спадніцы. Так і ў дзеўкі вышла. А бацька кожную зіму прывозіў з лесу дзьве-тры хваіны, якія акорваў, рэзаў на кавалкі і хаваў дзе-небудзь пад страхою, каб ня гнілі. Напасьледак, к другому канцу сяней быў прыбудаваны зруб; на ім да зімы ўзьнялася страха. На вясну хата—і з комінам—была гатова. Яна зухавата паказвала свае белыя бакі і ветліва пазірала чыстымі шыбкамі вакон. Старая асеўшая хата, уся чорная, з заткнутымі ў вокнах анучамі замест шыбаў, з выгнутаю страхою прынікла да зямлі, бязвольна чакаючы свайго канца пасьля многапакутнага жыцьця. Але канец яшчэ ня зусім надышоў.

Сям'я Кавальчыкаў і рада была новай хаце, і сумна было за яе пабудову. Як ні скупіўся дзядзька Сымон, як ні стараўся абыйсьціся бяз найманьня чужых для работы, але ўсё-ж страты былі: і вокны, і печ, і дзьверы, і яшчэ што-кольвечы нельга было зрабіць самому. Трэба было купіць розныя рэчы, наняць майстроў. Грошай на гэта ня было, прышлося пазычыць частку ў таго-ж Шкілёнка, частку ў другіх то пад адработак, то са зваротам. Вось гэтая пазычка і атручвала ўсю асалоду зьдзейсьненьня даўняга жаданьня ўсяе сям'і. На сёмуху меркаваліся ўвайсьці ў новую хату, а ўжо да гэтага тэрміну прышлося ня адзін дзень араць у Шкілёнка, тады як сам Кавальчык не адсеяўся, і яго вузкія палоскі выдзяляліся на полі сваёю пустэльнасьцю.

Якраз каля гэтага часу зьявіўся ў Ляскаўцах Зыкаў. Перад ім адразу паўстала пытаньне, дзе жыць. Пасёлак, які толькі пачаўся за будоўляю на пустошы за маёнткам, ня мог умясьціць нават стаяўшых ужо на працы гутнікаў. Пан Ляскоўскі, які хацеў задобрыць майстра, што

павінен быў значна дапамагаць у абсталяваньні папяровае фабрыкі, прапанаваў яму жыць у адным з дамоў маёнтку, побач з цівунам. Але такая пэрспэктыва зусім не падабалася Зыкаву, і ён мякка, але рашуча адмовіўся ад панскае ласкі і ўвагі. Дні два-тры ён начаваў на пустошы, але ў кожнай халупцы рабочых была такая цесната, што разьлічваць на доўгую ўважлівасьць таварышоў без таго, каб не непакоіць іх, Зыкаў ня мог.

Сымон Кавальчык, дачуўшыся аб Зыкаве, ухапіўся за яго, як за саломінку. Па некалькі разоў у дзень ён дамагаўся сустрэцца з майстрам, і кожны раз прасіў узяць у яго кватэру. Зыкаў доўга адмаўляўся, напасьледак, і сам адчуваючы патрэбу ў вырашэньні як-небудзь пытаньня з кватэраю, пайшоў да Кавальчыка. Сымон прапанаваў яму новую хату.

— А дзе-ж вы самі будзеце жыць?

— Пажывём яшчэ і ў старой, не вялікая бяда,—міргаючы выцьвілымі вачмі адказаў Зыкаву гаспадар.

Зыкаву стала прыкра ад усяго выгляду курнае хаты. Пачуцьце сораму кранулася ў яго пры думцы, што цэлая сям'я застанецца жыць у гэтым сажным мяшку, тады як ён адзін будзе займаць сьветлую чыстую хату. Ён пачаў адмаўляцца.

— Ды я-ж з вас дорага не вазьму,—угаварваў Сымон.

— Не, ня ў гэтым справа!

— Будзьце ласкавы, застаньцеся! Дзякаваць доўга буду вас.

І Сымоніха пачала пераказваць усё, як цяжка ім вырабіцца ад пазычкі, як ня ідзе свая праца з-за работы на другіх.

Зыкаў застаўся, і ў той-жа дзень у новую хату перасяліліся разам з новым жыльцом яго два куфэркі. Сымоніха насілася па двары, быццам ёй скінулі трыццаць год: яна то дапамагала свайму гаспадару даставаць дошкі для тапчана, то валакла сяньнік для пасьцелі пастаяльца, то завіхалася каля печы, гатуючы яму яду. Гэта-ж які год пажыве ў іх майстра, і можна будзе расплаціцца з усімі пазычкамі, і хата новая!

Першыя дні пражываньня Зыкава жонка Кавальчыка, аднак, не заўсёды бывала бадзёраю ды прыветнаю. Іншы раз яна ўваходзіла ў новую хату, нібы што зрабіць, але тымчасам ёй нічога ня трэба было: яна проста прыглядалася, сачыла за сваім пастаяльцам. Для Зыкава гэтыя назіраньні, прыглядваньні не засталіся няпрыкметнымі. Ён ня раз дзівіўся сам сабе гэтай цікавасьці да яго асобы з боку гаспадыні, але маўчаў, падсьмейваючыся над яе нязграбным азнаямленьнем з жыльцом. Усё-ж, напасьледак бязупыннае прыглядваньне за ім напрыкрыла яму.

— Скажэце, цётка Магдуля,—запытаўся Зыкаў раз у гаспадыні,— чаго вы кожны дзень так пільна прыглядаецеся да мяне?

— Ды, бронь божа! Дзе-ж я прыглядаюся? Вось хачу, каб вам добра ў нас было, каб вы ня каяліся, што засталіся тут на кватэры. Я прыходжу сюды прыбраць, дагледзіць,—нараспеў адказала Магдуля.

— Ведаеце, я надта ня люблю маны. Вы-ж няпраўду кажаце! Што вас асабліва цікавіць у мне?

Сымоніха апусьціла вочы, пераступіла разы два з нагі на нагу, кашлянула:—відаць было, што яна зьбіраецца адказаць нешта ня зусім простае.

— Бачыце, пачала яна і прыпынілася... Бачыце, тут нашы кабеты кажуць, што мы нядобра зрабілі, пусьціўшы вас на кватэру.

— Ах, вось як! Ну, а вы як думаеце?

— Да мне што-ж—добра! Чалавек вы ціхі і грошы плаціце, толькі...

— Толькі што?

— Яны кажуць, што вы невядома які чалавек, у горадзе былі; а гарадзкі, вядома, больш усё жулік.

Зыкаву стала і сьмешна і крыўдна. Ён моўчкі разглядаў худы, шэры твар гаспадыні з сьлязьлівымі вачмі, яе ўбогую вопратку і ўсю прыгнутую постаць. Увесь выгляд яе быў жывой сьведкаю векавога прыгнечаньня, цемры, убогасьці. Яна ня вінавата ў тых думках, якія толькі выказала.

— Ну, і як-жа вы думаеце аба мне?—ужо вясёла запытаўся ў бабулі Зыкаў.

— І-й, мой сыночак, вы чалавек, здаецца, добры, не які-небудзь злодзей. Ну, пайду ўжо, трэба грады палоць.

Пасьля гэтае гутаркі Сымоніха ўжо ня так рупілася прыбіраць кватэру свайго пастаяльца. Дый сапраўды, для якіх-небудзь страхаў ад Зыкава ня было падстаў. Ён ня п'янстваваў, не хадзіў у сьвята з гармонікам у руках. Калі ён быў дома, то Сымоніха бачыла яго больш схіленым над сталом за кніжкаю. Мусіць, шмат у яго было кніжок, бо, спрабаваўшы раз падняць куфэрак, адкуль Зыкаў звычайна даставаў кніжкі, Сымоніха мусіла паганьбіць сваю сілу.

Больш усяго паводзіны Зыкава дзівілі дачку Кавальчыка—Ганулю. Праз некалькі дзён, як Зыкаў пачаў жыць у іх, Ганулі, зачырванеўшыся як паркаль, і яшчэ больш чырвоная ад таго, што яна наводзіла на твар хараство чырвонаю паперкаю, нясьмела запыталася ў яго, ці ня пойдзе ён на гулянку ў вёску. Дзень быў сьвятошны, у вокны ішоў пах самае вясны, з краю вёскі нясьліся дзявочыя сьпевы, гармонік ігрыста пераліваўся зазыўнымі гукамі. Ганулі не разумела, як можна выседзець у хаце, калі ўсё так прыветна цягнула на вуліцу. Але Зыкаў павольна зьняў з носа свае сьмешныя акуляры, працёр іх, паглядзеў на Ганулю з добраю ўхмылкаю і сказаў, што яму ня хочацца на гуляньне. З гэтага часу Ганулі, хоць і старалася падхварбаваць паперай твар, калі спадзявалася бачыць Зыкава, але саромілася нават загаварыць з ім. Мусіць, ён надта ганарыцца. І на ліха яму гэтыя кніжкі, думала яна. Вось яна зусім ня ўмее чытаць—і бяды мала... Але-ж ён такі прыгожы, на вёсцы мала такіх дзяцюкоў...

Сымон Кавальчык, калі ня было дома работы альбо ня трэба было адрабляць каму-небудзь з сяльчан, звычайна праводзіў час на рацэ з яе вялікімі затокамі і вазёркамі па лагчыне. Ужо зранку яго човен, маленькі, як гарэхавая шкарлупка, заштукованы шмат дзе то кавалкам клёпкі, то абечка, то проста заткнуты зрэб'ем і анучамі, шураваў то там, то сям праз чарот і пад берагавым хмызьняком. У адным месцы Сымон ставіў жыўца, у другім венцер яго то апускаўся, то паднімаўся з вады. Варушачы губамі, нібы ён увесь час што жаваў, Сымон гадзінамі пільнаваў свайго жыўца. Мала калі што добрае яму пападалася злавіць, але Сымон варочаўся дамоў не раней як з вячэрняю зарою.

Зыкаў паспрабаваў адзін раз паехаць з сваім гаспадаром. Маленькі човен ледзь вытрымліваў удваіх, і трэба было сядзець ціха, як сьвечка, бо нязначны рух мог выклікаць тое, што „душагуб" перакруціўся-б уверх дном. Зыкаву спадабалася сядзець супакойна і чытаць кніжку, у той час як Сымон, жуючы губамі і мармычучы пад нос, то выбіраў з вады свае ўбогія рыбацкія прылады, то проста глядзеў у бясконцую далячыню сваімі сьлязьлівымі вачмі, быццам ціха плачачы аб страчаных надзеях, што схаваліся там за сінім лесам і далёкімі палямі і сенажацямі.

У вадным месцы ад рэчкі адыходзіла досыць шырокая затока, якая, пакруціўшыся між балотнымі сенажацямі, ізноў злучалася з рэчкаю. Між гэтаю затокаю і самаю рэчкаю была выспа. Край яе ад затокі быў надта нізкі, балотны; дрыгва тут пакрытая была рэдкаю дзікаю асакою ды жоўтымі кветкамі латашкі. Але бліжэй к рэчцы выспа станавілася ўсё больш высокаю, і бераг яе крута зьвісаў над цёмнымі вірамі, у глыбі якіх відаць былі тоўстыя абураныя дрэвы. У адным месцы гэтага берагу высока ўздымаў у неба сваё гальлё магутны дуб, частка карэньняў якога, як кіпцюры захаванага ў зямлю чудзішча, высоўвалася далёка над вадою. Здавалася, вось-вось гэты гігант абурыцца ў ваду і загародзіць усю рэчку. Але дуб усё трымаўся за сваю ненадзейную глебу да першае моцнае буры.

— Зваліцца, зваліцца! Няхай толькі страсяне, як сьлед!—мармытаў кожны раз Сымон, праяжджаючы каля гэтага месца.—Глеба з-пад карэньняў выплывае.

— Мусіць зваліцца!—з нейкаю затайнаю думкаю адказваў Зыкаў.

Зыкаву спадабалася гэтая выспа. Ён спрабаваў вылезьці з чаўна і па абрыву трапіць на самы ўзгорак. Гэта ня лёгка было зрабіць, але пасьля некалькіх спробаў ён дасягнуў мэты. Сухая частка выспы была пад густым лесам з гарэшнікам, калінаю ды іншымі кустамі. Бліжэй да затокі лес драбнеў, пераходзячы ў непралазны хмызьняк. Папасьці ў гэты лес троха што нельга было, і дзеля гэтага дрэвы сконт веку стаялі нячэпленымі. Ад старасьці толькі, альбо падмытыя рэчкаю, яны канчалі сваё жыцьцё і трухлелі на зямлі ці ў вадзе.

Нават, калі Сымон і заставаўся дома, Зыкаў ня мог устрымацца, каб ня пабыць на рацэ. Гэта стала для яго звычайным. Як толькі канчаў

работу на паперні, ён сьпяшаўся на „душагуб“ і прападаў з ім на ўвесь канец дню. Праз нейкі час з ім пачаў езьдзіць яшчэ адзін невясковы хлопец, мусіць з гуты. Траплялася Сымону альбо яго жонцы прасачыць, што Зыкаў браў човен з настаўнікавым сынам, і тады яны варочаліся позна, аж ноччу.

— Няхай сабе езьдзяць,—казаў Сымон жонцы.—Яны маладыя хлапцы, але гэтых нашых гуляньняў ня любяць; дык трэба-ж чым пацешыцца...

— А калі човен загубяць? Што ім шкода, ці што!

— Кінь ты плявузгаць! Падумаеш, якая страта, хоць-бы гэта і здарылася!

Магдуля прыпыняла сваю зайздрасьць, бо ёй дарэмна было злавацца на Сымона, які, звычайна, змаўкаў, жаваў губамі, колькі-б жонка там ні латашыла языком.

Зыкаў ня кідаў сваіх вандраваньняў па рэчцы і лесе. У вадзін сьвятошны дзень ён зранку, калі нават спалі яшчэ Кавальчыкі, хто ў пуні, хто проста ў павеці,—вышаў з дому. Сымоніха чула, што ён пратупаў не адзін. На гэты раз Зыкава цэлы дзень ня было дома.

За сьнеданьнем Магдуля, як вялікаю навіною, падзялілася са сваімі хатнімі аб ранішнім здарэньні.

— А ведаеце, што было яшчэ?—раптам запыталася дачка.—Калі я вось нядаўна падмятала новую хату, дык кашканула зьнячэўку яго куфэрак... ведаеце, гэты цяжкі, з замком...

— Кашканула, вось навіна якая!—засьмяяўся нежанаты брат.

— Пачакай ты! Кашканула—і ён лёгка, як пусты, перасунуўся... А то нельга было яго нават аберуч зварушыць з месца.

— Што-б гэта было такое?—зацікавілася маці і ня выцерпела, каб не пайсьці самой, нават кінуўшы на час сьнеданьне.

Праз некалькі хвілін яна вярнулася.

— Мабыць, пусты, мае даражэнькія,—выпаліла яна, як толькі пераступіла парог курнае хаты.

— І што вам за турботы? Пусты ці ня пусты—усё роўна ня ваш, і няма чаго нос сунуць,—прагаварыў Сымон, упікна гледзячы на жонку і дачку.

— Ого, яны-ж сёньня па ўсіх прызбах разьнясуць гэтую вестку,—весела гаварыў малодшы сын.—Нават, можа і сьнедаць ня будуць, а пабягуць да суседак.

— Ах ты ўжо такі разумны, Лявон,—пакрыўдзілася Гануля.

— Кіньце вы, ня ваша гэта справа,—вылазячы з-за стала, сказаў Сымон.

Гутаркі аб гэтым, праўда, больш ня было. Але старая Магдуля цэлы дзень далёка ня адыходзіла ад хаты, мяркуючы распытацца ў пастаяльца, як толькі той пакажацца. Але цікавасьць яе ня была задаволена. На

адвячорку Зыкаў прышоў дадому. К зьдзіўленьню Сымоніхі—ён быў адзін, а яна добра чула раніцою нават гутарку.

— А куфэрак ваш, ведаеце, я перасунула бліжэй да печы...—затараторыла яна.

— Добра!—толькі і адказаў ёй Зыкаў, праходзячы ў дзьверы і зачыняючы іх за сабою.

Пастаяла старая Магдуля ў сенях перад дзьвярыма Зыкава і, ківаючы разважна галавою, вышла к прызьбе да суседак.

## VII

Смутак пачаў панаваць пад старым дахам школкі. Ні бацька, ні Тодар не маглі ўцяміць, што здарылася з Зосяю, ня маглі ўявіць сабе тае рэзкае перамены, якая зрабілася з ёю. Цэлыя дні яна сядзела ў сваёй баковачцы, закінула гаспадарыць, ня ішла на работу ў кантору, ня адказвала на запытаньні. Зрэдку выходзіла яна ў школьны садок і залазіла ў самы далёкі, запушчаны яго куток. Тодар кожны дзень па некалькі разоў дамагаўся разьвесяліць яе, прыдумляючы той ці іншы жарт альбо прапануючы дальнюю вандроўку па рацэ ці ў лес. Зося надта захаплялася раней такімі вандроўкамі з Тодарам. Цяпер-жа яна заставалася нібы глухою да ўсялякіх прапаноў брата. Звонкі сьмех яе, што срэбрам сыпаўся то там, то тут па ўсім школьным двары і садзе, заціх, а з ім нібы прыпынілася жыцьцё ў хаце настаўніка. Быццам цяжка хворы быў у пакоях. Пятрусь Мікалаевіч апусьціў сваю сівую грывастую голаў. Усялякія думкі віліся ў ёй на конт дачкі, якая пераходзіла з блазенскага ў сталы ўзрост. Ён адчуваў, што трэба з асабліваю далікатнасьцю дакранацца да сэрца дзяўчыны ў гэтую пару. Але як пачаць, якія прычыны такое мэлянхоліі ў дачкі—ён ня ведаў, ня мог прыдумаць.

Больш як два тыдні прайшло з таго памятнага для Зосі вечару. Бацька разы два прапанаваў Зосі паехаць у павет да доктара. Але яна ўпарта адказвала, што ніякае хваробы ў яе няма і што дактары ёй не патрэбны. На запытаньне-ж, як яна думае надалей са службаю ў канторы, Зося коратка адрэзала:

— Я больш там служыць не хачу!

Гэты адказ навёў і бацьку і Тодара на думку, што з Зосяю здарылася нешта, зьвязанае са службаю. Пятрусь Мікалаевіч нават падумаў ці ня бухгальтар гэта як-небудзь абразіў яго дачку. Але, калі ён намякнуў, што, можа, Зосі няпрыемным здаецца яе начальнік, то ніякага адказу на гэта дадзена ня было. Здагадкі-ж ні да чаго не даводзілі.

Тодар пусьціўся на хітрыкі.

— Зоська,—жартаўліва сказаў ён неяк,—як я толькі прыехаў, дык пытаўся ў цябе, ці ня страшна табе служыць? Помніш? Ты тады толькі пасьмялася. А цяпер я бачу, што служба—не для кабет альбо дзяўчат.

— Няпраўда! Я магу служыць,—жорстка адказала яна. І буду працаваць, няхай толькі татка пастараецца мне іншае месца, хоць-бы дзе настаўніцаю.

— А ў канторы табе не спадабаецца ці што іншае?

— Не хачу я там служыць,—пачуўся кароткі, але няясны адказ.

Так і Тодар не дабіўся нічога, хоць думаў, раззлаваўшы сястру, выклікаць яе на большую гутарку.

Яшчэ праз некалькі дзён пад вечар на пляцы перад школаю паказаўся адзін з лёкаяў пана Ляскоўскага. Настаўнік, сядзеўшы на ганку, быў надта зьдзіўлены тым, што гэты лёкай ішоў якраз да школы і, убачыўшы яго самога, пайшоў проста да ганку. Зьдзіўленасьць Пятруся Мікалаевіча яшчэ больш узрасла, калі лёкай перадаў яму запячатаны з каронкаю конвэрт. Як толькі лёкай павярнуўся ісьці назад, Пятрусь Мікалаевіч разарваў прыгожы конвэрт. Там была кароткая запіска, у якой пан Ляскоўскі прасіў яго сёньня-ж зайсьці ў маёнтак. Гэтыя запросіны зусім зьбянтэжылі Пятруся Мікалаевіча. Выпадкі, калі яму даводзілася бываць у палацы, былі такімі рэдкімі, што ён ня мог разьлічваць на гасьціннасьць да яго пана Ляскоўскага... Але праз поўгадзіны ён ужо, крыху прыбраны, падыходзіў да ганку палацу.

Пан Ляскоўскі сустрэў настаўніка занадта прыветна. Быццам з блізкім знаёмым ён разьвітаўся з ім цёпла, нават папікнуў, што ён рэдка бывае ў маёнтку, і гэтым стварае частку тае нуды, у якой жыве тут у адзіноцтве ён, пан Ляскоўскі. Пятрусь Мікалаевіч ня ведаў, як адказваць на такую, нязвычайную для яго далікатнасьць з боку свайго высокага гаспадара. Не пасьпеў ён нешта прамармытаць у адказ, як пан Ляскоўскі падхапіў яго пад руку, пацягнуў да крэсла і пасадзіў, як знатнага гасьця.

— Курэце, калі ласка! Вось добрыя цыгары,—падсоўваючы шуфлядку пад шклом, завіхаўся пан Ляскоўскі і, калі настаўнік адмовіўся курыць, пачаў пералічаць усё, чым ён можа пачаставаць.

Пятрусь Мікалаевіч адмовіўся ад усяго. Ён ужо крыху апамятаваўся ад першых сьвецкіх слоў, якімі быў асыпаны, як пераступіў цераз парог.

— Я чуў, што ваша дачка захварэла. Шкада, надта шкада: яна такая здатная работніца і такая прыемная дзяўчына.

— Не, пане, яна ня хворая,—адказаў сумленна настаўнік.

— Як ня хворая? Вы дарэмна так думаеце, вам трэба было-б паказаць яе дактаром... Калі вы маеце на гэта патрэбу ў грошах, дык калі ласка: я з ахвотаю пасаблю вам.

— Дзякуй, пане. Яна ня хворая, а калі-б і здарылася такая бяда, дык я ўжо і сам як-небудзь справіўся-б, і дапамога была-б залішняю.

Пан Ляскоўскі прайшоўся па пакоі, паправіў на стале кніжкі, пераставіў лямпу, зірнуў з-пад ілба на Пятруся Мікалаевіча разы два.

— Дык панна Зося ня хворая? Чаму-ж яна ня ходзіць на службу?

Настаўнік ня зразу адказаў. Ён шукаў слоў, як-бы найдалікатней сказаць, але думкі кепска ўкладаліся ў зьвязны сказ. Пан Ляскоўскі стаяў перад ім і ня спускаў з яго сваіх калючых вачэй. Гэта яшчэ больш блытала думкі старога Крэпчука.

— Яна чамусьці ня хоча больш служыць у канторы,—проста адрэзаў Пятрусь Мікалаевіч.

— Ня хоча? Вы павінны загадаць ёй аднавіць службу!—адступіўшы на два крокі і блішчучы вачмі, гостра і павышаным голасам прагаварыў Ляскоўскі.

— Я не разумею вас, пане. Як гэта—загадаць?

— Ваша дачка павінна служыць у мяне ў канторы!

Пятрусь Мікалаевіч аж падскочыў ад нечаканасьці. Ён устаў і зьдзіўлена, нічога не разумеючы, глядзеў на пана Ляскоўскага.

— Што гэта за тон, пане Ляскоўскі? Прыгону даўно ўжо няма. Бывайце здаровы, калі вам больш нічога ад мяне ня трэба.

— Не, крыху пачакайце! Ці ня скажаце, што чуваць у вас аб вашых беларусох, як жывуць эсдэкі, эсэры? Калі „загляне сонца ў наша ваконца“?

— Вы жартуеце, пане!

— Якія там жарты? Я пытаюся ў вас, як сьвядомага ў гэтых справах чалавека.—Пан Ляскоўскі зрабіў вельмі выразны націск на слове „сьвядомага“.

— Не разумею, аб чым вы пытаецеся,—ледва адказаў Пятрусь Мікалаевіч.

— Ах, не разумееце! Мажа вы ня ведаеце, што кожны месяц вы павінны бачыцца са спраўнікам альбо прыставам? Мусіць, ведаеце! А я што-кольвечы яшчэ аб вас ведаю... Ваша дачка павінна служыць у канторы, іначай вы пашкадуеце аб сваёй мяккасьці да яе жаданьняў.

Пятрусь Мікалаевіч нейкую хвіліну з агідаю паглядаў на пана, гордыя словы гучэлі ў яго галаве. Але сівая галава пакрысе апускалася ўсё ніжэй ды ніжэй, і сьлёзы заблішчэлі на яго падсьлепаватых вачох, якія мелі нейкі жалкі выгляд без акуляраў. Ён мяшком ссунуўся на крэсла і нібы застыў з сагнутаю сьпіною і апушчанаю галавою.

— Ну, вось і каву даюць! Перасядзьце сюды, калі ласка,—загучэў ужо прыветна голас Ляскоўскага.

Як пабіты сабака, ішоў настаўнік дадому. Яго сівыя валасы космамі спадалі ўніз, рукі дрыжэлі, ногі ледва пераступалі. Дома ён грузка сеў на канапу, і галава яго схілілася над сталом. Так у нярухомасьці доўга сядзеў ён, як чалавек, страціўшы ўсё ў жыцьці. Чым выкліканы гэты брудны паступак пана Ляскоўскага? Што азначае гэтая ўпартасьць яго, каб Зося служыла? І як можа шляхціц займацца справамі шпіка? Калі на апошняе запытаньне адказ лёгка было знайсьці, то на першыя трудна было адказаць.

Тодар занепакоіўся нязвычайным выглядам бацькі.

— Эх, сынок! паскудныя часы насталі, паскудныя пайшлі людзі. Жыць прыкра!

— У чым справа?

— Лепш ня пытайся. Пакліч Зосю.

Зося ўвайшла ціха, так, як яна хадзіла ў апошнія часы. Убачыўшы бацьку, яна ўздрыгнула, кінулася да яго, але потым раптам прыпынілася.

— Дачушка, табе прыдзецца ізноў хадзіць на работу ў кантору,— не падымаючы галавы, прагаварыў глуха Пятрусь Мікалаевіч.

Гэтыя словы навялі на Зосю нібы аслупеньне. Яна не разумела нейкі час, што робіцца вакол яе, нават дзе яна. Тодар крыху спалохаўся і пачаў тузаць яе за руку.

— Татачка, я-ж прасіла цябе знайсьці мне іншае месца. Я не хачу ў кантору, не пайду туды больш нізавошта!

Стары настаўнік падняў голаў, на вачох яго былі сьлёзы. Зося ў першы раз убачыла сьлёзы на твары бацькі. Гэтае зьявішча ізноў нашчэнт зьбянтэжыла яе, і яна сама гатова была заплакаць, хоць і не магла зразумець прычыны такога выгляду бацькі.

— Я ня ведаю, чаму ты адмаўляешся ад службы—ты аб гэтым ня хочаш сказаць. Але... але, калі-б ты ведала, што... тваё нежаданьне... будзе пагражаць твайму бацьку астрогам, ты таксама-б стаяла на сваім?

— Я-якім астрогам? За што?—здушаным ад сполаху голасам запыталася Зося.

— Пан Ляскоўскі можа гэта зрабіць,—ледва вымавіў бацька.

Крык агаласіў маленькі пакойчык і рэхам аддаўся па ўсіх кутках школы. Не пасьпеў Тодар схапіць яе, як Зося выскачыла за дзьверы і зачынілася ў сваёй бакоўцы. Тодар вышаў у сад, і доўга яго цыгарка іскаркаю мільгацела то ў адным, то ў другім канцы. Ужо за поўнач ён зайшоў да бацькі.

— Усё такі Зосі ня трэба ісьці ў кантору,—рашуча сказаў ён.

— Выбачай, Тодар. Стары я стаў, ды і крыльлі надламалі. Баюся ўсяго!—Пятрусь Мікалаевіч адвярнуўся ад сына і закашляўся, каб схаваць новыя сьлёзы, якіх яму было самому сорамна. Цэлую ноч ня спаў стары, і Тодар чуў як рыпелі пад яго нагамі дошкі падлогі.

На другі дзень Зося пайшла ў кантору.

Зыгмунд Пісарэўскі сустрэў яе, як самы найлепшы таварыш і разам з тым, як самы далікатны чалавек. Ён выказаў самыя шчырыя, як здавалася, спачуваньні таму, што яна хварэла, пашкадаваў, што яна крыху пахудзела, а потым не забыўся выказаць надзею на хуткую папраўку і поўны зварот яе былое жвавасьці. Зося моўчкі слухала лісьлівую гутарку свайго начальніка і з рыскамі жорсткасьці на чале і каля губаў, якія быццам назаўсёды ўрэзаліся там, паглядала на гладкую кулю яго галавы.

— Работы, ведаеце, цяпер столькі, што мне аднаму нельга было ўправіцца. Апроч усяго, справаводзтва шмат павялічылася з будоўляю папяровае фабрыкі, а гэты майстра Зыкаў толькі ведае, што з машынамі мітусіцца.

Імя Зыкава прагучэла для Зосі чым-та зусім новым. Здаецца, даўно-даўно яна пазнаёмілася, сустракалася з ім. За ўвесь апошні час, як яна не хадзіла на работу, Зыкаў бадай толькі разы два заходзіў у школу, дый то яна ня бачылася з ім. Цяпер у яе памяці паўстала ўся яго постаць, ёй пачуўся яго супакойны голас, успомнілася моцная рука, якая падтрымлівала яе, калі яны разам ішлі з пасёлку. Пры гэтых успамінах жорсткія рэзкія рыскі каля вуснаў крыху згладзіліся, і яна больш прыветна даслухала лебязіўшага каля яе бухгальтара.

За работаю яна мімаволі ўспамінала Зыкава і нязвычайнае здарэньне з ёю ў маёнтку. Стажок рахункаў ляжаў перад ёю цяпер так, як тады ў палацы. А куды дзелася тая паперка, што яна з перапуду данясла аж дадому. Гэта-ж паперка была аб Зыкаве. Ён, значыць, належны майстар, але якісьці... ненадзейны чалавек. Так, здаецца, падпісаў там начальнік пецярбурскае фабрыкі. Але як быць з гэтаю паперкаю? Несьці самой у палац нельга ні ў якім разе, а перадаць цераз бухгальтара нешта шкодзіць. Трэба, папершае, знайсьці гэтую паперку, бо яна больш карысна будзе для гэтага Зыкава, чымся патрэбна для пана Ляскоўскага. А потым так перадаць яе, каб гэта нікому ня кінулася ў вочы.

Работа і дзейны напрамак думак пакрысе выводзілі Зосю з таго аслупеньня, у якім яна знаходзілася ўжо каля месяца. Дома яна таксама пачала ўцягвацца ў абавязкі гаспадыні. Толькі да бацькі ня было ў яе такіх простых, ясна-ціхіх адносін і каханьня, якія яна адчувала і мела раней.

Праз некалькі дзён Зыкаў зайшоў да настаўніка. Зося і радавалася і непакоілася праз гэта. Мусіць ён чуў аб тым, што яна не хадзіла на работу, можа таксама пачне дапытвацца, як і бацька з Тодарам. Як ёй трымацца тады? Але разам з гэтым яна не магла ня прызнацца сабе, што чакала гэтага прыходу. Уперад за ўсё ёй карціла параіцца з ім, як перадаць назад Ляскоўскаму паперку з водзывам.

Калі мужчыны заняліся гутаркаю, яна шмыганула да сябе, выняла з заложанае кніжкі сакрамантальную паперку і сунула яе за кофту. Потым ня зусім супакойна стала чакаць такое хвіліны, калі-б лепш было застацца аднэю з Зыкавым і параіцца з ім. Як на злосьць Тодар завёў нейкую доўгую спрэчку аб кніжцы, і Зыкаў, уважліва слухаўшы і падаваўшы рэплікі, што яшчэ больш падбівалі Тодара, здавалася зусім ня прыкмячаў Зосі, і тым больш ня мог зацікавіцца яе непакойствам.

Але вось Тодар, не задаволены сваімі ўласнымі доказамі, выскачыў у другі пакой да шафы з кніжкамі.

— Мне трэба было-б пагаварыць толькі з вамі аб аднэй рэчы,—паніжаным голасам прамовіла Зося Зыкаву, як толькі Тодар забразгаў ключамі аб шафу.

— Добра, давайце пойдзем у сад,—адказаў ён.

Як толькі Тодар вярнуўся з кніжкаю ў руках, Зося папрасіла яго адкласьці спрэчкі і схадзіць да Шмуйлы за якою-кольвечы дробязьзю да гарбаты. Тодар, хоць і незадаволены, але вышаў, а бацька ўжо бразгаўся з самаварам на кухні.

Зося выскачыла ў сад. Зыкаў павольна вышаў за ёю, крыху зацікавіўшыся справаю. У далейшым канцы саду Зося прыпынілася і моўчкі працягнула Зыкаву руку з паперкаю. Ён недаўменна ўзяў паперку, прачытаў раз, другі, рука яго ледва прыкметна ўздрыгнула, але твар застаўся зусім супакойным, нібы ў паперцы напісана было зусім ня аб ім.

— Як вы дасталі гэта?

Гарачая хваля ад сэрца разышлася ў момант па ўсяму целу Зосі. Яна не знаходзіла слоў, каб адказаць на гэта запытаньне. А Зыкаў так проста і ўважліва глядзеў ёй у вочы, што ніякая мана, ніякі выверт быў немагчымым.

— Што адказаць, што адказаць?—пыталася яна ў сябе.

Зыкаў маўчаў, адчуваючы, што Зосі ня лёгка адказаць на яго запытаньне, што тут ёсьць нешта нязвычайнае.

— Гэтая паперка... выпадкова папалася мне ў рукі, і я ня ведаю, што з ёю зрабіць,—напасьледак прагаварыла Зося.

— Перадайце пану Ляскоўскаму.

— Я не магу!—зусім усхвалявана адказала Зося.

Зыкаў яшчэ больш недаўменна пачаў разглядаць Зосю, прагнучыся растлумачыць сабе абставіны гэтае „выпадковасьці“ і тыя перашкоды, якія так хвалююць дзяўчыну.

— Я не разумею, чаго вы так усхваляваны, калі гэта выпадковасьць.

Вось гэтага і баялася, з-за гэтага дапытваньня і непакоілася Зося. Праўда, яна сама выклікала Зыкава на гутарку, і ня ён віваваты ў яе зьбянтэжаньні. Але ўсё-ж справа зложылася так, што яна мусіць адказаць глыбей, пайсьці далей, каб не паказацца сьмешнаю ў вачох Зыкава, альбо, каб не падумаў ён яшчэ чаго больш дрэннага аб ёй.

І Зося то шэптам, то скорагаворкаю, глытаючы асобныя словы, з палаючым тварам сказала Зыкаву ўсё, што здарылася тады з ёю ў палацы, як папалася ёй паперка. Яна ўсё сказала, і калі прыпынілася, то не магла зразумець, чаму яна паведаміла яго, чужога чалавека, і захавала гэты цяжкі для яе выпадак ад бацькі і брата. Адразу ёй стала так цяжка на сэрцы, так брыдка за сябе, што яна ня сутрымалася і залілася сьлязьмі, павярнуўшыся тварам да плоту.

Зыкаў то бялеў, то чырванеў. З ім за апошнія часы, можа гады, ня было такога становішча, ды наогул ён ня ведаў, як трэба трымаць сябе

з кабетамі. Тое-ж, аб чым ён даведаўся, а потым плач Зосі зусім выбілі яго з каляіны, і ён ня мог адшукаць слоў, якія-б дапамаглі Зосі суцішыцца, забыцца аб крыўдзе.

— Кіньце, кіньце вы плакаць, таварыш Зося. У жыцьці трэба быць моцным, і вы паказалі, што вы моцны чалавек. Ня плачце-ж, хадзем у хату,—гаварыў Зыкаў крыху дрыжэўшым голасам.

— Я так не магу пайсьці, пачакайце. Ні Тодар, ні бацька ня ведаюць нічога, я ім не казала. Яны будуць зьдзіўлены маім выглядам. Крыху супакоюся.

Зыкаў павёў яе па дарожцы пад руку, пачаўшы нейкую гутарку зусім іншага зьместу і ні словам ня абмаўляючыся аб здарэньні з Зосяю. З гэтага часу між імі сталі абставіны, якія набліжалі іх супольнасьцю веданьня, павялічылі давернасьць Зосі і зрабілі Зыкава ўдзельнікам часткі яе інтымнага жыцьця.

## VIII

Гісторыя з водзывам хутка была зьліквідавана. Таварыш Зыкава, які рабіў з ім вандраваньні ў чаўне, і імя якога дарэмна праглася даведацца Сымоніха, аднёс ліст проста да пана Ляскоўскага, сказаўшы, што знайшоў паперку на сьцежцы ў парку. Зося заспакоілася, хоць нешта дрэннае казлытала ёй пад сэрцам, як толькі яна прыходзіла на работу ў кантору. Як не дамагаўся бухгальтар Пісарэўскі сваёю ўважлівасьцю, салодкай далікатнасьцю выклікаць задаволенасьць на твары Зосі, яна ніяк не мяняла свайго пахмурнага выгляду. Напасьледак пан Пісарэўскі стаў паглядаць нават з затаёнаю боязьню на сваю маладую падначаленую. Зося пачала прыкмячаць, што рэгулярна сярод заняткаў яе начальнік пачаў хадзіць у палац. Раней гэтага ня было. Яна нават спачатку зацікавілася гэтымі абставінамі, але потым зусім кінула зварочваць увагу на тое, што робіць ці куды ідзе пан Пісарэўскі.

Зося мімаволі думала, длубаючыся ў рахунках альбо складаючы „ведомости“, аб тых гутарках, якія яна чула дома ад Зыкава з Тодарам. Яна ўспамінала супакойна-ясны выгляд твару Зыкава, калі ён проста выкладаў вялікія думкі нейкіх, мусіць, надта вялікіх і разумных людзей, імёны якіх яна часта чула ад брата і Зыкава, але якія заставаліся недасяжнымі яе разуменьню. Тодар гаварыў доўга і горача, часта ў яго трапляліся словы, якія зусім былі незразумелы, і таму запомніць яго гутаркі было надта цяжка. Зося дзівілася таму, што гэты Зыкаў, такі просты, шмат чаго разумее і лепш выкладае, чымся Тодар.

Зыкаў досыць часта заходзіў цяпер у школку. Першы раз, пасьля прызнаньня аб выпадку з ёю ў маёнтку, Зося спаткала Зыкава з пачуцьцем варожасьці. Але ён так шчыра і проста разьвітаўся з ёю, што ў Зосі раптам схлынула з сэрца хвалька няпрыязьні. Ён ніводным словам

альбо позіркам ня даў зразумець, што ён трымае ў галаве і на языку яе прызнаньне. Зося адчувала сябе супакойна, даверна, ёй было прыемна ў чым-небудзь дапамагчы гасьцю: ці кніжку знайсьці, ці бліжэй падсунуць лямпу, ці паказаць яго шапку і палку, калі ён зьбіраўся дадому. У такіх выпадках Тодар кідаў на сястру быстрыя позіркі, у якіх мільгала зацікаўленасьць і чуць прыкметная ўсьмешка, але Зося, звычайна, не магла прасачыць за гэтымі позіркамі.

Пятрусь Мікалаевіч, які спачатку знаёмства з Зыкавым надта мала гаварыў, хоць і быў з ім уважлівым і нават даслужным, з часамі ўсё больш разыходзіўся. Усё часьцей ён устаўляў слова-другое ў гутарку паміж Зыкавым і Тодарам. І вось адзін раз, калі Зыкаў крыху няўважліва абмовіўся аб народніцтве, стары прышоў у такую жвавасьць, якое ад яго ніхто не чакаў. Бляды, крыху прыпухлы твар яго пачырванеў, у вачох заблішчэлі іскаркі, сівыя доўгія валасы закалыхаліся як ад ветру. Ён устаў і, лёгка ступаючы, захадзіў з кутка ў куток.

— Вы не павінны іх упікаць, нельга іх ганіць. Народнікі выканалі вялікую гістарычную задачу, гэта яны падгатавалі рэволюцыю 1905 году,— горда гаварыў ён, кідаючы быстрыя погляды ў бок Зыкава.

— У гэтым я згадзіцца з вамі не магу,—каротка адказаў Зыкаў.

Пятрусь Мікалаевіч яшчэ больш распаліўся.

— Як ня можаце? А хто падняў на паўстаньне сялянства? Вы яшчэ малады, і калі што ведаеце, то з кніжок. Я-ж сам рабіў гэтую рэволюцыю, сам падымаў сялянства і соцыял-дэмократам ня быў!

Тодар пачаў кідаць выразныя погляды на бацьку, але той іх не прыкмячаў, знаходзячыся ў вялікім абурэньні.

— Татка, цішэй! Ты гаворыш так моцна, што з вуліцы можна пачуць,—прагаварыў Тодар.

Пятрусь Мікалаевіч зразу схамянуўся і сьціх, хоць вагоньчыкі яшчэ скакалі ў яго здаўна затухшых вачох. Ён усё яшчэ нэрвова хадзіў з кутка ў куток. Зося з вялікаю зацікаўленасьцю сачыла за ім, яе вочы блішчэлі. Выпадкова яна даведалася аб вялізарнай навіне. Яшчэ як яна вучылася, ёй даводзілася чуць аб „бунтах", якія адбываліся год 5—6 таму назад. Яна нават помніла, як на коляды распусьцілі іх не ў пару, калі яна была ў другой клясе. Але што яе бацька сам „рабіў рэволюцыю", яна нічога ня ведала аж да гэтае пары.

— Татка, ты быў рэволюцыянэрам?—падзіцячаму захоплена запыталася Зося.

Настаўнік прыпыніўся, як укопаны, калі толькі празьвінелі словы дачкі. Ён замешкаўся з адказам, апусьціў долу вочы, у якіх ужо затухлі апошнія іскаркі. Зося калола яго праменьнямі сваіх вачэй.

— Быў, дачушка,—напасьледак ціха адказаў ён.—Быў конь—і заезьдзіў! Цяпер скончана.

Пятрусь Мікалаевіч падышоў да свайго зэдліка, сеў і апусьціў сваю сівую галаву, з якое неяк жалка зьвісалі космы валасоў. Зося падскочыла да бацькі, горача пацалавала яго, правяла трапятліваю рукою па яго валасох, а потым з вінавата-сарамяжым тварам адышла, прыкмеціўшы на сабе позірк Зыкава.

Некалькі дзён пасьля гэтае гутаркі Зося не магла пазбавіцца ад нейкае, хоць і невялічкае, крыўды на Зыкава. Ён, мусіць, крыху памыліўся, калі выклікаў сваімі разважаньнямі такое абурэньне яе бацькі. О, яе татка такі праўдзівы, такі добры, ды яшчэ рэволюцыянэр! Рэволюцыянэры ўсе героі, хоць у гісторыях там розных, якія яна чытала і нават вывучала, іх больш завуць бунтаўшчыкамі, іншы раз—і разбойнікамі. Яе татка ня мог быць разбойнікам. Ён кахае яе, ён—добры! І чаму памыліўся гэты Зыкаў, навошта пакрыўдзіў яе татку? Можа, Зыкаву цяпер будзе брыдка, і ён ня так часта будзе хадзіць да іх?

І сапраўды, Зыкаў не адразу пасьля гэтага здарэньня прышоў. На працягу тыдню Зося бачыла яго толькі мяльком на фабрычным пляцы, калі ішла на работу ў кантору. Ёй пачынала станавіцца крыўдна, што ён ня прыходзіць да іх. Яна нават хацела падыйсьці да Зыкава і папрасіць яго наведвацца ў школу. Але сорам скаваў яе рух, і яна прастаяла на месцы, пакуль Зыкаў не схаваўся за вуглом яшчэ ня вызваленае ад рыштаваньняў паперні.

Але вось і сам Пятрусь Мікалаевіч схамянуўся, што трэба неяк загладзіць няёмкасьць. Ён загадаў Тодару як-небудзь прывесьці Зыкава. Гэтага чакаць прышлося нядоўга. Адносіны наладзіліся ізноў. Зыкаў не зачапляў пытаньняў, якія-б маглі пакрыўдзіць старога настаўніка, а ў гутарках з Тодарам альбо Зосяю ён больш абмяжоўваўся ці бягучымі навінамі, ці ўспамінамі аб сваіх вандраваньнях па розных гарадох. Зося асабліва заахвочвалася апісаньнямі вялікіх гарадоў, як Пецярбург, Рыга, і ня раз выказвала вялікае жаданьне пабыць у іх, пажыць там. У гэтых гутарках яна мімаволі ўспаміналa сваіх таварышак па гімназіі, адны з якіх паехалі вучыцца далей на курсах, другія, як Ядзя Ляскоўская, маюць грошы і ўсё іншае, каб кожны год езьдзіць у Варшаву, Пецярбург, Кіеў. Яна-ж далей Менску ніколі ня была, ды і ў Менску ёй давялося быць толькі, калі яна вучылася і калі нельга было носу паказаць на вуліцы без нагляду настаўніцы...

Пятрусь Мікалаевіч, як і раней, больш маўчаў і слухаў. Нечаканае захапленьне блеснула, як мэтэор, асьвятліла для Зосі незнаёмую частку жыцьця бацькі і падняло яго на больш высокую ступню ў яе разуменьні. Але неўзабаве здарыўся выпадак, які значна затушаваў гэты новы орэол, які быў дабавіўся да іншых, сатканых з дзяцінства вакол істоты і аблічча бацькі, замяніўшага для дзяцей і рана памёршую матку.

Адным вечарам, ужо недалёка ад касавіцы, нешта загрукатала на чорным ганку. Тодар пайшоў паглядзець, і праз хвіліну пачуліся галасы.

Пыталіся ці дома Пятрусь Мікалаевіч. За адказам Тодара ў кухню ўвайшло трое людзей. Яны прывіталіся з Зосяю, якая завіхалася па гаспадарцы, а потым крануліся ў „салю“, дзе звычайна знаходзіўся Пятрусь Мікалаевіч. Зося з цікавасьцю прасачыла за імі. То былі ўжо старыя сяляне, з сівымі барадамі. На іх былі кажухі, хоць духата стаяла ў паветры, як у нядаўна паленай восеці. На нагах дзяды мелі лапці, белыя, сьвятошныя, мусіць, анучы. У руках кожнага было па кійку. Адзін з іх усё падносіў руку да вачэй, выціраў іх і жаваў губамі. Другі шаптаў, траха ня без перапынку: „Асподзь твая воля“. Трэці дзядуля быў нізкі, прысадзісты, цьвёрда ступаўшы крывымі нагамі.

— Добры вечар, Пятрусь Мікалаевіч!—віншаваў крываногі, астатнія-ж схілілі галовы.—Не сярдуйце, што мы заваліліся сюды, і аж утрох.

Настаўнік устаў і прыветна прывітаўся з прышоўшымі, а потым падсунуў дзеля іх зэдлікі. Але ні водзін з іх ня сеў.

— Не за тым прышлі,—гаварыў крываногі.—Мы прышлі да вас з вялікаю просьбаю. Ужо будзьце ласкавы, пашкадуйце нас.

— Што здарылася? У чым вас шкадаваць?

— Ну, гавары ты, Сымон!

Сымон Кавальчык пажаваў, выцер рукою вочы.

— Мы памятаем,—сказаў ён,—што вы, пане-настаўнік, былі за нас...

— Я ніколі ні ў чым вас ня цураўся,—перабіў яго Пятрусь Мікалаевіч.

— Вось дзеля гэтага мы і прышлі да вас. Мы прышлі прасіць у вас парады ў аднэй вялікай справе.

— Кажэце!

— Ну, вось! як вам кажуць, з чаго пачаць?.. Ну, але ўсё роўна... Дык бачыце якая акалічнасьць—пашы ў нас няма,—быццам жованыя выкідаў словы Сымон.

— Асподзь твая воля!—барматаў трэці дзед.

— Я ня ведаю, што-ж вам параіць?

— А вы пачакайце, я ня ўсё... г-ам... сказаў. Мы з вясны мелі і сваю пашу і пасьвілі ў панскім лесе, а цяпер ні сям, ні там... г-ам... няма нічога. З-за свае пашы мы ўжо больш за год судзімся з высялкоўцамі, якія хочуць забраць кавалак у частцы іх надзелаў. Іх саміх нямнога, але зямлі ў іх шмат. Вось ім і перападзе больш як трэба пашы. Ну, суд-судам, няхай-бы ішоў, там ужо што вышла-б. Але-ж вось, якая напасьць на іх ліха: земскі выклікаў нашых дзесяцідворных і загадаў праз іх ня пускаць скаціны на пашу, пакуль суд ня вырашыць справы...

— Асподзь твая воля!

— Ну, падумайце, пане-настаўнік,—падхапіў крываногі.—Гэты-ж суд, можа, два-тры гады будзе цягнуцца, пакуль аж да Санотаў там... Цнотысаноты.

— Пачакай, не мялі языком,—прыпыніў Сымон свайго ахвочага да гутаркі таварыша.—Яшчэ-ж гэта ня ўсё. Спакон веку—і дзяды, і бацькі

нашы карысталіся пашаю ў лесе... Сарвітут гэта... Ну, вось, пачалі мы і сёлета пасьвіць. Добра! Але ўчора раптам—бах!—плаці з галавы тры рублі. А то яшчэ ходзяць чуткі, што гэты гандляр—які ў хэўры з панам—нібы купляе лес і зусім забароніць пасьвіць.

— Але! Асподзь твая воля!

— Дык вось, Пятрусь Мікалаевіч, вы—чалавек... г-ам... пісьменны, ведаеце законы, ды і нас ня цураецеся... г-ам... дапамажэце, парадзьце, што цяпер рабіць. Скаціна ў хлеве падохне.

— Так! Асподзь твая воля!

Пятрусь Мікалаевіч уважліва слухаў, пераводзячы вочы з аднаго на другога з сваіх „кліентаў". Зося кінула работу на кухні, праслухала ўсё, што сказалі дзяды. Сэрца яе застукала мацней. Каб толькі яна ведала, як дапамагчы. Яна пільна глядзела праз шчыліну ў дзьвярох у вочы бацьку. Але з часам, як паведамленьне Сымона падыходзіла к канцу, ёй усё цяжэй было злавіць погляд бацькі. Калі-ж Кавальчык зьвярнуўся з просьбаю аб парадзе, дык вочы настаўніка зусім прапалі, і Зося не магла сустрэць іх на палосцы шчыліны.

— Што-ж я вам магу параіць, братове?—пачула Зося голас бацькі.— Калі начальнікі і пан што робяць, то яны мусяць добра рабіць, шкоды вам ня хочуць. Трэба, мусіць, рабіць, як вам загадана.

Дзядулькі зірнулі адзін на другога, узлажылі на галавы шапкі.

— Дзякуй за добрую параду!—сказаў Сымон.—Дык вы думаеце, што пан шкоды нам ня хоча, а можа—толькі сабе? А мы ніяк аб гэтым не здагадаліся—бач ты! Бывайце здаровы!

Адзін за адным прайшлі сяляне цераз кухню. Перад прытуліўшайся каля дзьвярэй Зосяю мільганулі на промені лямпы белыя іх бароды.

— Казаў я: пойдам да майго пастаяльца, ня дурны чалавек. А то, бач, кажа, што пан шкоды нам ня хоча. Трэба схадзіць да гэтага Зыкава!—пачула ў сенцах Зося голас Кавальчыка.

Сорам ахапіў Зосю за бацьку. Пан ня хоча шкоды... Яна ўжо ведае, што гэта няпраўда. Яна доўга будзе помніць, якую пагарду зрабіў ёй пан Ляскоўскі, а можа... можа і самому яе бацьку. І ён дае параду гэтым сівым сялянам слухацца ўсяго. Вось яны яму і ня вераць. Прышлі-ж яны да яго з поўнаю надзеяю, шануючы ў ім мінулыя яго адносіны да іх. Дык Зыкаў, можа, зусім не ашукаўся? Ня ўсякі—герой, хто быў у часы рэволюцыі.

Зосі стала і шкода і крыўдна, што яна ўпэўнілася ў сваёй памылковасьці, крыўдна за бацьку, які выказаў на яе вачох такую слабасьць, сказаў старым сялянам такую няпраўду... Але-ж яны, мусіць, пойдуць да Зыкава? Значыць, яны ведаюць яго, вераць яму.

Пакрыўджаная і задаволеная пайшла яна праводзіць канец вечара і сустракаць ноч у сваёй малюсенькай баковачцы.

У наступныя два-тры дні Зося гарэла ад нецярплівасьці даведацца, ці былі сяляне ў Зыкава, а калі былі, то што ён ім параіў. Але паказаць перад кім-небудзь, што яна ведае аб чым-кольвечы, даць зразумець, што яна падслухала гутарку сялян з яе бацькам—Зося ні ў якім разе асьмеліцца не магла. Яна дакарала нават сама сябе за гэтае падслухваньне.

Аднак устрымацца ад даведак нельга было. Як толькі Тодар зьяўляўся дадому з рэчкі, з лесу альбо проста з праходкі, Зося дамагалася ў яго навін аб вясковых справах. Нават не чакаючы яе запытаньня, Тодар сам сказаў аб вясковай пашы і быў надта абураны судовымі выкрунтасамі. Яшчэ цераз дзень Тодар прынёс весткі, што на вёсцы будзе скліканы сход для абмеркаваньня справы з пашаю. Усе сяляне спадзяюцца, што ім удасца зьбіць панскія прычэпкі сваімі патрабаваньнямі.

Хоць пан Станіслаў Ляскоўскі і быў абшарнікам з напрамкам думак самай найноўшай формацыі, хоць на яго палёх і сенажацях дзе-ні-дзе стрыкатала летам жнейка, альбо касілка, але ўсё-ж гаспадарка трымалася яшчэ і да апошніх часоў касою і сярпом сялян. Траха ня ўся вёска Ляскаўцы і сумежныя з ёю, за выключэньнем хіба высялкоўцаў і некалькіх адзінак, кожныя вясну, лета і восень працавала на панскіх землях: залатоўка, альбо саракоўка кабеце і мужчыне за працу ад раніцы да вячэрняе зары.

Вось па вёсцы разышлася думка, што, калі пан будзе браць за пашу па тры рублі з галавы скаціны, дык трэба за жніво браць ў дзень поўрубля, а за касьбу—рубель. Гэтая думка хутка, як маланка, абляцела ўсе хаты. Кабеты і дзяўчаты толькі і гаварылі аб тым, як ім будзе добра, калі яны пачнуць зарабляць па поўрубля. У чыёй галаве зарадзілася гэтая думка, хто першым пусьціў яе ў сьвет—няведама. Але яна ўсхвалявала вёску, усе ёю жывуць. Каб узлажыць на ўсіх абавязак ня ісьці на работу, як толькі ня дасьць маёнтак ухваленае цаны, патрэбен быў сход.

Тодар аба ўсім гэтым паведаміў Зосю. Яна пачала раздумляць, ці гэта Зыкаў, ці хто іншы пусьціў такую думку ў вёску. Ёй прагна захацелася даведацца аб гэтым, але яна ня ведала, як гэта зрабіць. На другі дзень яна не магла супакойна пісаць свае лічбы ў „ведамасьцях“. Апроч таго, пан Пісарэўскі раз-по-разу выскокваў з канторы, кудысьці бегаў, прыходзіў разы два з вураднікам, які выглядаў надта занятым і нават забыўся аб сваёй далікатнай абходнасьці. Праз вакно відаць было, як у напрамку да вёскі праехаў вярхом на стаенным жарабцы пан-намесьнік. Так, у вёсцы быў сход і, мусіць, туды зьбіралася начальства маёнтку.

Зося цьвёрда парашыла адразу пасьля работы пабачыцца з Зыкавым, каб ад яго самога даведацца аб тым, што яе цікавіла. Яна знайшла

яго каля будынку паперні, дзе на гладка разложаных дошках ляжалі ў парадку машынныя колы, цыліндры, катлы. Зыкаў аглядаў усё гэта і памячаў крэйдаю. Угледзеўшы Зосю, ён, здавалася, крыху зачырванеўся і пайшоў насустрэч.

— Я хацела-б даведацца ў вас аб аднэй рэчы. Ці былі ў вас трое сялян?—траха не адразу запыталася яна.

— Цішэй! Хадзем адгэтуль, тут нельга гаварыць.

Яны вышлі на гасьцінец паміж школаю і маёнткам. Тут нікога ня было, але іх відаць было здалёку. Мусіць, хавацца не ўваходзіла ў пляны і намеры Зыкава.

— Вы пыталіся, ці былі ў мяне сяляне? Былі.

— Гэта вы навучылі іх зрабіць сходку і іншае?

Зыкаў ня зразу адказаў. Ён уважліва паглядзеў на дзяўчыну і сам запытаў:

— А чаму вы мелі намер якраз у мяне пытацца аб гэтых справах?

Зося не ўтаіла ад Зыкава таго, аб чым яна падслухала дома з кухні, нават, хоць са злосьцю на сябе, але сказала і аб бацьку і яго адказе сялянам.

Зыкаў выслухаў яе з засмучаным тварам. З нэрвовасьцю паведаміў ён, што яму належала думка аб сходцы і аб пытаньні пра заработак. На твары Зосі ад гэтых слоў ясна адбілася радасьць: яна не ашукалася, што ён падасьць параду змагацца, а не бязвольна слухаць начальнікаў і пана. Сумны настрой Зыкава, аднак, адбіўся і на ёй.

— Нічога ня вышла са сходкі,—гаварыў з горкаю развагаю, быццам з сабою, Зыкаў.—Прынясьлі абраз, як да прысягі прыводзіць—каб кожны пакляўся, што вытрымае абяцанку. Зьявіліся непатрэбныя людзі, якія ўсё роўна на заработкі ня ходзяць. Яны толькі насьміхаліся над сходкаю. Потым намесьнік абяцанкаю прыбаўкі па пяць капеек перацягнуў да сябе бедных удоваў і бясконных. Ну, і ўсё развалілася. Вураднік аддубасіў бізуном чалавек шэсьць, каб сказалі хто склікаў сход, але трасцу ён даведаецца... Іначай—вастрог.

Прагаварыўшы гэта, Зыкаў супакоіўся, хоць твар яго і быў сумным. Зосі так захацелася яго пашкадаваць, ёй здавалася, што ён надта гаруе. Яна чуць кранулася яго рукі кончыкамі пальцаў.

Да самае школы ён ішоў ужо супакойны, вясёлы, жартаваў, расказваў, як Параска, жонка таго пакалечанага пры адчыненьні гуты рабочага, яшчэ да гэтага часу ходзіць да яго спэцыяльна хваліць яе, Зосю, альбо лаяць доктара, які дае малую бутэльку кропель, а грошы бярэ добрыя. Жартаваў Зыкаў і над тым, як пан Ляскоўскі часта прыходзіць на пабудобу паперні і вядзе гутарку аб ватэрах, банкоброшах, фрэзэрах, папіргольцах, трансмісіях так, быццам усё гэта мае дачыненьне да яго ўласнае асобы. Зыкаў так удала перадаваў асоб, аб якіх гаварыў, што

нельга было не сьмяяцца. Але ў Зосі былі яшчэ і нейкія іншыя струны, якія весела гучэлі незалежна ад сьмешных расказаў Зыкава.

Калі яны былі ўжо каля самых варот, з зыкам панёсься ім насустрэч запазьніўшыся чмель. Раптам зык абарваўся, і ў косах Зосі зашкрабалі, як лёгкая шчотка, жвавыя лапкі, затрапыхаліся крылы.

— Скіньце, скіньце яго! я баюся!

Ї пакуль Зыкаў асьцярожна браў за крылы нявольніка, лёгкі сьмяшок калыхаў грудзі Зосі. Калі-ж чмель, выпушчаны на волю, ізноў пусьціў свой басісты звон, раздаўся такі раскацiста-звонкi, вясёлы сьмех Зосі, які ўжо даўно ня быў чуцён і аб якім пакрысе пачалі забывацца.

*(Працяг будзе).*

# АДЗІНАЯ СПРАВЯДЛІВАЯ ВАЙНА *)

$(CHCZ=CH)_3$ As (Люізыт)

*Роман*

**Іоганэс Бэхэр**

## Шосты разьдзел

### I

### Першае мая

Ліст.—Сонца над швайцарскімі горамі.—„Дайце нам партыю!“ Дзень першага мая—дзень барацьбы на ўсім сьвеце!—Выступленьне „патрыётычных саюзаў“.—Чырвоная контрдэмонстрацыя.—Провокатары за працай.—Крывавая лазьня.—Увечары першага мая.

Калі Пётра позна ўначы прышоў дадому, ён знайшоў ліст ад маткі.

„Мой дарагі! На твой дакладны ліст адказваю табе тым, што пасылаю табе наступную выразку з газэты, якую я штодзенна чытаю. Гэты артыкул напісаў Аўген Левінэ, засуджаны, то ведаеш, мюнхэнскім ваенным судом да сьмерці і расстраляны. Гэтая вынятка ёсьць і мой адказ на твой ліст. Я шчасьлівая за цябе, Пётра, ты знайшоў правільны шлях Ну, цяпер чытай!“ і Пётра прачытаў:

„Вецер вые. Агонь невялічкай газоўкі дрыжыць, уецца язычкамі, гнецца, калышацца. Фантастычна скачуць цені ад імбрычка па круглых сьценах камары. На цьвёрдых нарах ляжу я, захінуўшыся ў хутру, і ўслухоўваюся ў выцьцё ветру. Вакно скрыпае і стогне на заіржавелых петлях. Невялічкі пацук, які звычайна водзіць са мной кампанію, спрытна бегае па сталу туды і сюды, не адважваецца сёньня выйсьці з нары. Сёньня я зусім адзін. Гляджу на столь, зморана цягнуся поглядам па сьценках. Усё так знаёма. Імёны на сьценах. Прыпіскі пазьнейшых жыхароў: „пераведзены ў астрог у Смаленск“, „расстраляны ў Вільні“... А побач усе зноў і зноў: „хай жыве барацьба“, „хай жыве рэволюцыя“.

Вецер вые, і зноў дрыжыць агонь лямпы, зноў скачуць дзівосныя цені. Усё мацней захінаюся ў хутру, якую яны мне пакінулі. У камары холадна. Вочы зьмарыліся, паволі закрываюцца. Раптам я ўскакваю. Знадворку па жалезных сходах чую крокі і звон ланцугоў, галасы і каманду. Набліжаюцца да маёй камары. Потым сьціхаюць паверхам ніжэй.

---

*) Гл. „Полымя“ № 3

Глуха зьвінючы, зачыняюцца ў ніжняй камары жалезам акутыя дзьверы. Зноў галасы і тупат ног. А потым зноў цішыня.

Толькі вецер вые. Скрыпае вакенная рама, агонь у лямпе калышыцца, уецца і зноў фантастычна скачуць цені.

Я напружна прыслухваюся. У камары пада мной прывялі „новага“. Хто ён? Чужы ці свой? Палітычны ці крымінальны? Што пагражае яму? Шыбельніца? ці толькі турма? Я прыслухваюся. Хіба пачне стукаць? Хіба назаве сваё прозьвішча? Не, усё падаўнейшаму ціха. Толькі вецер пяе сваю песьню.

Я прыкладаю вуха да сьцяны—усё ціха. Ані гуку. Можа ён і ня ведае, што над ім хтось сядзіць. Я бяру мэталёвую конаўку і стукаю ціха ў сьцяну: та, та-тататата-татата—ціха, рытмічна. *„Хто вы?“*—„Хто вы?“ Але я не спраўляюся скончыць. Каля дзьвярэй лёгкі, цікуючы шолах. Хутка хаваю конаўку. Я ляжу на сьпіне, скрыжаваўшы рукі на грудзях, з штучна спакойным тварам. Гляджу на дзірку ў дзьвярах,—запаленае вока глядзіць на мяне адтуль. Я адказваю таксама поглядам і адчуваю, як штось варожае гаворыць міма маёй волі з маіх вачэй. Дзірка зноў закрываецца, і цяпер, заместа вока, у невялічкай дзірцы ўсьміхаецца цёмны мэталёвы шчыток.—І вось я зноў адзін. Стукаць сёньня ўначы нельга. А то мяне выкажуць.

Апрача таго, новы, здаецца, стуку не разумее. Заўтра трэба паспрабаваць перадаць яму абэцэду стуканьня. А праз каго? Я разважаю. Думаю пра шмат каго з крымінальных, якія маюць прыступ да нашага калідору. Найпрасьцей было-б спусьціць ліст на вяроўцы праз вакно. Але гэта небясьпечна. Вартавым загадана страляць, калі хто зьявіцца ў акне. Пагавару лепш з Буткевічам. Ён, як прыбіральнік, мае прыступ да ўсіх камар нашага калідору. Можа ён дапаможа мне. Сапраўды, гэта не гарыць. Заўтра знойдзецца спосаб. Я заплюшчываю вочы і прабую заснуць. Доўга яшчэ чую я скрып вакна, доўга чуваць мне выцьцё ветру...

А потым пакрысе кладзецца алавяная зморанасьць, сьціскае, як абруч, галаву, і я засынаю... Павольна круціцца ключ у дзьверным замку. Раз, другі. Са скрыпам адчыняюцца дзьверы. Прыкры пах тузінаў „параш“ б‘е з калідору ў камару. Я адкрываю вочы. Ледзь сьвятлее. Пазяхаючы, стаіць у дзьверах вартаўнік, валтузіцца з поясам, папраўляе рэвальвэр. „Добрая раніца“, „добрая раніца“. Стукаючы сваімі драўлянымі пантоплямі па каменнай падлозе, бразгаючы жалезнымі ланцугамі, бегае туды і сюды калідорны прыслужнік Буткевіч. „Добрая раніца“—Ён падбягае да вакна адчыняе яго, і халаднаватае ранішняе паветра асьвяжае мне твар. Я адварачаю галаву да вакна, удыхаю паветра поўнымі грудзямі. І вось пры зморклым сьвятле раніцы бачу я штось белае на падвакеньніцы: невялічкую запіску. Я хутка адварачваюся, каб вартаўнік, ня бачыў, куды быў накіраваны мой погляд. Ён нічога ня ўбачыў. Усё яшчэ возіцца ён з рэвальвэрам, пазяхаючы. Зноў бразгаюць ланцугі і гру-

каюць пантоплі: Буткевіч прыносіць пустую парашу. Мы хутка мяняемся поглядамі. Потым ён бярэ са стала выгараўшую лямпу, і дзьверы са стукам зноў запіраюцца. Двойчы паварачваецца ключ. Зноў я адзін. Узрок на дзірку ў дзьвярах: не, нікога. Я бяру запіску з вакна. Пазнаю почырк, таварыш з ніжняга калідору піша мне: „таварыш! учора ўначы прывязьлі новага. Ты яго ня ведаеш. Ён сядзіць пад табой у турме. Заўтра павядуць яго на кару сьмерцю. У нашай камары сядзяць яго сябры. Яны жадаюць пасласць яму апошняе прывітаньне. У нашым калідоры адрэзана ўсялякая сувязь з ім. Паспрабуй перасласць яму прыкладзеную запіску. Гэта апошнія разьвітальныя прывітаньні. Загадзя ўдзячны...“

Усю раніцу хаджу я па маёй камары ўзад ды ўперад і разважаю. Унізе сувязь з ім адрэзана. Ёсьць толькі адзін спосаб: я мушу перадаць яму ліст праз вакно... Калі я ў дванаццаць гадзін атрымліваю полудзень, шапчу я Буткевічу: „тэлефон“. Ён ківае галавой. Поўгадзіны пасьля прыносіць ён гарачую ваду на гарбату. Вартаўнік стаіць ля дзьвярэй. Буткевіч штось робіць каля стала. Вартаўнік злуе. „Ну, хутка ты?“ Тым часам у калідоры два крымінальныя пачынаюць спрэчку. Наўмысьля, каб адцягнуць вартаўніка. Голасна раздаецца лаянка. Вартаўнік выходзіць. „Супакоіцеся вы, ці не?“ Буткевіч карыстае момант, выцягвае з пад курткі клубок, і кідае яго хутка пад мае нары і таксама выходзіць. На калідоры зноў усё спакойна, вартавы варочаецца, уважна аглядае камару і выходзіць. Дзьверы зачыняюцца на замок, ключ двойчы паварачваецца, і зноў я адзін. Тэлефон ляжыць пад нарамі: доўгая вяроўка, складзеная са шматкоў прасьцерадла. Запіска схавана ў шчыліну сьцяны. Трэба чакаць. Патрайная загарода акружае вастрог. Унутры на дзядзінцу вартаўнікі і фэльд‘егеры, знадворку перад мурамі варта. Якраз перад маім вакном—фэльд‘егер. Ён пэўна ўбачыць, калі я спушчу „тэлефон“. Але мне пашанцавала. Сёньня ўвечары дзяжурыць фэльд‘егер, які нам цішком спачувае. Ён паглядзіць праз пальцы. А знадворку варта ня так хутка заўважыць. Я ўсё нарыхтаваў для вечара. Пішу абэцэду для стуканьня з тлумачэньнем, каб таварыш хоць у апошнюю ноч мог пагаварыць са мной. Можа хоча ён перадаць апошняе жаданьне, апошнія прывітаньні...

Цямнее. Я сяджу на карачках на падваконьніцы. У садзе начальніка вастрога, знадворку перад нашым мурам стаіць варта. Унутры на дзядзінцы перад вакном стаіць фэльд‘егер. Ці ня бачыць ён мяне? Ці можа ня хоча бачыць?

Я засоўваю руку паміж кратаў і павольна спускаю „тэлефон“. Унізе калыхаецца ліст. На маю думку яно зараз павінна быць перад яго вакном. Я стукаю ў сьцяну, каб зьвярнуць увагу таварыша. Адказу няма. Тэлефон калышацца па ветру. Напэўна ён ня можа схапіць яго, бо ён калышацца. Я цягну тэлефон зноў назад, прывязваю мэталёвую конаўку

і спускаю. Цяпер вяроўка добра нацягнена. Цяпер ліст павінен быць перад яго вакном. Я стукаю нагой у падлогу, стукаю цяжкім драўляным зэдлікам моцна. Ён павінен чуць. Але ўнізе ўсё ціха. Нічыя рука ня цягнецца за лістом.

Фэльд'егер пачынае непакоіцца. Ёнківае мне, паказвае знакамі, каб я спыніўся. Я не зьвяртаю ўвагі. Варта знадворку таксама заўважыла тэта. Крычаць моцна. „Сукін сын!—адыйдзі ад вакна!“

Цяпер якраз час. Даўжэй не магу я заставацца. Мяне ўсё-ж такі ўбачылі. Я прыціскаю твар да кратаў і крычу: „таварыш! таварыш, чаму-ж не бярэце вы ліста?“—„Сукін сын! ты ня спынішся? Будзем страляць!“ І ўжо бяруцца за стрэльбы. Я прыслухоўваюся—яшчэ момант, а то позна будзе. І вось зьнізу даносіцца голас, заіклівы і жаласьлівы, ціхі і слабы, да таго слабы, што мне трэба была напружваць сілы, каб чуць: „таварыш... таварыш... не магу... узяць... ліста... Пры допыце... мне... пераламалі... абедзьве рукі... таварыш... бывай здароў...“ Ціха і жаласьліва гучыць голас і раптам спыняецца.

Фэльд'егер злосна паказвае мне знакі. Варта перад муром ужо цэліцца. Адным рухам паднімаю тэлефон угару, спускаюся з падвакеньніцы, хутка хаваю ўсё пад нары.

Якраз у пару. Вартаўнік напалоханы шумам ужо абходзіць свой калідор. І вока яго ўжо глядзіць у дзірку. А я ляжу ўжо на сваіх нарах на сьпіне са скрыжаванымі рукамі, і ён супакоены ідзе далей...

Уначы, калі ўсё ціха і знадворку каля дзьвярэй чуваць храпеньне, я ўстаю і палю ўсё: абэцэду для стуканьня, тлумачэньне і апошнія прывітаньні.

Агонь у лямпе капціць, захапляе паперу і хціва ліжа яе. Кучка попелу падае на стол. Вецер вые, праходзіць праз вакенныя шчыліны, і кавалкі попелу нясуцца па камары—абэцэда, тлумачэньне і апошнія прывітаньні.

А ўнізе сядзіць той, каму яны прызначаны. У апошні вечар перад сьмерцю. З пераламанымі рукамі. І нікога, хто-б мог сказаць яму апошняе „бывай здароў“.

Вецер вые. Неспакойна трашчыць агонь. Фантастычна скачуць цені. На падлозе дрыжаць і варушацца кавалкі попелу.

Я ляжу зноў на нарах. Яшчэ больш захінаюся ў футру і ўсё такі адчуваю дрыжыкі. Сударжна закрываю вочы, сьціскаю зубы. У вушшу ўсё яшчэ гучыць ціха і жаласьліва заіклівы голас:

„Я не магу ўзяць ліста, таварыш! Бывай здароў!“

Набліжалася раніца.

Пётра ўсё яшчэ чытаў ліст.

„Гэты ліст павінен быць адказам... Хіба і ёй пры допыце пераламалі рукі?.. Але-ж яе не арыштавалі... Ці гэта трэба інакш разумець, можа, што“...

„Але, якраз так!“ І раптам зразумеў ён значэньне адказу.

„Дзесяць год гэткага „супольнага жыцьця“, вось што было яе папярэднім дазнаньнем, і цяпер... яна проста фізычна і духоўна зламаны чалавек, і больш ня можа“.

Пётра адагнаў сон ад вачэй і ўзяўся за работу. І зноў заблішчэла сонца.

Раней было: горад абуджаўся. Цяпер дбае ён і дзень, і ноч.

Усе рэчы навокал—адзеньне, мэбля, дамы, вуліцы, усё-чыста—гавораць галосна і пераканаўча ў сьвятле раніцы сваім бязмоўным голасам:

У пачатку была праца. Усе тавары, якія зараз вырабляюцца, ёсьць згушчаная чалавечая пакута... Ты адзяешся ў кроў і сьлёзы. Ты ясі і п‘еш чалавечы пот і чалавечыя прыкрасьці... Ты ня носішся ў паветры. Глеба, на якой стаяць твае ногі, хіба не пляцформа яна сагнутых чалавечых сьпін?!. На ўсім, што цябе акружае, няпрыметна схавана пячатка гора...

Гэта якраз так, а ня іначай.

II

Адначасна і над швайцарскімі гарамі ўсходзіла сонца. Вялікае, чырвонае, урачыстае...

Затрубіў рог. Курортныя госьці ў футрах і польтах выходзілі з сваіх апартамэнтаў і пышных пакояў на веранды і балькіны готэлю „Рыгікульм“, каб захапляцца ўсходам сонца.

Салю кургаузу ўнізе сталі толькі прыбіраць, яшчэ віселі там гірлянды, папяровыя вужакі і стракатыя лямпіёны, што засталіся ад урачыстасьці, якая адбылася там у мінулую ноч у гонар прыбыцьця „немцаў“. Гэта была дзікая распуснае гулянка. Нічога не шкадавалі. Была падобна яна да карнавалю. Усе ўдзельнікі—у фантастычных гарнітурах і масках. Гэта былі апошнія немцы, якія перайшлі граніцу да канчатковага закрыцьця яе.

Быў сярод іх і старшыня суду доктар Фрыд‘юнг. Апошнія гады ён служыў у якасьці судовага сьледчага і зрабіўся вядомым, дзякуючы некалькім значным палітычным працэсам. Абвостранае ўнутранае становішча Нямеччыны прымусіла яго пакінуць яе. Яго начальнікі самі параілі яму гэта. Яму трэ‘ было чакаць за граніцай, пакуль далейшыя здарэньні разьвінуцца ў належным кірунку.

Старшыня суду доктар Фрыд‘юнг, зморани бяссоннай ноччу, у паліце паверх маскараднага гарнітура, стаяў на краі скалы, у баку ад кампаніі. Слынны сьпявака прыдворнай опэры Аўген Гару, некалькі растаўсьцеўшай фігурай падобны да Зігфрыда, пеў зараз, вітаючы ўсходзячае сонца, італьлянскую песьню. Калі ён скончыў яе, як біцэпс барца ці патылічнае сала, тлустым голасам, усе слухачы з запалам пляскалі ў далоні і выказвалі сваю ўхвалу.

Тут былі політычныя дзеячы, высокія службоўцы, акторы, танцоркі, выдатныя фільмавыя акторкі, а таксама літаратары, профэсары і падобныя культуртрэгеры.

Па ўсіх нэўтральных краінах стварыліся цяпер такія колёніі нямецкіх эмігрантаў.

Старшыня суду ў думках пазваніў.

„Куды гэта запрапаў сёньня кур'ер з папкай спраў!?"

Доктар Фрыд'юнг быў адзін у габінэце. Нікога больш ня было на мясцох.

Альпы цяпер палалі.

Агнёвай крывавай куляй усходзіла сонца на туманным блакітным небасхіле.

„І газэт яшчэ няма"...

Ён паглядзеў на гадзіньнік. Стрэлка стаяла. Гадзіньнік спыніўся...

„Вельмі паважаны пане доктар Рэйхлін! Маю няпэўны гонар з вялікім засмучэньнем паведаміць Вас, што і я, з свайго боку, бацька такога-ж сына, як..." у галаве складаў старшыня суду і з нэрвовым завіханьнем шарпаў у кішэні штаноў свайго маскараднага адзеньня, шукаючы ліст, у якім колега пісаў яму аб апошніх зьменах з Пётрай...

„Пракляты!"

І ўсё жыцьцё яго сьціснулася раптам у камяк, „Справу Гэнрыха Фрыд'юнга". Ён перагортвае яе, адкрывае на першай старонцы і вось бачыць: на ёй стаяла вялікімі готычнымі літарамі Вэрсаль, як раней „Імем народа": „Сьпіс афяр".

Пад ім прозьвішчы, а пад кожным—крыж.

Другія прозьвішчы, а пад імі:

8 год астрогу,

17 год астрогу,

25 год астрогу,

дажывотна...

Вылічыў:

15 крыжоў,

987 год...

Зноў пеў сьпявака прыдворнай опэры...

Усе курсавыя госьці пяялі хорам:

„Deutschland über alles..."

Пяяньне дайшло і да доктара Фрыд'юнга:

„З гэтымі стаю і валюся я... Вельмі далёка мы дайшлі... І вось дайшло да гэтага..."

Стала зусім цёпла, сонца паліла. З твару густа паліліся румены.

„Дазнаньне па справе Фрыд'юнга Гэнрыха скончана", пачуў ён уласны голас. Адкрываюцца спрэчкі старон. Сьведкі дапрошаны. Пачынаецца абвінавальная прамова прокурора:

... „На падставе вышэй указанага я прапаную ўжыць кару ў найменшым дапушчаным законам разьмеры і патрабую...“

Абвінавачаны доктар Фрыд'юнг пасунуўся ў кусты, сеў на камень і засьмяяўся.

„Абвінавачаны мае апошняе слова“.

„Панове судзьдзі!“ Абвінавачаны ўстаў з камня.

„Сёньня сонца жоўтае, як яйцо. Сонца—жаўток. І калі, выходзячы з гэтага факту, мы ўявім сабе сусьвет, як штось паветрана-шкляное... яйцо ў шкле...“

Думкі яго тут спыніліся.

„Зараз пачынае ён сымуляваць“ заўважыў хтось насьмешна ў мясцох для публікі.

Судьдзі зноў зьявіліся пасьля кароткага перапынку. Усе ўсталі.

„Суд, згаджаючыся з прапановай прадстаўніка абвінавачаньня, ужывае зазначаную меру кары ў разьмеры...

„Кара безадкладна выконваецца“.

З кішэні, дзе ён шукаў ліст, выцягнуў старшыня суду рэвольвэр.

„Чорні-сіні... першароднай сталі... Ты падобны да маленькага монцёра. Ты, можа, сынок мой, можа, і завешся ўрэшце Пётрай, і зрабіўся ўжо тым часам сьвядомым пролетарам!? Як-бы там ні было... Твой стары бацька ня доўга ўжо будзе злаваць на цябе за гэта... Так і павінна было здарыцца... І не магло інакш быць...“

І вось раптам абступілі яго ўсе абвінавачаныя, чые справы ён разглядаў з тым толькі, каб здаць іх кату: павешаныя, гільётаваныя, здрадна забітыя ў часе дазнаньня, засатрэленыя:

„Іменем народа! Прашу...“

„...Над усім у сьвеце!“ скончыў з дрыжаньнем шматгалосны хор курортных гасьцей.

Скігочачы засьмяяўся старшыня суду.

Далёка па ўсяму сьвету разьнёсься, як павялічаны мэгафонам, гэты сьмех.

Потым ён пацісnуў курок.

Быццам хтось зьлёгку выцяў далоняй рукі ў сэрца.

## III

Гэты час быў, як мясцовасьць, расьсечаная цясьнінамі і крутымі абрывамі.

Партыя, як трактар, прабіралася праз гэты час угару:

Цесна згрудзіўшыся, цяжка дыхаючы ішлі за ёй масы пролетарыяту, быццам замешаная з мяса, жалеза і копаці хмара.

Шчыльна зьлітаваныя адзін з адным крывёй, сьлязамі і потам, рушылі гэтыя мільёны эксплёатаваных людзей, як адзін вялізарны клубок.—

Партыя абярнулася ў машыну барацьбы.

Абсолютная непахібнасьць, цьвёрдасьць, упэўненасьць у сваіх прынцыпах, найвялікшая гнуткасьць, элястычнасьць, рухавасьць, здольнасьць да манэўраваньня...

Кожны меў свае функцыі. Гідры падкупнасьці бязьлітасна адсякалі галаву за галавой...

Узрок траціўся ў нявымерным полі барацьбы.

Мацалы партыі дабіраліся да самых невялічкіх куткоў. Ня было ніводнага саюзу, ніводнага аб'яднаньня бяз чырвонай ячэйкі. Вытворныя ячэйкі расьлі, палілі ўсё навокал, як завірушны агонь, пролетарскія масы зноў загараліся... Фабрыкі абярнуліся ў рабочыя казармы, у чырвоныя збраёўні, у чырвоныя бастыёны...

Сэкцыі комінтэрну, закутыя ў жалеза, дысцыплінаваныя організмы, выгіналіся і змагаліся, то пасуваючыся наперад, то паддаючыся. Тут прымалі бой з супраціўнікам, кусаліся і прарываліся ўперад, там адступалі. У другім месцы толькі перастрэльваліся з ворагам. Гэты баявы організм меў мільёны вачэй. Мазгі яго, сконцэнтраваны апарат практыкі, волі,—кіравалі мільёнамі мускалаў рук, сэрцаў. нэрваў. Кожная шруба ў гэтым жывым мэханізьме была туга прышрубавана, кожная часьціна напружана і выскарыстана да апошняй ступені.

Партыя вучылася на сваіх памылках і перамогах, пад крыжавым агнём перасьледваньняў і нелегальнасьці яна выкавала сваю адпорнасьць і цьвёрдасьць. Кожны пролетар прымаў значны ўдзел у тысячакратных удасканаленьнях, якія павінны былі зрабіцца пры гэтых цяжкіх умовах апошніх гадоў.

Поўны гордасьці, упэўненасьці, нязрушнай веры глядзеў ён на сваю партыю, на сваіх правадыроў: магутны, з крыві пролетарскага сэрца вырасшы струмант, дакладна працуючы падважнік соцыяльнае рэволюцыі.

Пролетарыят зноў стаў на ногі.

Пролетарыят зноў верыў у сябе самога.

## IV

Студэнт Пётра Фрыд'юнг і рабочы Макс Гэрзэ ўступілі ў партыю амаль што адначасна.

Лена ўжо з поўгода выконвала нават партыйную работу. Само сабой зразумела, што Пётра побач з другімі прымаў удзел у звычайнай, штодзеннай рабоце. Такім чынам, у кароткі час ён перамог тое недавер'е, якое мелі да яго, як інтэлігента, пролетары. Яго палюбілі. На дыскусіях гаварыў ён коратка, але ўсё, што ён казаў, было рэальна, не адцягнена і грунтоўна. Пётра і сам бачыў, наколькі справядліва была гэтае недавер'е да інтэлігентаў. Ён разумеў, што інтэлігенты надта слабыя, лёгка паддаюцца ўплывам, часта ўступаюць у партыю толькі з тым, каб адыгрываць у гэтай галіне вялікую ролю, паколькі ім гэта ўдавалася. Калі ж не зьвяртаць увагі на іх праклятьі індывідуалізм, які заснованы ў боль-

шасьці выпадкаў на аднэй кемнасьці і нікчэмнага зьнябыцьця, дык іх цяжка цярпець. Канечна трэба заўсёды шанаваць іх асобныя душэўныя перажываньні. Чульлівасьць іх утончанай душы вельмі павышаны і ў даны момант кожны трэці з іх падобны да пакрыўджанай лівэрнай каўбасы. Але ў бальшавіцкай партыі для ўсяго гэтага месца няма. Канечна трэба добра прачысьціць ім мазгі. Яны ненадзейныя, недакладныя...

З такімі людзьмі нічога і пачынаць нельга. Так аднойчы адзін з людзей такога гатунку, якія ўвінаюцца каля партыі і вядомы як „спачуваючыя", завязаў гутарку з Пётрай. Ён да ўсяго чапляўся, аб усім разважаў звысока і лічыў сваім абавязкам ганіць усё, што мела адносіны да партыі. Неймаверны мармыль, спачуваючы выскачка, які нібы заарандаваў увесь комуністычны рух не заўсёды для здаваленьня сваёй маніі вялікасьці... Фанатычна схіляючыся перад сваёй асобай, ён, з свайго боку, бяссорамна брахаў на тых ці іншых вядомых усёй партыі асоб, падхопліваў заўсёды самыя трывожныя весткі, паддаваўся жудаснаму настрою і выступаў у шырокіх інтэлігенцкіх колах як сталы праракальнік няўдач. Напэўна, ён насіўся з самымі адважнымі праектамі, але ў практычнай працы нічога не рабіў.

„А што ты скажаш, Пётра, аб таварышы Крамэр?!. Гэта надзіманая жаба! Але грошы ў яе заўсёды ёсьць, невядома толькі адкуль. Пабудавала яна сабе і вілу і ўжывае францускія пудры ды румены... Яна адкрыта жыве з трыма таварышамі разам... У яе ў дзень нараджэньня ты ўбачыш, слухай, на піразе і савецкую зорку са зьбітай сьмятанкай... А адкрые яна толькі рот, дык забалбоча, як з бляшанага барабана. Сапраўднае антыбальшавіцкае пужала... Калі я яе бачу, дык у мяне зьнікае ўсякая ахвота працаваць у партыі. Ты паглядзі толькі на гэтага фэльдфэбаля, як яна балбоча, фразы, толькі фразы... Трэ' было-б паабіваць яе хоць раз, як належыць... І як гэта партыя церпіць падобнае...

І наогул партыя! Ты, Пётра, толькі паглядзі на правадыроў! Іх высокая вялебнасьць' Марксыцкія папы! Хіба вышагалоўны організатар, гэты акасьцянеўшы бонза, супольна з жонкай не атрымлівае падвойную пэнсію?.. Можа вашы правадыры і ўмеюць гандляваць каровамі, але толькі не змагацца. Што, патвойму, здолелі яны выкарыстаць становішча!? А гэтыя і гэтыя... А тут здарылася гэта, а там—тое. А ты хіба ня чуў, што... урэшце, нядаўна спаткаў я таварыша Бітэрмана, ён выглядае вельмі дрэнна, дык ён казаў мне, што і ў раёне справа вельмі дрэнная... што Р. і А. зноў выключаны з партыі, а Г., кажуць, провокатар, а Л. перайшоў у соцыял-дэмократы. Чуў я таксама, што рабочыя допісы пішуць інтэлігенты... А ты паглядзі адказы нашага друку... Урэшце, ты, Пётра, не разгалашай нічога з таго, што я сказаў табе, давяраючы табе. Я не хацеў-бы... Пётра хацеў-быў адыйсьці ад гэтага пляткара, але ён навучыўся быць цярплівым і застаўся спакойным. Ён сказаў толькі зусім без запалу:

„Ну, даволі плётак, пляткар! Канчай. Мяне ня цікавіць, чый нос табе не падабаецца!"

Пляткар ледзь ня трэснуў ад прыкрасьці, пырскаючы атрутай і жоўцю. Раней нічога ня было для яго даволі радыкальным, а цяпер раптам ён кінуўся ў другую процілежнасьць, зусім зьмяніў свой пункт погляду. І тут-жа загаварыў аб канечнай патрэбе зьмяніць кірунак і аб няправільным тлумачэньні прапанаваных рэформ.

„Папярэдні комунізм быў сапраўды сьвятой справай, за якую варта было і памерці! А што зрабілі вы з таго прыгожага комунізму? Кучу брыдоты, варожай гэтай ідэі..."

Так скончыў гэты пляткар сваю акружную прамову. „Глядзі не дачакайся прыпадку, пляткар! Хіба не прабегла вялікая вош па тваёй пячонцы...—думаў Пётра.—Але ўсё, что ты тут наплёў, ёсьць лухта і глупства. Мне аж прыкра і брыдка..."

„І добрая куча сьмяцьця,—думаў Пётра,—набралася ў яго: утопіі, надрадыкалізм, прымірэнчасьць, чалавекалюбства, да глупства нікчэмная нахаба: усё гэта прыгожа і хаотычна зьмешана адно з адным".

„Што гэта сапраўды граніца тваёй мудрасьці, пляткар? Мне шкода цябе..."

„А што гэта за гісторыя з ахаладжэньнем Троцкага?.." гаўкаў яшчэ пляткар.

Пётра, ня гледзячы на ўсё, спрабаваў яшчэ раз высьветліць яму, што такое ўласна партыя і як няправільна разумее ён яе значэньне з свайго індывідуалістычнага пункту погляду, што ён ня бачыць яе ўнутранага жыцьця, не вытлумачвае сабе яе ўнутранай законамернасьці з-за свайго дурнога эгоцэнтрызму.

„Калі хтось круціцца, як ты, усё каля сябе, хіба мае ён, патвойму, правільную пэрспэктыву?.. Усё, што акружае яго, здаецца яму натуральна афарбаваным самавольным суб'ектывізмам".

І далей высьвятляў яму Пётра, што партыя падобна да вялікага фільтру, у якім кожны, ня гледзячы на выконваныя ім функцыі, грунтоўна шліфуецца, выпрабоўваецца і ў хутчэйшым часе пападае на сваё сапраўднае месца, якому ён адпавядае па сваёй здольнасьці і нахільнасьці.

„Напэўна ёсьць у нас і шурпатасьці і павінны яны быць, не заўсёды ўсё ідзе гладка. Дзеля гэтага і ня трэба быць надта мяккім, трэба пусьціць у ход локці. Подкуп пакуль што нельга зусім зьнішчыць, але трэба, натуральна, давесьці яго да мінімуму, энэргічна змагаючыся з усімі яго праявамі. Рэволюцыйны рух, які вышаў з нетраў капіталістычнага грамадзтва носіць на сябе адзнакі свайго пахаджэньня... Не разумець гэтага, значыць—не разумець нічога па дыалектыцы... Ну, а зараз мой мілы Готліб Ярэмія Пляткар, не гані так шалёна са сваім абвінавачваньнем, ахаладзі трошкі сябе, зрабі сабе халоднае абціраньне. А я табе ўрэшце вось што скажу: як-бы ты ні нападаў на партыю, а яна

фактычна праводзіць зараз сапраўды добрую работу, і што няма цяпер цэнтральных органаў лепшых за нашы: гэта праўдзівей праўдзівага... Існуе заўсёды дваякая крытыка... Ну, пане пляткар, ты разумееш, што я думаю...

І вось, мой любы, я яшчэ скажу табе, якім павінен быць комуністы, што справядліва носіць гэтую назву. Наматай гэта сабе на вус, калі зразумееш. Кожны комуністы павінен ведаць, што дзе-б ён ні знаходзіўся: на прадпрыемстве, у профэсыянальным саюзе, грамадзянскай організацыі, ён толькі тады здолее поўнасьцю выканаць свае абавязкі, калі ва ўсіх адносінах будзе прыкладам для рабочых. Ён павінен быць найбольш перадавым, адукаваным, здольным работнікам на сходах, найбольш энэргічным, адважным, сьвядомым проці прадпрыемцы, дырэктара, найбольш стараннымі гатовым афяраваць сябе на саюзную і грамадзкую справу, самым станоўкім, ведаючым і гатовым да барацьбы сябром прадпрыемства, саюзу і грамадзтва, карацей кажучы, усюды, дзе ён заступае рабочага. Кожны комуністы павінен несьці адказнасьць за свае ўчынкі. Об'ектыўнасьць, станоўкасьць, крытычную вострасьць, адвагу, гарачую нянавісьць і халодную разважлівасьць проці ўсіх аўторытэтаў, цярплівасьць, вялікую цярплівасьць з усімі інакш мысьлячымі рабочымі, організатарскую здольнасьць, умельства залучаць не організаваных у профэсыянальныя саюзы для ўзмацненьня комуністычнага ўплыву, здольнасьці пісаць проста, дакладна, праўдзіва, адмаўленьне ад фахавага, дробнабуржуазнага, заражанага індывідуалізмам духу, ад усялякай нікчэмнасьці і глупства—вось што партыя павінна патрабаваць ад сваіх сяброў, і толькі той, хто ўладае ўсімі гэтымі якасьцямі, заслугоўвае пачэснае імя „комуністага“.

І Пётра разьвітаўся каротка з пляткаром.

„У Філіпі зноў пабачымся“—закрычаў той яму ўсьлед:

„Памяні маё слова: з лёзунгам „дыктатура пролетарыяту“ вы нічога не даб'іцёся...“

І з раздражненьнем паскакаў далей.

Пётру стала прыкра.

„Для чаго гэтыя доўгія тлумачэньні? Безнадзейны выпадак. З яго зламанасьцю і ўнутранай складанасьцю выйдзе з яго яшчэ і шпег... Штось асаблівае, орыгінальнае, цікавае, дзівоснае для гэтых хібна-дэмонічных пэцкаляў індывідуалізму стаіць на першым пляне! Ласкатаньне нэрваў і душэўная сьлізь з розным рызьзём: гэты сьвет ззаду нас...

„Сьмешныя дурні!

„Адзін жыве пад дэвізам: „я ня п'ю, ня куру, я—вэгэтарыянец: мая галава—ужо качан капусты...“ Другі корміцца толькі карэньнем, трэці, урэшце, жыве ласкай Стынэса і, прадчуваючы чырвоны золак, зьмяняе сваё аблічча і робіцца тлустым рэволюцыйным клапом... Забіць гэткія жывыя трупы вельмі цяжка“.—І ўладар невялічкай дробнай крамы, Аўгэн Брэнэсэль, празваны „селядзечны замірыцель“ нядаўна ў гутарцы з Пёт-

рам запытаўся, а потым простадушна заявіў: ня думаю, што-б вы гэткім спосабам дасягнеце чагось..."

V

Макс і Лэна сядзелі побач.

„А заўтра першая мая... Ах, Макс, калі я ўспамінаю майскае сьвята у S. P. D., ад адных успамінаў мне робіцца прыкра... Гэтае салодкае пяяньне мужчынскага хору, карагоды... Гэтыя мяшчанскія воклічы! Аднойчы мы засьпявалі нават песьню: „Бачыў хлопчык рожу"... А потым гэтая ўрачыстая процэсія ў сурдутах з нацягнутымі на галаву цыліндрамі, чырвонымі істужкамі, з духавой оркестрай на чале: чындараса!.. Сапраўды, саюз добрачынных, сумленных, соцыял-дэмократычных багамолаў і багамолак... Я рада, што зараз канец гэтым дробнамяшчанскім парадам... Затое заўтра будзе ў нас нешта пышнае: выступленьні прамоўцы, чырвоныя франтавікі!.. Прыгожы зараз час! Заўтра ва ўсім сьвеце адбудзецца агляд пролетарыяту. Мы цяпер зноў дужыя, зноў верым у сябе... Як добра жыць!..

„Так, Лэна, і я таксама, калі падумаю аб тым часе, тады, у соцыялдэмократаў... Прыкрыя ўспаміны!.. Мы проста зьбіліся з дарогі. Толькі цяпер ведаю я цьвёрда, для чаго я, уласна, жыву на сьвеце..."

„Ах, Макс, і я адчуваю сябе такой шчасьлівай..."

Падышоў таварыш Лянгэ.

А, вы абодва тут!.. І ты, Макс, „доктар бяскрэўнай клясавай барацьбы..."

„Добра, Вільгэльм... Мы толькі што гаварылі аб мінулых часох... А што да бяскрэўнай барацьбы... дык ты кінь гэта, з ёю я ўжо беспаваротна скончыў... выкрэсьліў тое, што было, і зараз здаецца мне, што я за апошнія месяцы адпакутваў сваё партыйнае мінулае..."

„Так, Макс, ня крыўдзься на мяне. За гэта я цябе толькі хвалю, п'ю за тваё „прызнаньне", як прыгожа сказана аб адным сходзе праваднароў соцыял-дэмократычнай партыі. Тваё здароўе!.. Часта думаю я, Макс, аб тваім адыходзе адтуль!.. А былі-ж вы ўпартыя, тоўстаскурыя... Ня раз я злаваў на вас і рукі ў мяне часаліся. Але тады гэта не давяло-б ні да чога... Ну, а што скажаш ты аб вестках з Кітаю, аб амэрыканскіх манэўрах, аб інтэнсыўным, як на перагонкі, узбраеньні!? А чытаў ты артыкул амэрыканскіх таварышоў аб газавай вайне?! Мне заўсёды здаецца, што нам трэба працаваць з падвоенай энэргіяй... Быць заўсёды на варце!.."

„Што я аб гэтым думаю!? Я ўспамінаю, як мы выступілі ў 1914-ым годзе: з бліскучымі гузікамі на форме, з каскай на галовах у большасьці і без чахла. А калі цяпер высьвятліць сабе, як імклівa хутка разьвілася ваенная тэхніка ў часе самой вайны і як пасьля вайны ня склалі рук, а працавалі і экспэрымэнтавалі ў гэтай галіне далей, дык трэба, памойму, быць зусім дурной, глухой і сьляпой скацінай, каб ня ўбачыць, што будучая вайна будзе пякельная справа і што папярэднія

войны ў параўнаньні з ёй толькі бяскрэўныя бойкі... Мы, пролетары, будзем граць цяпер зусім іншую ролю. Сапраўды, рэжысура дала нам ролі толькі статыстых, а статыстым якраз цяпер прыдзецца туга тужэй за ўсіх...“

„А ты ведаеш ужо, што заўтра думаюць выступіць і патрыётычныя саюзы. Зноў будуць выклікі „слова! слова! перамога!“, калі пролетары не заткнуць на гэты раз ім добра глотку... Паліцыя ў поўнай баявой гатоўнасьці. Вайскі сконцэтраваны каля Бэрліну. Нас могуць спровокаваць... Такім чынам трэ‘ быць асьцярожнымі... Цэнтральны Камітэт таксама прымае меры асьцярожнасьці... Ну, мы пагаворым яшчэ заўтра раніцай на зборным пункце... Добрай ночы!..“

## VI

Макс абдумаў сабе яшчэ раз артыкул аб будучай вайне. Ніякіх пераўвялічэньняў, гаварыў усё ён сабе. „Натуральна, сапраўды: пакуль што танкі, брызантныя знарады і дрэдноуты. Эскадра бомбакідальных самалётаў з газавым узброеньнем—гэта, так сказаць, самае галоўнае— „гвозд“ вайны. Новая вайна ня будзе на сто процантаў чыста газавая вайна. І тут ёсьць пераходы, адменьнікі, комбінацыі, як усюды; мінулае, сучаснае і будучае цесна сплецены адно з адным, зрасьліся храсткамі і ня так лёгка рвецца адно ад аднаго... Цэлыя індустрыяльныя краіны пакрываюцца туманам ад лётнікаў. Але з другога боку існуюць ужо апараты, з якіх можна на вышыні больш 3000 мэтраў спыніцца і кідаць. Таму затуманьваньне не дасягае мэты. Толькі як сродак супакаеньня ў першыя хвіліны... І тыя, што грошы маюць, хутка пакінуць небясьпечную зону і знойдуць сабе бясьпечнае месца... Так, калі-б на гэта была ўлада паасобных імпэрыялістычных груп (я ахвотна веру іх запэўненьням), дык вайна ў даны момант пры высокім стане клясавай сьвядомасьці пролетарыяту была-б вялікай рызыкай, і яны, натуральна, пастараліся-б найлепш ухіліцца ад яе... Але сыстэма, законамернасьць якой гоніць і прымушае іх да гандлю, мацней іх волі... Яны павінны,—жадаюць яны, ці не... А перад рабочымі масамі стаіць зараз канчаткова пытаньне: падохнуць ці змагацца. Другога няма... Я больш і ня думаю, што хтось з нашых паддасца пацыфіцкаму ашуканству... Гэтай дрэнню здорава ўжо абажралася большасьць чалавецтва... І цяпер яшчэ чуваць па ўсёй краіне бурчэньне ў бруху...“

Увечары перад першым мая.

Над горадам быццам якісь моцны атмосфэрычны ціск.

Усё яшчэ было „захавана“, то там, то тут на рагу вуліц відаць групы людзей, яны нешта разважалі, віталі адны адных словамі „чырвоны фронт“, ці „ратунак“. Крамы былі перапоўнены, ля спажывецкіх крам чаргі, доўгімі закрутамі цягнуўся перад хлебнымі крамамі хвост гаспадынь. „Зусім, як калісь у маі... У часе нашай славутай вялікай

сусьветнай вайны..." Колёна моторыстых-паліцэйскіх ужо з грукатам праяжджала па вуліцах, танк манэўраваў на гарадзкім пляцы.

Увесь горад рыхтаваўся...

Ён быў падобны да нябачнага ваеннага лягеру...

„Фу, чорт!" вырвалася ў Макса, калі ён убачыў ваенны самаход. На ім белымі грубымі літарамі стаяла назва „Тотыла", сьпераду на чахле мотора мёртвая галава. „Адзін набой ручных гранат пад яго, і ўся гэта сталёвая скрынка разьляціцца, як картачны дамок. Затрымаць яго чым пад колы, ці, што ўжо здаралася, трапны стрэл добрага стралка праз дырку-вакно, і хлопца ў машыне можна ліквідаваць. А так ён можа дужа задаць...

Псыхічны момант тут найгалоўнейшае..."

Прышла вестка:

Дэмонстрацыя беспрацоўных на вуліцы была пакалечана сотняй асобнага прызначэньня. Ёсьць забітыя, шмат параненых... Здарыўся быў і рабунак спажывецкіх крам у поўначы гораду. Выпусьцілі адозву ўраду, у якой была абяцана амністыя і паведамлялася, што на працягу бліжэйшых дзён будзе падвезены здавальняючы запас харчоў, і абвяргаліся чуткі аб вайне і крызісе: „Адзінства замацоўвае. Наша сіла—у нашым адзінстве".

Гэтыя і падобныя, гістарычна ўжо даволі вядомыя, адмаўленьні выпускаў штодзённа праз друк тагочасны прэзыдэнт, але яны рабіліся толькі об'ектам кусьлівых жартаў...

Увесь цяжар гаспадаркі ляжаў на касьцях рабочых. Касьцямі рабочых плацілі, косьці рабочых прагульваліся за нішто замежным фінансавым колам, па ўсіх рагах і канцох скігочучы таргаваліся фінансавыя магнаты: „Касьцей сюды! нам трэба касьцей, касьцей!"

Усе сілы клясы былі тады ў бязупынным руху, бязупынны струмень кожны дзень прыносіў новую сытуацыю, цэлыя грамадзянскія слаі заліваліся ды ішлі на дно ў гэтым віхры пераломаў, якія былі тады ў парадку дня; усё гэта мянялася і зьмянялася на працягу аднэй гадзіны.

„Нішто не стаіць цьвёрда! Ніколі!"

Гэты настрой даволі часта даводзіў людзей да самагубства і вар'яцтва.

Барацьба за заработную плату, частковыя забастоўкі. Усюды спробы масавых выступленьняў. Усюды выбухі народнай ярасьці. Вялізная хваля роспачы неслася па ўсёй краіне.

Фронтавая лінія будучай барацьбы вырысоўвалася ўсё выразьней. У шмат якіх мясцох справа даходзіла ўжо да рашучых момантаў. Паасобныя правадыры яшчэ затрымлівалі... Большасьць людзей заставаліся ў гэту ноч разам. Шмат хто ня ішоў з вуліц, ня гледзячы на то патэтычна заклінаючыя, то энэргічна пагражаючыя адозвы ўраду.

## VII

За горадам цёплы веснавы дзень.

Вецер вее па зямлі.

Трава калышыцца...

Колёны рабочых-сялян маршыруюць у горад. Па ўсіх дарогах колёны рабочых-сялян нясуць чырвоныя сьцягі, пяюць: „Уставай...“

Стары селянін сядзіць перад сваёй на палову зруйнаванай хатай і грызе люльку:

„Малайцы рабяты! Лоўка ў вас гэта выходзіць... Вось вы ўжо адбудуеце новую вёску, старая нічога ня варта... Пакуль гэты год ссыпе зярно ў засекі, шмат людзкой крыві пап‘е зямля. Мая рука сухая. Глеба гарачая. Гэта абазначае людзкую кроў... Так вось часы...“

„Твая праўда, дзедка!—закрычалі яму некалькі хлапцоў:—толькі ня трацiць адвагі! Мы ўжо ўсё ўладзім...“

У далі разрываецца пялёнка туману. Набліжаецца горад. Ён ляжыць ящчэ як сьпячае каменнае страшыдла; прадмесьці быццам працягнулі па шырокай плошчы свае зялёныя лапы.

Ніводная фабрычная труба ня дыміць.

Ніводны царкоўны звон ня звоніць.

Цягнецца ўсьцяж алея таполяй, быццам рад дымучых агнёвых языкоў...

Цэлыя раёны гораду з самай раніцы акружаны паліцыяй і войскамі.

Усе дарогі ў горад заняты бранявікамі і кулямётамі.

Угары ў паветры кружаць выведваючыя самалёты.

Па рэйках чыгункі ходзяць ваенныя патрулі.

Становіцца ў рад цэлы цягнік бранявікоў і як мага мчыцца ў горад.

Усё зноў адціскаюць ад гораду колёны рабочых і сялян.

Ужо каля поўдня.

Непакойна кружаць яны навакол гораду.

Ім трэба прайсьці.—

Урэшце ім удаецца праціснуцца з паўднёвага ўсходу.

Там рабочыя раёны.

Афіцэры заграждальнага аддзелу аддаюць загад страляць.

Многа салдат не страляюць. Многа цэляцца ў паветра...

Афіцэраў адцісківаюць да сьцен...

Ламаюць стрэльбы і штыхі...

Заграджальныя аддзелы адціснуты.

З громкім пяяньнем, шчыльнымі радамі, маршыруюць сяляне-рабочыя далей...

З кожнай вуліцы далучаецца новая колёна.

„Народа кроў ручаямі льлецца“ сьпяваюць адны.

Другія:

„Бальшавікі! Бальшавікі! найлепшыя з комуністых!“

На бальконах людзі схіляюцца ўніз, пляскаюць у ладкі. На рагох вуліц вялікія масы людзей вітаюць колёны хорам:

„Чырвоны фронт! Чырвоны фронт! Чырвоны фронт!“

Б‘юць барабаны.

Раздаюцца сьвісткі.

Чуваць гукі труб...

Вайскі адступаюць.

То тут, то там у канцох вуліц відаць яшчэ бранявікі, якія хутка адыходзяць.

З флянгаў процэсія рабочыххоўа ваецца аддзеламі вэлёсыпэдыстых.

На дахах расстаўлены варты рабочых. Яны махаюць шапкамі.

Невядома, ці выпусьціў урад у апошні момант загад, які забараняе сходы і дэмонстрацыі.

Увесь горад ёсьць адзін магутны, чырвоны людзкі віхор.

Жанчыны ў чырвоных хустках на галовах. Саюз маладых спартакаўцаў. Старыя. Сіроты і ўдовы. Сярод іх маршыруе і жаночы полк, „полк Розы“.

Бадзёра гучыць песьня з яго радоў...

Па асфальтавых вуліцах гораду нясецца цяпер чырвоны ураган чалавечых мас.

Вось маршыруе марудна, з частымі перапынкамі, процэсія афяр вайны: адных нясуць на насілках, большасьць кульгае на аднастайна стукаючых кастылёх, вось едуць сьляпыя, далей бязрукія, бязногія, ёсьць і такія, у якіх захавалася толькі сваё ўласнае тулава! Нясуць плякаты: „Мы—альфабэт вайны!“ „Вайна вайне!“ „Пролетары, памятуйце аб імпэрыялістычнай вайне!“

Процэсія рухаецца бяз музыкі.

На чале касьцяк, з лічбінай: 13 мільёнаў.

Вуліца аслупянела. Вароты дамоў скамянелі. Словы застыглі ў вуснах. Жыцьцё замёрла... Наступіла вялікая цішыня.

Моўчкі рухаецца процэсія.

У заходняй частцы гораду сабраліся патрыётычныя саюзы абароны.

Сярод іх самая строгая ваенная дысцыпліна.

Людзі дасканала і модна адзеты. Паходныя рамяні з пляшкамі і торбамі для харчоў. У шмат каго сталёвыя шаломы, пісталеты і палатняныя торбачкі з ручнымі гранатамі.

Нязьлічоны лік самаходаў і вагавозаў ёсьць у іх распараджэньні.

У самаходным гаражу цэлы склад зброі. Памяшканьні банку—іх галоўны штаб, які праз кур‘ераў трымае сувязь з усімі пунктамі.

Пад асаблівай вартай устанаўляецца палявы тэлефон.

Перадавыя аддзелы пачынаюць няпрыметна падсоўвацца.

Заход быццам няжывы, вымершы. Вакеньніцы і фіранкі спушчаны. Людзей амаль ня відаць... Дзе яшчэ відаць якісь рух, дык з упэўне-

насьцю можна сказаць, што тут або склад узброеньня, або рэзэрвны пункт.

Сівы з бародкай афіцэр на рагу вуліцы інструктуе яшчэ раз сваю каманду:

„Заўсёды вернасьць Нямеччыне!“ канчае ён сваё інструктаваньне.

„Заўсёды і ва ўсім!“ чуваць адказ.

Разьвіваюцца нямецкія ваенныя сьцягі, чорна-бела-чырвоныя. Сьцягі з фашыцкім знакам.

Барабаншчыкі, трубачы, горністыя.

Дубовыя кіі з жалезнымі канцамі бяруцца на пячо.

„Увага!“

„На месцы! Шагам марш...“

Пароль: „Бальтыка“.

Пяюць: „Птушкі ў лесе...“ „Песьня аб сьцягу“.

Твары пад сталёвымі шаломамі рэзка акрэсьлены, зямлістыя, на іх—надзвычайная адвага.

Салдацкія і паліцэйскія казармы акружаны драцяной загарожай.

Ля гарадзкой мяжы мэханічная барыкада з бранявікоў і бранявозаў.

Цьвёрдымі крокамі на працягу цэлых гадзін маршыруюць чырвоныя батальёны.

Каля трох гадзін па паўдні.

Да сутычкі не дайшло. Толькі невялічкія ня вартыя ўвагі інцыдэнты.

Нідзе ня відаць і патрыётычных войск. Кажуць, яны зноў адклічаны з сваіх памяшканьняў.

І вось на пляцу ў цэнтру гораду адбываецца вялікі масавы мітынг рабочых.

Тут іх сотні тысяч.

Ледзь праціскаюцца яны з усіх бліжэйшых вуліц.

Чырвоныя фронтавікі падтрымліваюць парадак.

Нязьлічоная маса чырвоных сьцягаў: яны калышацца ў паветры, як яркія языкі полымя.

Кожнае прадпрыемства мае свой сьцяг.

Працяжныя гукі барабанаў...

З дахаў адклікаецца водгульле.

Гукі барабанаў разносяцца па ўсёй цэнтральнай частцы гораду.

Потым трубы.

Быццам электрычны ток праходзіць па целу...

Мытынг пачынаецца.

Колектыўны хор, тысячы таварышоў, мужчын і жанчын, грыміць:

„Першае мая!“

А далей:

Усе пачынаюць пяяць.

Ці пяяньне гэта!? Гэта бясконцы струмень галасоў, вялізная хваля гукаў, якая паднімаецца і апускаецца, нарастае, набухае і рассыпаецца на мільёны галасавых іскраў, раптам абрываецца і зноў спакойна і магутна нясецца далей... А ў апошняй строфе галасы дужэюць, гучаць адрыўчыста, цьвёрда, рытмічна, як жалезнае хваляваньне.

Праз рупар апавяшчаецца:

„Слова за амэрыканскім таварышом!"

„Махаючы рукамі, сьціснуўшы кулакі, вырастае на трыбуне постаць чалавека, якая здаецца надта вялікай.

„Мы, амэрыканскія таварышы, вітаем цябе, нямецкі пролетарыят! Мы стаім перад канчатковай разьвязкай... Ваенная падрыхтоўка... Вайна проці Расіі, проці Японіі... А ваш урад: ці вядомы вам яго сакрэтныя дагаворы, яго сакрэтныя ваенныя згоды... Нямеччына—пляцдарм для наступленьня на Расію..."

У адказ раздаюцца ў гэты момант бушуючыя галасы мільёнаў:

„Не! ніколі, ніколі! Грамадзянская вайна!"

Амэрыканскі таварыш казаў далей:

„Ліга нацый патрабавала вайну проці Расіі! Усюды перасьледваньне комуністых, кары сьмерцю, пагромы, біцьцё... Хай жыве дыктатура пролетарыяту! Яна адна можа раз на заўсёды палажыць канец гэтай згубнай паскуднай чартоўшчыне!.."

„Хай жыве амэрыканская комуністычная партыя!—

„Ура! ура! ура!"

Для мас—толькі паасобныя словы, абрыўкі слоў, абломкі сказаў.

Але агульны сэнс разумеў кожны.

І ўжо гаворыць японскі таварыш, рускі, балгарскі таварыш.

„Таварышы! Нямецкія комуністыя! Нямецкія рабочыя! Нямецкія пролетары! Надышла гадзіна дзейнічаць! Надышоў дзень расплаты з катамі і забойцамі народу..."

Зноў воклічы:

„Далоў здраднікаў народу!..

Даволі цяпер пакутаў і зьверства! Мы кладзем гэтаму мінуламу часу магільную пліту... Сёньня, першае мая, усюды: ад малога японскага селяніна, які працуе на сваім маісавым полі, да далёкіх горных вёсак Кітаю: пранясецца гураган, захопіць горы і нізіны, пранясецца над Нямеччынай, Эўропай, з Азіі на Афрыку, па ўсіх часьцінах сьвету; магутныя чырвоныя званы звоняць на гвалт: працоўны народ, пролетарыят, паднімаецца..."

Да жанчын зьвяртаецца таварыш Марта, старая спрактыкаваная бальшавічка. Дзесяць год правяла яна ў вастрогах, змагалася са зброяй у руках. Зараз яна хварэе на лёгкія, ледзь выгаварвае словы. Кожны раз перапыняюць яе прамову адухоўлена-гарачыя воклічы. „І мы, жанчыны, клянемся выканаць свае абавязкі. Мы, жанчыны, ня будзем адставаць ад вас, таварышы-мужчыны! Спадзявайцеся на нас!"

Слова аддаецца нямецкаму таварышу:

„Першае мая! Дзень ваеннага агляду сусьветнага пролетарыяту. Дзень выступленьня пролетарскіх мас ва ўсіх пяцёх часьцінах сьвету! Першае мая! Дзень барацьбы... будзем гатовы! Станем цьвёрдымі, як сталь, запоўнім апошнія прабоіны на нашым фронце. Хай будзе адзінай нашай думкай—барацьба! Хай сэрцы нашы адчуваюць гэта адно, хай воля наша жадае толькі аднаго: барацьбы...“

Малады таварыш паднімае кулак і клянецца:

„Будземо бесьперастанку змагацца! Будземо напружваць мускулы нашы, гартаваць мазгі нашы, будземо тыканьнем нашых сэрцаў будзіць да барацьбы ўсіх вас, што яшчэ сьпіцё ў сваіх ланцугох!.. Будземо распаляць вогнішча сваіх жаданьняў, пакуль не заваюем увесь сьвет, пакуль ты, першае мая, дзень сусьветнай барацьбы, ня зробішся днём сусьветнага сьвята ўсіх працоўных мас!“

Маладыя піонэры адказваюць хорам:

„Клянемся, што да гэтага мы не супакоімся, не складзем рук!..“

Сотні тысяч галасоў зараз паўтараюць:

„Клянёмся, клянёмся, клянёмся!..“

Трубны сыгнал.

На трыбуне стаіць таварыш у форме чырвонага франтавіка.

Прысяга сьцягу.

Магутны і пахмуры голас вымаўляе:

Франтавікі, наперад! Паднімеце рукі! Мы прыносім чырвоную прысягу: „перамога або сьмерць!“

„Перамога або сьмерць!“ радасна адказвае маса людзей.

„Клянёмся: крывёю братоў нашых, што льецца на зямлю.—

„Клянёмся вялізным струменем сьлёз, што праліліся.—

„Франтавікі, наперад! Паднімеце рукі! Клянёмся, як чырвоныя франтавікі: перамога або сьмерць!“

„Мы афяраваны вялікай клясавай барацьбе“.

„Мы—баявы крок новага часу!“

І зноў, скалістая сьцяна водгульля соцен тысяч чалавечых галасоў:

„Мы афяраваны вялікай клясавай барацьбе.

„Мы—баявы крок новага часу...“

Загрымеў „інтэрнацыянал“.

Стыхійны гураган.—

Пад уплывам пяяньня чалавечыя целы выпростваюцца. Ідзе чырвоная хваля. Чырвоны струмень паднімаецца. Мінуў час адплыву... Дагары! уверх! Мы ўжо стаімо ва ўвесь рост на грабяні хвалі...

Неспадзеўна паказаўся з масы людзей адзін слынны сябра Цэнтральнага Камітэту, які хаваўся ад улады. Яго паднялі на плечы, ён вітаў натоўп шапкай, працягнуў руку ўперад, быццам паказваючы дарогу.

„Рабочыя! пролетары! таварышы! Ці гатовы вы да барацьбы, гатовы пайсьці за заклікам да агульнай забастоўкі, заклікам да ўзброенага паўстаньня, калі партыя зьвернецца з гэтым заклікам да вас?“

„Заўсёды гатовы!“

„І тыдню ня пройдзе, як партыя закліча вас да барацьбы. Наш пароль: „заваёва ўлады!!!“

„Браты, да сонца, да волі“ запяялі цяпер проста і ясна. Многія глыталі сьлёзы, іншыя плакалі. Другія зноў пяялі і шчасьлівымі ўсьмешкамі сьвяціліся іхныя твары.

Макс падышоў да Лэны:

„Бачыш, у гэты момант мільёны побач з мільёнамі, пастроеныя ў неабсяжныя рады, імкліва штурмуюць крутыя схілы будучыні. Скалы гэтыя—круча, пакрытая чарапамі, касьцямі, на кустах тут замест пупышак—бульбіны, насычаныя чалавечай крывёю. Сёньня ўсе яны адкрыюцца: струмені крыві, ручаі крыві зьліюцца ў адзін бурны, крывавы, набраклы патоп... А што пяюць гэтыя пролетарскія ўдарныя аддзелы, гэтыя заваёўнікі чалавечай будучыні: „Мы не баімся сьмерці! бо наш сьцяг чырвоны...“

Зноў трубны сыгнал.

Кароткія гукі барабану.

Процэсіі рыхтуюцца вяртацца назад.

І—у гэты момант нечакана для ўсіх здарылася нешта неpraўдападобнае.

## VIII

Сонца толькі стала ярка садзіцца. Як каламутны наплыў гналіся навальнічныя хмары. Раптам на паўднёвым усходзе гораду на пляцы ў самай гушчыні чалавечых мас спыніўся аддзел бранявікоў: невялікія панцырныя вежы круціліся, зьнізіліся рулі кулямётаў. Камандзіры прыводзілі свае машыны ў баявую гатоўнасьць...

Моторы трашчалі і пад іх мэталёвы грукат машыны пасоўваліся далей у чалавечыя масы.

Тут яны моцна заселі.

Відаць было, як кратчатая брама першараднага готэля зачынілася, яе апуталі калючым дротам і як за ёй залёг на бой аддзел у сталёвых шаломах. Гэты готэль стаў опэрацыйнай базай для колёны бранявікоў...

Ужо голасна загучэла каманда чырвонай абароны:

„Таварышы, спакой! Не паддайцеся на провокацыю! Ідзеце сваёй дарогай!“

Але вось вуліца, па якой трэ' было прайсьці колёнам, была адрэзана з процілеглага боку пляцу гэткім-жа аддзелам танкаў. Пры гэтым у першы раз была ўжыта новая мэханічная сыстэма загарожы: так названыя загародныя краты, нібы пояс з калючага дроту, працягнутага ад танка да танка і набітага, як казалі, электрычнасьцю.

Танкі спыніліся. Ляжалі яны, шырокабокія, быццам караблі на якарах.

У гэты момант здарылася паніка.

Сярод дэманстрантаў ужо з самага пачатку было шмат цывільных шпегаў. Іх заданьнем было—штучна павялічваць паніку і падбухторываць абураныя масы да нападу. Гэта было вельмі цяжка, бо масы трымалі дасканалую дысцыпліну...

І вось раптам раздаліся стрэлы з бальконy аднаго готэлю, потым з процілежнага дому, з вакна першага паверху, потым яшчэ і яшчэ. Былі гэта траскучыя рэвальвэрныя стрэлы—сыгналы для камандзіраў бранявікоў, сыгналы да нападу...

„З натоўпу стралялі!"

Страляўшыя згодна загаду паліцэйскія агенты хутка зьніклі...

„Ачысьціць пляц! Ачысьціць вуліцу!" —пачуўся голасны загад... А то будзе адкрыты агонь!"

Пры гэтым ужо затрашчалі кулямёты.

Відаць было, як паражоныя кулямі ў галаву людзі падскаквалі больш як на паўмэтра ад зямлі, як выгіналіся чалавечыя целы, скурчваліся ў дзівосныя клубкі і каціліся, ціскаючы адзін аднаго і наступаючы, на выхад. А выхад быў адзін...

Кулямёты сыстэматычна абстрэльвалі ўвесь пляц. Некаторыя чырвоныя франтавікі выскаквалі, як дзікія зьверы, з пенай на вуснах, да панцырных страшыдлаў, але адскаквалі хутка назад: з вялізнымі з талерку велічынёй апёкамі рук. Жалезныя страшыдлы выпушчалі электрычныя токі.

І Макс мусіў сілай стрымлівацца, каб ня кінуцца з голымі рукамі і галавой на гэтую згубную сьцяну... Людзі ляжалі грудамі адзін на адным.

На Максу ляжаў здаровы, рослы пролетар, які трымаўся рукой за сваё крывавае разьбітае сьцягно і крычаў: „Я не хачу паміраць. Я не хачу паміраць..." Вочы яго круціліся, выкатваліся вонкі, вялікія і круглыя, як дзьве більярдныя кулі.

Ён ухапіўся за Макса.—

У Макса пачаліся дрыжыкі ў патыліцы. Жалезны гузік муляў яму шыю.

Адзін абхапіў рукамі слуп ліхтара. Яму адкрыла бруха кулямі. Лантухі вываліліся на ўсе бакі. Другія, уцякаючы, таптала іх, коўзаліся ў брудных лужынах крыві, перапаўзалі па раскіданых мазгох...

Хтось гаварыў, адкрыўшы рот і жэстыкулюючы, але ў агульным крыку слоў нельга было разабраць. Адзін хрыпеў, другі кашляў каротка, суха і ўчаста.

Многія былі як шалёныя, гістэрычна сьмяяліся, здымалі аддзеньне, кідаліся на калені або ківалі галавой, ня рухаючыся з месца, і глядзелі, аслупянеўшы, гарачымі вачыма на бязладзіцу...

Сьцямнела.

На дахах бліжэйшых дамоў былі разьмешчаны каманды з прожэктарамі. Сьлепячыя снапы сьвятла накіроўваліся ўніз.

З шумам пад'ехаў трэці аддзел танкаў і пачаў расчышчаць пляц з поўначы. Тут бранявікі былі зьвязаны туга нацягнутым сталёвым дротам: павольна ехалі яны наўскасяк па пляцу.

Пляц быў цяпер зусім адрэзаны. Таксама і адзіны выхад быў закаркаваны цяжка параненымі і кучамі трупаў.

Макс сядзеў на карачках, гатовы ўскочыць з-за барыкады з трох наложаных адзін на аднаго мерцьвякоў. Але ўцякаць нельга было і думаць.

Макс закусіў сабе губы: цяпер увага! а то дрэнна будзе!

Падняўся крыху і паглядзеў праз пляц усьцяж вуліцы; некаторыя ўцякалі яшчэ зігзагамі да раней вызначанай граніцы; тут іх расстрэльвалі кулямёты на дакладна разьлічанай лініі. Уцекачы кідаліся туды сюды і ўрэшце падалі, складваючыся, як складанчыкі, працягвалі рукі ды ногі і ляжалі прыціснутыя да зямлі... Макс падняўся, выпрастаў хрыбет, надзеў шапку і пайшоў па пляцу, быццам нічога ня здарылася. Адну толькі думку думаў ён: калі ўжо памерці, дык толькі не ад стрэлу ў сьпіну, лягчэй бачыць сьмерць... Яму здавалася, што галава і мазгі яго адкрыты: адна суцэльная рана...

У гэты момант адчыніліся ўсе мэханічныя загарожы, танкі троху паманэўравалі і ад'ехалі...

Хутка хаваючыся ў цемру, бачыў Макс яшчэ, як адна, другая, трэцяя сотні бягом кінуліся на пляц са штыхамі на перавагу. Ім загадана было аддзяліць яшчэ жывых ад няжывых.

Пляц ляжаў пад прожэктарамі, як пад халодна-жоўтым фантастычным сьветлавым душам.

Раздаваліся то гучныя, то працяглыя, якія часам зьліваліся ў акорды, людзкія крыкі. Увесь пляц з гэтага месца быў падобны да катла, напоўненага бурліваю вадкасьцю. Каля сьцен ціскаліся людзі, войскі адсоўвалі іх на сярэдзіну пляцу, дзе награмаджаліся кучы трупаў... Усё было пакрыта аскялёпкамі жалеза, сталі і знарадаў.

Чалавечае мяса, кроў, косьці.

Парахавы дым. Параваньні. Халодны сьмяротны пот...

Буйнымі кроплямі пачаўся павольны дождж.

То далей, то бліжэй пачало грымець і ўрэшце забарабаніла навальніца з градам.

Забарабаніла, затрашчэла, загрукатала.

Людзі паўскакалі ад сна, паадчынялі вокны:

„Што гэта?.. Зноў пачалося? зноў страляюць?..“ Нічога. Толькі цемра. А там зубкаватыя абрысы шэрагу дамоў.

Там і сям мігала маланка. Цемра сьвяцілася. Грукаў гром.

Увесь горад гэту ноч праводзіў неспакойна.

Ужо другая ноч у гэткім неспакоі.

Усюды здараліся сутычкі з „патрыётамі“.

Усе найважнейшыя пункты гораду ўжо з вечара былі заняты вайскамі.

## IX

У амаль што няпрытомным стане прыплёўся Макс дамоў.

Часта мусіў ён спыняцца, але гэта было ўзварушэньне і нэрвы, пакалечаны ён ня быў.

Часта з ім загаварвалі, адзін пролетар паглядзеў яму ў твар, запытаўся каротка, сьціснуў яму руку і зьнік у цемры.

„Помста!“

Гэтае слова чуў Макс неаднокраць, варочаючыся дамоў.

Прайшоў ён і міма групы „нацыяналістых“, яны гутарылі абурана і голасна; іх было шмат; усе былі з карабінамі. Твары ў іх былі шырокапуцатыя і тлустыя. Былі і рэзка акрэсьленыя профілі сапраўдных шыбельнікаў і забойцаў.

„З гэтымі сьвіньнямі рабочымі добра цяпер расправяцца“, пішчэў. У яго былі тоненькія ножкі і гімназычная шапка.

„Што ты тут шукаеш, сьвіньня!“ закрычаў другі з рубцом на твары Максу ўсьлед. Той моўчкі пабег далей.

„Выбірайся адсюль, а то зробішся трупам...“

Гэткія словы часта пушчаліся яму наўздагон.

Макс думаў: „цяпер, кожны момант...“

Ён адчуваў гэта ў вушах...

Там у нацыяналістых, як Макс хутка заўважыў, былі рэзэрвныя афіцэры, студэнты, сынкі фабрыкантаў, трохі службоўцаў і трошку лютых дробна-буржуяў. Яны ня ведалі літасьці.

Ну, і з імі, з гэтымі сапраўднымі бандамі забойцаў, ніякага хібнага спагаданьня, як было раней... Кожны з гэтых, якога мы шкадуем, каштуе нам крыві!.. Ніякіх больш аблуд, якія каштуюць крыві!“

Цікава было тое, што пасты вартавых у казармах і знадворку былі ўзмоцены вялікімі афіцэрскімі аддзеламі... „Эгэ, гэта няладна: яны ня ўпэўнены тут“, дадумаўся Макс і пахадзіў троху там, пакуль не патрапіў на паасобны салдацкі пост.

„Таварыш!“

Салдат адскочыўся на тры крокі назад.

Потым раптам засьмяяўся і падышоў да Макса:

„Чырвоны фронт!“

„Правільна. І сярод нас вялікае хваляваньне. Цяжкае паветра, напружаная атмосфэра! Усё ў баявой гатоўнасьці. 30 процантаў, калі справа завяжацца, ужо верны вам... Абыходжаньне з салдатамі ўсё горшае: „трымай язык за зубамі, а ня то—усаджу табе кулю ў морду...“ звычайны зварот да салдата. Без „скаціны“ і „задніцы“ ў стасунку да нас, салдатаў, справа больш не абыходзіцца. Учора ў бранявой камандзе забілі лейтэнанта, у сапэраў—маёра. У лётнікаў таксама дрэнна... Працяг будзе. А на сёньня даволі!.. Чырвоны фронт!“

Макс вельмі гардзіўся атрыманымі весткамі.

„Натуральна“, думаў ён сабе, „ачысьціць пляц, маючы пры гэтым невялічкія баявыя сілы, ясна гаворыць аб жаданьні давесьці справу да ўзброенай сутычкі. Гэта наўмыснае масавае забойства з боку ўраду. Думкі аб непаразуменьні ці памылцы зусім недарэчныя, калі зьвярнуць увагу на адносную працягласьць гэтай расправы... Новы ганебны ўчынак зраднікаў народу... Але ўсё, што яны робяць, з няўхільнай паступовасьцю цягне іх да ўласнай катастрофы...“

На рагу сваёй вуліцы спаткаў Макс свайго суседа па пакою, трамвайнага кондуктара.

„Ну, і“—

„Вырашаная справа: заўтра агульная забастоўка. Прынята аднагалосна... Ідзі зараз у памяшканьне да Фрыца... Чакаў цябе, каб сказаць табе гэта... У мяне ёсьць яшчэ і другое даручэньне, павінен яшчэісьці ў горад...“

З сваёй унутранай кішэні паліта выцягнуў трамвайны кондуктар пачку лістовак для расклейкі.

„Далоў урад забойцаў! Хай жыве дыктатура пролетарыяту! Агульная забастоўка! Уся ўлада саветам!“

X

Макс пастукаў умоўленым стукам.

Жалезная заслона дзьвярэй невялічкай гасьцініцы троху паднялася, Макс прасьлізнуў у сярэдзіну. Былі прысутнымі каля пяцідзесяці таварышоў.

Усе маўчалі.

У кутку сядзеў таварыш Лянге з перавязанай галавой, Макс падзівіўся: яму здавалася, што ніколі ня бачыў ён у чалавека гэткага белага, як крэйда, твару.

Лэна ціха хліпала.

Гэтак цягнулася з поўгадзіны.

Адзін з прысутных то ўставаў, то сядаў, то зноў хадзіў з неспакойным бурчэньнем.

Другія моўчкі лічылі прысутных.

Прышло яшчэ дзесяць чалавек.

„Ну, цяпер даволі!“ Таварыш Лянге падняўся.

„Каго не хапае?!“

Прадстаўнікі ячэек далі кароткія справаздачы.

„Такім чынам, у аднэй нашай групе не хапае дзесяці чалавек. Амаль што пятай часткі... І сярод іх і таварыша Фрыд‘юнга. Яго абавязкі возьмеш на сябе ты, Макс. Згодны?“

Згода была сама сабой зразумела.

„Хто ведае што аб таварыше Фрыд'юнге?“

„Шмат якія таварышы паведамілі, што бачылі яго. Паліцэйскія агенты шукалі яго. Ён, мусіць, цяжка паранены. Яго нясьлі цераз пляц... у санітарны самаход...“

„Добра, мы даведаемся...“

„Такім чынам, таварышы, мужчыны і жанчыны! Заўтра, праўдападобна, агульная забастоўка...“

Макс пацьвердзіў:

„Гэта ўжо напэўна. Аднагалосна...“

„Ну, тым лепей! Мы чакаем сёньня яшчэ кур'ера з Цэнтральнага Камітэту... А датуль я мяркую зрабіць кароткі агляд палітычнага становішча... Дыскусія па гэтаму пункту, я думаю, не патрэбна... А тым часам зьявіцца кур'ер з Цэнтральнага Камітэту і ў сувязі з гэтым мы абмяркуем далейшае. Апрача таго паведамляю, што з сёнешняга дня прыёму ў партыю новых сяброў больш ня будзе. Паразытам рэволюцыі трэба з самага пачатку даць адпор... Гэта між іншым...

Небясьпека вайны паміж Амэрыкай і Японіяй значна павялічылася. Ваенная падрыхтоўка дасягнула свайго вышэйшага пункту. Як рэагуе на гэта амэрыканскі і японскі пролетарыят, яшчэ пэўна невядома. Далей: палова прадпрыемстваў у Нямеччыне стала, замежны гандаль за мінулыя поўгода раўняўся нулю. Стабілізацыя маркі не ўдалася. Труднасьці збыту тавараў ва ўсіх капіталістычных дзяржавах вялізныя. І мандат, які атрымала Нямеччына ад Лігі Нацый на свае папярэднія колёніі, ня змог шмат дапамагчы. Англія зазнае найвялікшыя труднасьці ў Індыі. Барацьба на грунце конкурэнцыі набыла вострыя формы. Ад ваеннага вырашэньня конфліктаў больш ня ўхіліцца... Такім чынам, кожны дзень можна чакаць абвяшчэньня вайны, ці нават першых ваенных сутычак... Усе мы ведаем, што гэта значыць... Само сабой зразумела, што нам усё роўна, хто, з дыплёматычнага пункту погляду, пачаў ваенныя дзеяньні. Кожны з партнёраў аднолькава вінны і аднолькава зьяўляецца разбойнікам... Адзначу асобна становішча Нямеччыны: усюды зруйнаваньне спажывецкіх складаў, пералом індустрыі, страшэннае беспрацоўе ў сувязі з голадам, асабліва ў сельскіх раёнах. Там уласьнікі індустрыялізаваных буйных гаспадарак не выпушчаюць хлеба на рынак: голад пры поўных засеках... Нацыяналістычныя банды ўзбраяюцца... Адначасна вялікая тэндэнцыя абвесьціць вайну проці Расіі як сьвятую вайну. Такім шляхам, згодна вынікам капіталістычных дзяржаў у сувязі з адданай дапамогай правадыроў С-Д-РПН (соцыял-дэмократычнай-рэволюцыйнай партыі Нямеччыны), яны думаюць ушчэнт разьбіць рэволюцыйных рабочых... З усяго сказанага выцякае, што мы знаходзімся зараз пасярод віхру пераломаў міжнароднага маштабу... Найшырэйшыя колы працоўнага насельніцтва стаяць сёньня за намі і гатовы супольна з намі...“

У памяшканьне завіхаючыся ўвайшоў кур'ер Цэнтральнага Камітэту.

Ён моцна сьціснуў руку таварышу Лянгэ.

Усе таварышы ўскочылі, як наэлектрызаваныя.

Толькі два словы вымавіў кур'ер.

„Агульная забастоўка!..“

„Вайна вайне!“

Многія таварышы абнімаліся. Іншыя крычалі.

Адзін усё шэптам вымаўляў імёны:

„Роза!“ „Кароль!“ „Ленін!“

„Брава! Ну, дзякуй богу! Нарэшце!“

Лэна кінулася да Макса.

„Ну, Макс, хіба я не казала спачатку...“

Макс пяяў ціха сабе:

„Каб мне да гэтага дажыць...“

„Ну, а цяпер да справы!“

Кур'ер выбег.

Было ўрачыста і сур'ёзна.

Падрабязна былі абмеркаваны паасобныя організацыйныя мерапрыемствы.

## XI

Урад раіўся бязупынна дзень і ноч.

Міністры ледзь пасьпявалі паесьці.

Урадовы раён быў адкрыты ваенны лягер.

Сутарэньні ўрадовых будынкаў зрабіліся складамі зброі.

На кожным вулічным рагу сыгнал трывогі. Усюды мачты антэн.

Гарадзкая мяжа была нанова адгароджана ваенна-мэханічнымі прыладамі апошняга гатунку...

Прэзыдэнт рэспублікі быў тады ўжо вельмі стары і слабы. Ён хварэў на артэрыосклероз. Ён сядзеў у аднэй салі конфэрэнцый на высокім крэсьле, сьпінка якога была аздоблена арлом і дзяржаўнымі фарбамі. Ён насіў пульсэткі і захінуў свае спухшыя ногі ў тоўсты плэд. Сваю жонку тытуляваў ён ласкальна „котачка“. Яго густыя, як у Бісмарка, бровы зрасьліся на пераносьсі. Дыхаў ён цяжка. Час-часом паднімаўся ён; звон склікаў з усяго дому, з усіх дарадчых пакояў радцаў, і прэзыдэнт зьвяртаўся да іх з прамовай: высока паважаны сход! Высока шаноўны дом! Яднаньне робіць людзей моцнымі. Наша сіла ёсьць яднаньне. Ужо тады, калі давер'е народу заклікала мяне на гэты высокі і адказны пост, я заяўляў, што я, галоўным чынам, буду клапаціцца аб бедных і ўбогіх, аб усіх тых, хто, аддаўшы ўсе свае сілы вялізнай экономічнай барацьбе за існаваньне нашага часу, зараз ляжаць кінутыя на зямлю. Маім імкненьнем

і сёньня застаецца зьмякчэньне клясавых супярэчнасьцяй, і я зноў сёньня ўрачыста працягваю руку кожнаму немцу. Вернасьцю і выкананьнем сваіх абавязкаў нават у дробязі павінны мы завяваць сабе паважаньне ўсяго сьвету. Праз самапаважаньне—да паважаньня з боку ўсяго сьвету. Тады Нямеччына не загіне.

...Вернасьць за вернасьць!..

Гэту прамову чытаў ён з лістка.

Лісток трашчаў у руках. Прэзыдэнт меў яшчэ трасучку.

„Ці падпісаў, урэшце, гэты вавула адозву „Да майго народу"!?" запытаўся тымчасам вышэйшы ваенны чын у сакратара па ўнутраных справах.

Сакратар прыслужна пацьвердзіў.

„Усё гатова да друку, тут у маім портфэлі, ваша прэвасхадзіцельства. Трэ' было пры гэтым вадзіць яго руку з пяром... Страшна, ці ня праўда, страшна?.."

У краіне быў заведзены надзвычайны стан і ваенная дыктатура.

Пакоі, дзе сапраўды вырашаўся лёс краіны, ляжалі ў другім паверсе. Міністры і паасобныя міністэрскія аддзелы атрымлівалі адтуль толькі кароткія распараджэньні і павінны былі толькі дакладна ў найкарацейшы тэрмін згодна з паказаньнем выконваць паасобныя загады.

Тут ужо сабраліся ўсе войскаводы паасобных ваенных раёнаў гораду. Былі прысутнымі таксама ангельскі і амэрыканскі ваенныя аташэ. Шэф генэральнага штабу дакладваў: „Амэрыка мае намер выступіць найпазьней на гэтым тыдні. Дыплёматычны повад будзе безадкладна адшуканы. Урэшце ўсё зьвядзецца да выніку барацьбы паміж Амэрыкай і Расіяй. Згодна з нашымі абавязкамі і з нашай ваеннай згодай мы зрабілі Нямеччыну пляцдармам для наступленьня на ўсход. Наша падрыхтоўка скончана. У нас даволі аэродромаў, абсталяваных усім патрэбным для эскадраў самалётаў з бомбакідальнікамі. Нашы ўласныя фабрыкі фарбавальных продуктаў працуюць з поўнай нагрузкай... Расія мобілізуецца. Гэта самы важны момант апошніх сутак. Гэтую вестку трымаем мы потай, бо становішча наша з-за гэтага факту вельмі дражлівае. І незалежна ад гэтага факту, з прычыны разьвіцьця здарэньняў у нашай краіне, трэба чакаць надзвычайных тэрорыстычных актаў з боку рабочага руху... Таксама і вялізная частка іншага насельніцтва ўцягнута ў рэволюцыйны рух... Агалашэньне весткі аб рускай мобілізацыі было-б іскрай у бочку з порахам! Як вы ведаеце, панове, учора ўвечары справа дайшла ўжо амаль да ўзброенага паўстаньня. Нам удалося прыдушыць гэты выпадковы неорганізаваны выбух бяз усякіх страт з нашага боку. Але гэты наш посьпех не дае нам права памыляцца адносна сур'ёзнасьці агульнага становішча. Нам трэба абмеркаваць зараз дражлівае пытаньне. На гэтай нарадзе трэба ў першую чаргу вызначыць кіраўнічыя лініі для найбольш пасьпяховага прыдушэньня паўстаўшых для разброеньня іх правадыроў

і ліквідаваньня вогнішчаў непакою. Само сабой зразумела, так, каб кожны ваенны гэта кеміў. Прыватна, трэба абмеркаваць пытаньне аб тым, пры якіх абставінах і ў якім разьмеры можна ўжываць хэмічныя ваенныя сродкі. Гэта ёсьць пытаньне мэтазгоднасьці. Пры гэтым нельга не даацэньваць і ідэолёгічнага моманту. Я прашу паноў-спэцыялістых спыніць асаблівую ўвагу на двох апошніх пунктах!..

Яшчэ адно: майце, прашу, панове, на ўвазе, што нам нельга траціць часу; дзеля гэтага: коратка і ясна!"

Нарада цягнулася нядоўга.

Да агульнага задаваленьня, даклад хэмікаў-спэцыялістых не адбыўся.

Прынцыпова было аднагалосна пастаноўлена дапусьціць ужываньне хэмічных баявых сродкаў, але берагчы для выключных выпадкаў. Калі-ж давядзецца карыстацца газамі, дык афіцыяльна зьняпраўдзіць гэты факт, а тымчасам ужываць абстрэл газамі і выкурваньне комуністычных гнёзд праз здавальняючую колькасьць брызантных знарадаў, але рабіць гэта ціпіком. А пасьля на конфэрэнцыі з прадстаўнікамі друку трэба асабліва адзначыць, што прыкры факт ужываньня ўрадам газаў мог мець месца толькі пры вымушанай абароне, што пры гэтым ужываліся выключна газы, якія дурманяць, раздражняюць сьлізьніцу і выклікаюць сьлёзы, што ўжываньне гэтых газаў больш гуманна і дае меншую колькасьць афяр, як другая зброя, асабліва брызантныя знарады. Урэшце, на падставе верагодных крыніц, комуністыя ўжо ўжывалі газы ў другіх мясцох, маюць вялізарныя запасы газаў і працуюць, паводле мэтаду рускай „чрэзвычайкі", апаратамі, якія распаўсюджваюць шкодныя бактэрыі і халерныя бацылі.

Зноў загаварыў прэзыдэнт.

„Ну, такім чынам! Ад імя—на дабро нашай дарагой нямецкай радзімы—у імя найвышэйшага!"

І падпісаў асаблівы загад, згодна якога падлягалі безадкладнаму расстрэлу на месцы ўсе, хто са зброяй у руках..., а потым і сакрэтны загад камандзірам паветраных эскадрыльляў, аддзелаў танкаў і тэхнахэмічных аддзелаў аб ужываньні газаў у выпадку грамадзянскай вайны.

Начальнікі раёнаў разышліся.

Пасьля была другая кароткая нарада.

„Становішча ў Амэрыцы, паводле апошніх атрыманых намі вестак, не такое простае... Выяўляецца, што пры цяперашнім роўні сьвядомасьці мас ня так лёгка знайсьці хоць-бы крыху здавальняючы повад да вайны... Але справа застаецца справай... З гэтым баста..."

Слова было дана некалькім выдатным правадырам профэсыянальных саюзаў.

„Мы можам толькі лішні раз падкрэсьліць, што мы выканаем свае абавязкі. Усё, што ў межах нашых сіл... Але мы бачым, што становішча

дрэннае. Рабочыя цьвёрды ў сваёй рашучасьці змагацца. Яны ідуць, бязумоўна, за лёзунгамі комуністычнай партыі, якая адкажа на ўсялякую ваенную авантуру грамадзянскай вайной... Наш уплыў зьменшыўся... Таму мы настойна папераджаем... Але калі выбухне вайна, няхай то грамадзянская, ці замежная, мы, само сабой зразумела, станем лічыцца з існуючым фактам, гэта значыць, станем на бок законна абранага ўраду. Такім шляхам мы будзем трымацца славутых традыцыяй нашай партыі. Але будзем таксама прасіць для захаваньня знадворнай непарушнасьці дэмократычных прынцыпаў не адсоўваць ад удзелу ў справах парляманту. Няхай будуць гэта хоць калі-ні-калі скліканыя кароткачасныя пасяджэньні, на якіх слова атрымаюць толькі сябры ды прадстаўнікі ўраду і дэпутаты ўрадовых партый.

Мы таксама загадзя згаджаемся з тым, каб абвесьціць па-за законам комуністых—сяброў законадаўчага збору“.

Зьявіўся начальнік паліцэйскай абароны і зрабіў даклад аб здарэньнях у сувязі з першым мая.

„Ну, і дурань-жа вы!“ патаварыску пажартаваў з ім адзін з ваенных камандзіраў.

„Вы штучна пераўвялічылі здарэньні! І ў выніку—заўтрашняя агульная забастоўка. Гэта для нас раней часу. Ці ёсьць у вас весткі аб тым, калі яны мяркуюць выступіць... Па ўласьцівай ім прызвычаенасьці яны, пэўна, памыляцца наконт часу і тэмпу здарэньняў. Гэтаму аднаму комуністыя пакуль што яшчэ не навучыліся... Урэшце, весткі, падрабязныя паведамленьні аб настроі насельніцтва і г. д. Ужо самы час... А потым вывучайце на будучы час пільней наш рэглямант аб грамадзянскай вайне...“

„Я думаў,—заікаўся начальнік паліцыі,—што чым больш у першы дзень крыві, тым лепей...“

Гэтак ён і пайшоў са сваёй няўдачай.

Папрасілі слова і некалькі прадстаўнікоў патрыётычных саюзаў.

Яны скардзіліся на зьявы распаду. Бяз значных асыгнаваньняў з боку буйнай індустрыі нічога нельга зрабіць. Дробную буржуазію ўдаецца трымаць у організацыях толькі шляхам надзвычайнага напружаньня ўсіх сіл. „Кожная гадзіна спазьненьня нясе для нас страшную моральную і матэрыяльную шкоду. У нас усё падрыхтавана да неадкладнай разьвязкі. З гэтым настроем патрэбна лічыцца. Мы і так надта многа чакалі. Урэшце настала гадзіна дзейнічаць прабоем... Калі рабочыя зноў набяруць сілы, дык нам прыдзецца адступаць, ці яшчэ горш: „галаву далоў“ і „добрай ночы!“ Для гумовых кіёў час надта паважны...“ „Мы зусім згодны з вамі“, запэўнялі прадстаўнікі індустрыі і сельскай гаспадаркі, згаджаючыся з папярэднім прамоўцам. „Паглядзеце, панове, калі ласка, на нашы фабрыкі! Пяцьдзесят процантаў іх стаіць, другая палова іх працуе, але ня пытайцеся як. Пры пасыўным супраціўленьні і штодзен-

ным саботажы. Не, так гэта цягнуцца ня можа. Ніякім чынам... А стан чыгунак! Профэсыянальныя саюзы чыгуначнікаў самыя перакорлівыя... Усякае паважаньне перад сталасьцю ўраду пайшло к ліху... Мы, працадаўцы, ніякім спосабам ня можам дапусьціць выраджэньня нашай краіны ў бальшавізм. Ужо сёньня гавораць у нас з поўным правам аб дзяржаве ў дзяржаве... А што мы бачым на вёсцы?.. Ніводны з нас ня ўпэўнены зараз у сваім жыцьці... Цяпер ці ніколі... Вырашайце, панове, цяпер, непасрэдна, неадкладна: ці прабіла ўжо наша апошняя гадзіна..."

„Запрасеце кіраўніка палітычнага аддзелу паліцыі!" зьявіўся галоўны радца праўленьня Лэдэрман.

„Прашу агаласіць інформацыйны матэрыял. Нам патрэбны самыя конкрэтныя даныя. З нашым ваенным выступленьнем трэба неадкладна ўзгодніць і наш шырока задуманы агітацыйны паход. Загадайце нарыхтаваць дазнаньні, паказаньні сьведкаў, прызнаньні арыштаваных... Толькі ня надта груба, як вы звычайна комбінуеце. Усё павінна быць больш тонка. З-за цэлага шэрагу нашых памылак краіна стала значна лепш разьбірацца ва ўсіх здарэньнях: лепш стала чуць і вастрэй бачыць. Няўдалых мерапрыемстваў іх крокаў у цяперашнім становішчы намі нельга дапушчаць. Кожная выпадковасьць можа мець катастрофічныя вынікі... Урэшце: вы найперш павінны распаўсюдзіць трывожныя весткі аб комуністычных падрыхтоўках да паўстаньня. Потым вы неадкладна зьвяжэцеся з адпаведнымі організацыямі і організуйце пры дапамозе паліцэйскіх агентаў замахі і тэрорыстычныя акты на так званыя „сьвятыя", з пункту погляду народу, месцы: цэрквы, дзіцячыя дамы, больніцы і г. д. Першае мая было толькі першая спроба. Цяпер адважна ўперад!.. Яшчэ сёньня дайце загад паставіць цішком пякельныя машыны ў памяшканьні бюро комуністычных партыйных організацый. Такім шляхам мы ствoрым у масах абаснаваны повад да агульнай мобілізацыі; атрымаем значныя рэзэрвы і можам імі папаўняць ненадзейныя палкі. Набярэце спэцыяльныя каманды паліцэйскіх для сачэньня, вызначце нагароды за галовы комуністых, каб у першую чаргу канчаткова разьбіць выканаўчы камітэт комуністых. Толькі пры гэтых умовах зможам мы пасьпяхова працаваць над аздараўленьнем краіны. Аб выпадках непаслушэнства, узброенага паўстаньня, зьяўленьня чырвоных ячэек у арміі і флёце трэба неадкладна дакладаць непасрэдна мне. Ваенным судам трэба даць загад: кара павінна быць прыкладам для іншых. Ніякіх афіцыяльных кар сьмерцю для правадыроў-рэволюцыянэраў! Іх трэба забіваць пры спробах уцячы, у асабістых выпадках—інсцэніраваць самагубства... Што да азнаймавальнікаў і ім падобных суб'ектаў, дык купеце, не шкадуючы грошаў, вялікі лік здольных індывідуумаў: нам патрэбны запас іх прынамсі на месяц. У начлежных дамох пры дапамозе паліцыі вы заўсёды знойдзеце адпаведныя элемэнты, гатовыя за грошы... Кожная такая паслуга павінна зараз аплачвацца па цьвёрдых цэнах. Выдаткі асобна. Абяцаць

дзяржаўную пасаду... Бывайце здаровы! Не пазьней заўтрашняй раніцы чакаю Вашага асабістага дакладу...“

Начальнік палітычнай паліцыі быў адпушчаны.

Разьвіталіся і ўсе прысутныя.

Аддавалі чэсьць. Стаялі ва фронт.

Усе пайшлі на працу.

Шэф генэральнага штабу стаяў з многімі афіцэрамі перад картай.

Бэрлін быў акружаны сінімі знакамі...

Цэнтральная радыё-станцыя працавала, як у трасцы. Трашчалі тэлеграфныя апараты.

Шумлівыя чуткі шумелі па гораду і вёсцы.

Экстраныя лісткі:

„Агульная забастоўка!“

Эктраныя лісткі:

„Вынаходка комуністычнага складу зброі. Пагроза комуністычнага паўстаньня. Атрутныя газы ў руках комуністых... Урад аддаў загад аб мобілізацыі...“

## XII

Сярод цяжка параненых знаходзіўся і Пётра.

У яго было разьбіта сьцягно і прастрэлена почка.

Стан яго быў безнадзейны.

У гэтым ня было сумненьня.

Яго, як такога, што лічыўся за паліцыяй, палажылі ў больніцу.

Быў вечар. У бальнічным садзе пялі птушкі. Усё бразкаў званочак ад дзьвярэй. Усё новыя і новыя хворыя. У калідорах рух...

Пётра ляжаў у паасобнай, аддзеленай кратамі, камары.

Урач сьпехам аглядзеў яго. На драўлянай дошцы крэйдай напісалі яго прозьвішча. Зьявіліся тры паліцэйскія камісары для папярэдняга, як значылася, апытаньня.

Паміраўшы не гаварыў.

З яго зрабілі тры фотографічныя здымкі. Для гэтага зноў адзелі куртку яму, напялі на галаву шапку, потым паднялі з ложка і прыставілі да сьцяны.

„Стойце-ж! Не ўдавайцеся больш дурным, чым вы ёсьць! Ня згінайцеся, як пустая кішка!..“ Адбіткі пальцаў. Мераньне.

Урач, каб падтрымаць паміраўшага, упырснуў яму нешта для ўзбуджэньня дзейнасьці сэрца.

Канечна трэ‘ было яшчэ выцісьнуць з хворага прызнаньне; трэ‘ было дабіцца яго паказаньняў, чаго-б гэта ні каштавала. Яны павінны быць ясныя, дакладныя і зразумелыя для ўсіх, і толькі ён, Пётра, мог даць патрэбныя растлумачэньні. Ці ня ён, студэнт, быў кіраўніком ваеннай організацыі, нават комуністычнай організацыі абароны ад хэмічных газаў!? Аб гэтым былі весткі. І Пётра ведаў аб гэтым найлепш...

„Загадайце, пане доктар, падаць шампанскага віна!..“

„Можа жадаеце, пане Фрыд'юнг, пакурыць? Вось вам, калі ласка, папяроса!.. Ці што вам яшчэ падабаецца? Можа ёсьць у вас родныя, сябры, нявеста, з якімі вы жадалі-б пагаварыць... Вы, здаецца, не жанаты... Ці, можа, даць вестку па тэлеграфу вашаму бацьку?.. Мы гатовы вам служыць. Гэта і ёсьць галоўная мэта нашага прыходу... Але мы патурбуем, прабачайце, вас вельмі кароткім допытам. У сваёй адкрытасьці з намі вы не раскаецеся... Вы, пэўна, ведаеце яго... і ведаеце, дзе ён... Калі ласка, калі ласка—мы зараз дамо вам спакой. Вас неадкладна пусьцяць! Зараз вы вольны...“

Пётра маўчаў.

Толькі адзін раз ён прагаварыў:

„Пакіньце-ж мяне... Ня мучце мяне... Вы-ж ведаеце—гэта ня мае сэнсу... Вы самі павінны зразумець... Навошта гэтыя мукі... як вам ня сорамна...“

Зноў усадзілі яго на ложку.

„Бачыце, пане Фрыд'юнг, пане „доктар“, вам ужо прыдзецца паспрабаваць усе гэтыя няпрыемнасьці. Вы пагаршаеце свой стан упартым і незразумелым нам маўчаньнем... Гэта зусім дарэмна... Ці не жадаеце вы... Мы прымушаны да гэтага такімі крытычнымі акалічнасьцямі, што партыя не магла-б пярэчыць...“

Пётра маўчаў.

„Ну, урэшце, відаць, што нам прыдзецца рабіць інакш. Мы так хутка з вамі скончым. Будзеце вы адказваць, ці не, праклятая комуністычная сьвіньня? Адказвайце: дзе вашы склады газаў!? Ці мы пераламаем вам, яшчэ жывому, усе косьці. Вы, пэўна, чулі, што ў вашай прыгожай, чырвонай, сьвятой для вас Расіі над арыштаванымі робяць спробы з новымі газамі... Для нас-жа мала, каб такі гідкі паганец акалеў толькі раз... Трэ' было-б і нам над комуністымі, гэтымі людаедамі, рабіць вівісэкцыю...“

І даў Пётру кулаком так, што паміраўшы скаціўся да сьцяны.

„Пачакай, сябрачок, зараз выкацішся з ложка і будзеш на падлозе прыгожа і добра наш бруд жраць...“

„Хай ліжа твае ..., гэта комуністычная сьвіньня; гэтак рабілі з нашымі палоннымі яго саюзьнікі—французы... Ну, ты, упартая скаціна...“

Адзін з камісараў пазваніў.

Зьявіўся ўрач.

„Пане доктар, дзяцюк маўчыць. Ці няма ў вас якога электрычнага пэнзаля? А можа чаго іншага, што выклікае боль; можа упырскваньне этэру пад скуру!? Ці, можа, прыспаць яго на тры чвэрці парамі хлёрэтыля, каб хоць троху дабіцца ад яго!?.“

„Але я, панове, не параю вам гэтага. Гэтыя сродкі не абяцаюць тут посьпеху; памацайце толькі пульс: у сярэдня хворых—так, а ў такіх выпадках: за пяць хвілін да сьмерці... я, сапраўды, судовы ўрач і ў першую чаргу памоцнік правасудзьдзя, але, пане інспэктар, ня можам-жа опэраваць над трупам...“

Пульс паміраўшага біўся імпэтна, спыняўся, зноў зьяўляўся, працаваў паволі з перабоямі... памалу, ледзь прыметна...

„Вы бачыце-ж!..“

Урач прыпадняў коўдру.

„Глядзеце, пратачваецца праз павязку...“

„Гэткая комуністычная сьвіньня!“

„Але, пане Фрыд‘юнг“, зноў паспрабаваў адзін з камісараў, „заклінаю вас момантам вашай апошняй гадзіны, перад тварам госпада бога! І я душой рэлігійны чалавек і зьвяртаюся да вас, як чалавек да чалавека!.. Вы, напэўна, ня зробіце нам такой непапраўнай няпрыемнасьці! Пастаўце, калі ласка, на момант сябе ў наша становішча, як вам ні цяжка! Што скажа наш шэф, калі мы прыдзем дамоў з пустымі рукамі! Мы страцім яшчэ з-за вас, пане Фрыд‘юнг, нашы пасады! Мы ўсе жанатыя людзі, маем жонак, дзяцей, сем‘і. Падумайце аб іх! Урэшце, і мы таксама толькі пролетарыі!..

„Пашкадуйце-ж нас!“ казаў другі. „Зьбярэцеся з духам! Адным паказаньнем больш ці менш—ці ня ўсё роўна? Гаварэце, сапраўды, мы мужчыны! Сумленныя, адкрытыя людзі, немцы, якім няма чаго баяцца, няма чаго замаўчваць. „І хай увесь сьвет будзе поўны чарцей, бог— моцны прытулак і сіла“. Ну?.. Урэшце, у канчатковым падрахунку, мы ўсе парываемся да аднэй мэты...“

Пётра маўчаў.

Камісары адышліся, бразнуўшы дзьвярыма.

Іх крокі ішлі ўніз, зазьвінеў ключ, зачыніліся дзьверы... Нехта крычаў воддалі...

„Наступны...“

„Будзь цьвёрды, таварыш, і маўчы!“

Пётра застаўся зусім адзін.

XIII

Што гэта—павуціна!? Празрыстая тканіна? Сплёт пераліўных у прасторы сьвету праменьняў!?

Не.

Гэта краты.

Краты насоўваюцца на Пётру, ідуць, ідуць на яго, ідуць за ім усюды, на край сьвету.

Ён стаіць у прыбраным пакоі. Ён кахае любую яму дзяўчыну. Ён абняў яе. „Мы будзем гаварыць адзін аднаму „ты!?“ Ён, уласна, зусім шчасьлівы...

А вось зноў насоўваюцца перад ім і на яго краты, цяжкія, чорныя, чатырохкутныя, быццам здань.

Краты кажуць:

„Пакуль мяне ня скрышылі, няма табе спакою!..“

„Выканай, Пётра, свае абавязкі!.. Пілі, грызі зубамі мяне, рві рукамі да ран, стань на калені перад мной, прыцісьніся да мяне, прасунь галаву паміж маіх пруткоў і тады трасі, хістай мяне... Жары мае краты...“

Краты кажуць:

„Я не пакіну цябе!“

„Як прыгожа жыцьцё!“—шэпча Пётра. „Горы, мора, хвалі на ім, над ім навальніца, мэталёвая, як над плошчай з чорнай руды! А поры году! Зіма, сьнег, лыжы!.. А як цьвітуць дрэвы, як пахнуць лясы... Ляжыш сабе, як калода, расьцягнуўшыся ў траве на лугу... На кругавідзе скрыдлы ветракоў! Па камяністай дарозе цягнуцца з грукатам поўныя хлеба калёсы з поля ў вёску... Людзі з запаленымі, сухарлявымі тварамі сядзяць у шынку за драўлянымі сталамі, п'юць віно, кураць табаку... Хоць-бы яшчэ раз! Яшчэ адзін толькі раз!“

І зноў валяцца краты, у гэты раз быццам сетка з лётаючых знарадаў і агнёвага дыму. Яна валіцца, валіцца і закрывае ўвесь сьвет кратамі! А за імі закрыта і „прыгожае жыцьцё“. Там-жа, за кратамі, шалёна мігаючыя вочы, штыхі і калючы дрот, трэск касьцей і стогны і плач, цяжкія ўдары вялізнай машыны, якая помпуе чалавечую кроў, высмоктвае чалавечыя мазгі, чалавечую сілу. Машыны для забойства, фабрыкі, якія вырабляюць машыны масавых забойстваў, як бязьвінныя цацкі...

А вось людзі, якія ўцякаюць ад кратаў. Людзі, якія мараць за кратамі. Гэта залатая клетка, дзе яны ганебна мараць да сьмерці. Пруты клеткі паглянсаваны бронзай...

Краты растуць... павялічваюцца... На іх ужо пупышкі, плодазавязі, члены... Яны могуць ужо абнімаць людзей, абнімаючы, душыць да сьмерці... Пруты іх шматгранныя і вострыя, як нажы...

І краты стаяць ужо сярод Эўропы.

І краты стаяць у Азіі.

Стаяць яны навокал Афрыкі...

Расьцягваюцца і сьціскаюцца...

Плывуць, стоячы, цераз акіян.

Абкружаюць Японію. Абкружаюць Кітай...

Пруты кратаў ажыўляюцца, робяцца людзьмі, адзяюць форму, зброю з рэвольвэрамі і ручнымі гранатамі... І жывыя краты маршыруюць, палююць на людзей... І пруты, як вострыя калы, убіваюцца ў чалавечыя целы. І краты разьвяваюцца цяпер па ветру, як сьцяг, над кучамі трупаў, якія яшчэ дрыжаць перадсьмяротнай дрыготкай. Сьцяг гэты ўваткнуты ў пірамідальны ўзгорак з чалавечых трупаў.

Сьцяг гаворыць:

„Я агалашаю правы чалавека. Я—сьцяг цывілізацыі. Не давайце веры тым, хто кажа, быццам я пастка сьмерці. Ня верце тым, хто вяшчае, што мяне рана ці позна скінуць. Схілецеся перада мной вы, паганскія пароды, веруючы і пакорна. Я—хрысьціянства. Я—вызваленьне. Я—воля, праца, шчасьце, жыцьцё для ўсіх... Я—чалавечы прогрэс...“

Вострымі, як нажы, тонкімі струменямі паліў раптам дождж. Ліў ён проста, наўскасяк і раптам абдзіўся навокал Пётры, як плыўкія краты...

Непраглядна густы дождж. І вось раптам зьявіўся яркі сноп сьвятла... І дажджавыя краты расталі...

Расталі яны пад гарачынёй чырвонага сонца.

Пётра стаяў вольны сярод неабсяжнай шыры прыроды.

Сьвет быў як-бы бясконцая, глыбокая, радасная, празрыста-блакітная, вясёла-гучэўшая даліна.

Нейкі таварыш падаў яму руку.

Рука Пётры была зусім бясколерная, уся кроў прыліла да сэрца. Пётра паглядзеў на сваю руку: яна ляжала перад ім на стракатай коўдры—вялікая, спакойная, незразумела чужая.

„Добрай начы, Пётра!"—кіўнуў яму таварыш. „Ты зрабіў добра! Няма часу, шмат яшчэ працы ўпераду. Трэба цяпер далей..."

„Будзь здароў!" адказаў Пётра, нібы з якойсьці вялікай глыбіні, нібы топячыся ў аксамітнай начы: „Жадаю табе ўдачы! Ты ўсё зробіш! Моцна сьціснуўшы зубы, працуй гэтак далей... Праўда?!.. Бо адно застаецца для нас і цяпер нязрушна: хай паасобныя барацьбіты гінуць; цэлае, увесь пролетарыят, пераможа!.."

Гэта казаў Пётра ўжо бяз слоў.

Таварыш больш ня чуў.

Гэты таварыш, з якім зараз разьвітаўся Пётра, быў не паасобны, не паасобны чалавек. Ён быў анонім, бязыменьнік. Гэты таварыш была партыя. Гэты таварыш была рабочая кляса. Гэты таварыш была ўся маса прыгнечаных, эксплёатаваных і пагарджаных. Гэты таварыш была пераможная рэволюцыя. Гэты таварыш зваўся таксама будучыня сьвету.

Губы Пётры ўсё варушыліся.

І вось ён занурыўся ў свае думкі.

Вочы блішчэлі і гарэлі...

Людзкія масы пагражалі адна аднэй. Людзкія масы, змагаючыся, пасоўваліся адна на адну...

Гукі і шумы адляталі цяпер ад яго, як тое лісьцё, што разносіць па зямлі вецер.

Яшчэ раз пранеслася над ім, як хісткая верхавіна дрэў, цэлая група гукаў: стрэлы, крыкі, трэск касьцей...

Верхавіна бурна хісталася над ім... Настала восень, з верхавіны абляцела лісьцё.

Навокал яго стала ціха, ціха, як сон...

Хоць Пётра ляжаў цяпер зусім адзін у закрытай кратамі камары, але зараз ён быў усё-ж такі менш адзінокі, як ва ўсім сваім жыцьці.

Пер. з нямецкае мовы **Ю. Зэмель.**

# ВЕЦЕР З УСХОДУ

*Апавяданьне*

**Алесь Дудар**

По твары профэсара Арцём Жыгалка пазнаў, што год працы дарэмна не прапаў. Профэсар гэты быў стары і злы; на экзаменах баяліся яго, як нейкай пошасьці, бо, як казалі, ён быў сапраўдным віртуозам па часьці правальваньня. І вось цягер, пасьля поўгадзіннага бязупыннага наскоку, профэсар нібы абмяк; пад залатымі акулярамі зьбянтэжана забегалі маленькія, халодныя вочы, а з вуснаў нейкім пакалечаным абрыўкам вырваліся словы.

— Добра... Можаце ісьці...

У Арцёма галава пайшла кругом...

— Вучоба, вучоба, вучоба,—разгортвалася ў яго галаве адно і тое-ж слова. Арцём бомбаю вылецеў з аўдыторыі на халодны цемнаваты калідор, моцна штурхануў нейкага хлапца, наступіў на нагу нейкай дзяўчыне ў чырвоным капялюшы. Ён не пачуў нават, як прашыпела гэта дзяўчына яму ўсьлед:

— Мужык...

Вуліца перад унівэрсытэтам, абсаджаная каштанамі, саўсім ужо набыла верасьнёвы жоўты колер. Арцём ішоў, а пад нагамі шапталіся пажоўклыя сухія лісты, і ў шапаценьні гэтым чуліся адзвоны бронзы. А ў Арцёмавых грудзёх вырастала нешта моцнае, балючае, але прыемнае; такое адчуваньне бывае, калі доўга чалавек працуе, з вялікай напружанасьцю гатуецца да нечага і, нарэшце, дасягае сваёй мэты. Нейкія хлапчукі зьбіралі ў мяшэчкі пажоўклыя лісты, выбіраючы самыя вялікія і цэлыя; Арцёму хацелася крыкнуць і ім пра сваё вялікае шчасьце, як, наогул, хацелася з кім-небудзь ім падзяліцца.

Паступова пачуцьці яго пачыналі ўваходзіць у сваё прывычнае рэчышча, а думка пачала працаваць над пэрспэктывамі бліжэйшай будучыны.

— Будзе стыпэндыя, пражыву ў інтэрнаце... Не такая бяда ўжо. Урэшце, няўжо-ж яму, Арцёму, такая навіна працаваць. Калі што, дык і бярвеньні павалачыць ня страх... Але-ж за тое вучыцца...

Перад Арцёмам паўсталі жывыя малюнкі апошніх яго дзён у вёсцы. На бюро ячэйкі шмат гаварылі яму хлопцы, многа давалі парад, многа перасьцярог.

— Мы цябе, брат, добра ведаем,—казаў яму сакратар Цімох Шпак,— хлапец ты моцны, але-ж трэба папярэдзіць... Тут мы ўсе адзін аднаго, як іголачку, ведаем. За тыдзень наперад пазнаем, калі што якое. А там мала з кім зьвязацца можаш...

І Арцём усё выслухваў, усё ўспрымаў, запамінаў і ў горад ехаў з нейкаю ледзь чутнаю трывогаю; было шкода вёскі, шкода сяброў сваіх, з якімі столькі разам зазналі і дабра і ліха. І старых нават шкода стала: зноў, як жывы, уставаў дзядзька Максім з пасівелымі калматымі валасамі ды маленькаю рыжаю барадою. Курыў ён люльку, набітую нейкім спэцыяльным „амэрыканскім" тытунём, які толькі ён адзін і гадаваў; любіў гаварыць пра палітыку.

— Гэта добра, што вучыцца едзеш,—казаў ён сплёўваючы і выбіваючы попел з люлькі аб падэшву вялізарнага рудага ад вільгаці боту. Навука—рэч спажыўная. Глядзі толькі, каб пайшла яна, куды трэба, навука твая. А то іншы дык з вялікай навукі да бацькі роднага на людзях падыйсьці баіцца.

Арцём у сваіх сілах упэўнены. Адчувае жаданьне працаваць, ведае сваю мэту, ведае, што ніякая сіла ня можа зламаць яго энэргіі...

— Ды пачакай-жа ты, шаляніца,—толькі цяпер пачуў ён за сабою нейчы голас.

Арцём азірнуўся і ўбачыў, што яго даганяе Міхась Цішкевіч, даўны сябра з бліжэйшай вёскі; яны разам прыехалі ў горад, разам трымалі экзамены. Міхась зусім задыхаўся.

— Вось, трасца тваёй матары,—спыніўся ён нарэшце,—ня мог пачакаць...

Толькі цяпер Арцём успомніў, што яны з Міхасём умовіліся чакаць адзін аднаго пасьля экзаменаў. Арцём вінавата развёў рукамі.

— Братка ты мой... Калі-ж галава кругам пашла... Я ў Квяткоўскага быў.

— Ну, і як?

— Вытрымаў, ды яшчэ і як добра: на ўсе пытаньні адказаў.

— Здорава,—працягнуў Міхась.—Што здорава, то здорава...

— Ну і такая мяне радасьць апанавала, што ні людзей, ні дарогі ня бачыў... А пра спатканьне зусім з галавы вылецела... А ў цябе як?

— І ў мяне добра. Скончыў усё як сьлед. Ну і зажывем-жа мы з табою цяпер. Толькі пасьпявай,—раптам ажывіўся ён.

І Арцём зразумеў, што Міхася, як і яго, да краю перапоўніла гэта жывая радасьць перамогі. Абодвум цяпер асабліва родным і блізкім стала гэта блеклае, але мяккае ды ласкавае, верасьнёвае сонца, што згладжвае пачарнелыя акрайцы зубчатых каштанавых лістоў, засыпаўшых брук і тротуары і гэтае вострае і пахкае верасьнёвае паветра—пах сьпеласьці і адпачынку.

— У нас цяпер жніво канчаецца,—напамінае Міхась.

І жыва так бачыць Арцём сваё поле: бацька складае залатыя пахкія снапы на воз, дзядзька Максім гатуе рубель, чапляючы на яго пярэдню, а маці ўскідае на воз сноп за снопам і высыпаюцца з іх на шурпатую пожню зярняткі. Сівы канёк стаіць, матае галавою, ды цягнецца па жаўцеючы на ўзьлетку быльнік.

— Варта было-б і пагуляць сёньня крыху,—падае голас Міхась,— напакутаваліся нямала. А каб пагарадзкому пагуляць? Га? Што ты скажаш?

— Баюся я шыкаваць вельмі... Хто яго ведае—пакуль яно што будзе, а грошы і ў мяне і ў цябе лічаныя. Хадзем лепей да Рудэрмана палуднаваць.

І сябры пацягнуліся ў старую частку гораду, дзе на брудных і смуродных вуліцах адзін ля аднаго ляпіліся заежджыя двары. Там звычайна спыняліся ўсе, хто прыяжджаў з вёсак, прычым кожны двор, па традыцыі, абслугоўваў пэўныя вёскі. Усе гэтыя двары былі зроблены на адзін узор. Шырокі панадворак, палову якога займае паветка для коняй; у хацэ тры пакоі, дзе ўдзень снуюць заежджыя і іх гарадзкія сваякі ды знаёмыя, а ўночы на лавах, ды на падлозе сьпяць людзі. Такі самы быў і двор Рудэрмана.

Увечары прышоў дзядзька Мацей, які прывёз хлапцоў у горад, ён некалькі дзён працягаўся па ўстановах, здабываючы нейкую спраўку. Спраўкі ён не здабыў, але прынёс з сабою пляжку гарэлкі.

— Ну, як справы, хлапчукі?—весела пытаўся ён у Арцёма з Міхасём.

І абодва на перабой пачалі апавядаць Мацею пра свой посьпех.

— Эгэ!.. Вось гэта я разумею,—сказаў Мацей. Але-ж,—яго вочы пры гэтым хітра прыжмурыліся,—такую штуку падмачыць трэба,—і Мацей пачаў многазначна пагладжваць жывот.

Хлопцы ўтупіліся.

— Можа ня варта, дзядзька Мацей!

— Чаго там ня варта... Вось,—і дзядзька Мацей урачыста выставіў на стол пляжку з чырвонаю галоўкаю.—Каб вы яшчэ піва пляжкі са тры дасталі, дык акурат добра было-б...

Калі Арцём позна ўвечары засыпаў, у галаве яго крыху шумела ад выпітай гарэлкі. Дзядзька Мацей зухавата храпеў, і спрасонку зрываліся з месца і з тоненькім звонам біліся аб мутныя шыбы мухі.

* * *

У дзень адчыненьня заняткаў пасівелы рэктар гаварыў доўгую прамову да студэнтаў, успамінаў свае студэнцкія годы і весела паблескваў акулярамі на вялізную залю, перапоўненую моладзьдзю. Арцёму ўсё тут здавалася новым і поўным нейкага асаблівага значэньня. Аглядаючы сваіх будучых сяброў, Арцём зьвярнуў увагу на вялікую рознастайнасьць

будучых сваіх сяброў. У пераможнай масе саматканых сьвітак, чырвоных хустачак і нават кажушкоў, дзіўных у гэту раньнюю пару, выдзяляліся значныя групы дзяўчат і хлапцоў, апранутых па-гарадзкому. Гладкія хлопцы ў чорных польтах і пэнснэ, дзяўчаты ў сініх і зялёных капялюшыках—яны трымалі сябе тут сьмела і разьвязна. Яны перагаворваліся паміж сабою, не зважаючы на рэктара, чамусьці сьмяяліся і часамі грэбліва адсоўваліся ад вясковых хлапцоў. У Арцёма адразу абудзілася нейкая варожасьць да іх.

Рэктар скончыў. Пасьля яго гаварылі яшчэ профэсары, прадстаўнікі організацый. І пасьля апошняй прамовы рассыпалася моладзь па унівэрсытэцкіх калідорах, згрудзілася каля дошчак з раскладамі лекцый.

У інтэрнаце Арцём папаў у агульны пакой, дзе разам з ім жыло яшчэ семера хлапцоў. Чэцьвера з іх, як і Арцём, былі комсамольцы, але ўсе папрыяжджалі з далёкіх вёсак, усе гарэлі тым самым жаданьнем, што і Арцём—вучыцца. Трывожна чакалі заўтрашняга дня—паглядзець, што гэта такое унівэрсытэт. І няпрывычна хавалі гэту сваю трывогу ад другіх, зацяняючы яе нэрвовымі жартамі і бязупыннаю гутаркаю.

І вось першы раз Арцём пераступіў запаведны парог аўдыторыі. Лекцыя павінна была пачацца хвілін праз пяць, але ўжо бадай што ўсе месцы былі заняты. Наперадзе—самы энэргічны народ—вясковыя дзяўчаты. Яны баяцца прапусьціць хаця-б адно слова з профэсарскай гутаркі і таму разьмясьціліся бліжэй да катэдры. Арцём знайшоў сабе месца поруч з даўгім сухарлявым хлапцом з сьветлымі доўгімі валасамі. Проста перад ім сядзела нейкая дзяўчына ў чырвонай шапцы з чорнымі завіткамі валасоў на белай тонкай шыі...

Увайшоў профэсар. Шум і гутаркі адразу абарваліся. Профэсар быў малады чалавек з модна зачэсанымі валасамі і маленькаю востраю бародкаю, так што ўвесь яго твар нагадваў роўнабокі трыкутнік, накіраваны вострым канцом уніз; прайшоўся моўчкі па аўдыторыі, дэмонструючы сваю высокую зграбную фігуру. Быў ён папраўдзе не профэсарам, а доцэнтам, ды да таго-ж ня меў і закончанай вышэйшай асьветы: таму з асаблівым аплёмбам гаварыў ён пра свой прадмет і пра свае мэтоды выкладаньня, пра свае погляды на сыстэму вучэньня. Арцёма дзівіла шырыня размаху ў поглядах профэсара, сьмеласьць яго вывадаў і тая разьвязнасьць, з якою ён сябе трымаў.

Празьвінеў званок. Вышаў профэсар, і высыпалі на калідор усе студэнты. Арцём ужо адчуваў сябе поўнапраўным сябром гэтай сям'і. Вандруючы па калідоры, ён напаткаў і Міхася і яшчэ многіх знаёмых. Хлопцы згрудзіліся каля вакна і жвава дзяліліся першымі ўражаньнямі.

Міхась радасна сустрэў Арцёма.

— А я, брат, ужо і знаёмствы сякія-такія заводзіць пачаў. Дзевушкі дзьве інцярэсныя...

Арцёма зьдзівіла, што Міхась, які ніколі, здаецца, ня вылазіў з свае вёскі, пачаў ужываць расійскія словы. Але гэтага ён Міхасю не сказаў.

— Дзе ты ўладзіўся?—запытаўся ён у Міхася.

— Прышлося, брат, на прыватную кватэру. У інтэрнаце ўжо месца не хапіла. Ты абавязкова заходзь: Забалотная 12, кватэра першая. Нішто сабе пакойчык.

Увечары быў першы сход комсамольскай ячэйкі, і Арцём прышоў на сход адзін з першых. Аднак пачатку чакаць давялося даволі доўга, і Арцём блудзіў па вялікай салі, дальні канец якой губляўся ў змроку, разглядаў портрэты па сьценах і даўгія гірлянды з каляровай паперы, працягнутыя праз усю салю. Арцём успамінаў пра сваю вясковую ячэйку, дзе так было дружна і добра, дзе ўсе ведалі адзін аднаго, як самога сябе; таму і праца там разьвівалася больш шпаркім тэмпам. Успамінаў ён пра працу тую: асабліва ўрэзалася яму ў памяць, як уся іх ячэйка пад сьмех і кпіны старых высыпала за балота і ўзялася за адбудову грэблі, не рэмантаванай ужо гадоў сто. Пачыналі комсамольцы, а канчала ўжо ўся вёска, бо старыя вельмі хутка перасталі сьмяяцца і вышлі на дапамогу. Уся вёска потым дзівілася—як гэта так нечакана і добра вышла. Пасьля таго і аўторытэт комсамольскай ячэйкі вырас на недасяжную вышыню.

Сход цягнуўся вельмі доўга. Арцём зьдзіўлена глядзеў і слухаў; выступалі ўсе, але бракавала ў гэтых выступленьнях, прывычнай для яго конкрэтнасьці. З трудом можна было вылушчыць з поўгадзіннай прамовы конкрэтны сэнс. Былі, праўда, і больш сур'ёзныя хлапцы і дзяўчаты; яны ўмелі ставіць пытаньне рубам і бяз лішніх разважаньняў даць на яго адказ. Але іх было мала, вельмі мала, хоць і адчувалася, што яны ва ўсім задаюць асноўны тон.

З такою-ж упартасьцю ўзяўся Арцём за навуку, як некалі цягаў цяжкія бярвеньні на пабудове грэблі. Сядзеў у бібліотэцы, з захапленьнем перачытваў строгія кнігі і адчуваў выразна, як папаўняецца запас яго ведаў. Другія студэнты моршчыліся і пазяхалі, сьлібізуючы кнігі, неабходныя да залікаў. Арцём гэтым не абмяжоўвася, а чытаў усё, што мог і на што ў яго хапала часу. З Міхасём сустракаўся рэдка. Дый Міхась павёў зусім інакшае жыцьцё: прападаў цэлымі вечарамі з нейкімі дзяўчатамі, завёў знаёмства з гарадзкімі хлапцамі і, наогул, жыў неяк раскідана. Нават на лекцыі хадзіў ня вельмі акуратна. Арцёму так і не даводзіліся пакуль што папасьці да Міхася ў хату, бо яго ніколі там нельга было застаць.

Аднаго разу папаў Арцём на літаратурны вечар. Павінны былі выступіць маладыя поэты Гуткевіч, Палясоўскі і яшчэ некалькі, якія ўжо карысталіся шырокаю вядомасьцю ня столькі сваімі творамі, колькі гучным сваім жыцьцём. Арцём спазьніўся на вечар і пасьпеў якраз да

выступленьня Гуткевіча. Гэты панок, па франтоўску апрануты і з голасам саракагадовай жанчыны, толькі што пачаў чытаць свой верш:

Сіня-аўсяныя далі
сьвецяцца ў цьмяных крышталях.
Тут-жа, на бруку прадажным,
душу на золата важаць.
Я, сын пяшчотаў лілейных,
стану, схіліўшы калені.
Звонка пунсовыя хвалі,
сіня-аўсяныя далі.

Гуткевіч скончыў, нязграбна павярнуўся, ды паходкаю качкі накіраваўся да свайго месца за сталом.

— Зараз выступіць наш вядомы поэта Паляскоўскі,—абвясьціў кіраўнік вечару і першы пачаў пляскаць далонямі. Уся саля, асабліва дзяўчаты, аж заходзіліся, плешчучы. Паляскоўскі ўстаў і аказаўся высачэнным сутулаватым хлопцам з грубымі рысамі твару. Балянсуючы і размахваючы рукамі, ён пачаў чытаць нарасьпеў:

І было так проста, і было так міла—
ашчаперыў стан твой, вусны цалаваў.
Абвіла вужакай, рукі сашчапіла...
А каму? завошта? Хто-ж каго кахаў?

Паляскоўскі не выгаварваў літары „р“ і таму ўсю сваю ўвагу накіроўваў на мэлёдычнасьць дэклямацыі. Перад апошняю страфою на твары яго зьявілася пагардліва-гіронічная ўсьмешка:

Сяду я на конку, кіну Беларусь я,
забяру з сабою вершы ўсе свае.
І пайду наперад, болей не вярнуся.—
Хай жывуць мяшчане, толькі без мяне.

Для Арцёма гэта была навіна. Цікавіўся ён літаратураю з малых год, але ніколі ня чуў сапраўдных поэтаў. Імёны Гуткевіча і Паляскоўскага чуў ён ня раз—з іх імёнамі зьвязваліся звычайна новыя мотывы, бадзёрасьць. Арцём думаў, што поэт прадстаўляе сабою нешта новае, нязвычайнае; хацелася пачуць нешта зусім непадобнае да таго, за што зараз так заядла пляскалі Паляскоўскаму дзяўчаты.

— Яшчэ, яшчэ...

Да Паляскоўскага падыходзілі, нешта яму гаварылі, але ён толькі пагардліва махаў рукамі ў напрамку салі і заставаўся сядзець на сваім месцы. Арцём праслухаў яшчэ некалькі выступленьняў. Гэта былі саўсім ужо маладыя хлапчукі, якіх Арцём вельмі часта спатыкаў ва унівэрсытэцкіх калідорах. Але да канца Арцём не застаўся і накіраваўся да выхаду. У сталоўцы сустрэў Міхася.

— А, здароў, Арцём... Выходзіць, што мы з табою даўно ўжо ня бачыліся... Адкуль ты?

Арцём расказаў Міхасю пра вечар.

— Э, дык я-ж іх ведаю. Знаёмы і з Паляскоўскім, і з Гуткевічам... Як-небудзь і цябе пазнаёмлю...

Арцём зрабіў адмоўны рух...

— Ці варта?..

— Чаму-ж? Хлопцы добрыя. Час з імі можна вунь як правесьці.

— Не, брат, гэта ня тое... Якія яны як людзі—мяне гэта ня так цікавіць. А нешта ў іх ёсьць такое... акторскае... няжывое...

— Няўжо і Паляскоўскі табе не спадабаўся?

— Паляскоўскі горш за ўсіх... Што гэта ў яго за выкрутасы нейкія? Трагэдыю разыгрывае, а навошта?..

— А яго любяць многія... Ну, добра... Ты чаму не заходзіш да мяне ніколі?

— Цябе-ж злавіць ніколі няможна. Я ўжо заходзіў.

— Ты заходзь пасьлязаўтра, увечары. Напэўна буду дома.

* * *

Надыходзілі зімовыя вакацыіі замірала праца ва унівэрсытэце. Паступова радзелі аўдыторыі. Некаторыя студэнты пасьпелі ўжо выехаць да дому. Арцём рашыў схадзіць да Міхася. Па дарозе раздумваў над тым, што Міхась ня так жыве, як трэба было-б. Невядома, што ён робіць па-за сьценамі унівэрсытэту, але ва унівэрсытэце ён не рабіў нічога. Успомніўся Міхасёў бацька—беражлівы, разважны мужык і добры гаспадар: Міхась яго адзіны сын; для яго дабрабыту часамі ўся сям'я недаядала. Мабыць бацька не пахваліў-бы Міхася за яго цяперашняе жыцьцё.

Міхась на гэты раз быў дома і калі адчыняў Арцёму дзьверы, дык твар яго быў чырвоны і вочы чамусьці блішчэлі ня так, як заўсёды.

— Тут у мяне сякія-такія знаёмыя сядзяць, ты не зважай,—папярэдзіў ён Арцёма.

— Можа я перашкодзіў табе?..

— Не, не... Глупства... Свае людзі.

У Міхасёвым пакоі на стале стаялі бутэлькі з віном і на паперы раскладзена была закуска. За сталом сядзелі дзьве дзяўчыны і адзін хлапец. Абедзьве дзяўчыны былі непадобны адна да аднэй і адначасна ў іх былі нейкія рыскі, якія маглі выклікаць думку, што гэта родныя сёстры. Адну з іх Арцём крыху ведаў, бо часта сустракаўся з ёю на курсавых лекцыях. Была яна маленькая і скупая ў рухах, але на малочнаматавым твары іскрыліся з-пад доўгіх скроняў чорныя пачуцьцёвыя вочы. У другой твар быў такі самы белы, сама яна была высокая, тонкая і гнуткая, але вочы ў яе былі шэрыя. Бутэлькі былі напалову пустыя і таму твары дзяўчат паланелі лёгкім румянцам, а хлапец неяк асабліва падкрэсьлена камячыў папяросу, якая даўно пагасла.

— Будзьце знаёмы,—загаварыў Міхась.—Гэта Арцём, мой зямляк і даўны сябра.

Маленькую дзяўчыну звалі Нінай, другая назвалася нечаканым іменем Кацярыны. Хлапец прывітаўся моўчкі, а потым раптам замітусіўся пачаў падсоўваць да Арцёма бутэлькі адну за другою.

— Трэба выпіць, трэба... Міхасёў зямляк ня можа ня піць... Вы спазьніліся, дык вам цэлую...

І ён, не чакаючы Арцёмавай згоды, наліў яму поўную шклянку віна.

— Чаго ты, Лявон, палохаеш чалавека,—зьвярнуўся да яго Міхась. Ён можа падумаць, што тут няма ведама што ў гэтай шклянцы. Квас тут і больш нічога.

А Арцёму піць не хацелася. Гэта заўважыла Ніна.

— Налі мне таксама, Лявон. Я бачу, колега ня хоча піць адзін...

— Хай дагоніць.

— Ну, ну, слухайся, што старэйшыя кажуць. Налівай,—і яна рашуча падставіла сваю шклянку.

Арцём яшчэ і ня думаў брацца за сваю чарку. Ніна перасела да яго бліжэй.

— Давайце, для першага знаёмства... Няўжо са мною ня вып‘еце?

А ў вачох нейкія чорцікі вясёлыя скачуць, падражніваюцца. Працягвае Ніна шклянку сваю і бачыць Арцём, якія ў яе тонкія пальцы і як зграбна абрэзаны пазногці. Паглядзеў на свае—тое, ды ня тое. Цурубалкі нейкія...

— Ну, дык чаго-ж вы чакаеце?—дамагаецца Ніна.

Ня хочацца Арцёму і дакранацца да віна, але-ж бачыць—Міхась на яго з дакорам глядзіць, а ў другой дзяўчыны вочы сьмяшліваю дымкаю падзёрнуліся. Прыжмурыў вочы і залпам выкуліў шклянку ў горла. Апякло, закруціла...

„Добры квасок“, падумаў сабе, ды, нібы зьнянацку, глянуў на бутэльку—коньяк.

Вылупіў Арцём вочы, а хлопцы сьмяюцца. Паддурылі.

З няпрывычкі ўдарыла ў галаву. Глядзіць Арцём на вакно і бачыць—завіруха там пачынаецца, усё вастрэй і вастрэй б‘юцца ў шыбы сьнежныя гарошыны і ў вачох мітусіцца. Нешта гаворыць Міхась, налівае ў шклянку нешта, і Ніна сьмяецца.

— Вып‘ем яшчэ.

Цяпер, ужо шклянкі ва ўсіх наліты. Арцём сьмела бярэцца за сваю:

— Крэпкая, ліха на яе.

— Нічога,—супакойвае хлопец,—закусіць трэба. Гэта яшчэ ў Літоўскім статуце напісана, што піць можна, але канечна трэба закусваць...

— Абавязкова,—кажа Арцём і выпівае сваю шклянку. Каля вакна, на сьцяне вісіць адзіны ў пакоі малюнак—выразаная з нейкай кнігі „Вэнэра з люстэркам“. Глядзіць на Арцёма з люстэрка жаночы твар

і чамусьці знаёмы, а Арцём ня можа ўспомніць, бо нешта гаворыць яму на вуха Ніна.

— Так, так,—адказвае ён і раптам пазнае Вэнэру: гэта Ніна, нават не яна, а яе старэйшая сястра. Гэта яшчэ дзяўчына, а тая ўжо ведае добра жыцьцё. Арцём глядзіць на Ніну, а Міхась і другі хлапец угаворваюць яе прасьпяваць. Арцём далучаецца да іх больш у сілу нейкага колектыўнага інстынкту.

— І вы хочаце, каб я засьпявала. Ну, добра.

Міхась падміргвае.

— Глядзі ты, Арцём, як табе шанцуе... Ты яе ня ўздумай ад нас адбіваць.

І Арцёму робіцца весела. Яго таксама падмывае разам з Ніпаю сьпяваць, але першы раз чуе ён гэту песьню і гэткі матыў.

Так где же вы, мой маленький креольчик,
Мой смуглый принц с Антильских островов...

І блішчаць Німіны вочы, на яго, на Арцёма глядзяць і таксама сьпяваюць. І ўжо зусім яна не дзяўчынка, бо бяз слоў, бяз руху кліча яго да сябе.

Арцём п'е яшчэ. Цяпер лёгка п'ецца, бо Ніна сядзіць ужо зноў каля яго. Яна да яго не дакранаецца, але ён адчувае яе ўсю і ведае ўжо, якая яна. Кацярына на сярэдзіне пакою танцуе нейкі жвавы танец, і яе вузкае цела зьвіваецца вужом, калі яна паднімае калені.

Недзе ў суседнім пакоі гадзіньнік адбівае дванаццаць гадзін, і Арцём успамінае, што зараз замкнуць дзьверы ў інтэрнаце, а таму трэба ісьці, бо вельмі няпрыемна стукацца ў дзьверы і бяз толку будзіць таварышоў. Арцём паднімаецца. Ня кружыцца ўжо галава, і ён рашуча разьвітваецца з Міхасём, ня гледзячы на ўгаворы.

— Пачакайце, Арцём, нам у адну дарогу,—чуе ён голас Ніны і хоць ня ведае, дзе яна жыве, прымае гэта за праўду.

Выходзяць на двор разам. Вые завіруха, намятае вялізарныя сумёты, памыкаецца зьбіць з ног. Ніна адразу хапаецца за Арцёмаву руку, каб утрымацца. А ў Арцёма ад ветру цьвярдзеюць ногі і робіцца сьвяжэйшая галава. Вецер з усходу, ён пралятаў і над яго вёскаю, над яго полем, а там-жа ўся яго сіла.

— Мы з вамі, здаецца, на адным курсе,—заводзіць Ніна гутарку.

— Я на першым толькі. Сёлета пастуціў.

— Ну і я таксама. Я вас часта спатыкаю, таму запыталася.

Папярок вуліцы вырас высокі сумёт у палову росту Ніны. Перад ім Ніна нерашуча спынілася. Арцём засьмяяўся і, нечакана для самога сябе, падняў яе на рукі, лёгка перанёс на другі бок і зноў асьцярожна паставіў на зямлю.

— Дзякуй,—толькі тут апамяталася яна.—Вы гэтакі дужы, Арцём. Ведаеце, я лепей вас буду называць Цёма, бо Арцём—гэта неяк нялаcкава... Добра?

І Арцёму здалося, што так будзе лепей. А Ніна шчыльна-шчыльна прыціскалася да яго, вялікага і моцнага, як-бы хаваючыся ад парываў завірухі. Вецер з усходу ня сьціхаў і сыпаў на абодвух усё большыя і большыя гурбы вострага і халоднага сьнегу.

* * *

На другі дзень у Арцёма балела галава, і ён, як праз туман, успамінаў усе падзеі ўчарайшага вечару. Неяк згладзілася і зьлілося ўсё і разам з галаўною больлю выплываў нейкі няпрыемны асадак. Раніцою на заняткі ня трэба было ісьці, і Арцём парашыў пахадзіць па вуліцах, каб разьвеяць і фізычную і маральную змору. Вецер веяў, як і ўночы, з усходу, толькі бадай што зусім заціх. На вуліцы дворнікі зграбалі сьнег з тротуараў і складалі яго вялізнымі кучамі пад прысадамі. Крэпкі ранішні мароз моцна шчыпаў за твар, і Арцём адчуваў, што шпарчэй захадзіла кроў і пачала прыліваць да твару, каб абараніць суровую скуру яго ад марозу.

Прышлося хадзіць гадзіны дзьве, каб хоць крыху прывесьці сябе ў парадак. У роце яшчэ гарчыла, яшчэ балела галава і нейкая муць уздымалася ў перасохлым горле. Але заставаўся толькі тыдзень да апошняга заліку і трэба было ісьці ў бібліотэку.

У бібліотэцы зрабілася горш. Літары кнігі рэзалі вочы, думкі здаваліся цяжкімі і незразумелымі. Яшчэ больш разбалелася галава.

— Ды што гэта, урэшце, такое,—раззлаваўся Арцём,—павінен я прачытаць сягоньня, ці не павінен!..

Мільганула спакусьлівая думка, што можна адкласьці і на заўтра, але Арцём рашуча абарваў яе.

— Заўтра трэба пачытаць яшчэ неабавязковыя падручнікі. Крапчэй будзе. З адкладу ня будзе ладу.

К вечару, калі Арцём скончыў, нарэшце, кнігу, стаў ён адчуваць сябе спакайней. Лягчэй было ісьці, нават сьнег пад нагамі скрыпеў, здавалася, больш звонка, чым звычайна. Арцём ішоў на лекцыю і ўжо бадай ня думаў пра ўчарайшае.

Быў якраз перарыў паміж дзьвюма лекцыямі, і па цемнаватым калідоры снавалі ажыўленыя групы студэнтаў і студэнтак. Першы, на каго наткнуўся Арцём, быў Міхась, які сустрэў яго вясёлаю ўсьмешкаю з налётам нейкай патаемнасьці.

— Ну, як сябе адчуваеш?

— Трошкі не па сабе. Цэлы дзень у бібліотэцы высядзеў. Праз тыдзень здаваць буду.

— То ты за тыдзень пачынаеш рыхтавацца?—зьдзівіўся Міхась.

— А што-ж? Больш прачытаць пасьпею, больш карысьці будзе...

— Ну і дзівак-жа ты. Усё роўна-ж разумней разумнага ня будзеш. Па мне—дык лепш менш, ды лепш. Я здам залік, дый забудуся, а калі спатрэбіцца, то ўспомню...

Яны хадзілі па калідоры і гаварылі вельмі моцна, бо гутарку заглушаў нязмоўчны гоман навокал. Раптам Арцём убачыў, што насустрач яму і Міхасю ідзе Ніна, апіраючыся на руку нейкага хлапца. З Арцёмам яна прывіталася холадна і зараз-жа адазвала ад яго Міхася. Арцёму зрабілася горка, крыўдна. Ён нічога ня меў да гэтай дзяўчыны, але яму здавалася, што яна павінна была-б быць больш ветлай да яго. І тут Арцёму прышло ў галаву, што гэта вельмі зграбная дзяўчына; ён адчуваў гэта ўчора, калі пераносіў яе, маленькую і слабую, праз сумёты, і яму здалося нават, што яна тулілася да яго ўчора больш, чым гэта было неабходна...

Зноў падышоў Міхась. Але Арцёма апанавала нейкая злосьць на ўсіх—ён нешта вельмі рэзка абарваў Міхасёвы словы. Зноў пачала даваць сябе знаць галава. Арцём пахадзіў яшчэ некалькі хвілін па калідоры і, парашыўшы ня ісьці на лекцыю, рушыў да хаты. Рана лёг спаць, доўга варочаўся, пакуль заснуў, і думаў пра Ніну, пра Міхася, якога ён сягоньня нізавошта пакрыўдзіў, думаў пра тое, што фактычна загубіў цэлы сягонешні дзень, не зрабіўшы нічога.

Усе наступныя дні Арцём працаваў зноў у бібліотэцы, але праца ішла неяк вяла і бясплённа. Арцём тлумачыў гэта зморанасьцю ды ішоў пагуляць па вуліцы. Ва унівэрсытэце хадзіў па калідоры і мімаволі пільна ўглядаўся ў твары студэнтаў і студэнтак, некага шукаючы. І раз уздрыгануўся, як ад электрычнага току, убачыўшы твар Ніны. На гэты раз яна ўсьміхнулася яму цёпла і ветліва, ад чаго сэрца яго забілася нібы мацней. Ён не наважыўся падыйсьці да яе, але пастараўся некалькі разоў сустрэцца з ёю. Можа ён памыліўся, але яму здалося, што яна асабліва ласкава глянула на яго апошні раз. Арцёму стала адразу лёгка і весела. Ён пайшоў і выседзеў да самага канца цягучую лекцыю профэсара N... чорнабародага ў залатых акулярах чалавека, які сьмешна гаварыў пабеларуску і да якога ў студэнтаў накіпала за апошні час страшэнная антыпатыя: нават вельмі нямногія хадзілі на яго лекцыю.

Прайшло яшчэ пара дзён. Арцём ня бачыў Ніны і гэта ў значнай меры адзывалася на яго працы. Зноў пачаў абуджацца нейкі трывожны настрой. Арцём злавіў сябе на тым, што занадта многа думаў пра яе.

— Што яна мне і што я ёй?—паставіў ён пытаньне рубам.—Выпадковая сустрэча і больш нічога... Не, трэба ўзяць сябе ў рукі.

Застаўся яшчэ адзін дзень да заліку. Увечары Арцём зноў пабрыў ва унівэрстытэт. Зноў веяў лёгкі вецер з усходу, але сьнег за гэтыя дні зусім зацьвердзеў і звонка скрыпеў пад нагамі. Перад самым унівэрсытэтам яго спыніў знаёмы голас:

— Цёма!..

Арцём азірнуўся, і на яго нахлынула хваля такой шалёнай і нечаканай радасьці, што ён аж захістаўся. На другім баку завулку стаяла Ніна і, сьмяючыся, клікала да сябе. Ён перайшоў, праўдзівей, пераскочыў праз завулак.

— Няма чаго казаць—далікатны малады чалавек. Я вас ужо некалькі разоў клікала, а вы і ўвагі не зьвяртаеце. Дык вось-жа вам і кара за гэта: будзьце ласкавы правесьці мяне, бо я адна ісьці баюся.

І другі раз Арцём не пайшоў на лекцыю. Недзе ў глыбіні душы празьвінеў гіронічны голас.

— Ага... Вось які ты... Заместа лекцыі з дзяўчынаю пайшоў.

Але такі слабы і нячутны быў гэты голас, што Арцём не зьвярнуў на яго аніякай увагі.

— А я вас хацела сягоньня бачыць. Цёма. Я наогул бяз вас занудзілася.

— Ня можа гэтага быць...

— Не, сур'ёзна. Я вельмі хацела-б, каб вы заўтра да мяне заглянулі. Міхась прыдзе, потым некалькі маіх сяброўак.

— Бачыце, у мяне—залік...

— Ну, Цёма, няўжо вы захочаце мяне пакрыўдзіць? Я-ж такая маленькая, а вы...—і Ніна, шчыльна прыціснуўшыся да яго, бліснула на яго вачыма.—Вам няможна мяне крыўдзіць.

Арцём ужо спужаўся, каб Ніна не ўзяла назад свайго запрашэньня.

— Дык я-ж...

— Ах, дык вы процiў мяне... Добра-ж вы абыходзіцеся з дзяўчынаю. У мяне таксама залікі ёсьць, але я і вясною пасьпею здаць... Ну, дык апошняе ваша слова.

„Не, не, нічога дрэннага ня будзе, калі ён згодзіцца. Што трэба, ён ужо сягоньня прачытаў, а заўтра яшчэ цэлы дзень у запасе, калі не пайсьці раніцою ў лябараторыю.

— Добра, я прыду.

— Ну вось і цаца-хлопчык,—паціснула Ніна яго руку.—Даўно так трэба было. А то глядзіць казлом, аж страх бярэ. Зусім як той Паляскоўскі. Вы ведаеце яго вершы?

— Мала. Дый ня вельмі цікаўлюся...

— Дарэмна. У яго цікавыя ёсьць.

І Ніна пачала дэклямаваць.

О сьпеў мой узрушаны, змоўкні,
туга ды нура хай загіне...
Ня хоча Вадзім Паляскоўскі
сьпяваць, як сьпяваюць другія.

З другімі ісьці не хачу я,
няхай сабе робяць, што хочуць.
Нічога цяпер не шкадую,
хай вецер мне высмаліць вочы.

— Прыгожа? Праўда?

Арцём ня бачыў тут нічога прыгожага. Але ён бачыў, што Ніна захапляецца гэтым вершам, і яму не хацелася яе пакрыўдзіць.

— Нішто сабе... Моцна сказана.

— А каб вы пачулі, як ён сам гэта чытае. Усе ў захапленьні.

І Ніна пачала расказваць пра Паляскоўскага самыя нязвычайныя гісторыі.

— Ведаеце, Цёма, ён у жыцьці зусім не такі, як можна падумаць па яго вершах... Адзін раз...

Арцём слухаў і часамі адчуваў, што і яму перадаецца захапленьне Ніны і ён пачынае цікавіцца тым самым Паляскоўскім, што зрабіў на яго такое дрэннае ўражаньне на вечары. Так у гутарцы дайшлі аж да самай Нінавай хаты.

— Ну, дык глядзіце-ж, Цёма, заўтра, каб вы ў мяне былі. Я жыву адна, зьбярэцца моладзь толькі. Час правядзем вельмі добра. Апрача таго, я хачу, каб былі вы...

Неяк дзіўна блішчэлі яе вочы, гаварылі нешта нявымоўнае, але прыемнае для Арцёма.

— Хочаце, каб я быў?—махінальна перапытаў Арцём.

А вочы бліжэй і бліжэй гараць. Арцёму трэба нагінаць галаву, каб глядзець у яе вочы. І раптам убачыў ён вусны яе—не зьвяртаў раней на іх увагі: чырвоныя, тонкія і напалову адкрытыя. Тады проста абняў яе, падняў і моцна ўпіўся ў гэтыя вусны. І пачуў, як яе рукі абвілі яго шыю... Потым яна высьлізнула з яго рук.

— Заўтра, Цёма, заўтра.

І зачыніла весьнічкі.

* * *

Арцём мала чытаў у гэты дзень. Ён рашыў, што ўжо даволі ведае для таго, каб здаць залік, а таму ня трэба залішне перагружацца. Залік ён здасьць, але вось і цяпер яшчэ ня зьніклі ўчарайшыя ўражаньні. Арцём яшчэ адчуваў рукі Ніны на сваёй шыі, адчуваў і яшчэ раз перажываў той пацалунак і сам дзівіўся з свае сьмеласьці. Нейкі новы сьвет адчыняецца перад ім—невядомы, але прывабны і цікавы. Ніна—гэта правадыр яго ў гэтым сьвеце—яна пакажа ўсё і ўсё растлумачыць. А старыя прывычкі цягнуць назад. Дык што-ж? Ён нічога дрэннага яшчэ ня робіць, у яго добрае мінулае і моцная дысцыпліна. Ні на што дрэннае ён ня пойдзе, бо заўсёды здолее стрымацца. Ды і што тут дрэннага можа быць.

У сталоўцы сустрэў Арцём сакратара ячэйкі.

— Ты ведаеш, што сягоньня сход? Прыходзь абавязкова, бо сягоньня пытаньне аб працы на вёсцы. Для выяжджаючых дырэктывы выпрацоўваем.

Пра сход Арцём успомніў толькі цяпер. Як-жа быць? Сход, як звычайна, надоўга зацягнецца, а тут гэта вечарына. Першаю думкаю Арцёма было пайсьці, адшукаць Ніну і папярэдзіць, што прыйсьці ня здолее.

Папалуднаваўшы, Арцём вышаў з сталоўкі і накіраваўся ў бок унівэрсытэту. І па дарозе пачаў думаць, што будзе на сходзе, хто што будзе гаварыць і як будзе вырашана пытаньне. Аказалася, што Арцём ужо нічога новага не пачуе. Вёску ён ведае добра, працаваць умее, усё, што патрэбна, можна на горшы канец прачытаць і ў газэце. Тады само паўстала пытаньне—навошта ён будзе крыўдзіць дзяўчыну, якая так хоча правесьці з ім час. Адзін сход прапусьціць—невялікі страх. А прычыны... прычыны знойдуцца.

І ўвечары Арцём першым прышоў да Ніны. Яна сустрэла яго радасным крыкам, птушкай узьляцела, абвіла яго шыю.

— Цёма, любы, дужы мой. Я так баялася, што ты ня прыдзеш. Зараз пачнуць зьбірацца, а мне нікагусенькі ня трэба. Толькі, каб ты тут быў, каля мяне.

Цалавала палка, тулілася з такою сілаю, што Арцём проста не чакаў гэтага.

— Цёма, вып'ём, пакуль прыдуць адну шклянку віна. Адну папалам... Хай гэта будзе наша чара...

— Заручыны,—усьміхнуўся Арцём.

Вочы Ніны глыбока схаваліся, па твары прабегла цень нейкай таемнасьці. Але толькі на адзін маленькі момант, так што Арцём нават і не заўважыў нічога.

— Ну няхай, што-б ні было.

Лёгкая сукенка Ніны высока ўздымалася на грудзёх ад моцнага дыханьня. Ад яе павеяла на Арцёма нейкім цёплым пяшчотным пахам. А вусны яе сягоньня былі асабліва чырвоныя і асабліва задорная была яе ўсьмешка.

Потым прышлі некалькі хлапцоў і дзяўчат. На стале зьявілася віно і закуска і праз гадзіну ўжо разьвязаліся языкі. Пачаліся вострыя жарты, хлопцы ў кутку апавядалі адзін аднаму нейкія, відаць, дужа цікавыя гісторыі, бо доўга рагаталі кожны раз, а на тварах зьяўлялася блудлівая ўсьмешка. Арцём бачыў адну толькі Ніну. Кожны яе рух, кожны пагляд напаўняў яго нейкім пачуцьцём задавальненьня і гордасьці.

— Чаго вы ўсе варты,—хацелася крыкнуць яму на ўвесь пакой.— Яна адна і прыгажэй, і разумней, і лепш за ўсіх вас разам узятых.

А Ніна як-бы разумела яго думкі і час-ад-часу абдавала яго палкім і ўсьмешлівым поглядам. Адна з дзяўчат дастала з паліцы нейкую тоненькую кніжачку і з азартам дэклямавала ўголас:

Знаю, будут любить мои дети
Невский седобородый вал,
Оттого, что был западный ветер,
Когда ты меня целовал.

„Вецер з усходу... Усе дні вецер з усходу“, падумаў Арцём. Выпітае віно затуманіла галаву і не адставала назольлівая неадчэпная думка: „Чаму гэта вецер з усходу“.

Ніна падышла да яго і няпрыкметна шапнула:

— Калі будуць разыходзіцца, затрымайся, але каб ніхто не заўважыў. Або зараз-жа вярніся...

Яна так нізка нагнулася да яго ў гэты момант, што завіткі яе чорных валасоў ласкаталі яго твар, і ён ледзь стрымаў у сабе жаданьне схапіць яе і пацалаваць.

Тоўстая белавалосая дзяўчына з чырвоным тварам пачала сьпяваць:

Эта роза, стыдливая, чайная,
Признаюсь, взволновала меня.
Что же даст нам встреча случайная...

„Чаму не пабеларуску?“ падумаў быў Арцём. Ён ведаў, што гэта дзяўчыня вучыцца ў музычнай школе і павінна ведаць прыгожыя беларускія песьні. А потым махнуў рукой.

„Што мне да яе“...

Ужо не шкадаваў, што прапусьціў сход і ня думаў нават і пра заўтрашні залік.

Нарэшце, пачалі разыходзіцца. Арцём вышаў разам з усімі. Прайшоў адзін квартал, разьвітаўся і спыніўся на хвіліну. Паднімалася завея. Сьнег уздымаўся з дахаў лёгкімі хмаркамі і тонкімі пластамі высьціла́ўся па зямлі. Вецер дзьмуў з усходу. Арцём павярнуўся і пайшоў назад.

Паволі ўзышоў на ганак, увайшоў у калідор. Пастукаў. Адтуль данёсься Нінін голас:

— Адамкнута!

Арцём увайшоў і недаўменна спыніўся. У пакоі было цёмна і толькі слабае начное сьвятло выдзяляла белыя плямы пакрытага абрусом стала і пасьцелі.

— Замкні дзьверы,—данёсься да яго шопат.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На другі дзень Арцём спазьніўся на залік. Ня здаў ён яго і ўвесну.

# С У М

## Карэль Конрад

„З вамі сум адзін“,—кажа настаўнік вучню і скрыжоўвае ногі.

„Мілы, мне сумна“,—кажуць дочкі гронскіх рыбаловаў і ангельскіх лёрдаў, таксама, як і дочкі аўстралійскіх матак Гонолюлу і чэха-славацкіх рамясьнікоў.

Сум.

Пілоты скажуць вам, што і ў паветры; ёсьць пад кожнай думкай, як вадзяны друк; на дне чорнае кавы; кэльнэр стаіць над табой. Мае чорны фрак.

Чорная фарба—агульны выраз суму, удовы і школьныя сшыткі бываюць чорныя. Дзеля таго воран, птах, пераважна чорны, яго краканьне зьяўляецца ваткаю суму, але не заўсёды гэта тычыцца дам, якія маюць вароньні валасы.

Падобна жалобныя кветкі ня бываюць чорнымі, наадварот, інфамныя блёндынкі ня бываюць пазбаўлены суму.

*З прычыны жалобы на 3 дні зачынена.*

Адам, так уласьне называўся той малады мужчына, жыў у раі. Выразна кажацца: Адам быў сумны і стварыў яму бог Еву. Таксама прынц-насьледнік Рудольф быў сумны і кароль Вацлаў IV. Хадзіў са сваім сабакам, які называўся Нікі, гаф! гаф!

У ізраільскага народу жалоба выяўляецца пасыпаньнем попелу на галаву. Таму яўрэі неахвотна жывуць у дамох, дзе ёсьць цэнтральнае ацяпленьне.

У чэхаў выяўляецца жалоба абставінамі і сяданьнем, па берагу хадзіла, на камень села. Сум маладых дзяўчат безназоўны. Фрэнэтычны.

Несьмяротныя заслугі да пашырэньня суму маюць поэты і восэнь. Восень научыць цябе хадзіць за парк і чакаць каля ракі, можа там утапілася сонца. Галубы гуляюць у аэроплян, па небу плывуць белыя баранчыкі. Разьнік у касткаванай спадніцы глядзіць на іх і сумуе. Гэта—разьніцкі сум.

Вечар перакінуўся, як віадук, і вежы храмаў сягалі аж на месяц. Усе шпілі запнуліся да цемры і лёкомотыў сьвістаў, таму што баяўся. Мінуты кроілі час—і гэта сум гадзіншчыкаў; далей дзеліцца сум на жалобныя вербы.

Матэматыка мае таксама свой сум у лічбе 13, трынаццаць малых нэгрыцят бумбала ром, і любоўніца, па чарзе трынаццатая, будзе напэўна дачка настаўніка.

Сум не засьпіш. Ані не зап'еш масьлянкаю; і на краі абзацэды каханьня ёсьць сумныя літары.

Дасьпелы чалавек мучыцца сумам у грунце сэрца, як нейкай нябачнай хваробай. Мужнае выяўленьне суму—кусаньне запалак, таму рэкомэндуецца купляць з чырвоным дрэўцам, дзеля таго што пускаюць фарбу, і сум, які ўсё павялічваецца, прымушае сесьці на сходах. Найцьвярдзейшы сум завецца адчаем. Пры ім вырываньне валасоў зьяўляецца інтэрнацыянальным, або: выбегла на вуліцу толькі так, у чым была.

Сум або прыходзіць, або ў яго ўвальваюцца, або выклікаецца пытаньнем, напр.: „Дзе туляешся, Рынальдыно?“ Супраць таго, адчай раптоўна надыходзіць, выбухае, страта маладое дзяўчыны здалася амаль нямінучай.

Сум і адчай зьяўляюцца прыватнай уласнасьцю і належаць да ўсіх уласных іменьняў усіх трох прадпісаных родаў—гэта ёсьць: на імёны асоб, жывёлаў, расьлін, рэчаў і захад сонца.

Модэрняя эпоха ўмела вынайсьці радыё, але не давяла зьнішчыць сум і прусакоў. Наадварот, пашырыла сум на палотны кіноў і на белыя вароны ў зоолёгічных садох.

Цяпер—сум усюды. У цягніку, над кіпцямі, таксама камінар, які належыць да чатырохлістку, бывае сумны.

Якое шчасьце, што дзяўчаты з жалобнымі валасамі могуць мець хоць вясёлыя зубы!

Ідзе сьнег. Доўгую ноч.

Сон золатакопаў на куцьцю растаяў над газьнічкаю.

To my love (Ты—маё каханьне).

Як гэта сумна, напісаць дзяўчыне прыгожы ліст, калі ня можаш атрымаць адказ, таму што нам сьцюдзёна і ня маем зваротнага адрасу!

З вокан бару зьзяе агнёвае сонца джаз-банду. Прыцісьнеш на шкло свае вочы, як да кута перад страшным мядзьведзем; пад разьбітым, разьлезлым каптаном б'ецца ціха поўнач. Адчуваеш у горле грымотны кулак свайго супрацоўніка, голад, голад і сьцюжу. І мусіш доўга каўтануць.

Як-бы было прыгожа, калі-б магла каханка сказаць перад тым, як сесьці ў цягнік: „Міленькі, вырві сабе з мае галавы тры валасы і палажы іх да лінаванага блёкноту паміж сваіх дакумантаў. І калі табе будзе пагана, пагладзь іх і я прыду!“

Сум—гэта белы прастор Аляскі і компас у замерзлай руцэ.

Адна дзяўчына казала другой: „Каго-б ты найахвотней кахала? Цэнтра, бэка, форвартэра, сувязь або гальва?“

„Я-б найахвотней“—адказала запытаная—„брамкара, таму што можа браць у рукі...“

Пры ўчарашнім футбольным змаганьні аб чэмпіонат Эўропы чэхаславацкі брамкар зламаў сабе абедзьве рукі.

Можа сум—цень.

Дзіўны цень, у поўдзень бывае найдаўжэйшы. .

Густаў Фрыштэнскі, рубы вашых мускулаў зьяюць, як вясёлка, а ўсё-ткі глядзіце сумна па ўсіх кутох! Паненка з вакна насупраць грае Сольвейгіну песьню, сум праз вуліцу.

І ў Савецкай Расіі ёсьць сумныя каханкі, ах, толькі ў альпійскіх краёх можна казаць: „Ня сумуйце, пані майго сэрца, я вам назрываю гарлянак“.

Успомнім, успомнім горкі сум нязнанага ваякі, калі на яго магілу кладзе вянок міністар вайны.

## НА ШЛЯХОХ ВОЛІ

*Урывак з поэмы*

**Якуб Колас**

VI

Ідуць, плывуць людзкія хвалі
Наперарэз адны другім.
Няма канца, супыну ім.
Іх шум глухі ўбіраюць далі,
І на нявідныя скрыжалі
Кладуцца напісы тугі.
З усіх краін Русі ярэмнай
Ідуць бяз скарг яе сыны
На зоў драпежніцкі вайны,
Ідуць на глум, на зьдзек дарэмны
З пакорай вечнай, неад'емнай
Карміць сабою бур'яны
І сеяць косьці, дзе папала,
Карпаты кроўю палiваць,
А на Стаходзе касьці гаць,
На векі лёгшы трупным валам,
Дзе ўжо палегла дармагалам
Нікім ня зьлічаная раць.
Плывуць струмені і патокі
З сялянскіх хат і гарадоў.
Эх, колькі сірат будзе, удоў!
Каго вартуе лёс бязвокі?
Каму адлічвае ўжо крокі
У шуме-стуку паяздоў?
Жывуць сваім жыцьцём чыгункі,
Людзкія хвалі нясучы
У кожны момант дня, начы.
Тут прычытаньне, пацалункі
І рознастайныя малюнкі,
Дзе разам плач і сьмех гучыць,

Дзе тупат ног пад звон манерак
Выводзіць хвацка трапака—
Знай, моў, данскога казака!
Ідзе Урал, Кубань і Церак...
Прашчай, прашчай-жа, родны бераг!
І тахт, як меч, сячэ рука.
У гэтым віхры нястрыманым,
Дзе ўсё—адзін імклівы рух,
Салдат забудзе ўсё вакруг—
Хоць тут сябе пачуе панам,
Над лёсам грозным і нязнаным
Узьнёсшы высака свой дух.
Ды час праб'е. Гудок, сыгналы,
І закішыць усё людзьмі,
А паравоз шыпіць, дыміць...
Зьбірай, ваяка, прычандалы!..
І шум, і крык, і сьвіст прыўдалы...
Глушэй, глушэй зямля грыміць.
Сэмафоры,
Косагоры—
Поезд зьнік, яго няма.
Хто астаўся,
Разьвітаўся,
Будзе слухаць, ды дарма.
Голас родны
Сьвет халодны
Не, сюды не данясе!
Вобраз мілы—
Сон застылы,
Зьяньне сонейка ў расе.
Не пачуеш,
Не пабачыш—
Зьяў ты, промень, ды пагас.
Засмуткуеш,
Мо' заплачаш—
Ці загоіць раны час?
Гучаць, грамыхаюць вагоны,
Бягуць на захад цягнікі,
Вязуць людзей, бранявікі
І зброю розную, патроны,—
Ўсё для вайны, для абароны,
Бо лёзунг выкінут такі.
Адтуль ідзе другая хваля.
У тых вагонах жудзь і ціш,

А знак на іх—чырвоны крыж.
Вязуць ахвяр ліхіх баталій.
Сям-там мільгне сястрыца-краля,
Касынка белая і брыж
Ды доктар строгі ў акулярах
Кіўнецца ценем ў вакне.
Ляжаць ваякі ў цяжкім сьне,
Як-бы ў насланьні нейкім, чарах,
А мары, зманлівыя мары
Снуюць прывід у цішыне.
Туды, сюды бягуць вагоны.
Снуецца ўсё наўкол вайны:
Надзеі голас патайны,
І прага славы, і праклёны,
І спэкуляцыі шалёнай
Разгон шырокі і буйны.
  Вось тыя зьявы і малюнкі,
Вайны адбітак-рукапіс,
Што наглядаў цяпер Барыс.
Сячэ, сячэ простор чугунка,
Бягуць, бы ткуцца рэйкі-стрункі,
А ён, бы коціцца ўсё ўніз.
А так, уніз, у вір бурлівы,
Дзе не адзін прапаў чаўнок,
Дзе кроўю зьліты кожны крок.
І хто стрымае бег імклівы?
Хто спыніць громаў пералівы,
Стрымае ўзбураны паток?
  Ляжаць навокала прасторы
У неасяжных рубяжох,
І нейкі сум над імі зьлёг.
Глядзяць панура лес і горы,
Паўночных рэчак водазборы
У цёмных, пахмурных брыжох
Ялін і піхт. Хаўтурным тонам
Зьвініць акорд прастораў тых
У зьяньні іскраў залатых,
Калі свой сноп, вянок чырвоны,
Расьцеле сонца на разгоны
Маўклівых далячаў пустых.
Маркотна, сьцішна і бязьлюдна,
І томіць гэты краявід—
Хмызы ды лесу цёмны шчыт,

Бы сьпіць усё сном неабудным.
Дарога цягнецца марудна,
Як тэй тканіны зрэбны ніт.
Гручыць машына, чмыша дымам,
Мінае валасьці, павет.
Губэрня нова—новы сьвет.
Ды ўсё ў дарозе ідзе міма,
Мільгнуўшы толькі прад вачыма,
Як лятуцень юнацкіх лет.
Дарога-ж доўгая бясконца.
Але чым далей, тым сьвятлей
Глядзеў прастор і весялеў,
Прыветней ткаліся красёнцы
Дарог у полі. Само сонца
Сьвяціла радасьней, мілей.
Было нейк соладка-журботна
У сэрцы „прапара“ Дзяжы
На раздарожжы-рубяжы,
І беглі думкі мімалётна,
Як беглі далячаў палотна
Пад тонкай посьцілкай імжы.
Вайсковай публікі найболей
Усюды погляд сустракаў—
Шынель, з нашыўкаю рукаў.
Чыны ўсіх рангаў, розных роляй,
Чыёй-ся змушаныя воляй
Па розных ростанях блукаць.
Былі ваякі ўсіх пастацый,
Але між імі „земгусар“
Найболей меў ваяцкіх чар.
Як лёгка ён рашаў лёс нацый!
Як спрыцен быў да комбінацый!
Які ў стратэгіі меў дар!
А як заядла, як упарта
Стаяў, хлабыснуўшы вінца,
За „да пабеднага канца!“
Як тыкаў важна перст у карту!
І Дарданэляў не на жарты
Чакаў, як выніку-вянца.
І франтавыя афіцэры,
У баёх пабыўшыя ня раз,
Ня мелі гэтакіх украс:
У тых больш простыя манеры,

І самі болей яны шэры,
Чым земгусарскі лобатрас.
І аб турэцкіх Дарданэлях,
Вайне бліжэй зірнуўшы ў твар,
Ня мелі ў сэрцы гэтых мар:
Хто спрабаваў крывавы келях,
Ня тое скажа аб Ямелях,
Хай будзе ён хоць „земгусар“.
Дзяжа на ўсё глядзеў бачліва,
Бы ўсё стараўся разгадаць
І тлумачэньне сваё даць.
І не адзін паток шумлівы
У падарожжы мітусьлівым
Яму прышлося наглядаць.
Вайсковы люд і люд цывільны
Вакзалы поўнілі сабой.
Туды, сюды біў іх прыбой.
А на задворках жмаўся шчыльна
Народ з-пад Горадні, з-пад Вільні,
Бядою ўзрушаны, журбой.
Аж сэрца ныла, на іх глядзя.
Ды прыглядзеліся да іх
І сустрачалі, як чужых
І адмаўлялі ў добрай радзе—
Няхай калее ці йдзе крадзе,
Няхай да дна п‘е свой кяліх!
Каму да іх якое дзела?
Каму баліць тут галава,
Што люд кладзецца, як трава,
Што гноіць землю сваім целам,
Што тут жанчына аўдавела,
Што сірацее тут дзятва?
Няшчасьце, гора так вялікі!
Пакута плёскае праз край!
А ты глядзі і не зважай!
А ты маўчы, як без‘языкі!
А ты ня слухай енку, крыку,
Сваёю сьцежкаю дыбай!
Барыс у часе астановак
Хадзіў вакзалы аглядаць—
Сюды цягнула штось, відаць:
Ці чары вочак, тонкіх бровак,
Ці проста вера—між галовак

Галоўку тую напаткаць—
Магло-ж так стацца ў падарожжы,
І ёй узрушваўся ня раз,
Знаёмы ловячы абраз,
Бо ўжо і здань адна прыгожа,
Калі напомніць яна можа
Той мілы сон, што жывіць нас.
Дарога-ж з кожнаю часінай
Тым часам шла ды шла на спад,
І Курск адсунуўся назад.
Дзяжа любуецца Ўкраінай,
Як чарнавокаю дзяўчынай,
І бельлю сьнежнай яе хат,
Яе прасторам і разгонам,
Яе бязьмежнай шырынёй
І тэй пяшчотнай цішынёй,
Што аддае сугучным звонам,
І нейкім радасным палонам,
І нейкай мудрай глыбінёй.
І ўсё тут поўна мяккіх чараў:
І роўнядзь ціхая палёў,
І постаць стромкіх тапалёў,
І нібы ўсыпаныя жарам
Шляхі сланэчнікаў над-Ярам,
І пасмы-віткі плецянёў,
Дзе купы вішань і чарэшань
І між іх кучмы сьпелых сьліў
Вартуюць яблыкаў наліў—
Бурштын з багрою перамешан!
У гаму колераў расквечан
Гародчык, сад і мора ніў.
Дзяжа лавіў у захапленьні
Малюнкаў тых жывую плынь:
Яны нагадвалі Валынь
І Насьцю мілую, Засьценьне,
І дзён юнацкіх лятуценьне,
І нават клюмбы георгінь.
У гэтай зьмене зьяў дарожных,
Настрояў, думак і разваг
К канцу падходзіў яго шлях.
І тут, калі сказаць так можна,
Каб разагнаць рой дум трывожных,
Прыгоду даў яму Алах.

Пэрон. Ён ходзіць. Ранавата.
Чытае напіс—Канатоп.
Ступае крокаў дзесяць—стоп!
Прад ім дзяўчына.

ДЗЯЎЧЫНА

Вінавата!
Я вас прашу, прашу, як брата,—
(А ў тых вачох праменьняў сноп)—
Мне трэба ў Кіеў,
Трэба сьпешна
Ї канечна!
А людзі—ну, зьвяры ліхія!
Прашу, малю—не дамалюся,
Ї больш прасіць ужо баюся...
Дык будзьце добры так, ласкавы
Падвезьці хоць-бы да Палтавы!
Ї вочы цьмяняцца журбою,
А ў твары столькі хараства,
Што хіба дзерава, жарства
Яе ня крануцца мальбою.

ДЗЯЖА

Зрабеце ласку! Можна, можна!
Чаму-ж „сястры“ да ня ўдружыць,
На радасьць сум не палажыць?
Я там адзін. Купэ парожна.—
Ї ён расшаркаўся бязбожна,
Каб тэй дзяўчыне услужыць.

ДЗЯЎЧЫНА

О, хай вам шчасьце пашле неба
За вашу ласку, дабрату!
Да мне тэй роскашы ня трэба—
Хоць прыпыніцца-б дзе ў куту.
Таўкуся цэлыя два дні,
Ня сходзячы з вакзалу.
А ехаць—а ні-ні,
Ї каб ня вы, то пэўна-б тут прапала!
О, як я вам падзячна!..

ДЗЯЖА

Э, што! паслуга тут нязначна!—
Вайшлі ў вагон. Яна пужліва
Са страхам-боязьню ў вачах

Чуць запынілася ў дзьвярах,
І думкі ходзяць мітусьліва,
А ён гаворыць ёй жычліва:
„Адкіньце ваш дарэмны страх!“
Вайшла, прысела насупроці.
Ёй трохі сорамна, відаць,
А ў вочках—радасьці пячаць.
І вязнуць словы ў яе роце.
Да не па ўласнай-жа ахвоце
Ёй так прышлося вандраваць.
Але нялоўкасьць, замяшаньне
Прайшлі як бачыш, і яна—
Хіба яе гэта віна?—
Была шчасьліва тым спатканьнем,
Што налучылася ёй раньнем,
Калі марнела там адна.
Між імі гутарка жывая,
Чым дальш, цячэ-плыве вальней,
І высьвятляецца паўней,
Адкуль яна і хто такая.
Яе „сястрой“ ён называе,
Ды вочы гараць выразьней.
Яна з Чарнігаўшчыны родам,
Дачка лясьнічага сама.
У Галі мацеры няма,
І ёй, сказаць тут мімаходам,
Жыцьцё ня надта было мёдам,
Вясенька зводзіцца дарма.
І ўсё ідзе нейк крыва, бокам,
Ня так, як думае дзяўча,
І мары нішчуцца з пляча
Або агортваюцца мрокам,
І хоць-бы раз, хоць-бы нарокам
Ёй голас шчасьця прагучаў!
Ну, праўда, ёсьць і выключэньні:
Спатканьне іх таму прыклад—
„Сястра“ ўсьміхаецца і „брат“,
І ён дарожнаму здарэньню,
Па яго ўласнаму цьвярджэньню,
Ня менш „сястрыцы“ свае рад.

ДЗЯЖА

Скажэце, Галя—як сястрыцу,
Дазвольце так вас называць—

Што вас змушае вандраваць
У нашу слаўную сталіцу?—
  І вочы ўтупіла дзявіца,
Ды што утойвацца, скрываць?
І Галя вочы падымае,
А ў тых вачох такі прываб!
Яна ня шчырая была-б,
Каб ня сказаць, што ў сэрцы мае.

ГАЛЯ

Скажу вам праўду: пазаўчора
Мне прыслан ліст...
Знаёмы мой, артылерыст...
У лазарэце ляжыць хворы
Ці ад кантузій ці ад ран...
Ён афіцэр сам, капітан.—
  І Галя вочы сарамліва
Зноў апускае і маўчыць,
За кожным словам ён сачыць
І ловіць рух яе маўкліва,
А ў тоне шчырым і праўдзівым
Штось блізка-роднае гучыць.
І ён тут Насьцю ўспамінае
Ды сам ня ведае, чаго
Находзіць смутак на яго,
І думка верціцца дурная,
Што Насьця знаць яго ня знае,
Мо' пакахала ўжо каго.
І што між імі нечакана
Ужо паложаны парог,
Бы крыж на стыку дзьвёх дарог,
Бы промень нейкі ў хмары кануў.
І лёгкі мут, як цень туману,
Прабег-мільгнуў ў яго вачох.
І згас агонь у ім жывы.
Зірнула Галя, штось згадала.

ГАЛЯ

Я, мусіць, сум на вас нагнала
Аб чым задумаліся вы?—
  Яна зірнула яму ў вочы
І запытала, але так,
Што быў падкуплены юнак

Такою шчырасьцю дзявочай,
І ён прызнаўся ёй ахвоча,
Калі было з ім што і як.
Бо ёсьць-жа моцнае жаданьне
Усё паведаць, расказаць,
Тамленьне тое разьвязаць,
Што называецца каханьнем,
Мо' каб знайсьці падмацаваньне
І сум той з сэрца разагнаць.
А Галя слухае уважна,
Як брата родная сястра,
Спрыяньня поўная, дабра.
Сама, як зорка недасяжна.
Бясконца вабіць, нібы дражніць
Яго спакусная мара—
Абняць „сястру", прыпасьці тварам
І на грудзях яе крутых
Згрызот пазбавіцца на міг.
Каб не паддацца гэтым чарам,
Гаворыць ён аб Насьці з жарам,
Аб днёх, у сонца завітых,
А потым Насьціным портрэтам
Ён ілюструе свой расказ—
Каханьня палкага абраз—
А сам-жа потайкам пры гэтым
Глядзіць, цікавасьцю задзеты,
„Сястрыцын" ловячы выраз.

ГАЛЯ

Якая мілая дзяўчына!
Як не пакахаць такую!
І зразумелая прычына,
Што наш малойчык так смуткуе.

ДЗЯЖА

А чаму „наш?" Было-б прыемна,
Каб на мяне свае правы
Ды прад'явілі-б, ну, і... вы.
Але надзея то дарэмна.
А Галя строга і так міла
Барысу пальцам пагразіла.

ГАЛЯ

Няверныя, зайздросныя мужчыны:
Ім мала аднае дзяўчыны!

Так жартаўліва і так проста
Вядзецца гутарка у іх,
І ехаць весела ўдваіх.
А тым-жа часам блізка ростань,
І сэрца смуціцца чагосьта,
Разлукі блізіцца ўжо міг.
І ён настаў. Прад імі Кіеў,
І поезд зьменшвае свой ход.
Вакзал. Пэрон. Кішыць народ,
Гудзе ўстрывожанай стыхіяй.
І сэрцэ ў гэтым шуме ные,
„Сястра“-ж рыхтуецца ў адлёт.

ДЗЯЖА

Заходзіць зорка мая ў хмару...
Што-ж вам сказаць на разьвітаньне?

ГАЛЯ

А вы мне дайце абяцаньне—
Вось адрас мой—чыркнуць слоў пару.
Я буду рада несказана,
Мой брат, выпадкам напатканы,
Пачуць, мець вестачку аб вас
І ўспомніць слаўны гэты час,
Што правяла я разам з вамі,
І будзем добрымі сябрамі?

ДЗЯЖА

Ахвотна, Галя, ды з умовай—
І мне калі піснуць хоць слова,
Мой слаўны друг, мая сястра!

ГАЛЯ

Ну, мне схадзіць ужо пара...
Шчасьлівы будзьце і здаровы!

ДЗЯЖА

Сястрыцы з братцам
Можна і... пацалавацца.

30-IV—24 г.

# ВЕЧАР ЗВОНКІ...

### Ал. Дудар

Вечар звонкі, як песьня дзяўчыны,
пад нагой аж заходзіцца сьнег.
Цень, як вежа стаіць за плячыма,
ў ліхтарох пакідае мяне.

Я іду, а на белай дарозе
срэбнай лускай сьняжынкі гараць.
Сівер вусны мае замарозіў,
ды ўсё роўна—маўчаць ці крычаць.

Любы мне гэты радасны вечар—
над прайшоўшым лягчэй развважаць...
хай сагнуцца тугі маёй плечы
на нявер'я майго сенажаць.

Засьпявай, зазьвіні хрусткім сьнегам!..
Хто сказаў, што нязваны я госьць?..
Захісталася й стала з разьбегу
залатая мая маладосьць...

Дык мінула-ж пара парываньняў—
нецьвярозых ня любіць зямля.
На шляхох генэральнага пляну
сталі людзі, а з імі і я.

# ІДЭАЛІЗМ і МАТЭРЫЯЛІЗМ

*(З цыклю „Ўводзіны ў філёзофію дыялектычнага матэрыялізму“)*

**Б. Быхоўскі**

## I

Усякае пазнаньне канечна прадпалагае два элемэнты: суб'ект і об'ект пазнаньня, тое, *што* пазнаецца, і таго, *хто* пазнае. Таму вучэньне аб пазнаньні патрабуе—вырашэньня пытаньня аб стасунку гэтых канечна патрэбных элемэнтаў усякага пазнаньня. Перад усякім філёзофскім вучэньнем з самага пачатку паўстае проблема ўзаемаадносін суб'екта і об'екта пазнаньня, іначай кажучы, мысьленьня і сусьвету, прыроды і духу, быцьця і сьвядомасьці, сьвету і „я“. Усё гэта розныя формулёўкі аднаго і таго самага пытаньня, дзеля таго што мысьленьне, сьвядомасьць, дух, „я“, зьяўляюцца суб'ектамі ў пазнавальным процэсе; прырода-ж, матэрыя, сусьвет—яго об'ектамі.

Той ці іншы адказ на пастаўленае пытаньне мае вырашальнае значэньне для далейшага разьвіцьця філёзофскага вучэньня. Шлях наступнай распрацоўкі вучэньня аб пазнаньні будзе азначацца тым, як разьвязана гэта асновапалагальнае пытаньне. Вось чаму ў залежнасьці ад характару разьвязаньня гэтае проблемы ўсе філёзофскія вучэньні могуць быць падзелены на два вялікія лягеры: на тых, хто лічыць первястковым, асноўным,—об'ект, прыроду, і тых, хто лічыць адыходным пунктам мэтодолёгічнага аналізу, первястковым,—дух, суб'ект. У далейшым выкладаньні мы ўбачым, што падзел філёзофаў паводле гэтае адзнакі, у залежнасьці ад разьвязаньня імі гэтай проблемы, мае выстарчальную падставу, што характар гэтага разьвязаньня накладвае адбітак на ўсе наступныя разыходзіны паміж філёзофскімі школамі, што ў залежнасьці ад яго мэтодолёгія навук набывае зусім іншы характар. Адзін з гэтых кірункаў, той, які выходзіць ад об'екта, ад прыроды, носіць назву матэрыялістычнага, супроцьлеглы—ідэалістычнага.

Раней, чым перайсьці да разгляду гэтых двух асноўных тыпаў філёзофскага пабудаваньня, трэба раз назаўсёды пазбавіцца ад зьмешваньня гэтых паняцьцяў з тым значэньнем, якое надаецца гэтым словам у агульным ужываньні.

Тэрмінам матэрыялізм і ідэалізм у звычайнай мове прыдаюць моральнае, этычнае, значэньне. Ідэалістымі называюць людзей, якія імкнуцца

да ўзвышаных ідэалаў, якія кіруюцца ў сваёй чыннасьці ўзвышанымі пэрспэктывамі, матэрыялістымі-ж, наадварот, людзей грубых, ганебнага вобразу мысьляй, людзей, якім неўласьцівы высокія імкненьні і ідэалы, людзей, якія клапоцяцца толькі аб тым, каб задаволіць ганебныя матэрыяльныя патрэбы. Гэта этычнае словаўжываньне ня мае ніякіх адносін да пытаньня аб двух кірунках у філёзофіі. Матэрыялістыя ў філёзофскім значэньні гэтага слова могуць быць глыбока „ідэалістычнымі“ людзьмі ў сэнсе абычайлівасьці, моралі, яны могуць ахвяраваць свае ўласныя матэрыяльныя інтарэсы ў імя тых матэрыялістычных поглядаў, якія яны бароняць, і гісторыя мае шмат прыкладаў такога высокага ідэалізму і самаахвярнасьці мысьліцеляў-матэрыялістых. Наадварот, староньнікі філёзофскага ідэалізму, як і філёзофскага матэрыялізму, могуць быць сваім маральным абліччам і людзьмі ганебнага, драпежніцкага складу. Раз назаўсёды ўмовіўшыся ня зьмешваць ободвух сэнсаў гэтых паняцьцяў, вернемся да нашае тэмы.

Шмат якія гісторыкі філёзофіі рашуча пярэчаць супроць прынятага намі падзелу ўсіх філёзофаў на названыя два лягеры. Гэты падзел, які прапанаваў Фрыдрых Энгельс, сустрэў і сустракае палкія пярэчаньні з боку філёзофаў—не-марксыстых. Нас папікаюць у тым, што гэты падзел вульгарызуе гісторыю філёзофіі, спрашчае складанасьць і шматвобразнасьць яе кірункаў. Нам кажуць, што ўсю безьліч вядомых у гісторыі філёзофіі вучэньняў нельга ўкласьці ў грубую схэму двух кірункаў, што разьвіцьцё філёзофіі непараўнана складаней, што колькасьць кірункаў бязьмерна больш, што адзнака, узятая намі, гэта толькі *адна* з адзнак, што, апрача падзелу на падставе гэтае адзнакі, магчымы і канечна патрэбны падзел і па розных іншых кірунках.

Разглядзім, чаму гэтыя абвінавачаньні не пераканальны. Ці сапраўды марксыцкі падзел усёй філёзофіі на ідэалістычную і матэрыялістычную зьяўляецца вульгарызацыяй разьвіцьця філёзофіі? Не, мы зусім не спрашчаем гісторыі філёзофіі, ня зьбіраемся стрыгчы ўсіх філёзофаў пад адну мерку. Мы пераконаны толькі—і ўмеем гэта давесьці,—што ўсякі паступовы філёзоф павінен быць канечна ці ідэалістым, ці марксыстым, што іншыя адзнакі ня ўхіляюць гэтага кардынальнага вадападзелу паміж усімі філёзофскімі кірункамі. Мы зусім не выключаем падзелу на розныя варыянты ўнутры лягеру ідэалістых і ўнутры лягеру матэрыялістых; гутарка ідзе толькі аб тым, што прыняты намі падзел зьяўляецца азначальным, які супроцьпалагае філёзофскія кірункі адзін другому.

Прывядзем популярны прыклад, каб паясьніць нашу пастаноўку пытаньня. Ці маем мы права падзяляць усіх людзей на групы: мужчын і жанчын? Зразумела, так. Але ці вынікае адгэтуль, што мы адмаўляем усякі іншы падзел людзей: падзел паводле ўзросту, паводле клясавага становішча, паводле росту, колеру валос і г. д.? Ні ў якім разе. Мы гэтым устанавілі толькі, што людзі *усякага* ўзросту, *усякага* росту,

*усякага* клясавага становішча абавязкова будуць належаць да аднае з дзьвюх паказаных груп, што няма рабочых наогул, брунэтаў наогул,— што ўсякі рабочы, брунэт і г. д. будзе *альбо* мужчынаю, *альбо* жанчынаю. У даным выпадку пытаньне павінна зьвесьціся да таго, ці зьяўляецца прыняты намі падзел найбольш вырашальным, найбольш карэнным.

Тое самае адносіцца ў поўнай меры і да падзелу філёзофскіх вучэньняў. Філёзофы бываюць мэтафізыкамі і дыялектыкамі, віталістымі і мэханістымі, рацыяналістымі і сантымэнталістымі і г. д.; але няма дыялектыкаў наогул, няма мэханістых наогул, і ёсьць дыялектыкі альбо матэрыялістыя, альбо ідэалістыя і г. п.

Праўда, мы не адмаўляем, што, апрача паступовых прыхільнікаў абодвух кірункаў, маюцца (і іх ня мала) староньнікі непаступовых філёзофскіх вучэньняў, якія кажуць *А*, але не адважваюцца вымавіць *Б*, якія ня робяць паступовых вывадаў з сваіх выходных палажэньняў, якія хістаюцца паміж ідэалізмам і матэрыялізмам, якія спрабуюць сшыць філёзофскую сыстэму з кавалачкаў ідэалізму і матэрыялізму, падобна таму, як шыюць стракатую коўдру з абрэзкаў. Наяўнасьць такіх філёзофскіх вучэньняў таксама не супярэчыць правамернасьці ўзятага намі падзелу філёзофіі. Наадварот, апошняя павінна служыць нам компасам і дапамагаць выяўленьню ў гэтых блытаных, непаступовых, эклектычных вучэньнях тых і іншых элемэнтаў, што супярэчаць адзін другому.

Матэрыялізмам называецца такое філёзофскае вучэньне, якое лічыць асноўным, первястковым—об'ект, прыроду, матэрыю, а суб'ект, мысьленьне, дух—другарадным, вытворным ад першага. Ідэалістычны кірунак разьвязвае пытаньне супроцьлеглым чынам. Як той, так і другі кірунак ня лічаць абодва элемэнты роўнацэннымі, а прытрымліваюцца первястковасьці аднаго з іх. Усякае вучэньне, якое выходзіць з аднаго якога-небудзь прынцыпу,—альбо матэрыі, альбо духу,—носіць назву моністычнага вучэньня. Вучэньне-ж, якое спрабуе прымірыць самастойнасьць, незалежнасьць, первястковасьць абодвух гэтых элемэнтаў, якое не аддае пальму пяршынства ніводнаму з іх, такое вучэньне, якое належыць, як мы далей пакажам, няўхільна да тыпу непаступовых, унутрана супроцьлеглых пабудоў,—носіць назву дуалістычнага. Мы зараз пабачым няжыцьцяздольнасьць усякага дуалізму, пабачым, што ўсякае дуалістычнае вучэньне, перамагаючы свае супярэчнасьці, няўхільна павінна перайсьці ў той ці іншы від монізму—у ідэалізм ці ў матэрыялізм.

Раней чым перайсьці да гэтага пытаньня, трэба ўсвоіць, што проблема ўзаемаадносін об'екта і суб'екта ў сваю чаргу мае два бакі, два твары. Яна ўключае ў сябе, уласна, дзьве проблемы, якія, праўда, знаходзяцца ў самай цеснай, непарыўнай узаемазалежнасьці паміж сабою, вырашэньне якіх беспадзельна зьвязана. Першы бок проблемы, які адносіцца да тэорыі пазнаньня, носіць назву гносэолёгічнага, другі бок назавем фізычным.

Гносэолёгічны бок проблемы месьціцца ва ўстанаўленьні ўзаемаадносін паміж суб'ектам, як пазнаючым, і об'ектам, як пазнавальным, г. зн. ён месьціцца ў пытаньні аб тым, як, у якой меры, у якіх межах, у якіх формах магчыма пазнаньне суб'ектам об'екта, якая роля абодвух у пазнаньні, што кожны з іх уносіць у пазнаньне. Другі аспэкт — фізычны — разглядае ўзаемаадносіны паміж мысьленьнем і прыродай ня як паміж пазнаючым і пазнавальным, ня як паміж звеньнямі пазнавальнага процэсу, а як паміж двума рознастайнымі, што існуюць, рэчамі. Суб'ект мысьленьня, раней чым пазнаваць, павінен існаваць, ён зьяўляецца ня толькі суб'ектам, ня толькі пазнаючым, але і чымсьці існуючым побач з другімі рэчамі, чымсьці, што ў сваю чаргу можа быць об'ектам. Мысьленьне само займае некаторае месца ў шэрагу іншых рэчаў, і вось пытаньне зводзіцца да таго, каб пазнаць узаемаадносіны мысьленьня, як аднае з рэчаў, да другіх не-пазнаючых, ня-мысьлячых, фізычных рэчаў. Такія два бакі проблемы ўзаемаадносін матэрыі і духа, розьніца і сувязь паміж каторымі будзе ясьней і больш зразумелай чытачу пры разглядзе конкрэтных разьвязаньняў гэтых пытаньняў.

У далейшым наша задача складаецца з азнаямленьня з асноўнымі тыпамі разьвязаньня гэтай кардынальнай філёзофскай проблемы. Мы ня ставім сваёй задачай выкладаньне гісторыі філёзофіі, а возьмем для дэмонстрацыі больш ці менш адвольныя паасобныя ўзоры, прыклады, у якіх найбольш выразна, наглядна выяўлены той ці іншы з тыпаў разьвязаньня проблемы, якая нас цікавіць. У якасьці першага тыпу філёзофскае пабудовы мы разглядзім тып дуалістычны, каб пераканацца ў правільнасьці зробленых намі паказаньняў аб тым, што дуалізм, які хоча перамагчы свае супярэчнасьці, няўхільна павінен перайсьці альбо ў ідэалістычны, альбо матэрыялістычны монізм.

## II

Як прыклад дуалістычнага вучэньня, мы возьмем вучэньне выдатнага француската філёзофа XVII сталецьця — Рэнэ Дэкарта. Зразумела, мы зусім ня зьбіраемся даць больш ці менш поўнае ўяўленьне аб яго поглядах, а скажам толькі ў самых агульных рысах пра яго разьвязаньне проблемы матэрыі і духа.

Дэкарт прызнае існаваньне матэрыяльнага сьвету, разумее ён гэты сьвет, як сьвет прасторавых рэчаў, г. зн. лічыць асноўнаю агульнаю адзнакаю ўсіх матэрыяльных рэчаў іх працяглась́ць, памернасьць, здольнасьць займаць месца ў прасторы. Усякая зьмена прасторавых рэчаў ёсьць нішто іншае, як іх рух, перасоўваньне. Усё, — што адбываецца ў матэрыяльным сьвеце, ня можа быць нічым іншым, апрача прасторавага перамяшчэньня, перасоўваньня альбо ўсёй рэчы ў адносінах да другое, альбо ўнутранага перамяшчэньня частак рэчаў. Такое разуменьне выплы-

вае з утоесамліваньня матэрыяльнага з пrасторавым. Дзеля таго, што калі адзіная канечна патрэбная ўласьцівасьць рэчаў—працягласьць, то адзіная здольнасьць прасторавых—рух, перамяшчэньне.

Вось чаму, з пункту гледжаньня Дэкарта, навукаю, якая вывучае ўсе выяўленьні матэрыяльнага сьвету, унівэрсальная навука аб целах ёсьць мэханіка. Мэханіка, якая вывучае рух прасторавых рэчаў, вычэрпвае тое кола зьяў, якія адбываюцца ў цялесным сьвеце. Гэты бок у вучэньні Дэкарта будзе элемэнтам матэрыялістычным: ён прызнае самастойным матэрыяльны сьвет. Гэты матэрыялізм будзе матэрыялізмам мэханічным, таму што матэрыю Дэкарт разумее як штосьці такое, што можа быць поўнасьцю вывучана мэханікай. Такім чынам, ён разумее ня толькі неорганічны сьвет, ня толькі сьвет расьлін, але і жыцьцё жывёл. Для Дэкарта организм жывёл ёсьць ні што іншае, як мэханізм, жывёла—гэта мэханічны аўтомат, жывёла—штосьці матэрыяльнае, штосьці працяглае. І жывёльны сьвет ён разумее як сьвет працяглых цел, якія мяняюць свае месца ў прасторы, усю дзейнасьць якіх можна растлумачыць мэханічна.

Але зусім мяняецца карціна, калі Дэкарт пераходзіць да вывучэньня чалавека. Калі ён падыходзіць да пытаньня аб чалавеку, ён не застаецца ў межах цялеснага сьвету. Чалавек—гэта ня толькі мэханізм, ня толькі цела, якому ўласьцівы працягласьць і рух, чалавек адрозьніваецца ад жывёлы тым, што надзелены і духам. Дух, які ўласьцівы чалавеку, не ўласьцівы ні аднэй жывёле. Жывёла таксама адчувае, але адчуваньне гэта ёсьць узьдзеяньне знадворных цел на органы пачуцьцяў жывёл, у выніку якога атрымліваецца ўспрыманьне гэтага знадворнага прадмету. Такім чынам, адчуваньне жывёлы нічога агульнага з духам, па думцы Дэкарта, ня мае, яно ёсьць рух матэрыяльнага парадку.

Але з чалавекам справа іншая. Чалавеку ўласьцівы і матэрыяльны пачатак, чалавек таксама прасторавае цела, маюцца ў ім элемэнты жывёльнага руху і жывёльнага адчуваньня, але сутнасьць чалавека ня вычэрпваецца гэтым матэрыяльным і мэханічным бокам. Чалавек у той-жа час надзелены і іншымі ўласьцівасьцямі, ён надзелены, як я ўжо сказаў, духам. Дух—гэта ня штосьці такое, што можа мяняць месца, дух—гэта нешта адменнае ад цела, нават дыямэтральна супроцьлеглае яму.

Можа быць дух вымераны? Ці можна на дух узьдзейнічаць шляхам мэханічнага штуршка? Не, нельга. Мысьль адна на другую дзейнічае таксама, як дзейнічае адно цела на другое? Зусім іначай. Дэкарт робіць строгае разьмежаваньне паміж матэрыяй і духам. Духу не ўласьціва прасторавасьць, а матэрыі не ўласьціва мысьленьне. Вучэньне Дэкарта характарызуецца рэзкім разьмежаваньнем двух зусім розных, зусім непараўнальных элемэнтаў: мысьленьня і працягласьці. Гэтыя элемэнты ня толькі не падобны адзін на другі, але на іх няма нават агульнае меркі, агульнага крытэрыя. З крытэрыем матэрыі не падыйсьці да духа. Нельга

ўзважваць мысьлі і мерацъ вёрстамі і сажнямі пачуцьці, нельга з мэханічнымі прынцыпамі падыходзіць да зьяў духоўнага парадку і наадварот.

Чалавек—гэта адзіная істота, адменная ад усякіх іншых жывёл, ёй уласьцівы ня толькі матэрыяльны бок, але і мысьленьне — духоўны бок. У чалавеку ўжываюцца абодва гэтыя, зусім рознастайныя, элемэнты. Зробленае разрозьніваньне выклікае некаторую труднасьць. З прынятага пункту гледжаньня нельга вытлумачыць, якім чынам матэрыя узьдзейнічае на дух, і дух узьдзейнічае на матэрыю, якім чынам у адным і тым самым чалавеку сумяшчаюцца і ўплываюць адзін на другі абодва элемэнты, якія ня маюць паміж сабою нічога агульнага. Сапраўды, матэрыя можа ўзьдзейнічаць на матэрыю шляхам штуршка, і адзін рух можа выклікаць другі рух, але рух ня можа спарадзіць мысьль і наадварот.

Ці лічыць Дэкарт, што дух спароджаны матэрыяй? Не. Ці лічыць ён, што матэрыя гэта другараднае ў адносінах да духу? Не. Такім чынам Дэкарт не зьяўляецца ні матэрыялістым і не ідэалістым. Ён зьяўляецца дуалістым. Ён лічыць, што існуе і тое і другое, як два рознастайныя і самастойныя пачаткі.

Такім чынам, у Дэкарта пытаньне аб крыніцы пазнаньня таксама павінна разьвязвацца сваеасабліва—дуалістычна. Сьвет падзяляецца на дзьве палавіны: на матэрыяльную і духоўную. Сам чалавек разрываецца на дзьве палавіны—цялесную і духоўную. Адчуваньні адрываюцца Дэкартам ад ідэй. У чалавека, як матэрыяльнае істоты, як і ў другіх жывёл, зьяўляюцца адчуваньні, г. зн. матэрыяльныя рухі ў органах пачуцьцяў і мазгоў. Ідэі-ж прыроджаны чалавеку і толькі яму аднаму. У чалавечым розуме, у чалавечым духу існуюць прыроджаныя ідэі, таму што дух ня можа атрымаць свайго зьместу з матэрыяльнага сьвету шляхам руху, ён недаступны для руху.

У Дэкарта існуе дуалізм і па другой лініі. Ён, апрача сьвету, стварэньня бога, дапушчае бога, як творцу сьвету. Труднасьць, што вынікае перад дуалізмам, месьціцца ў тым, што з яго пункту гледжаньня немагчыма вытлумачыць сувязь паміж духоўнымі і матэрыяльнымі процэсамі. Сувязь гэта зьяўляецца фактам, адмаўляць які немагчыма. Калі яна зьяўляецца няўхільным фактам,—яе трэба вытлумачыць, а вытлумачыць яе з пункту гледжаньня дуалізму нельга.

Я падумаў аб чым-небудзь і пад уплывам гэтае думкі перасунуў руку. У гэтым выпадку дух узьдзейнічае на цела ці, наадварот, узьдзеяньне іголкі на маё цела выклікае пэўную думку—зьяву духоўнага парадку. Як вытлумачыць гэта з пункту гледжаньня дуалізму? Факт сувязі псыхічнага і фізычнага, факт адзінства гэтых двух элемэнтаў бясспрэчны. Як вытлумачыць гэта з прынятага Дэкартам пункту гледжаньня? І дуалізму Дэкарта патрэбна выйсьці з гэтага тупіка. Калі ён ня зможа гэтае труднасьці перамагчы, ён няўхільна будзе адкінуты, ён выявіць сваю нясталасьць.

Вось чаму дуалістыя робяць усялякія намаганьні як-небудзь вытлумачыць гэту сувязь. Сам Дэкарт вельмі добра разумеў гэту труднасьць і спрабаваў выйсьці з становішча, але вельмі наіўным чынам. Ён гаварыў, што дух зьмяшчаецца ў шышкавіднай залозе мазгоў, і рухі, якія адбываюцца ў целе, хістаюць гэту залозу і ўплываюць на дух, дух у сваю чаргу, хістаючы сваё месца знаходжаньня, уплывае на цела. Але такое наіўнае тлумачэньне не здавальняла нават уласных пасьлядоўцаў Дэкарта. Пасьлядоўцы Дэкарта спрабавалі гэтае слабае месца вучэньня разьвязаць як-небудзь іначай. Спроба разьвязаць гэту проблему тым, што ёсьць трэці пачатак: боскае, якое стварыла і матэрыяльны і духоўны сьвет, і ў ім закладзена адзінства гэтых двух элемэнтаў, затрудняецца тым, што, згодна вучэньню Дэкарта, бог ня ўмешваецца ў жыцьцё сьвету. Створаны адзін раз богам сьвет існуе сам па сабе, па механічных ці па іншых законах, устаноўленых богам, але пастаяннае ўмяшацельства бога зусім непатрэбна.

Адзін з пасьлядоўцаў вучэньня Дэкарта Гейлінгс спрабуе вытлумачыць гэту труднасьць сьцьвярджэньнем, што паміж мысьленьнем і прасторавасьцю існуе адначальна прадустаноўленая саадпаведнасьць. Існуе гармонія паміж абодвума элемэнтамі. Што-небудзь адбываецца ў адным элемэнце, яму адказвае некаторы процэс, які адбываецца ў другім.

Такім чынам прадустаноўленай і непасягальнай гармоніяй спрабавалі вытлумачыць зьбег процэсаў у матэрыяльных і духоўных рэчах. Пры ўгрунтаваньні гэтага палажэньня прыводзіўся такі прыклад: матэрыяльны і духоўны элемэнты могуць быць параўнаны з двума гадзіньнікамі, якія ня ўзьдзейнічаюць адзін на другі, але заведзены аднолькава, дзякуючы чаму яны і будуць ісьці, паказваючы заўсёды адзін і той самы час. Такая самая гармонія, якая існуе паміж гэтымі двума гадзіньнікамі, існуе і паміж мысьленьнем і прасторавасьцю.

Чаму гэта разьвязаньне нікольки ня выводзіць з тупіка дуалізм? Папершае, таму, што ніякай абсолютнай гармоніі паміж гэтымі элемэнтамі няма. Зразумела, вы не назавяце ніводнага выпадку, калі адбываецца процэс мысьліцельнага парадку, каб ён не спраодзіўся матэрыяльным процэсам у мазгох. Але вы лёгка назавяце безьліч матэрыяльных процэсаў, што адбываюцца ў чалавечым організьме, але якія не выклікаюць паралельнага процэсу ў мысьленьні. Вельмі малы процант матэрыяльных зьмен, якія маюць месца ў нашым організьме, маюць паралельны адбітак у мысьленьні.

Але гэта не галоўная слабасьць вучэньня. Асноўны недахоп гэтага тлумачэньня месьціцца ў тым, што апэляцыя да бога зусім не адказ на пытаньне па існасьці, а затушоўваньне няздольнасьці адказаць на яго. Тут няма разьвязаньня па істоце. Вырашэньне тут толькі зданьнёвае.

Сапраўды, ці разумееце вы больш, чым разумелі раней, сутнасьць гэтага процэсу, гэтай сувязі незьвязальнага, калі на пытаньне аб тым,

чаму матэрыяльным зьменам адпавядаюць зьмены ў мысьленьні, адкажуць: таму, што так прадустаноўлена. Ці зьяўляецца гэта тлумачэньнем? Існуе гэта так, хоць і ня можа так існаваць, дзеля таго, што гэта ўстаноўлена богам. Ці зьяўляецца такое тлумачэньне дапушчальным у навуцы? Зразумела, не. Няма нічога лягчэй, як адказаць з любое прычыны: так устаноўлена. Гэта, зразумела, зьяўляецца рэлігійным догматызмам і нікольκі не паглыбляе нашых ведаў, нікольκі ня тлумачыць незразумелага, а ўхіляецца ад тлумачэньня. Сказаць, што так устаноўлена, альбо сказаць, што мы ня ведаем,—гэта адно і тое-ж самае, але ў шчырай і фальшывай форме.

Вось чаму тое меркаваньне, якое зрабіў Гейлінгс, стварае толькі ілюзію разьвязаньня гэтага пытаньня. Труднасьць застаецца ў моцы, яна толькі замазваецца апэляцыяй да бога. Дыялектычная сыстэма сваімі ўнутранымі сіламі бясьсільна разьвязаць проблему, ёй застаецца зварачацца да госпада.

Вось прыклад дуалістычнага разгляду онтолёгічнай проблемы, які азначае і дуалістычнае разьвязаньне проблемы пазнаньня. З гэтага прыкладу зусім ясна відаць, у чым сутнасьць такога роду разуменьня ўзаемаадносін паміж матэрыяй і духам, і ў чым труднасьць, якая пад рознымі формамі няўхільна павінна прыйсьці ў кожнай дуалістычнай сыстэме, патрабуючы ад дуалізму разьвязаньня альбо ў матэрыялістычны, альбо ў ідэалістычны монізм, пагражаючы ў праціўным выпадку ўнутраным крахам вучэньня.

Найбольш яскравым, выдатным, дуалістычным вучэньнем было гносэолёгічнае вучэньне Эмануіла Канта. Там двоістасьць складаецца ў разрыве паміж рэчамі, як яны існуюць самі па сабе, і рэчамі, як яны нам уяўляюцца. Кант аддзяляе непраходнаю прорваю сьвет зьяў (уяўленьняў, рэчаў, як яны нам здаюцца) ад сьвету рэчаў у сабе (рэчаў, як яны ёсьць у рэчаіснасьці). Кант сьцьвярджае, што пры дапамозе нашых уяўленьняў рэчаў мы ніколі ня можам прыйсьці да пазнаньня рэчаў, якімі яны ёсьць у рэчаіснасьці, на самай справе. Па-за нашай сьвядомасьцю існуе сьвет, які адгароджан кітайскай сьцяною ад сьвету зьяў. Тут дуалістычнае разьмежаваньне ідзе па другой лініі, па лініі тэорэтыка-пазнавальнай, і калі пазнаёміцца бліжэй з гэтым вучэньнем, то становіцца ясным, што ў другой форме ў ім выростаюць унутраныя супярэчнасьці, няўхільныя для ўсякага дуалізму. На жаль, мы прымушаны тут абмежавацца разборам першага прыкладу.

Калі ўзяць агульную ацэнку дуалізму, то яго можна характарызаваць як філёзофскі гэрмафродытызм, як філёзофскую двуполасьць. Таксама, як пры гэрмафродытызьме біолёгічным, адзнакі аднаго полу перашкаджаюць другому, не даюць ім поўнага натуральнага разьвіцьця, так і ва ўсякай дуалістычнай сыстэме яе асноўныя элемэнты, матэрыялістычны і ідэалістычны, узаемна супярэчаць адзін другому, перашкаджаюць адзін другому, адмаўляюць адзін другога. Асноўная слабасьць усякага

дуалізму ў тым, што ён няўхільна прыдзе да проблемы складаньня пудоў з вёрстамі. Усякая дуалістычная концэпцыя характарызуецца тым, што яна не прызнае адзінства міра, а разрывае гэта адзінства на дзьве няэьмерныя часткі.

Нарэшце апошняе, ня менш важнае, што можна сказаць супроць дуалізму,—гэта вынікі навукі, якія адмаўляюць такую пастаноўку пытаньня. Кожны крок наперад у гісторыі ведаў засыпае зданьнёвую прорву паміж паасобнымі сфэрамі сусьвету, кожны крок у прогрэсе навукі выяўляе ўсё большае адзінства сьвету. Гісторыя навукі ёсьць гісторыя доказу адзінства сьвету, гісторыя перамогі ўсіх і ўсякіх разрываў у ім.

Трэба заўважыць, што дуалізм, ня гледзячы на ўсе труднасьці, якія ён за сабою цягне, зусім не зьяўляецца непашыраным, застарэлым, філёзофскім вучэньнем. Дуалізм шырока распаўсюджаны ня толькі сярод спэцыялістых філёзофаў, але ён прасяк і ў паасобныя конкрэтныя навукі, адыгрываючы ролю тормазу ў разьвіцьці гэтых навук. Так, напрыклад, у біолёгіі вельмі пашыраны так званы нэовіталізм, які лічыць, што органічнаму сьвету ўласьцівы ня толькі матэрыяльныя якасьці, але і нематэрыяльныя. Жывы організм у адзнаку ад ня-жывога мае здольнасьць мэтазгодна рэагаваць. Нэовіталістыя лічаць, што, апрача матэрыяльных процэсаў, організму ўласьціва нематэрыяльная, духоўная сіла, якою і тлумачыцца мэтазгоднае жыцьцё організмаў, іх дапасавальнасьць, іх аформленьне. Гэта зьяўляецца нічым іншым, як біолёгічным дуалізмам, укараненьнем дуалізму ў біолёгічныя погляды.

Ці, другі прыклад, псыхолёгія. У буржуазнай псыхолёгіі, бадай, пануючымі зьяўляюцца дуалістычныя пабудаваньні: узаемадзейнасьць паміж двума самастойнымі і незалежнымі элемэнтамі—душою і целам, ці, яшчэ часьцей, псыхо-філёзофскі паралелізм, таксама асаблівы від дуалізму. Псыхо-філёзофскі дуалізм кажа аб тым, што душа і цела ня могуць узьдзейнічаць адно на другое, і мы ня можам ведаць, якім чынам у душы адбываецца тое, што адбываецца ў целе, і, наадварот, мы толькі констатуем факт паралельнасьці. Гэта новая, больш скромная формулёўка вучэньня прадустаноўленай гармоніі, прызнаньне факта і адмаўленьне разумець яго. Або ў галіне навукі аб абычайлівасьці, у этыцы, гэтак пашыранае „хрысьціянскае“ вучэньне аб тым, што чалавек напоўжывёла, напоўанёл, што ў чалавеку адбываецца змаганьне паміж імкненьнем да грэшнага цялеснага жы_ьцця і імкненьнем папасьці ў рай. Буржуазная этыка на ўсе лады вар'іруе гэты дуалістычны рэлігійны мотыў.

Вывучэньне пытаньня аб дуалізьме, такім чынам, у даным выпадку не зьяўляецца чымсьці залішнім, чымсьці непатрэбным для не-філёзофаў, бо на кожным кроку, бо ва ўсіх галінах ведаў нам прыходзіцца сустракацца з рознымі выяўленьнямі дуалістычнай концэпцыі. Ведаючы карані гэтай концэпцыі, ведаючы, адкуль яна расьце, ведаючы, у чым яе асноўная труднасьць, лягчэй перамагчы гэтыя шкодныя для навукі тэндэнцыі.

Азнаёмімся цяпер з другім тыпам разьвязаньня пытаньня аб адносінах паміж духам і матэрыяй, тыпам ідэалістычнага вучэньня, так званым суб'ектыўным ідэалізмам. Суб'ектыўны ідэалізм выходзіць з зусім правільнага палажэньня, што ўвесь зьмест нашае практыкі, усе нашы веды сваёй адзінаю крыніцай маюць адчуваньні. Калі-б ня было ў нас адчуваньня, то ня было-б у нас ніякіх уяўленьняў, ніякіх ведаў аб сьвеце. Ніякае іншае крыніцы для набыцьця ведаў аб сьвеце ў чалавека няма, і за ўсё, што ён ведае, ён павінен быць удзячны сваім адчуваньнем.

З гэтага выходнага палажэньня, якое носіць назву *сэнсуалізму*, суб'ектыўныя ідэалістыя робяць вывад, што адзінае, што вядома чалавеку, гэта—яго адчуваньне. Чалавек ня можа ў сваіх пазнаньнях, у сваёй навуковай рабоце выйсьці за межы адчуваньняў, пазнаць што-небудзь звыш іх, што-небудзь апрача адчуваньняў. Мы пазнаем ня тыя ці іншыя рэчы па-за намі, а толькі ўласныя адчуваньні: чырвань, цьвёрдасьць, вышыню, к, лявіднасьць і нічога больш. Колькі-б мы ні стараліся, колькі-б мы ні намагаліся, мы не пазнаем нічога без сваіх адчуваньняў, суб'ектыўных станаў псыхікі. Будзе пашырацца наш кругагляд, наша практыка,—гэта значыць, што будзе пашырацца тое кола адчуваньняў, якое мы маем, але гэта ні ў якім разе ня выхад за межы нашых псыхічных перажываньняў.

Ці ўладаем мы якімі-небудзь сродкамі для таго, каб пазнаць, успрыняць ня толькі адчуваньні (г. зн. зьявы суб'ектыўнага парадку), для таго, каб пазнаць ня толькі псыхічныя рэчы? Ці можам мы пазнаць рэчы па-за суб'ектам, якія па-за нашай сьвядомасьцю знаходзяцца, а ня ўнутрысьвядомыя адчуваньні? Ня можам,—адказвае суб'ектыўны ідэалізм. Суб'ектыўныя ідэалістыя прыходзяць такім шляхам да адмаўленьня магчымасьці якога-небудзь пазнаньня знадворнага сьвету, якога-небудзь пранікненьня ў сьвет, які знаходзіцца па той бок нашай сьвядомасьці. У нас нават няма падстаў сьцьвярджаць аб існаваньні знадворнага сьвету. Гаварыць аб чым-небудзь, што знаходзіцца па-за нашымі адчуваньнямі, па-за элемэнтамі нашай псыхікі, мы ніякага права ня маем. Адзінае, што мы маем права сьцьвярджаць, адзінае, у існаваньні чаго мы пераконаны, адзінае, існаваньне чаго ў рэчаіснасьці ня сумненна, — гэта псыхічны сьвет адчуваньняў, г. зн. зьяў, якія маюць месца ў суб'екце, а не па-за ім.

Што робіцца па-за суб'ектам? Ці існуюць рэчы па-за нашай сьвядомасьцю? Ці існуе сьвет па-за намі? Аб гэтым у нас ніякіх даных няма. Калі крытычна падыйсьці да зьместу нашае практыкі, то мы пераканаемся,—кажуць староньнікі разгляданых поглядаў,—што заключэньне аб тым, што па-за нашай сьвядомасьцю існуе нейкі знадворны сьвет, зусім неўгрунтавана. Бо наша практыка не дае нам вестак аб чым-небудзь, што знаходзіцца па-за нашай сьвядомасьцю.

Што такое рэч з гэтага пункту гледжаньня? Тое, што мы называем рэччу, ёсьць нішто іншае, як пучок, як злучнасьць нашых адчу-

ваньняў, зьвязка нашых успрыманьняў. Комплекс гэтых адчуваньняў (цьвёрдасьці, кулявіднасьці, сіні і г. д.), даных разам і якія паўтараюцца больш ці менш пастаянна, мы называем рэччу. Комплексу адчуваньняў мы прыдаем вядомую назву, называем яго пэўным словам; але тое, што мы называем рэччу, ня ёсьць штосьці такое, што знаходзіцца па-за намі,—гэта толькі пучок успрыманьняў, якія месьцяцца ў нас, у нашай сьвядомасьці, таго, што па-за намі, мы ніколі ня ўспрымаем і аб ім нічога ня ведаем. Але, могуць спрачацца суб'ектыўныя ідэалістыя: мы ясна адрозьніваем тыя рэчы, якія належаць да нашае ўласнае прыроды, ад тых, якія ўспрымаюцца як такія, што знаходзяцца па-за намі. Разумныя суб'ектыўныя ідэалістыя зусім не адмаўляюць гэтага. Але, — кажуць яны,—гэтым зусім не даводзіцца, што рэчы *сапраўды* існуюць па-за намі. Тая акалічнасьць, што рэчы *ўспрымаюцца* ня як зьявы сьвядомасьці, а як такія, што знаходзяцца па той бок сьвядомасьці,—гэта зусім не даводзіць існаваньня іх у рэчаіснасьці, гэта толькі ўласьцівасьць нашае сьвядомасьці ўяўляць рэчы ня ўнутры сябе, а як-бы з боку. Гэта здольнасьць сьвядомасьці нагадвае тое, што ў фізыцы носіць назву проекцыі. Хоць вобразы рэчаў знаходзяцца ўнутры апарату, але яны самім-жа апаратам проектуюцца і здаюцца, што яны знаходзяцца на палатне па-за ім, па-за апаратам. Такой уласьцівасьцю быццам-бы валодае і наша сьвядомасьць. „Знадворнасьць" рэчаў—вынік гэтай здольнасьці нашай псыхічнай дзейнасьці. Дапушчэньне рэчаў па-за сьвядомасьцю—продукт някрытычных адносін да законаў нашай псыхічнай дзейнасьці.

Вось чаму суб'ектыўныя ідэалістыя лічаць магчымым прызнаць існаваньне адзінага сьвету, таго сьвету, які маецца ў межах нашай псыхікі, а сьвет, які знаходзіцца па-за нашай сьвядомасьцю, яны ня лічаць магчымым дапусьціць на падставе крытычна праверанай практыкі. Увесь сьвет, усё, што нам даецца практыкай,—зьмешчана ў нашай сьвядомасьці, унутры нашай псыхікі. Калі мы сьцьвярджаем аб існаваньні знадворнага сьвету, аб існаваньні рэчаў па-за нашай сьвядомасьцю, мы сьцьвярджаем незаконнае, недаведзенае, догматычнае, што ня можа быць угрунтаваным з аналізу зьместу нашае практыкі.

Што такое быць з гэтага пункту гледжаньня? Быць успрыманым і больш нічога. Калі рэч не адчуваецца, то яна ня існуе, аб тым, што ня існуе *для нас*, мы сьцьвярджаць нічога ня можам. Без успрыманьня, без успрымаючага суб'екта, для нас ня было ніякага сьвету. Сьвет існуе для нас толькі пастолькі, паколькі мы яго адчуваем. Калі мы не адчуваем,—для нас сьвет ня існуе. І адзінае, што мы можам сьцьвярджаць аб гэтым сьвеце, гэта тое, што ён ёсьць сьвет адчуваньняў. Адсюль сьледуе славутае палажэньне суб'ектыўнага ідэалізму: „быць—значыць быць успрыманым". „Бяз суб'екта няма об'екта", бо об'ект ёсьць ня што іншае, як зьмест, як параджэньне суб'екта. Быць, існаваць—гэта значыць існаваць унутры псыхікі.

Які вынік гэтых разважаньняў? Усе гэтыя разважаньні прыводзяць да таго, што ўсе навукі рашчыняюцца ў аднэй адзінай навуцы—у псыхолёгіі. Сапраўды, фізыка, біолёгія, соцыолёгія—гэта ўсё навукі, якія вывучаюць розныя групы, розныя галіны нашых успрыманьняў,—вось чаму суб'ектыўны ідэалізм павінен прыйсьці да *панпсыхолёгізму*. Увесь сьвет, з усімі яго сфэрамі, з усімі прадметамі—гэта сьвет унутрысьвядомы, гэта сьвет, спароджаны нашай псыхічнай дзейнасьцю, нашымі адчуваньнямі.

Што-ж зьяўляецца меркаю, крытэрыем, сапраўднага і несапраўднага? Як адрозьніць ісьціну ад няпраўды з гэтага пункту гледжаньня? Калі адзіным об'ектам навукі зьяўляюцца зьявы псыхічнага парадку, адчуваньні, то хіба можна гаварыць аб тым, што тыя ці іншыя нашы ўяўленьні, нашы погляды, няверны, а другія верны? Бо, калі ў розных людзей будзе розная практыка, розныя адчуваньні, то кожны з нас, вачавідна, будзе правы.

Мы, матэрыялістыя, якія лічаць, што існуюць знадворныя рэчы, адбіткам якіх зьяўляюцца адчуваньні, мы лічым за сапраўдныя тыя нашыя ўспрыманьні, тыя нашыя разважаньні, зробленыя на падставе практыкі, што адпавядаюць рэчам, як яны ёсьць у рэчаіснасьці па-за намі. Мы правяраем нашу практыку, дастасоўваючы яе да знадворных рэчаў. Але калі такія адмаўляюцца, то што-ж будзе меркаю, крытэрыем, што будзе аддзяляць ісьціннае ад несапраўднага? Гэтае пытаньне для суб'ектыўнага ідэалізму зьяўляецца пытаньнем у вышэйшай ступені трудным, бо ўспрыманае намі ёсьць адзіна існуючае. Навука складаецца, з гэтага пункту гледжаньня, толькі ў давядзеньні да парадку нашых адчуваньняў. Задача навукі зводзіцца, з гэтага пункту гледжаньня, да таго, каб гэты хаос адчуваньняў, гэту безьліч успрыманьняў—прывесьці ў сыстэму, арганізаваць. Кожны мае права сыстэматызаваць сваю практыку. Але тыя вывады, тыя абагульненьні, якія будуць зроблены на падставе прывядзеньня да парадку сваіх адчуваньняў, вачавідна будуць мець значэньне толькі для гэтага сьвету адчуваньняў, але яны могуць быць зусім няпрыгоднымі для другога суб'екта, з другою практыкай.

Вось як разьвязвае асноўную проблему быцьця і мысьленьня суб'ектыўны ідэалізм. Гэта разьвязаньне звычайнаму мысьленьню здаецца ў вышэйшай ступені дзівосным, нават пачварным. Яно адмаўляе існаваньне знадворнага сьвету, сьцьвярджае, што сьвет гэта ня што іншае, як зьява псыхічнага парадку, што існуе толькі я, як комплекс успрыманьняў, і нічога больш. Але тым ня менш трэба заўважыць, што пабудаваньне зьяўляецца пасвойму паступовым і зграбным. Давесьці няправільнасьць суб'ектыўнага ідэалізму цяжэй, як усьвядоміць яе. Фундамант гэтага вучэньня, на якім узводзіцца ўся сыстэма, ёсьць сьцьвярджэньне, што мы ня можам выскачыць за межы сваіх адчуваньняў.

Гэта вучэньне *моністычнае*. Тут няма незалежных духа і матэрыі, а адзін з гэтых двух прынцыпаў, а іменна—об'ект, зьяўляецца падпарадкаваным, другарадным, у стасунку да першага суб'екта. Об'ект і суб'ект не супроцьстаяць адзін другому, як дзьве незалежныя велічыні. Гэты *монізм* зьяўляецца монізмам ідэалістычным.

Первястковым выходным пунктам усякага аналізу зьяўляецца суб'ект, сьвядомасьць. Об'ект, прырода, матэрыя—ня што іншае, як продукт псыхічнай дзейнасьці, спараджэньне суб'екта.

Гэты ідэалістычны монізм зьяўляецца прыкладам ідэалізму суб'ектыўнага. Такі тып разьвязаньня асноўнай філёзофскай проблемы называецца суб'ектыўным ідэалізмам, таму што ён выходзіць ад сьвядомасьці мае,—не з сьвядомасьці, не ад духа, які знаходзіцца па-за суб'ектам. Тут гутарка ідзе аб сьвядомасьці суб'екта, аб псыхіцы, якая ўласьціва індывідуальнай асобе. У даным прыкладзе філёзофія выходзіць ад тэорэтыка-пазнавальнай проблемы і прыходзіць разам з яе разьвязаньнем да адпаведнага разьвязаньня і псыхо-фізычнай проблемы. Ідэалістычны адказ на „гносэолёгічнае“ пытаньне цягне за сабою і „онтолёгічныя“ погляды. Ацэнка пазнаньня пераходзіць у ацэнку быцьця.

Я ўжо паказаў, што слабым зьвяном у пабудаваньні суб'ектыўнага ідэалізму зьяўляецца немагчымасьць даць крытэры ісьціны, немагчымасьць адрозьніць ісьціну ад няпраўды. Як адрозьніць сапраўднасьць ад ілюзій, міраж ад сапраўднасьці з пункту гледжаньня суб'ектыўнага ідэалізму? Такога надзейнага крытэрыя ў суб'ектыўных ідэалістых няма. Ці можна сказаць з разгляданага пункту гледжаньня, што тое, што мы бачым у рэчаіснасьці,—ёсьць сапраўднасьць, а тое, што ўспрымаем у часе сну—зданьнёвае? Які крытэры, каб іх адрозьніць? Суб'ектыўныя ідэалістыя іншы раз спрачаюцца: сапраўднае ісьціннае ўспрыманьне адрозьніваецца ад галюцынацыі, ад ілюзорнага сваёй выразнасьцю і яскравасьцю. Але, перш за ўсё, адзнака ў выразнасьці і яскравасьці не зьяўляецца прынцыповай адзнакай, а толькі якаснаю. Далей, не заўсёды гэты крытэры бывае на карысьць рэчаіснасьці. Міраж і галюцынацыя вельмі часта бываюць больш рэльефнымі, нагляднымі, чым наша звычайнае адчуваньне. Гэты крытэры яўна бездапаможны. Але, калі крытэрыя рэчаіснага няма, то, вачавідна, ня можа існаваць адзінай агульна-значымай навукі. Усякае навуковае пабудаваньне будзе правільным пастолькі, паколькі яно здавальняюча прыводзіць у парадак суб'ектыўную практыку таго ці іншага індывідуума. Мы прыходзім да вываду аб шматлікасьці, суб'ектыўнасьці, навукі.

Але суб'ектыўныя ідэалістыя, каб ухіліцца ад такога вываду, спасылаюцца на другі крытэры, на крытэры колектыўнасьці. Тая практыка павінна быць паложана ў аснову навукі, якая ўласьціва ня мне аднаму, а ўласьціва ўсім іншым людзям, пацьвярджаецца іх практыкай. Пры дапамозе крытэрыя колектыўнае практыкі мы за межы суб'ектывізму

ўсё такі ня выходзім, ісьцінай застаецца тое, што адпавядае поглядам людзей, якія-б яны ні былі. З гэтага пункту гледжаньня мы апраўдваем усякія забабоны, усякую чартовіну, усе віды масавага невуцтва і памылак.

Сапраўды, хіба вера ў існаваньне ведзьмаў, вадзянікоў ня была агульна-распаўсюджанай на пэўнай ступені чалавечай культуры? Была. Хіба наіўныя рэлігійныя погляды не зьяўляюцца пануючымі ў нашым грамадзтве, калі ўзяць яго ў цэлым? Прыняць крытэры большасьці галасоў будзе апраўданьнем невуцтва і някультурнасьці, бо невуцтва, прынамсі да гэтых часоў у буржуазным клясавым грамадзтве, было лёсам большасьці чалавецтва. Суб'ектыўныя ідэалістыя кажуць: „Так, для тагачаснага чалавека гэта было ісьцінай“. Вачавідна, агульна-значымага крытэрыя ісьціны ўсё-ж не атрымліваецца. Ісьціна зьяўляецца чымсьці існуючым для данага пэрыоду, для данай ступені разьвіцьця. Дзесяць тысяч год назад ісьцінным было зусім іншае, і мы ня маем права сказаць, што гэта ня было ісьцінным, гэта ня ісьцінна цяпер, для нас. Ісьцінным *зьяўляецца* тое, што *лічыцца* ісьцінным—вось формула суб'ектывізму. Бо „быць“ тожсамае для іх, што і „быць успрынятым“. Амэрыкі да таго, як мы яе знайшлі, не існавала. Бо Амэрыка стала ўспрымальна для нас, зразумела, з тых часоў, як яе знайшлі, а не да гэтага.

Вось да якіх вывадаў павінен прывесьці гэты пункт гледжаньня. Гэта ўжо адно зьяўляецца важкім аргумантам супроць яго. Кепская тая мэтодолёгія навукі, якая адмаўляе магчымасьць пабудаваньня мэтодолёгіі навукі. Прынцып, які носіць у філёзофіі назву рэлятывізму, прынцып адноснасьці, цэльнасьці, суб'ектыўнасьці ведаў, разбурае, адкідае магчымасьць адназначных навук аб сьвеце, гэты прынцып няўхільна прыводзіць да скэптыцызму.

Калі быць паступовым староньнікам суб'ектыўнага ідэалізму, то трэба прыйсьці да сьцьвярджэньня, што чалавек можа штогадзінна, штомінутна разбураць сьвет і ствараць яго з нічога. Памру я, разам са мною разбурыцца сьвет, бо ён перастане існаваць як комплекс маіх адчуваньняў. Пляханаў адзін раз трапна заўважыў з гэтае прычыны, што з пункту гледжаньня суб'ектыўнага ідэалізму, не мае бацькі нарадзілі мяне, а я нарадзіў сваіх бацькоў.

Суб'ектыўныя ідэалістыя з гэтае труднасьці думаюць выйсьці паказаньнем на тое, што сьвет не перастане існаваць у сьвядомасьці другіх людзей. Але супраціўнікі суб'ектыўнага ідэалізму ў праве папытацца: „Вы кажаце, што сьвет будзе існаваць незалежна ад мяне, як успрыманьне іншых людзей. Вельмі добра. Але ці існаваў сьвет тады, калі ня было яшчэ людзей?“ Тут суб'ектыўныя ідэалістыя даюць менш зразумелы адказ прыкладам у такім родзе: „пакольі мы ўпэўнены на падставе свае практыкі ў існаваньні сьвету да людзей, пастолькі ён і існаваў да людзей“.

Але суб'ектыўны ідэалізм, ухіляючыся адных труднасьцяй, пападае ў другія. На якой падставе суб'ектыўныя ідэалістыя дапушчаюць існаваньне другіх людзей па-за маёй сьвядомасьцю? Сапраўды, і другія-ж бо людзі, як і ўсе іншыя рэчы, нішто іншае, як комплекс маіх адчуваньняў. Стала быць, раз я перастаю існаваць, то разам са мною павінна зьнішчыцца і чалавецтва, як комплекс маіх адчуваньняў. Спасылка на іншых людзей азначае дапушчэньне існаваньня людзей па-за маёй сьвядомасьцю. Іншыя людзі, з пункту гледжаньня паступовага суб'ектыўнага ідэалізму, павінны існаваць пастолькі, паколькі яны адчуваюцца мною. Суб'ектыўныя ідэалістыя прызнаюць існаваньне іншых людзей, але гэта прызнаньне зьяўляецца непаступовасьцю. Суб'ектыўныя ідэалістыя вымушаны зьмяніць паступовасьць свайго вучэньня для таго, каб ня прыйсьці да недарэчнасьці. Кепскае тое вучэньне, якое павінна здрадзіць сваім прынцыпам, каб не пападаць у недарэчнасьць. Тое, што суб'ектыўныя ідэалістыя для таго, каб ня ўпасьці ў недарэчнасьць, павінны дапусьціць існаваньне знадворных людзей, даводзіць, што на суб'ектыўным ідэалізьме далёка не паедзеш, што трэба кінуць выходны пункт гледжаньня і стаць на пункт гледжаньня супроцьлежны суб'ектыўнаму ідэалізму, дапусьціць існаваньне людзей ня толькі як комплекс адчуваньняў, а людзей, існуючых рэальна ў знадворным, у стасунку да суб'екта, сьвеце.

Але з пункту гледжаньня цалком паступовага суб'ектыўнага ідэалізму гэтага зрабіць нельга. Паступовым вывадам гэтай філёзофскай сыстэмы будзе так званы *соліпсызм*. Соліпсызм—гэта такі пагляд, які сьцьвярджае, што існую толькі *я*. Уся рэшта, і іншыя людзі ў тым ліку,—продукт маіх адчуваньняў. Соліпсызм—гэта філёзофскі эгоізм. З пункту гледжаньня соліпсызму сьвет павінен зьнішчацца разам са мною і існуе ён толькі пастолькі, паколькі ён існуе для мяне. Вельмі рэдка, аднак, філёзоф дагаворыцца да соліпсызму. І тое, што суб'ектыўныя ідэалістыя не зьяўляюцца соліпсыстымі, даводзіць, што на падставе цалком паступовага суб'ектыўнага ідэалізму нельга пабудаваць навуковага сьветапогляду, які не прывядзе да абсурду. Мы ўправе быць паступовымі і адкінуць тыя асновы, якія прыводзяць да недарэчных вывадаў. З пункты гледжаньня паступовага суб'ектыўнага ідэалізму, маё цела, мае ногі, рукі—гэта комплексы маіх адчуваньняў, і яны ня існуюць па-за маёй сьвядомасьцю. З пункту гледжаньня суб'ектыўнага ідэалізму ня толькі да соліпсызму прыдзеш, але і гэтае *я*, якое зьмяшчае ў сабе ўвесь сусьвет, будзе ў вышэйшай ступені бяссэнсным і абсурдным *я*.

Зьвернемся да суб'ектыўных ідэалістых з пытаньнем аб тым, адкуль адчуваньні бяруцца? Якая прычына, крыніца гэтых адчуваньняў? Мы заўважаем, што ня можам па сваёй волі выклікаць тыя ці іншыя адчуваньні, што адчуваньні навязваюцца нам прымусова. Колькі я ні буду хацець, каб адчуваньне дому, які знаходзіцца перада мной, ня было, я, з адкрытымі вачыма і не адварочваючыся, я не магу ўхіліцца

гэтага ўспрыманьня. Аднак не ад мае волі залежыць наяўнасьць адчуваньняў, а яны навязваюцца мне прымусова. Ад чаго-ж яны залежаць? Для тых, што прызнаюць знадворны об'ектыўны сьвет,—гэта ніякай труднасьці не прадстаўляе, але суб'ектыўныя ідэалістыя ня могуць даць на гэта колькі-небудзь здавальняючага адказу.

Віднейшы прадстаўнік суб'ектыўнага ідэалізму XVIII сталецьця Бэрклін лічыў прычынай адчуваньняў самога госпада бога. Тут суб'ектыўны ідэалізм абасноўвае рэлігійныя погляды, што паказвае на рэакцыйную тэндэнцыю гэтай філёзофіі. Але-ж бо з пункту гледжаньня суб'ектыўнага ідэалізму бога дапусьціць нельга. Вачавідна, гэта будзе здрадай суб'ектыўнаму ідэалізму—дапушчэньнем якіхсьці знадворных рэчаў Бог, які павінен вывесьці вучэньне з тупіка, пры ўсіх сымпатыях да яго з боку суб'ектыўных ідэалістых, недапушчальны з пункту гледжаньня іх выходных палажэньняў. Другі адказ, які даецца на гэта пытаньне, складаецца з таго, што адчуваньне—зьява псыхічнага парадку, народжаная дзейнасьцю *я*, душы. Але-ж бо сама душа, якая павінна быць носьбіткай адчуваньняў, таксама рэч, хоць і не матэрыяльная, таксама рашчыняецца ў адчуваньнях.

Даць здавальняючы адказ на пытаньне аб крыніцы адчуваньняў суб'ектыўныя ідэалістыя ня могуць. Гэта самае слабае зьвяно ў вучэньні суб'ектыўнага ідэалізму. Калі мы кажам аб адчуваньні, то мы ўяўляем рэальныя рэчы, якія выклікаюць адчуваньне; у іх такое ўяўленьне было-б здрадай суб'ектыўнаму ідэалізму. Адчуваньне становіцца якойсьці трудна зразумелай псыхічнай абстракцыяй. Адчуваньне мысьліцца, як штосьці адарванае ад навакольнага суб'екта, ад чалавека, ад мазгоў. Адчуваньне без адчуваючага, адчуваньне, якое з сябе павінна парадзіць адчуваючага,— гранічны тупік абсурду. Адчуваньне ў руках суб'ектыўных ідэалістых абарачаецца ў абсолютна бязьзьместавую абстракцыю, у дзірку ад абаранка.

Суб'ектыўныя ідэалістыя зусім правільна сьцьвярджаюць, што адзінай крыніцай нашых пазнаньняў зьяўляецца адчуваньне. Але яны адчуваньне адрываюць ад таго суб'екта, ад цэльнага чалавека, у сувязі з якім яго толькі і можна мысьліць і зразумець. Калі мець на ўвазе адчуваючага чалавека, які мае нэрвовую сыстэму, мазгі, сьвядомасьць, то мы ніколі ня прыдзем да такіх вывадаў.

Але чалавек ня толькі адчувае, ён і дзейнічае. І вось гэтая чалавечая дзейнасьць зьяўляецца лепшым адмаўленьнем усякага суб'ектыўнага ідэалізму. У тым, што рэчы існуюць па-за намі, што нашы адчуваньні ня толькі суб'ектыўнага парадку, у гэтым чалавек пераконваецца на штодзенным кроку сваёй дзейнасьці. Самі суб'ектыўныя ідэалістыя, ня як філёзофы, а як жывыя людзі, няўхільна здраджваюць суб'ектыўнаму ідэалізму. Калі суб'ектыўныя ідэалістыя трапляюць у сфэру практычнай дзейнасьці, то яны ня могуць разглядаць сьвет як спараджэньне сваіх

адчуваньняў. Яны ў сваёй практычнай дзейнасьці на кожным кроку адмаўляюць свае пабудаваньні.

Але гэта тэорыя больш шкодная, як недарэчная. Гэта падвойна-рэакцыйная сваім прызначэньнем філёзофія аказалася здольнай захапіць цэлы рад нашых цяперашніх і былых таварышоў. У рэакцыйны час пасьля рэволюцыі 1905 г. гэтаю сыстэмаю, з рознымі варыяцыямі, захапляліся: Багданаў, Луначарскі і інш. Пляханаву і Леніну прышлося ня мала змагацца з гэтым захапленьнем і даводзіць, што гэта філёзофія для нас абсолютна няпрымальна, што яна супярэчыць ня толькі вывадам навукі, але і ў самай яе магчымасьці. У нас гэта справа мінулага, але на Захадзе гэта і зараз адзін з галоўных кірункаў у філёзофіі,—зразумела, у прыпраўленым і замаскаваным відзе.

Рэакцыйная функцыя гэтай філёзофіі зводзіцца да таго, што яна падхватвае рэальныя дасягненьні прыродазнаўства і абвалакае іх суб'ектыўна-ідэалістычным туманам, прытупляе рэволюцыйныя тэндэнцыі навук. Для змаганьня з гэтым, вывучэньне гэтай філёзофіі, выяўленьне яе нестаноўкасьці, перамога над ёю канечна патрэбны.

Якія тры асноўныя вывады, да якіх мы павінны прыйсьці на падставе азнаямленьня з суб'ектыўным ідэалізмам? Агульны вывад—яго нестаноўкасьць. Але нам гэтага замала, нам трэба выявіць тыя асноўныя функцыі, вынікам якіх гэта нестаноўкасьць зьявілася.

Першым такім пунктам зьяўляецца недапушчальнасьць таго, каб адчуваньне было абстрагавана ад адчуваючага. Адчуваньне павінна брацца толькі ў сувязі з адчуваючым, як уласьцівасьць, як функцыя цэлага, конкрэтнага жывога чалавека. І парушэньне гэтага — першы корань памылковасьці суб'ектыўнага ідэалізму. Падругое, з правільнага сьцьвярджэньня аб тым, што ўсе нашы веды атрымліваюцца намі *цераз адчуваньні*, яны зусім няправільна робяць вывад, што ўсе нашы веды, ёсьць толькі пазнаньні *адчуваньняў*. Хоць мы пазнаем цераз пасярэдніцтва адчуваньняў, але зусім ня толькі адчуваньні. Каб ня прыйсьці да недарэчных вывадаў, да якіх яны прыходзяць, мы павінны прыняць, што цераз адчуваньні, цераз пасярэдніцтва адчуваньняў мы пазнаем сьвет, які ляжыць па-за адчуваньнямі, па той бок адчуваньняў. Для іх адчуваньні,—каменная сьцяна, якая адгароджвае суб'екта аб магчымасьці прайсьці ў знадворны сьвет, для нас яны—праводнікі ў яго.

Патрэцяе, суб'ектыўныя ідэалістыя правільна сьцьвярджаюць, што ніякае пазнаньне без дапамогі адчуваньняў немагчыма, але няправільна, што ніякае існаваньне па-за адчуваньнямі немагчыма. Пазнаць існаваньне об'екта без дапамогі адчуваньняў мы ня можам. Але нельга ўтоесамліваць пазнаньне об'екта з існаваньнем об'екта. Об'ект можа існаваць, ня будучы пазнаваным, напрыклад, Амэрыка альбо атомы існавалі да таго, як яны былі пазнаны. „Бяз суб'екта няма об'екта", кажуць суб'ектыўныя ідэалістыя. Гэта ня верна. Бяз суб'екта няма толькі пазнаньня об'екта

Об'ект існуе незалежна ад таго, ці пазнаем мы яго, ці не. Вось у чым разыходзіны паміж намі і суб'ектыўнымі ідэалістымі. Яны лічаць, што там, дзе няма пазнаньня об'екту, няма і самога об'екту. Без дапамогі нашае сьвядомасьці, без дапамогі нашага адчуваньня мы-б нічога ня ведалі аб сьвеце; але калі-б мы і нічога ня ведалі аб ім, калі-б нас і зусім ня было, ад гэтага сьвет не перастаў-бы існаваць. Задача навукі не ўзгадняць нашы адчуваньні паміж сабою, а ўзгадняць іх са сьветам, як ён ёсьць у рэчаіснасьці.

III

Як прыклад таго тыпу філёзофскага вучэньня, якое называецца об'ектыўным ідэалізмам, мы возьмем вучэньне вялікага грэцкага мысьліцеля Плятона. Плятон выходзіць з перакананасьці, што веды нашы, шмат што са зьместу нашага пазнаньня, матэматычныя аксыомы, разуменьне дабра і зла, разуменьне хараства ці рад другіх катэгорый, ня могуць быць набыты чалавекам пры дапамозе практыкі. Наадварот, ён лічыў, што магчымасьць меркаваньня аб добрым, злым, альбо прыгожым прадпалагае ўжо наяўнасьць у розуме некаторае меркі, некаторых ідэй дабра і хараства. Дакладна таксама геомэтрычныя пабудаваньні магчымы дзякуючы ўласьцівым розуму катэгорыям, якія зьяўляюцца прынцыпамі геомэтрычных пабудоў. З гэтага пераконаньня аб па-запрактычным паходжаньні цэлага раду элемэнтаў нашага розуму ўзьнікае пытаньне аб тым, адкуль-жа ўзяліся ў розуме ідэі дабра, хараства, і г. д. Ён думае, што гэтыя ідэі меліся ў розуме яшчэ да того, як чалавек пачаў дастасоўваць іх да практыкавальнага сьвету. Плятон гаварыў, што гэтыя ідэі прыроджаны чалавеку, што чалавек не набывае іх шляхам практыкі, шляхам назіраньня, з знадворнага сьвету цераз органы пачуцьцяў, а чалавек прыходзіць у сьвет, маючы ўжо ў сваёй душы цэлы рад ідэй. Пры дапамозе практыкі ў процэсе свайго разьвіцьця чалавек не набывае ідэй, а толькі прыпамінае, уваскрошвае іх у сваёй душы. Адсюль ён прыходзіць да вываду аб тым, што душа дзесьці да таго, як чалавек прышоў у сьвет, набыла гэтыя ідэі. А процэс навуковай дзейнасьці ў практыкавальным сьвеце месьціцца ў тым, што ў душы аднаўляюцца сьляды ранейшых вядомых ёй ідэй. Душа прыпамінае аб тым, што было заложна ў ёй раней. Калі зьявы знадворнага сьвету ня могуць быць крыніцаю гэтых ідэй, то трэба паказаць на другую крыніцу, ад якое душа да прыходу ў тутэйшы сьвет атрымала гэтыя ідэі.

І вось крыніцаю гэтых ідэй Плятон мысьліць ідэальныя існасьці, так званыя формы альбо об'ектыўныя ідэі. Ад гэтых ідэй душа наша набыла да свайго прыходу ў земны сьвет цэлы рад ідэй, якія яна прыпамінае, дастасоўваючы іх да зьяў практыкі. Зразумела, гэта форма, гэта ідэя, адбіткам якое зьяўляецца ідэя, што знаходзіцца ў нашай душы,—не матэрыяльная, не зямная, не цялесная рэч. Апрача земнага адчувальнага сьвету, Плятон прыходзіць да прызнаньня сьвету ідэальнага, надпачуць-

цёвага, сьвету ідэй. Гэты надпачуцьцёвы сьвет і ёсьць той сьвет, дзе знаходзілася душа да свайго прыходу на зямлю. Там душа набыла ідэі, там формаваўся розум і потым, у сьвеце пачуцьцёвым, гэтай душы застаецца толькі аднавіць набытае ў сьвеце ідэй.

Якія ўзаемаадносіны паміж гэтымі двума сьветамі? Плятон лічыць што сапраўдная рэальнасьць уласьціва ня гэтаму пачуцьцёваму сьвету, а сьвету іншаму, тамстароньняму, ідэальнаму.

Як-жа ён гэта ўгрунтоўвае?

У сьвеце пачуцьцёвым усё пераходна, усё зьменліва, нішто не зьяўляецца сталым, нішто не зьяўляецца ўстойлівым, ідэі-ж вечныя. Сьвет ідэй вечны і нязьменны. Зямныя людзі прыходзяць і ўходзяць, а ідэя чалавека не перастае існаваць, непарушная гэтымі зьменамі. Ідэя чалавека—штосьці адменнае ад паасобных людзей, гэта не перастае заставацца нязьменным, вечным, у той час як паасобныя выяўленьні гэтай ідэі пераходны і зьменны.

Што зьяўляецца больш рэальным, што зьяўляецца больш ісьцінным, ці тое дабро, якое мы бачым у пачуцьцёвым сьвеце, ці чыстая ідэя дабра? Зразумела, адказвае ён, выяўленьні дабра, якія мы сустракаем у практыкавальным сьвеце,—толькі вартыя жалю, бледныя цені ідэі дабра. Таксама і хараство. Нашы зямныя выяўленьні хараства—толькі бледныя цені таго, што зьмяшчаецца ў ідэі ісьціннага хараства. Такім чынам, Плятон лічыць пачуцьцёвы сьвет, сьвет практыкі, сьветам часовых пераходных рэчаў, сьвет ідэй—сьветам вечнага і нязьменнага быцьця, сьветам ісьціннай рэальнасьці. Зьявы пачуцьцёвага сьвету толькі другарадныя выяўленьні, туманныя цені, вартыя жалю, копіі ідэй. Рэчы зямныя другарадныя, вытворныя, яны—копіі сьвету поўнай дасканаласьці, сьвету абсолютнай рэальнасьці, сьвету ідэй. Ён опэруе пры гэтым, галоўным чынам, паняцьцямі этычнымі і матэматычнымі. Ідэя кругу зьмяшчае нясумненна больш рэальнасьці, чым кожны паасобны круг. Дзеля таго, што кожны рэальны круг—ня зусім круг, ён недасканалы, ён зьяўляецца недасканалым увасабленьнем ідэі кругу. Душа чалавека, як мы ўжо бачылі, зьмяшчае ў сабе вобразы ідэальнага сьвету. Яна ня толькі бясьсьмертная, але і існавала да свайго прыходу ў пачуцьцёвы сьвет, душа раней існавала ў сьвеце ідэй, там яна набыла свае веды, потым, у сьвеце пачуцьцёвым, шляхам успамінаў уваскрошвае гэтыя веды і, урэшце ўсяго, пасьля свайго вандраваньня па сьвеце, яна варочаецца ў сьвет ісьціннай рэальнасьці, у сьвет ідэй. У адпаведнасьці з гэтымі прамежнымі станавішчамі душы ён дзеліць яе на рад складаных частак: элемэнты, якім уласьціва ісьцінная рэальнасьць, якія зьяўляюцца элемэнтамі ідэальнага сьвету, і тыя часткі душы, якія зьяўляюцца недасканалымі элемэнтамі пачуцьцёвага сьвету.

Такія некаторыя элемэнтарныя паняцьці, што характарызуюць гэта пабудаваньне. Гэта пабудаваньне, папершае, абсолютна ідэалістычнае:

сьвет, які мы лічым рэальным сьветам, зводзіцца да ступені чагосьці вытворнага, да ступені копіі другога сьвету, сьвету ідэальнага, якому прыпісваецца сапраўдная рэальнасьць. Падругое, гэта разьвязаньне пытаньня зьяўляецца ідэалізмам не суб'ектыўнага, а другога, об'ектыўнага тыпу, тут выходным, первястковым, зьяўляюцца не мае адчуваньні, і яны зьяўляюцца другараднымі. Яны зьяўляюцца вытворам, адлюстраваньнем об'ектыўна-існуючых ідэальных форм, дзесьці па той бок пачуцьцёвага сьвету.

Для таго, каб ясьней быў тып об'ектыўна-ідэалістычнага пабудаваньня, каб адцягнуць ад індывідуальных асаблівасьцяй філёзофа і сконцэнтравацца на тым, што ёсьць агульнага ў пабудаваньнях гэтага роду, прывядзем яшчэ адзін прыклад об'ектыўнага ідэалізму. Для гэтага зробім вялізарны скок—больш як на дзьве тысячы год ад Плятона—да філёзофскага пабудаваньня, якое даў найвялікшы ідэалістычны філёгоф мінулага сталецьця—Гэгель. Паводле Гэгеля, сусьвет ёсьць нішто іншае, як самаразьвіцьцё абсолютнага духу. Усё, што ні адбываецца ў сьвеце, усе процэсы, якія маюць месца, нішто іншае, як жыцьцё, выяўленьні абсолютнага духу, ці сусьветнага розуму. Гісторыя сьвету—сусьветная лёгіка. Сусьветны розум самаразьвіваецца паводле ўласьцівых яму лёгічных законаў, і ўсё, што творыцца ў сьвеце, уяўляе сабою розныя этапы, розныя ступені ў разьвіцьці гэтага сусьветнага розуму. Гэты сусьветны розум, абсолютная ідэя зусім не залежыць ад нашага пазнаньня, альбо адчуваньня. Таму зусім прымальна з гэтага пункту гледжаньня стадыя існаваньня сусьветнага розуму, калі ня было людзей, ня было ніякіх пазнаючых біолёгічных індывідуумаў. Сьвет, зразумела, не пераставаў пры гэтым існаваць. Узьнікненьне пазнаючых людзей характарызуе асобную і даволі высокую ступень у разьвіцьці сусьветнага духу. Абсолютная ідэя не знаходзіцца дзесьці па-за сьветам; наадварот, сусьвет зьяўляецца ўвасабленьнем, існаваньнем духу.

Што такое матэрыяльны сьвет з гэтага пункту гледжаньня? Нішто іншае, як адно з выяўленьняў усё таго самага сусьветнага розуму, адным з увасабленьняў абсолютнай ідэі. Гэта самае дзівоснае выяўленьне сусьветнага розуму, таму што ў ім сусьветны розумператварае сваю ўласную прыроду ў супроцьлежную, ён прымае форму неразумнай матэрыі. Гэта—адна з рэалізацыі быцьця розуму, па выразу Гэгеля, яго іншабыцьцё, быцьцё ў іншым. Наша сьвядомасьць, наша псыхіка, суб'ект—таксама зьяўляюцца адным з выяўленьняў яго дзейнасьці. Задача філёзофіі з гэтага пункту гледжаньня зводзіцца да таго, каб прасякнуць у лёгіку гэтага духу, каб пазнаць прынцыпы, згодна якім ён разгортваецца. З пункту гледжаньня гэгельянскай філёзофіі? Філёзофія ўяўляе сабою такую ступень у разьвіцьці сусьветнага духу, калі апошні ў асобе мысьлячага філёзофа, які зьяўляецца адным з яго выяўленьняў, пазнае свае ўласныя законы. Сам філёзоф, сам мысьлячы чалавек—ёсьць нішто іншае, як адно з выяўленьняў абсолютнай ідэі. І гэта выяўленьне *пазнае сябе* як частку

абсолютнай ідэі, і цераз пасярэдніцтва суб'ектыўнага розуму стараецца прасякнуць у лёгіку сусьветнага розуму.

Гэгель прыходзіць да *панлёгізму*. Усе навукі рашчыняюцца ў лёгіцы. Зразумець лёгіку абсолютнай ідэі, значыць зразумець законы і прынцыпы разьвіцьця сьвету. Лёгіка зьяўляецца унівэрсальнай навукай, бо сьвет разьвіваецца па законах лёгікі, бо сьвет ёсьць лёгічны процэс.

Ня гледзячы на ўсю вялізарную розьніцу паміж гэтымі двума вучэньнямі, абодва яны маюць шмат агульнага. У Гэгеля, як і ў Плятона, матэрыя зьяўляецца чымсьці другарадным, вытворным. У больш дасканалай форме, на больш высокай ступені філёзофіі, Гэгель дае той-жа *тып* разьвязаньня проблемы, які дае Плятон, значна больш паступова, дасканала, непараўнана дакладней, але тып разьвязаньня застаецца той самы. Гэты тып разьвязаньня і ёсьць об'ектыўны ідэалізм.

Якія характарныя адзнакі об'ектыўнага ідэлізму? Папершае, тое, што гэта вучэньне зьяўляецца моністычным. Тут матэрыя і дух, об'ект і суб'ект, не зьяўляюцца разарванымі і адгароджанымі адзін ад другога кітайскай сьцяной. Наадварот, матэрыяльны сьвет, сьвет пачуцьцёвы, зьяўляецца спараджэньнем, выяўленьнем, копіяй сьвету ідэй. Сьвет матэрыяльны толькі і можа быць зразумелым са сьвету ідэй. Падругое, гэта вучэньне зьяўляецца монізмам ідэалістычным. У адзнаку ад усякага матэрыялізму, тут асноўным элемэнтам зьяўляецца не матэрыя, а дух, матэрыяльны сьвет зьяўляецца вытворным, абумоўленым. Патрэцяе, гэты ідэалізм адрозьніваецца і ад ідэалізму суб'ектыўнага. Хоць і тут і там выходным пунктам зьяўляецца мысьленьне, розум, але там выходным пунктам была чалавечая сьвядомасьць, я, а ў об'ектыўна ідэалістычным пабудаваньні мая сьвядомасьць зьяўляецца другарадным. Згодна Плятону, душа зьяўляецца другарадным у адносінах да сьвету ідэй, дзе яна атрымлівае свой зьмест. У Гэгеля такія-ж суадносіны паміж сусьветным і індывідуальным розумам. Выходны ідэалістычны момант—мысьленьне—разумеецца ня як індывідуальнае мысьленьне, а як мысьленьне транс-індывідуальнае, якое існуе ня толькі ўва мне, але і па-за мною, разумным суб'ектам становіцца ўвесь сусьвет.

Такія адметныя адзнакі гэтага філёзофскага тыпу.

У чым асноўныя недахопы такога роду разьвязаньня проблемы быцьця і мысьленьня? Адразу кідаецца ў вочы і пралівае яскравае сьвятло на разгляданае вучэньне—крэўнасьць падабенства, ідэйная блізкасьць об'ектыўнага ідэалізму з рэлігійнымі пабудовамі. У чалавека, які першы раз знаёміцца з гэтымі вучэньнямі, адразу зьяўляецца думка аб тым, што сусьветны розум вельмі падобны на господа бога, зразумела, не на господа бога з барадою, які сядзіць на троне, акружаны сваякамі і служкамі, а на ўтончанага, вельмі ідэальнага, вельмі дэматэрыялізаванага господа бога. Пры больш уважлівым вывучэньні гэтае пераконаньне толькі ўзмацняецца. Об'ектыўны ідэалізм зьяўляецца ні-

чым іншым, як навуковавобразным багаслоўем, у вышэйшай ступені ўдасканаленым багаслоўем. Замест наіўнага прымітыўнага старога бога прыходзіць вельмі абстрактнае, высока філёзофскае паняцьце, „абсолютная ідэя“, „сусьветны розум“, ці яшчэ што-небудзь у гэтым родзе. Такая крэўнасьць ня толькі павінна нас настроіць вельмі падазрона ў адносінах да гэтага вучэньня, але і прымусіць нас да крытыкі об‘ектыўнага ідэалізму тым-жа самым мэтодам, якім крытыкуюць догматычныя рэлігійныя погляды.

Другі момант, які кідаецца ў вочы пры разглядзе об‘ектыўна-ідэалістычнага пабудаваньня, гэта тое, што тут развіцьцё сьвету, развіцьцё прыроды, у адзнаку ад навуковых поглядаў, зьяўляецца тэлеолёгічным. Сьвет разьвіваецца ня „сьлепа“ паводле ўласьцівых яму законаў, якія вывучаюцца прыродазнаўствам, разьвіцьцё гэта аснована не на прычыннай канечнасьці, а разьвіцьцё разумнае, лёгічнае, кудысьці накіраванае, мэтаімкнёнае.

Уся карціна сьвету набывае пры такім разуменьні зусім іншы водцень—тэлеолёгічны. Гэта адразу мяняе ўсе патрабаваньні ў адносінах да навукі, мяняе пастаноўку пытаньняў. Для таго, каб зразумець тую ці іншую зьяву, мала прасякнуць у яе прычыны, трэба зразумець яе сэнс, як зьявы мэтавае, як зьявы разумнае.

Чалавеку вядомы толькі адзін род сьвядомасьці, толькі аднаго роду дух, гэта той, які ён назірае ў самім сабе, суб‘ектыўную лёгічную сьвядомасьць, і суб‘ектыўны розум. Дапушчэньне сусьветнага розуму, сусьветнага суб‘екту, зьяўляецца нічым іншым, як ачалавечваньнем прыроды: Гэта карэніцца ва ўласьцівай прымітыўнаму чалавеку рысе, антропоморфізьме, усё разумець па вобразу і падабенству свайму. Мы прыпісваем прыродзе рысы, уласьцівыя нам—чалавеку, надаем ёй розум, мысьленьне. Такое пераконаньне мае вельмі даўныя паходзіны.

Задоўга да ўсякае навукі першабытнаму дзікуну ўласьцівы былі так званыя анімістычныя погляды. Анімізм—прымітыўная вера дзікуна ў тое, што ўсе рэчы маюць душу і волю таксама, як і сам чалавек. Душа, якую мае сонца, прымушае яго падымацца і спускацца на небасхіле, душа ручая прымушае яго несьці свае воды. Такі наіўны антропоморфічны анімізм зьяўляецца самай элемэнтарнай формай ідэалізму. Тое, што зьяўляецца асаблівай уласьцівасьцю ў пэўным чынам організаванай істоце, што зьяўляецца продуктам мазгоў, прыпісваецца і такім зьявам, дзе для гэтага няма ніякіх прадпасылак. Сьвету прыпісваюцца ўласьцівасьці самога чалавека. Мір набывае сьвядомы, разумны, ідэалістычны характар. Прыпісваць гэтыя ўласьцівасьці сьвету—сусьвету—значыць проэцыраваць, выносіць на двор тое, што зьяўляецца маёю ўнутраною ўласьцівасьцю, прыпісваць об‘ектыўнае незалежнае існаваньне таму, што існуе толькі об‘ектыўна, як функцыя нэрвовай сыстэмы. Об‘ектыўны ідэалізм ёсьць нішто іншае, як проекцыя, матэрыялізацыя сьвядомасьці.

Об'ектыўны ідэалізм пераварочвае сапраўдныя адносіны ўверх нагамі. Калі мы будзем аналізаваць разуменьне „ідэальная форма", нятрудна пераканацца ў тым, што справа маецца якраз адваротна таму, што сьцьвярджае ідэалізм. Ідэя зьяўляецца нічым іншым, як продуктам, бледным ценем конкрэтных, рэальных рэчаў. Сапраўды, чыстае дабро, чыстае хараство, ідэальны круг альбо трыкутнік, зьяўляюцца нічым іншым, як агульным разуменьнем, якое ўтвараецца шляхам абагульненьня абстракцыі з безьлічы паасобных конкрэтных трыкутнікаў. Чыстага трыкутніка ў рэальнасьці няма, а ёсьць толькі простакутны, роўнабочны і г. д. У прыродзе існуюць толькі паасобныя конкрэтныя недасканалыя трыкутнікі. Ідэя чыстага трыкутніка нішто іншае, як продукт *нашага* розуму, створаны з уяўленьня конкрэтных трыкутнікаў. Тое, што гэта разуменьне зьяўляецца бледным ценем сапраўднай рэчы, вынікае ўжо з таго, што пры стварэньні агульнай ідэі мы адкідаем вельмі многа ўласьцівасьцяй гэтых рэчаў, з усёй шматграннасьці, з усёй прыгожасьці, шматфарбнасьці прадметаў, мы адбіраем толькі адзін які-небудзь бок для таго, каб стварыць агульнае разуменьне. Вось чаму ідэя бледная, схэматычная, ня ўключае ўсяго багацьця конкрэтнасьці, а рэальная рэч шматкалярова, поўна, уяўляе сабою сапраўднае быцьцё. Об'ектыўны ідэалісты гэта другараднае, вытворнае, бясколернае, ня лічыць вынікам, другарадным продуктам перапрацоўкі, ен пераварочвае адносіны на галаву, лічыць ідэю першараднай і выходнай—у адносінах да конкрэтных рэчаў. Тое, што стварылася ў нашым розуме ў выніку доўгай процэдуры абстракцыі, доўгага разьвіцьця, адрываецца ад свае крыніцы, паказваецца як першарэальнае. Для аднаўленьня сапраўдных суадносін рэчаў, вольных ад об'ектыўнага ідэалістычнага скажэньня, трэба прарабіць адваротную процэдуру, выявіць, выкрыць прыроду ідэй.

Об'ектыўна ідэалістычнае пабудаваньне зручна для яго прыхільнікаў тым, што яно прадстаўляе шырокі прастор для самых рознастайных адвольных пабудоў. Об'ектыўны ідэалізм зьяўляецца вучэньнем у вышэйшай ступені догматычным, прычым тут догматызм ня яўны, як у рэлігійных вучэньнях, а прыкрыты, замаскаваны безьліччу слоўных азначэньняў і хітрыкаў. Магчымасьць об'ектыўнага ідэалізму спасылацца на дзейнасьць розуму, на дзейнасьць абсолютнага духу, які ніякай дакладнай праверцы не паддаецца, дае самае шырокае свавольства для конструкцыі фантазіі. Спасылкаю на асаблівыя рысы сусьветнага розуму, на сваявобразнасьць яго лёгікі, можна вытлумачыць усё, што хочаш. Вось чаму труднасьці якія спатыкае навука пры дачыненьні з рознымі зьявамі, параўнальна лёгка „тлумачыцца" об'ектыўнымі ідэалістымі. Гэтыя тлумачэньні, зразумела, ніколькі не даюць нам магчымасьці больш глыбока прасякнуць у сутнасьць справы; яны, наадварот, зьяўляюцца тормазам для вывучэньня пытаньня, дзеля таго што замест прогрэсыўнае сьвядомасьці нашага неразуменьня заспакойваюць словамі аб шляхох сусьветнага розуму.

Раней чым перайсьці да далейшага выкладаньня, спынімся ў некалькіх словах на агульнай ацэнцы ўсякага ідэалізму. Агульная абодвым яго відам рыса—первястковасьць творчага розуму, вялікая рэальнасьць духу і яго первястковасьць у стасунку да мёртвай матэрыі. Якая тая грамадзкая глеба, на якой вырастае філёзофскі ідэалізм, што жывіць яго карані, і якая яго гістарычная роля? Такія погляды ўзьнікалі альбо на вельмі нізкай ступені разьвіцьця навукі, на вельмі нізкай ступені культурнага разьвіцьця, або—калі гутарка ідзе аб высокай ступені культурнага разьвіцьця,—яны ўзьнікалі на глебе своеасаблівых адносін пэўнай групы людзей да сьвету.

Вазьмеце суб'ектыўны ідэалізм: гэта ідэолёгія, якая сьцьвярджае, што ўвесь сьвет зьяўляецца злучнасьцю маіх адчуваньняў, што маім мысьленьнем творыцца сьвет,—гэта ідэолёгія якіх людзей? Людзей, якія з гэтым сьветам, з сапраўдным сьветам, знадворным сьветам мала стыкаюцца ў практычнай дзейнасьці, якія адносяцца да яго пасыўна, наглядальна; для чалавека, існаваньне якога адбываецца ў непарыўным змаганьні з гэтым знадворным сьветам, для таго, чыё ўсё жыцьцё ёсьць перамога гэтага знадворнага сьвету, які адчувае, што знадворны сьвет не яго стварэньне, а тое, што трэба перамагчы,—такая ідэолёгія немагчыма. Ідэолёгія суб'ектыўна-ідэалістычнага парадку можа ўзьнікнуць у асоб, якім неўласьціва практычная дзейнасьць, для якіх змаганьне з знадворным сьветам не зьяўляецца азначальным момантам сьветапогляду. Гэта ідэолёгія людзей, якія наглядаюць, якія ўспрымаюць, а ня дзейнічаюць. Але досыць зрушыцца з наглядальнага пункту гледжаньня, як практычная дзейнасьць у прах, у дым расьсейвае ўсе суб'ектыўна-ідэалістычныя ілюзіі. Ідэолёгія, якая ператварае ўвесь сьвет у прадмет адчуваньня, ёсьць ідэолёгія бязьдзейнага назіраньня.

Якая тая соцыяльная катэгорыя, для якое характарны такія адносіны да сьвету? Такою катэгорыяй зьяўляюцца паразытычныя клясы. Тут можа зарадзіцца такая ідэолёгія. Яшчэ ў большай меры гэта адносіцца да профэсыянальных ідэолёгаў гэтых кляс. Калі пануючая чужаедная кляса ў сілу сваёй соцыяльнай прыроды знаходзіцца ў пасыўных спажывецкіх адносінах да сьвету, то ідэолёгі яе падвойна знаходзяцца ў такіх адносінах. Філёзофы, мысьліцелі, для якіх усякая дзейнасьць зводзіцца толькі да мысьленьня, для якіх уся творчасьць увасабляецца ў разумную творчасьць, да пашырэньня, перапрацоўкі і прывядзеньня да парадку практыкі, ствараецца натуральная прадпасылка для таго, каб рэальныя адносіны паставіць на галаву.

Ідэалізм з яго зьневажаньнем ролі пачуцьцёвага матэрыяльнага сьвету характарызуе ідэолёгію, якая ня можа быць уласьцівай працоўнай практычнай дзейнасьці. Гэта ідэолёгія выконвае разам з тым і пэўнае клясавае прызначэньне. Яна выконвае тую-ж задачу, якую на больш нізкіх ступенях разьвіцьця выконвала рэлігія, яна мае сваёй мэтаю выха-

ваньне прыгнечаных кляс у духу прымірэньня з бядотамі матэрыяльнага сьвету ў імя сьвету сапраўднай рэальнасьці, у духу падлегласьці фізычнае працы кіраўніцтву прадстаўнікоў розуму „адукаваных“, „асьветленых“ кляс. Толькі тэй клясе няма патрэбы ў ідэалістычным скажэньні сьветапогляду, які не баіцца праўды аб сьвеце і яго законах, які сьмела глядзіць у будучыню, не баючыся яе, для якога сьвет—об'ект дзейнасьці, цяжкага і ўпартага змаганьня, якому няма для чаго і няма ад каго хаваць ісьціну, які хоча, абапіраючыся на свае веды сьвету, перарабіць яго.

*(Працяг будзе)*

# „ЗАПАДНО-РУССКАЯ“ ШКОЛА І ЯЕ ПРАДСТАЎНІКІ*)

Аляксандар Цьвікевіч

## V. Погляды і дзейнасьць М. О. Каяловіча

У гісторыі „западно-руссизма“, як асобнай гістарычна-політычнай школы, Міхайлу Каяловічу належыць, бясспрэчна, першае месца. Хоць і раней, да яго, на працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў сыстэма русыфікацыі Беларусі праводзілася цьвёрда і акрэсьлена, хоць і да яго працаваў на гэтай ніве гэткі выдатны, „благородный“ русыфікатар, як Іосіф Семашка, аднак, толькі пачынаючы з Каяловіча, мы можам гаварыць аб „западно-руссизме“, як аб пэўнай ідэолёгічнай цэльнасьці. Толькі дзякуючы Каяловічу школа „западно-руссов“ атрымала сваё канчатковае ідэолёгічнае аформленьне, сваю грунтоўную гістарычна-філёзофічную ўстаноўку. Да яго ўсе спробы навуковага аб'яднаньня Беларусі з Расіяй насілі выпадковы і павярхоўны характар, зьяўляліся больш адміністрацыйным мерапрыемствам, чым глыбока прадуманай і ўсебакова ўзважанай сыстэматычнай культурнай чыннасьцю.

Каяловіч паставіў „западно-руссизм“, як адну з важнейшых проблем ня толькі беларускага, але і наогул расійскага жыцьця і прылажыў свае сілы, каб яе канчаткова вырашыць і апраўдаць. Апраўдаць і перад гісторыяй, і перад народам, і перад сваім уласным „западно-русским“ сумленьнем.

Куды ідуць гістарычныя шляхі Беларусі—на усход, ці захад? З кім яна павінна вязаць свой лёс—з Расіяй, ці з Польшчай? Чаму, дзеля якіх прычын Беларусь павінна адыйсьці да „славянскага“ цэнтру Расіі, а не да „лацінскай“ Польшчы, і як пры гэтай умове павінна выглядаць Беларусь, як пэўная этнографічная асаблівасьць?

Вось кола пытаньняў, якія паставіў перад сабою Каяловіч і якім прысьвяціў, па ўласным прызнаньні, усё сваё жыцьцё. Адказы яго на гэтыя пытаньні заключалі ў сабе і чыста абстрактныя моманты, як, прыкладам, разуменьне нацыі і нацыянальнага адраджэньня, і чыста практычныя меркаваньні,—як, якім шляхам і пры якіх умовах лягчэй за ўсё Беларусі пазбыцца сваёй асобнасьці ў імпэрыі і зьліцца з Расіяй у адно нацыянальнае цэлае.

---

*) Гл. „Полымя“ № 3.

Пасьля Каяловіча „западно-русской“ школе не заставалася сказаць большага: усё патрэбнае яна магла знайсьці на старонках яго шматлікіх навуковых і публіцыстычных прац, а таксама ў яго перапісцы з бліжэйшымі супрацоўнікамі. Пасьля Каяловіча аб гэтай школе можна ўжо разважаць зусім упэўнена, тым больш, што ў канцы XIX ст. яна акрэсьлена проціставіць сябе адраджэнчай беларускай плыні, а барацьба паміж абодвума сьветапаглядамі—нацыянальна-беларускім і „западно-русским“—усё больш і больш разьвінаецца.

Ці здолеў Каяловіч вырашыць да канца сваю „западно-русскую“ проблему? Ці да канца ён быў упэўнены ў правільнасьці занятай ім позыцыі?

На гэтае пытаньне трудна, зразумела, адказаць акрэсьлена. Канечна, упэўненасьць у правільным вырашэньні гістарычнага шляху Беларусі ён меў. Але таксама, на наш пагляд, меў ён і пэўную долю крытычнага разважаньня, якая выражалася ў разуменьні небясьпекі, якую нясе з сабой беларускі нацыянальны сэпаратызм, разуменьне таго, што гэты сэпаратызм мае пад сабой патрэбную глебу, патрэбныя сілы і адпаведнае тэорытычнае апраўданьне. Каяловіч разумеў, што ягонымі развагамі над „Западной Русью“ яшчэ ня вырашана канчаткова справа яе адраджэньня, што *ня толькі* ў еднасьці з Расіяй, як і *ня толькі* ў еднасьці з Польшчай ляжыць яе гістарычны лёс. Ён бачыў, што перад Беларусьсю можа ляжаць яшчэ і трэці шлях,—шлях беларускай асобнасьці як ад аднэй, так і ад другой стараны і ўтварэньня з Беларусі нейкага самастойнага цэлага, якое зойме сярод славянскіх нацый самастойнае месца. Перад яго вачыма была гэткая магчымасьць, і ён яе баяўся.

Разам з гэтым, відаць, сьвядомасьць самастойнай, асобнай природы Беларусі перашкаджала яму заняць крайнюю позыцыю ворага этнографічных асаблівасьцяй Беларусі, прымушала яго апраўдваць гэтыя асаблівасьці, якія ён, бязумоўна, любіў; гэтая-ж самая сьвядомасьць выклікала ў ім скептычны стасунак да офіцыйнай вялікарускай дзяржаўнасьці, якую ён па сваёй тэрміналёгіі называў „вялікарускім сэпаратызмам“. Ніжэй мы ўбачым, што ў сваіх славянафільскіх разважаньнях і ў барацьбе проці фэдэрацыйнай тэорыі, ён ня быў пасьлядоўны. У канцовым выніку наконт таго, як-жа быць з мясцовым этнографічным патрыотызмам, ці ганьбіць яго, ці, наадварот, ставіцца да яго з пашанай,—ён заблытаўся. Заблытаўся таксама, як заблытвалася наогул расійскае славянафільства ў прызнаньні правоў усіх славянскіх народаў.

Каяловіч змагаўся проці фэдэрацыйнага прынцыпу, але разам з тым вызнаваў яго рацыю; змагаўся за адзінасьць Расіі разам з „Западной Русью“, але разам з тым высока цаніў гістарычную асаблівасьць Беларусі. Іншымі словамі, ён стаяў у сваіх канчатковых разважаньнях на ўзьмежку таго, што мы называем этнографізмам і нацыяналізмам. Ён

старанна адхрышчваўся ад небясьпекі пераходу першай стадыі ўсьведамленьня ў другую,—баяўся, галоўнае, каб гэты пераход ня быў скарыстаны Польшчай.

„Боязьнь Польшчы“ была самай характарнай адзнакай усіх „западноруссов“ наогул. Адных яна прыводзіла ў лягер рэнегатаў і заңятых русыфікатараў Беларусі, другіх, якія адважваліся глянуць на справу больш спакойна,—набліжала да прызнаньня нацыянальнай ідэі. Да канца ўтрымлівацца на ўзьмежку было даволі трудна, асабліва з таго моманту, калі думка аб культурна-нацыянальным адраджэньні Беларусі пачала што далей, то больш пашырацца ў навуцы і грамадзтве.

Міхайла Осіпавіч Каяловіч паходзіў з Горадзеншчыны. Нарадзіўся ён у 1828 г. ў мяст. Кузьніца, Сакольскага павету і быў сынам незаможнага вуніяцкага сьвяшчэньніка [1]). Як у кожнай вуніяцкай сям'і таго часу, так і ў сям'і Каяловічаў, захаваўся амаль у незакранутым выглядзе стары беларускі быт, беларуская мова, старадаўнія звычаі, успаміны [2]). Разам з тым у яго сям'і выхавалася надзвычайнае, хваравітае заміласаваньне да Расіі, як абаронцы ад гістарычнага польскага ўціску. Гэткія цікаўныя зьявы ў старых беларускіх вуніяцкіх фаміліях былі нярэдкія, але яны пакуль што яшчэ мала дасьледаваны.

„Вам, маскалём, незразумела,“ піша М. Каяловіч да А. С. Суворына [3]), „адкуль у нас, западна-русаў, бярэцца зазноба да Расіі“, і расказвае выпадак са сваёй сямейнай кронікі: „пасьля трэцяга падзелу

---

[1]) Амаль поўная бібліографія крыніц аб жыцьці і творчасьці М. Каяловіча (1828—1891) зьмешчана ў проф. С. А. Венгерава: „Источники словаря русских писателей“, т. III, Карамышев-Ломоносов, Петроград, 1914 г., стар. 240—241. Адпаведныя бібліографічныя праўкі ёсьць у Историографии Иконникова, у слоўнікv Березина, альбоме Семевского, В. Михневич - „Наши знакомые„ Чистович—„История СПБ Академии“, у „Собрании мнений Филарета“, т. IV і інш. М. Каяловіч быў пладавіты гісторык і публіцысты, напісаў і надрукаваў шмат, поўнага падліку яго твораў няма,—самыя галоўныя, якія датычаць нашае тэмы, будуць паказаны ніжэй.

[2]) Аб гэтым сьведчыць між іншым і Іос. Семашка: „Увесь грэкавуніяцкі народ, кажа ён, размаўляе мовай беларускай або маларасійскай,—дзеці вуніяцкага духавенства ў доме сваіх бацькоў і па-за ім амаль выключна чуюць гэту мову,—яны запамінаюць яе ўжо ў польскіх школах“. (Записки І. Семашко, т. I, стар. 572).

[3]) Перапіска М. Каяловіча з А. С. Суворыным, са збору А. С. Суворына, які захоўваецца ў Публічнай Бібліотэцы ў Ленінградзе. Мы выкарысталі для сваёй працы ўсю перапіску правадыра „западно-руссизма“, якая знаходзіцца ў Рукапісным Аддзеле Публічнай Бібліотэкі. Тут ёсьць: а) 48 лістоў і запісак яго да І. Корнілова, з якім ён быў у вялікай дружбе, пачынаючы ад 4 кастрычніка 1866 г. да году сьмерці (1891); б) перапіска з А. С. Суворыным (ад 1880 г. да 1891 г.), пераважна па справах „Нового Времени“, рэдактарам якога быў А. Суворын і ў якім супрацоўнічаў М. К-ч; в) лісты да В. Грыгор'ева (са збору Памялоўскага) і інш На жаль, увесь багаты архіў самога М. Каяловіча пад час рэволюцыі загінуў: удава М. М. Каяловіча (сына М. О.) магла паказаць нам толькі некаторыя асабістыя лісты М. О. да яго жонкі, у якіх знаходзяцца нязначныя даныя для характарыстыкі эпохі і „западно-руссизма“. Рэшта архіву, багатая перапіска М. К-ча з рознымі асобамі ды інш., па словах удавы,—„пашла ў печ“.

Польшчы, мой бацька, тагды ўжо сарака-трох год, апынуўся заграніцай Расіі, у прускай дзяржаве [1]). Яго маці, а мая бабка, абурылася, што сям'я засталася ня толькі ў Польшчы, але і пад уладай немцаў і, ня гледзячы на забарону перасяляцца ў Расію асобам мужчынскага полу, ноччу, у куфры з прасьвідраванымі дзіркамі, контрабандным шляхам перавезла майго бацьку праз Нёман і ўрачыста выпусьціла на рускую зямлю".

„Па ўсёй заходняй краіне так званых літоўскіх губэрняў,—тлумачыць Каяловіч „маскалём",—з даўных-давён адбывалася і адбываецца нязломная народная барацьба, на якую не маглі і ня могуць мець уплыву ніякія вонкавыя здарэньні. Там адбывалася і адбываецца няўнікная ў кожны момант народная барацьба тутэйшага беларускага элемэнту з прышлым элемэнтам польскім. Гэтыя элемэнты заўсёды там змагаюцца і вырашаюць гістарычныя свае правы, змагаюцца і вырашаюць барацьбу часьцей за ўсё глуха, але ва ўсіх сфэрах жыцьця і на ўсім прасторы гэтае зямлі, у дамох, на камяністых палетках, у трушчобах лясоў, на купінах балот... Я нарадзіўся ў аднэй з гэтых мясцовасьцяй, мне знаёма гэтая барацьба"... [2]).

Міхайла Каяловіч прысьвяціў сябе гэтай-жа самай барацьбе,—на карысьць, як ён думаў, „тутэйшага Беларускага народу", проці „прышлага польскага элемэнту".

Першую асьвету М. Каяловіч прайшоў у супрасьльскай школцы, аднэй з тых школ, дзе моцна яшчэ была сувязь з славутымі Кляшчэлямі,—асяродкам асьветнай дзейнасьці беларускага гуртка віленскага унівэрсытэту [3]). Тут-жа, побач з беларушчынай, дзякуючы спакусам Масквы, выраслі сярод вуніятаў перавертні, галоўным з якіх зьявіўся вядомы Іосіф Семашка (бацька М. Каяловіча быў адным курсам маладзейшы за Семашку па віленскай галоўнай сэмінарыі). Зрабіўшы стаўку на Расію і маскоўскае праваслаўе, вуніяцкія рэнегаты ўсю гастрыню свае барацьбы на карысьць новага саюзьніка зьвярнулі проці Польшчы. У барацьбе проці ўсяго польскага, а галоўнае, проці польскага лацінства, яны ўбачылі сваё новае прызначэньне і аддаліся яму з сапраўднай ахвярнасьцю.

У атмосфэры барацьбы гэтых двох станаў—старавуніяцкага, які трымаўся карэньняў беларушчыны, шанаваў яе і пагаджаў яе з польскай культурай,—і новага, які бачыў сваю будучыню ў сувязі з усемагутнай Масквой і Пецярбургам, прайшла моладасьць Міхайлы Каяловіча. У атмосфэры гэтае барацьбы ён вучыўся ў мурох віленскай сэмінарыі, а по-

[1]) Па трэцяму разьдзелу Польшчы да Прусіі часова адышло Беластоцкае ваяводзтва, у тым ліку заходняя частка Горадзеншчыны. Па Венскаму Конгрэсу 1815 г. ўсе гэтыя тэрыторыі адышлі да Расіі.

[2]) „Народное движение в западной России", гл. „Русский Инвалид". 1863 г. № 91.

[3]) П. Баброўскі—„Русская греко-униатская школа в царствование имп. Александра I". 1890. Стар. 333.

тым у пецярбурскай духоўнай акадэміі. Пасьля сканчэньня акадэміі, ён некаторы час быў настаўнікам у рыскай і пецярбурскай сэмінарыі, а потым з 1859 г. да канца жыцьця займаў катэдру гісторыі ў самой пецярбурскай акадэміі.

Ня толькі на першых кроках свайго жыцьця,—у школе і сэмінарыі,—але нават і ў акадэміі, Каяловіч адчувае сваю сувязь з краем. Моладасьць Каяловіча і выступленьне на навуковую арэну прыпалі на 50-я гады,—час, калі ў Вільні і па ўсёй Беларусі з надзвычайнай шпаркасьцю пашыралася польская асьвета і культура. Разам з ёю, асабліва ў сувязі з вызваленьнем сялянства ад прыгоннай залежнасьці, якое набліжалася, і агульным грамадзкім уздымам у Расіі пасьля Крымскае вайны, паволі вырастала і ідэя беларушчыны. У Вільні ў гэтыя часы злажылася акрэсьленая група мясцовых патрыотаў, якія, хоць і лічылі сябе палякамі, былі польскай культуры і бачылі будучыню краю ў сувязі з адраджонай Польшчай, але нацыянальна ці, лепш сказаць, этнографічна адрозьнівалі сябе і ад Варшавы і ад усяго карэнна-польскага. Гэта былі пераважна гадаванцы старога Віленскага унівэрсытэту, блізкія па настроях і думках да яго беларускай профэсуры—Ігната Даніловіча, Міхайлы Баброўскага, Язэпа Ярашэвіча і г. д., людзі, якія жывілі ўспаміны аб Літоўскім княстве, аб гістарычнай асобнасьці краю, якія былі цесна зьвязаны з вуніяй і са ўсёй тэй беларускай стыхіяй, якая ў ёй захоўвалася праз вякі.

Уласнага найменьня, свайго сапр ўднага імя гэтая група яшчэ не знайшла—то яна называла сябе „сарматамі“, то „крывічамі“, па прыкладу Чачота, то часьцей за ўсё—„літвінамі“, г. зн. тэрмінам, пад якім на працягу ўсяго XIX ст. захоўвалася паняцьце беларуса і наогул „тутэйшага“ чалавека*).

Гуртавалася яна навокал рэдакцыі „Кур'ера Віленскага“, а на чале яе стаяў энэргічны і таленавіты Адам Кіркор. Тут былі Сыракомля, Вярыга-Дарэўскі, Адынец (які, між іншым, добра размаўляў палітоўску), Маліноўскі, адзін з самых выдатных супрацоўнікаў рэдакцыі, браты Ходзькі, вядомы пісьменьнік Крашэўскі і г. д.

Каяловіч таксама спачатку не ўсьведамляе сабе, хто ён па нацыянальнасьці і лёгка зжываецца з тэрмінам „літвіна“. Так называў сябе яго хросны бацька—Язэп Ярашэвіч, аўтар славутае працы „Obraz Litwy“, также па традыцыі называе сябе і Каяловіч.

---

*) Тагачасныя віленцы, як і ранейшыя дасьледчыкі, акрэсьлена адрозьнівалі „літвіна“ ў чужаслове, ад сапраўднага літоўца, якога называлі найменьнем жмудзіна. Ігн. Даніловіч („О литовских летописях“, Журн. Мин. Нар. Просв. 1840, декабрь) гаворыць аб Нарбуце, што ён быў „патрыот туземнага ня-рускага (літоўскага) дыялекту, пісанага готыцкімі рунамі“. Нарбут, як вядома, ласьне і цікавіўся жмудзкай старыной. ня, літоўскай, г. зн. беларускай, дакуманты якой пісаны былі кірыліцай, а ня готыкай.

Пасьля сканчэньня акадэміі ён піша ў лісьце да аднаго з сваіх крэўных—Яраслава Анацэвіча [1]): „вам, напэўна, вядома, што студэнты акадэміі на чацьвертым курсе пішуць курсавыя працы на навуковую ступень. Я працаваў над гісторыяй вуніі ў Літве, бо гэтая тэма была здаўна роднай і блізкай майму сэрцу, як *„літвіна“* [2]).

Навуковая праца была для Каяловіча найбольш пажаданай; ён рашыў аддацца ёй незалежна ад таго, ці прынясе яна яму матэрыяльныя выгоды, ці не: „Жыцьцё ў навуцы,—пісаў ён у тым-жа лісьце,—незалежна ад якіх-бы то ні было абставін, уяўлялася мне ў самых вясёлкавых колерах і ў ёй тоіліся ўсе мае імкненьні“.

Аб тым, што Каяловіч быў блізкі да віленскіх „літвіноў“ і ставіўся да іх з прыхільнасьцю, сьведчыць яго апінія аб некаторых профэсарох. Ярашэвіч, па яго словах, ёсьць „аўтар найлепшага досьледу аб Літве, які выявіў у ім зусім самастойныя погляды на сваю родную старану, чалавек трывалы ў мысьлях сваіх і пачуцьцях“, Нарбут—„дыхае бясхітрасным каханьнем да бацькаўшчыны“. З гэткай-жа пашанай ставіцца ён і да Ігната Даніловіча і да Маліноўскага, якія былі, паводле яго перakонаньня, „людзьмі вартымі ўдзячнай памяці патомкаў“ [3]). І што асабліва характарна для Каяловіча, ён называе гэтых вучоных на свой капыл *„заходня-рускімі пісьменьнікамі, якія пісалі папольску“*(!). Відаць, што і для яго, зацятага „западно-русса“, ідэолёга „Вялікай Расіі“ і ў канцовым выніку найбольш пасьлядоўнага русыфікатара Беларусі, былі гэткія моманты ў гісторыі Беларусі і ў агульнай суме краёвых інтарэсаў, якія не дазвалялі яму заняць варожую позыцыю да тых людзей, якія хоць-бы і ў польскай мове, але служылі бацькаўшчыне ўсімі сваімі сіламі. Відаць, ідэалы Даніловіча і Ярашэвіча, г. зн. ідэалы культурнай самастойнасьці Беларусі, незалежнасьці яе ў культурна-гістарычным процэсе ад Масквы

[1]) Памянёны Я. Анацэвіч быў, здаецца, сынам таго слаўнага гісторыка і профэсара віленскага унівэрсытэту Ігната Анацэвіча (ён-жа—Жэгота Онацэвіч), які ўваходзіў і склад беларускага гуртка і быў блізкі да Даніловіча, Баброўскага ды інш. Даніловіч ставіўся да яго з вялікай пашанай („вучоны, найбольш дасьведчаны ў літоўскай гісторыі“—Журн. Мин. Нар. Просв. 1840 г., XII), ня гледзячы на тое, што працы яго ня былі надрукаваны. З гэткай-жа павагай ставіўся да яго заўсёды і М. Каяловіч, называючы яго „бядовым старыком, разумным і добрым чалавекам, не адстаўшым, аднак, ад полёнізму“. Лёс Анацэвіча быў гэткі-ж трагічны, як і рэшты яго сяброў: выкінуты з Вільні, ён дажываў свае дні ў адзіноце ў Пецярбургу, дзе працягваў свае досьледы па гісторыі краю. Памёр у 1845 г. ў вялікай нэндзы, прычым бясьсьледна загінулі яго багацейшыя рукапісы і матэрыялы, якія ён зьбіраў праз усё жыцьцё. (Dr. St. Morawski: „Kilka lat młodości mojej w Wilnie—1818—1825; str. 504). Цікавыя матар'ялы аб Анацэвічу знойдзены мной у Архіве б. III Отделения С. Е. В. Канцелярии, што перахоўваецца ў Маскве—гл. Дело № 164 о студентах Виленск. у-та Захе, Тржанковском и пр. 1828—1834 г. г.

[2]) И. Пальмов: „Памяти М. О. Кояловича“. Речь в собрании Славянского Общества 1 декабря 1891 г., стар. 6.

[3]) Гл. М. Каяловіч: „Прежние воззрения польского писателя Крашевского на б. Великое Княжество Литовское, т. е. Западную Россию“. Журнал Мин. Нар. Просв., 1884 г., ч. 225, стар. 88—89.

і Варшавы, імпонавалі і яго „западно-русскому“ сэрцу. Да гэтай тэмы мы яшчэ вернемся пазьней.

Праца Каяловіча аб вуніі: „Литовская церковная уния“ (1859—1862 г. г.), аб якой „ён думаў цэлы год, аб якой марыў у сьне і якая зьяўлялася лепшаю стравою яго розуму“—гэтая праца і энтузіазм, з якім ён за яе прыняўся, былі не выпадковыя. Мы ўжо адзначылі, што ў вуніі захоўвалася стыхія беларушчыны і што інтэлігентныя вуніяцкія сем'і былі носьбітамі ідэі беларускай самабытнасьці. На грунце вуніі, як асаблівай „мужыцкай веры“, беларуская інтэлігенцыя першай паловы XIX в. імкнулася збудаваць будучыню Беларусі,—ці то разам з Польшчай, ці асобна ад яе. На вунію мясцовыя работнікі ласьне і глядзелі, як на мост да захаду,—мост, які іх адначасова адлучаў ад усходняга маскоўска-праваслаўнага сьвету.

Але ў вуніі, як гэта дасканала ведалі тыя-ж самыя работнікі і вучоныя, была схована для Беларусі вялізная, гістарычная небясьпека. Вунія з Польшчай—палітычная ў Любліне і царкоўная ў Берасьці—гэта два цяжэйшыя этапы беларускай гісторыі, пачатак дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага заняпаду радзімы.

Як было пагадзіць гэтыя дзьве процілежнасьці? І ці ня значыла гэта, што, калі перад сучасным грамадзтвам на Беларусі і ў першую чаргу перад беларускім духавенствам, якое было ў той час асноўнай групай інтэлігенцыі краю, будзе яскрава выкрыта гістарычная небясьпека вуніі, ці ня значыць гэта, што гэтае грамадзтва адвернецца ад яе, адвернецца разам з тым ад Польшчы і аберне свой твар і надзеі на ўсход?

Канечна, падобныя мысьлі і настроі павінны былі жыць у сьвядомасьці Каяловіча. Працуючы над гісторыяй вуніі, ён надзвычайна моцна ўгрунтоўваў тое пераконаньне, якое пашыраў Семашка і яго пасьлядоўцы: збавеньне нашага краю ня ў захадзе, а на ўсходзе, не ў саюзе з лацінскай Польшчай, але ў саюзе з адзінавернай Масквой. Лепшай зброі ў барацьбе з процілеглай сабе ідэолёгіяй Каяловіч ня бачыў: кожная старонка з гісторыі вуніі давала яму бліскучыя прыклады сьмерці Беларусі пад панаваньнем Польшчы.

Вось чаму праца над гісторыяй вуніі сталася прадметам усяго яго жыцьця і вытварыла з яго пасьлядоўнага „западно-русса“. Ён бачыў, з якой „неймавернай сілай прыходзілася Семашку паварочваць вуніяцкія розумы і справы „на ўсход“ і, стаўшы ў пачатку свае дзейнасьці разам з Семашкам на ўсходні, праваслаўны шлях, ён зрабіў усё, каб гэты „паварот“, чым толькі можна, палегчыць. „Вывучэньне вуніяцкага пытаньня акрэсьліла агульныя гістарычныя погляды М. Каяловіча“, зазначае адзін з яго біографаў, проф. І. Філевіч *) „і гэта зусім зразумела: у гэтай дзедзіне яскравей за ўсё зазначалася супольнасьць беларускай

*) Литовск. Еп. Ведомости, 1891, № 35.

народнай масы з Расіяй: адзіная вера—магла пакрываць рознасьць нацыянальнасьці і таму лёс вуніі ўяўляўся Каяловічу лёсам усёй заходняй Расіі".

Мы ня будзем разглядаць „Литовской церковной унии" з боку яе навуковай вартасьці. Бязумоўна, па багацьці гістарычнага матэрыялу і распрацоўцы першарадных архіўных крыніц гэтая праца павінна быць прызнана аднэй з лепшых у сваім родзе*). Шэраг трапных гістарычных характарыстык, дэталёвае апісаньне ўсіх інтрыг, якімі карыстаўся Рым пры правядзеньні сваіх плянаў, пералік гвалтаў, якія былі ўжываны польскай цывільнай і царкоўнай уладай дзеля сваіх палітычных і конфэсыянальных мэт і г. д.—усё гэта знайшло тут падрабязны адбітак. Для нас у гэтай працы найбольш цікавы даныя аб іезуіцкай школьнай асьвеце, якія ў свой час, да апошніх прац Харламповіча, былі найбольш багатымі.

На жаль, у сваім досьледзе Каяловіч ня даў, дый па сутнасьці свайго сьветапагляду ня мог даць, тлумачэньня агульна-гістарычных і соцыяльных умоў зьяўленьня вуніі, якія былі прыведзены ў пазьнейшых больш бесстаронных працах. І асабліва шкада, што праца Каяловіча даведзена толькі да канца XVIII ст. і не захапіла найбольш важнага з беларускага пункту погляду моманту—крытычнага становішча вуніі ў першую чвэрць XIX ст. У гэты момант, як ведама, адбылася трагічная для вуніяцтва спроба, кіраваная славутым, беларускім профэсарам-славістым Міх. Баброўскім, абаперціся на Маскву ў барацьбе проці базыльянскага капітулу. Гэта быў момант, калі правадыры вуніі імкнуліся зрабіць яе незалежнай ад каталіцтва і на вуніяцкай рэлігійнай самастойнасьці падняць да жыцьця заняпалую стара-беларускую культуру. Спроба скончылася няўдачай. Мікалай I і Блудоў скарысталі зварот да сябе вуніяцкіх правадыроў у сваіх уласных мэтах і замест дапамогі ў яго імкненьні, сапхнулі яго на рэйкі праваслаўя. У малым маштабе паўтарылася нешта падобнае да гісторыі з Багданам Хмяльніцкім, які ў змаганьні з Польшчай спрабаваў абаперціся на маскоўскага князя і даў апошняму магчымасьць прыбраць Украіну да сваіх рук.

На жаль, паўтараем, Каяловіч не давёў свае працы да гэтага важнейшага моманту і такім чынам ня даў новых матэрыялаў аб апошніх гадзінах вуніі. Толькі значна пазьней, пры канцы 80-х гадоў ён заняўся гэтым пытаньнем, калі выступіў з крытыкай працы П. О. Баброўскага (пляменьніка Міхайлы Баброўскага), напісанай акурат на гэтую тэму. Але, як кожная крытыка, заўвагі Каяловіча абмежаваліся пры гэтым вельмі вузкім колам пытаньняў.

---

*) Сам М. Каяловіч у пазьнейшыя гады быў ня зусім задаволены сваёй працай, бо ня здолеў у ёй выкарыстаць усіх архіваў. „Грамада архіўных спраў аб вуніі, пісаў ён у адным з лістоў да А. Суворына, „вымагае яшчэ гэткага-ж жыцьця, як мае, толькі больш дзейнага, каб быць як сьлед распрацаванай" (Ліст ад 3 траўня 1890 г. ў Рук. Ад. Публ. Бібл., са збору А. С. Суворына).

Надзеі Каяловіча зрабіцца габінэтным вучоным спраўдзіліся ў самай малой ступені. Не пасьпеў ён скончыць сваю „Літоўскую вунію“ і заняць профэсарскую катэдру, як разьвінуліся падзеі польскага паўстаньня і захапілі яго з галавой.

І ня дзіва,—польскае паўстаньне скалыхнула ўсю Эўропу. Аб ім пачалі пісаць ня толькі расійскія, але заходня-эўропэйскія публіцыстыя, і ня толькі публіцыстыя, але і палітыкі, пісьменьнікі, гісторыкі, філёзофы. Уся расійская і эўропэйская прэса, дыплёматыя, урады, усе станы грамадзтва,—усё было занята польскай проблемай і пытаньнем расійска-польскіх адносін. Нават славуты Прудон прысьвяціў гэтаму пытаньню вастрэйшы трактат*). У цэнтры ўвагі стала, зразумела, Беларусь, „заходня расійскі край“, на валаданьне якім заявіла свае правы паўстаўшая Польшча.

Пад уплывам гэтых падзей Каяловіч амаль запомніў аб навуковых досьледах і кінуўся ў практыку „западно-русской“ справы. Ня дрэнны публіцысты, ён бярэ на сябе правадырства ў тагачаснай расійскай прэсе проці польскага паўстаньня, і на старонках пераважна маскоўскіх газэт уздымае штандар „западно-руссизма“ на нячуваную па расійскіх умовах вышыню. Тут, у гэтых публіцыстычных выступленьнях „западно-русская“ ідэолёгія Каяловіча выявілася ў сваёй агрэсыўнай проці-польскай істоце. У пазьнейшых навуковых працах, пераважна ў „Истории русского самосознания“, была дана яе філёзофія.

Як і трэба было спадзявацца, „западно - русская“ пропаведзь Каяловіча пры першых адзнаках паўстаньня адбылася на шпальтах славянафільскага „Дня“ і „Русскаго Инвалида“. І. С. Аксаков, адзін з закладальнікаў славянафільства і рэдактар „Дня“, яшчэ за некалькі год перад тым быў заняты польскім пытаньнем, як адным з труднейшых пытаньняў славянскае палітыкі. У 1861 г. яго бліжэйшы супрацоўнік проф. В. Ламанскі, які ведаў Каяловіча па Пецярбургу, напісаў Аксакаву ў Маскву ліст, у якім раіў запрасіць Каяловіча ў склад супрацоўнікаў іхняга органу.

І. Аксакаў з радасьцю ўхапіўся за гэтую думку, бо дзеля асьвятленьня баёвае польскае справы на старонках „Дня“, яму не хапала дакладнага спэцыяліста-гісторыка. А М. Каяловіч пасьля свае „Літоўскай вуніі“ быў у Пецярбургу ўжо прызнаным спэцыялістым. Запросіны яго мелі апрача таго і палітычны сэнс. „День“, а праз яго ўвесь патрыотычна-славянафільскі лягер Масквы, дзякуючы М. Каяловічу ня толькі ўзбага-

*) Гл. цікавейшы трактат філёзофа: „Si les traites de 1815 ont cessé d'exister?“ Вытрымкі ў маёй працы: „Адраджэньне Беларусі і Польшчы“, стар. 148 і далей; амаль поўны тэкст у перакладзе гл. ў С. Шалковіча, „Сборник“, вып. I, стар. 70—89. Гэты трактат—сапраўдны акт абвінавачаньня польскай шляхты і зямляўласьнікаў, у якім Прудон перасьцерагае Францыю не дапамагаць паўстаньню і рашуча протэстуе проці прэтэнзіі Польшчы ўзнавіць сваю незалежнасьць у граніцах 1772 году.

чаўся першараднай навуковай і публіцыстычнай сілай, але набываў *прадстаўніка* таго самага краю, аб якім ішла спрэчка паміж Расіяй і Польшчай. Рэдакцыя „Дня“ набывала ў ім жывога і самага актыўнага прадстаўніка мясцовага „западно-русского“ грамадзтва, якое ў асобе М. Каяловіча заяўляла аб нянавісьці да Польшчы і аб сымпатыі да Расіі. Голас М. Каяловіча ў польскім пытаньні ня быў таму голасам маскоўскага імпэрыялізму, які папрок палякі і іх прыхільнікі ў Эўропе кідалі па адрасу вернападданых славянафілаў, але гэта быў нібы „голас народу“, нібы апінія самае Беларусі.

Для посьпеху барацьбы і „об'ектыўнасьці“ полемікі гэтая абставіна мела выключна важнае значэньне: у стасунку да славянафільскай Масквы рэнегацтва Каяловіча адыгрывала тую-ж самую ролю, якую, як мы паказалі вышэй[1]), адыгрываў Гаворскі пры Мураўёве.

Тады-ж у лісьце 13 верасьня 1861 г. І. Аксакаў пісаў Каяловічу: „Я вельмі рад пасрэдніцтву Ламанскага, які даў мне прыемную надзею мець вас сваім супрацоўнікам. Я ніяк ня хочу абмяжоўваць вас у выбары прадмету, але жадаю аднак шчыра растлумачыць, якой дапамогі я чакаю ад вас у даную мінуту, ці, лепш, якое цёмнае пытаньне патрабуе калі не вырашэньня, дык асьвятленьня ад вашых ведаў і дараваньняў. Для нас цяпер важнейшае за ўсе пытаньне польскае, і *пытаньне аб граніцах* польскіх. Я ўжо даўно, тры гады назад (у 1858 г.), хацеў падняць гэтае пытаньне з тым, каб ціхамірна разьмежавацца з палякамі, але тады мне гэта не ўдалося. Думаю, што цяпер удасца. Адносіны Літвы і Беларусі да Польшчы могуць быць патрэбным чынам акрэсьлены толькі пры дапамозе гістарычных, статыстычных і этнографічных даных. Расійская, так званая асьвечаная публіка адзначаецца абсолютным невуцтвам ва ўсім, што не надрукавана ў гістарычных падручніках Вэбэра або ў географіі Бальбі і Рыттэра, а значыць ва ўсім, што датычыць гісторыі і географіі Польшчы, Літвы, Белай і Чырвонай Русі. А як мая газэта прысьвечана справе нашае народнае самасьвядомасьці, дык дапамога гэткіх людзей, як вы, для яе вельмі каштоўна. Вы, мажа быць, па чутках, склалі сабе няправільнае паняцьце аб маім патрыотызьме і аб славянафільстве наогул. Запэўняю вас, што мы ўмеем сумяшчаць замілаваньне і веру ў народ русскі са строгім і бесстароньнім судом над старажытнай і сучаснай Русьсю і здольны глядзець у твар ісьціны бяз страху, а таму вам у гэтым сэнсе няма чаго непакоіцца“[2]).

У другім лісьце І. Аксакаў піша: „Для таго, каб даць месца свабоднаму голасу двух-трох людзей, як вы,—варта ўжо выдаваць газэту. Я цалкам і ўсім сэрцам вам спачуваю. Вы ўбачыце, што пад сьцягам сапраўднай (истинной) Масквы, як прадстаўніцы ўсяе Русі, могуць стаць

[1]) Гл. „Полымя“, 1928, № 2.

[2]) Проф. И. Пальмов, op. cit., стар. 24—25.

у брацкім саюзе і Вялікая, і Малая, і Белая, і Чорная, і Чырвоная Русь, і Літва ды інш.“ [1]).

У гэтых лістох характарны абзац, у якім І. Аксакаў, ня ведаючы яшчэ дакладна поглядаў М. Каяловіча на славянафільства, наперад робіць яму нібы ўступку, нібы вызнае правы тых „провінцыяльных інтарэсаў краю“, асаблівасьцямі якога М. Каяловіч ганарыўся. Пазьней, калі рэдактар „Дня“ бліжэй пазнаёміўся з гэтым „літвінам“, яму ня прышлося прасіць прабачэньня і падкрэсьліваць сваё прызнаньне „асаблівасьцяй Літвы“ і яе „ўнутранай самабытнай сілы“. Пазьней яму прышлося толькі падтрымліваць і падштурхваць Каяловіча да сьмелай працы: „Не зьвяртайце ўвагі ні на што, дарагі супрацоўнік! Няхай шыпіць злаба і клевята! Няхай узбройваецца проці вас пецярбурскі псэўда-лібэралізм: так і павінна быць!.. На вас ускіпяць злабой тысячы чалавек, але памятайце, што *вы можаце ажывіць і падняць цэлы край*“ (курсіў мой—*А. Ц.* [2]).

М. Каяловіч з вялікай ахвотай адгукнуўся на запросіны І. Аксакава і пачынаючы з 1861 г. аж да 1865 г. зьмяшчае на шпальтах „Дня“ шмат вялікіх і малых артыкулаў па ўсіх пытаньнях тагачаснага беларускага жыцьця. Першыя артыкулы, надрукаваныя да польскага паўстаньня, былі агульнага большай часткай даведачна-гістарычнага характару—„Люблінская вунія Літвы з Польшчай“, „Аб заходня-беларускіх брацтвах“, „Весткі з Беларусі“ ды інш. Але з першых дзён паўстаньня тон яго артыкулаў карэнна зьмяніўся: гістарычныя спраўкі і нататкі ўступілі месца палітычнай пропагандзе, і са старонак „Дня“, а потым „Русскаго Инвалида“ ды інш. маскоўскіх газэт, у Беларусь панесьліся заклікі да „западноруссов“ з‘арганізавацца і даць адпор падняўшаму зброю полёнізму.

М. Каяловіч зрабіўся сапраўдным, прызнаным абаронцам і вястуном заходня-расійскае справы. На яго зьвярнулі ўвагу, полемічныя выступленьні яго рабілі моцнае ўражаньне як на Беларусі, сярод русафільскіх груп, так асабліва ў абедзьвюх сталіцах.

„Артыкул ваш аб заходня-рускіх справах меў посьпех бліскучы і разам высьветліў для публікі няяснае для яе пытаньне адносін Літвы да Польшчы“... „Артыкул ваш зрабіў у нашым грамадзтве вялікі эфэкт, усе ад яго ў захапленьні“ і г. д., пісаў І. Аксакаў Каяловічу ў Пецярбург. „З нецярплівасьцю чакаем далейшых матэрыялаў“ [3]).

Літаратурная дзейнасьць „западно-русскаго“ публіцыстага прывабіла „Дню“ шырокага чытача, і Аксакаў зайздросна ставіцца за супрацоўніц-

---

[1]) Пальмов, op. cit., стар. 25—26.

[2]) Ibid., стар. 27. Тут-жа, на стар. 17—23 чытач знойдзе пералік публіцыстычных артыкулаў М. Каяловіча, якія ён зьмясьціў у 1858—1891 г. ў розных тагачасных расійскіх часопісях і газэтах („День“, „Гражданин“, „Русский Инвалид“, „Правда“, „Журн. Мин Нар. Просвещ.“ і г. д.).

[3]) И. Пальмов, op. cit., стар. 28.

тва Каяловіча ў іншых выданьнях [1]); ён рэзка гэта яму выгаварвае: „Вашая *рэўнасьць да заходняга краю* (курсіў мой—*А. Ц.*) прымушае вас шоргацца ва ўсе бакі і гэта падкопвае ваш аўторытэт, парушае стромкасьць сыстэмы і шкодна адзавецца на самым краі. Было-б больш карысьці, калі-б агонь вашае батарэі быў сконцэнтраваны ў адным месцы [2]).

Выступленьні Каяловіча па беларускім пытаньні сапраўды былі для тагачаснага маскоўскага і наогул расійскага чытача навіной. Яны прычыніліся нават да таго, што рэдакцыя „Дня", у захапленьні прад неспадзявана „адкрытай" Беларусьсю, зьвярнулася да яе ад імя расійскага грамадзтва з „грамадзкім маніфэстам", у якім прасіла прабачэньня, што Расія „запомніла на Беларусь", запомніла на яе цярпеньні і барацьбу з Польшчай у мінулым і цяпер гатова выкупіць сваю памылку асаблівай уважлівасьцю да яе патрэб. Беларускае ці, лепш кажучы, „западно-русское" пытаньне зрабілася ў Маскве модным, як ніколі [3]).

Польскае паўстаньне дало магчымасьць Каяловічу выказаць рад сваіх прынцыповых поглядаў на беларуска-польскія адносіны і на ўмовы пазбаўленьня Беларусі ад польскіх уплываў.

Перш за ўсё ён высьвятляе свой стасунак да памянёнай вышэй мясцовай „літоўскай" партыі. Ён лічыць нават абавязковым пазнаёміць расійскага чытача з гэтай, па яго выразу, *„польскай партыяй лепшых людзей"*. Для нас гэтая справа прадстаўляе выключны інтарэс, бо яна, калі можна гэтак сказаць, выяўляе самую „душу западно-руссизма"; дзеля чаго мы спынімся на ёй крыху больш.

„Перш за ўсё я лічу патрэбным пазнаёміць вас", піша Каяловіч у рэдакцыю „Дня", „з кірункам думак лепшых людзей, прадстаўнікоў польскае партыі ў нашых мясцовасьцях [4]). Паводле іх пераконаньня, народу беларускаму пагражае тая самая небясьпека, як і народу польскаму, ад несправядлівых дамаганьняў на верхавенства (преобладание) расійскай нацыянальнасьці. Яны цьвердзяць, быццам беларусы ніколі ня былі, дый ня хочуць быць расійцамі, і ў той-жа час яны адмаўляюцца ад намеру апалячваць беларуса. Паводле іх слоў, гісторыя вырабіла для беларусаў асобную нацыянальнасьць і вярнула ім тую самую веру, якая існавала да падзелу цэркваў пад вярхоўным адзінствам рымскага папы: захаваньне ў чыстасьці і недатыкальнасьці гэтае нацыянальнасьці і гэтае веры ства-

---

1) Гл. „Русский Инвалид", № 91, за 1863 г. „Народное движение в Зап. России", № 17—„Встреча народности о Зап. России с русской государственностью и великорусской народностью" і інш.

2) Пальмов, op. cit., стар. 27.

3) Гл. А. Пыпин, „Истор. русск. этногр.", т. IV. Стар. 89-90.

4) Пад апісанымі „лепшымі людзьмі" М. Каяловіч разумее па ўсіх даных успамянуты вышэй гурток А. Кіркора. Як відаць з лістоў Каяловіча да свае жонкі (мы мелі магчымасьць чытаць гэтыя лісты), ён быў знаёмы з гэтым гуртком і ў 1862 г. гасьцяваў у Кіркора ў Вільні.

рае сьвяты абавязак польскага народу. Яны кажуць, што кожны з гэтых народаў (беларусы і палякі) валадае ўсімі ўмовамі для самастойнага і сваяасабістага разьвіцьця і мае на гэта поўнае права, якое, на няшчасьце, яшчэ не ўвайшло ў сьвядомасьць народных мас. Апошняя абставіна ня толькі зьмяншае, але робіць яшчэ настойлівей абавязак, які накінуты ім гісторыяй. Вось чаму граніцы 1772 году, паводле іх слоў, складаюць для палякаў першую і самую галоўную ўмову іх палітычнага адраджэньня. Згадзіцца на аддзяленьне літоўскіх і беларускіх зямель ад адміністрацыйнага адзінства з Польшчай таксама немагчыма для палякаў, як немагчыма чалавеку адмовіцца ад частак уласнага цела. Яны хочуць усіх пераканаць, у тым ліку і саміх сябе, што ў літоўска-беларускіх провінцыях дваранства ня хоча і ня мае патрэбы абяртацца ў польскае, што яно прыняло мову і цывілізацыю польскую толькі часова, для разьвіцьця ўласных (г. зн. беларускай мовы і цывілізацыі) і што нават сваё чыстае каталіцтва яно заменіць вуніяй, калі народ вызнае яе сваёй пануючай верай“.

„Агульная калісьці па ўсёй Русі патрыярхальная ўсходняя вера“, кажуць гэтыя людзі, „гэтак розьніцца ад цяперашняга расійскага праваслаўя, як вада ў крыніцы ад тае, што цячэ ў гарадзкіх рыштакох. Але гэтая патрыярхальная вера быццам канчаткова зьнікла з твару зямлі: у Расіі яна, бачыце, ня існуе, а на ўсходзе яна заціснута магамэтанствам; значыць адзінае збавеньне ад схізмы—вунія“ [1]).

Як бачым, Каяловіч дае тут характарыстыку віленскіх „літвіноў“ вельмі трапную і справядлівую.

Да пытаньня аб мясцовай партыі Каяловіч вяртаецца яшчэ ня раз. „Падарожнічаючы мінулым летам па Заходняй Расіі,—піша ён у другім месцы [2]),—„я сустракаўся з шмат кім з тамтэйшых жыхароў, якія *лічаць* сябе палякамі. Усе яны лёгка заўважалі, якія мае пераконаньні. Агульна прыняты ў гэтым краі, нястрыманы польскі тыранічны дэспотызм, вымагаў ад іх, каб мае пераконаньні сустракаліся з нянавісьцю. Так звычайна і бывала пры першым спатканьні. Але я станоўча сьцьвярджаю, што за пэўнымі выключэньнямі, я стала пераконваўся, што гэты дэспотызм больш вонкавы; што пад яго лушпайкай, якая часта з вялікай натугай трымаецца, я бачыў амаль усюды чыста-славянскае закаханьне да праўды і здольнасьць сумленна крытыкаваць уласнае зло—польскую распусту ў Заходняй Расіі. Ня ведаю, які цяпер сапраўдны настрой тамтэйшых нібы-та палякаў і, як думаюць, прыкладам, тыя людзі, з якіх адзін, на-

---

[1]) „Несколько слов о народном движении в Белоруссии“, „День“, 1863 г., № 18.

[2]) М. Каяловіч першы раз аб'ехаў Беларусь у 1862 г. Апрача знаёмства з беларуска-літоўскай партыяй ён блізка зышоўся з тагачасным віленскім ген. губ. Назімавым і з папячыцелем кн. Шырынскім-Шахматавым. У сваіх данясеньнях у Пецярбург аб віленскіх справах Шырынскі-Шахматаў часта спасылаецца на аўторытэт М. Каяловіча, як знаўцы Беларусі. Гл. „Дело об издании в Вильне журнала на родном языке“, архив Мин. Нар. Просв. № 37521.

ват у прысутнасьці староньніх людзей, скончыў сваю прамову, пачатую ў імя Польшчы: „так, мы для Польшчы перасталі быць дзецьмі нашай роднай маткі літоўскай зямлі“ *).

Які-ж стасунак самога М. Каяловіча да гэтае групы?

У адным месцы ён ня верыць ёй, высьмейвае яе панскі выгляд, яе падробку пад мужыка; у другім—гаворыць аб ёй у паважным тоне, нават больш таго,—ад паводзін гэтых „лепшых краёвых людзей“ чакае амаль не збавеньня краю ад канчатковай загубы.

Ня верыў Каяловіч гэтай групе таму, што ня верыў у Польшчу. Ён не вызнаваў прыорытэту польскай цывілізацыі, навукі і культуры на Беларусі; не вызнаваў тут правоў польскай дзяржаўнасьці, якая гэтак аславіла сябе ў эпоху заняпаду Рэчы Паспалітай; ён быў ворагам польскага каталіцтва, як антытэзы праваслаўя, а галоўнае,—ня верыў польскаму шляхецтву і польскай інтэлігенцыі, у якой бачыў стан органічна варожы народу, стан, які „адмовіўся ад свае народнасьці“. Ён ня бачыў, дый не хацеў бачыць, магчымасьці замірэньня паміж гэтымі варожымі станамі. У прадстаўнікох мясцовай польска-беларускай партыі ён бачыў усё тых-жа „паноў“, а ў спробах замірэньня, якія пачаліся з боку мясцовага грамадзянства пасьля сялянскай рэформы, бачыў няшчырасьць і фальшывасьць.

„У нас, на Беларусі,—піша Каяловіч у „День“,—адбываецца цяпер вырашэньне вялікага пытаньня: на гістарычную сцэну выходзіць народ, які на працягу доўгага часу здольны быў проціставіць напору чужых яму стыхій толькі пасыўную сілу,—народ бедны, прыгнечаны, загнаны, здробнены фізычна і моральна. Паглядзеце на змучаны твар тутэйшага селяніна, на яго нізкі рост і худое цела, на лахманы, у якія ён апрануты, на пасьпешнасьць, з якой ён кідаецца вам пад ногі, а пасьля цалуе руку,—паглядзеце, і вам будзе зразумелай тая процьма зьнявагі, у якой ён апынуўся... Пакінуты грамадзтвам, якое ў сваю чаргу пакінула сваю народнасьць, грамадзтвам, у руках якога была калісьці і ўлада, і сіла, ён цярпеў моўчкі і ніхто ня чуў яго стогнаў. Толькі ў апошні час, у сувязі з посьпехам сялянскае справы, народ беларускі зьвярнуў на сябе ўвагу польскае партыі. Крыха-па-крысе яна пачала разумець, што гэты загнаны, цярплівы народ складае сілу вельмі грунтоўную, з якой ёй ня шкодна пасябраваць“.

„І вось пачалося збліжэньне, якое мела мэтай выкараніць з памяці народнай усё яго мінулае, усю суму яго цярпеньня і гора. Перш за ўсё трохдзенная паншчына была заменена двохдзеннаю; гэта была адзіная сапраўдная ўступка сялянам з боку ўласьнікаў. Пасьля... пасьля вяльможныя паны пачалі часьцей паказвацца ў кругу сялян і ласкава гута-

---

*) „Народное движение в Западной России“, „Русский Инвалид“, 1863, № 91.

рыць з імі на іх роднай беларускай мове, апраналіся самі і апраналі сваіх жонак і дочак у тоўстае шэрае сукно хатняга вырабу. Зьявіліся на беларускай мове і нават сьпяваліся патрыотычныя гымны, перакладзеныя з польскага або нанова складзеныя для сялян. У прыдачу да гэтых гымнаў былі напісаны на мясцовай мове вершы, у якіх высьмейвалася (?) дараваная сялянам воля, малявалася яскравымі фарбамі нянавісьць да сталых ворагаў іх—маскалёў і г. д.“ [1]).

„Не магу зразумець,—прызнаецца Каяловіч,—мэты ўсіх гэтых вершаў, бо паміж сялянамі іх зусім ня было відаць,—ня ведаю; гэтыя тонкасьці былі недаступны для мяне“.

Тут Каяловіч, бязумоўна, маніць. Ён, канешне, добра разумеў істоту і сэнс гэтых вершаў, як добра разумеў выключна важнае значэньне ўсяго мясцовага руху. Аб гэтым сьведчаць надзеі, якія ён ускладаў на „тутэйшых лепшых людзей“ у сувязі з паўстаньнем і якіх ён заклікаў адумацца і дапамагчы народу знайсьці сапраўдны, адзіна верны для яго шлях.

„Я разумею,—кажа ён у другім месцы,—сілу польскага дэспотызму, якім раней (да вызваленьня сялян і да паўстаньня) былі скуты шляхетнейшыя пераконаньні гэтых людзей. Я разумеў (тады) агідную неабходнасьць іхняй двудушнасьці. Але цяпер, калі народ паўстаў, зьяўляецца ня менш моцная, *толькі не агідная,* неабходнасьць скінуць гэту двудушнасьць і замяніць яе голаснай перад усім сьветам заявай аб сваіх сапраўдных думах і пачуцьцёх. Няўжо сапраўды ўсё, што *лічыць* сябе ў Заходняй Расіі польскім, так дэморалізавана Польшчай, што з яго ня можа скласьціся нават малая партыя людзей, якая адважылася-б паказаць усім, што яны ня ўмерлі для свайго народу, што яны здольны жыць ягоным гістарычным жыцьцём?“ [2]).

Гэта быў ужо заклік да стварэньня новай партыі,—тэй самай, якая-б лічыла здрадай орыентавацца на Польшчу ў сваім жаданьні „жыць згодна з народам, з яго гістарычным жыцьцём“, але якая ня лічыла-б здрадай „паказаць усім, што яна ня ўмерла для народу“, калі пойдзе з Расіяй. Каяловіч заклікаў да ўтварэньня гэтае партыі і, па ўсім відаць, лічыў сябе адным з яе прадстаўнікоў.

У яго разуменьні гэтая „Западно-русская“ партыя павінна была-б насіць мужычы, дэмократычны характар і ў гэтым сэнсе процістаўляцца панскай, ці напоўпанскай партыі „лепшых людзей“, якія не хацелі рваць з Польшчай, з памешчыцкім станам і наогул са ўсім тым, з чым народ вёў сваю гістарычную соцыяльную і нацыянальную барацьбу. Складацца гэтая „народная партыя“ павінна была-б таксама з мясцовых людзей, але з тых, якія орыентаваліся-б на ўсход, вязалі сваю будучыню з расійскай культурай, з вызваленьнём сялянства, са зьнішчэньнем улады

[1]) „Несколько слов о народном движении“, „День“, 1863, № 18.
[2]) „Народное движение в Зап. России“.

польскага двара, г. зн. з праваслаўнага папоўства, вясковых настаўнікаў, сэмінарыстых і наогул дробнага службовага люду.

Разам з тым ён папераджаў сваіх супраціўнікаў, што калі яны,—„па прыродзе сваёй рускія", — ня пойдуць з народам проці Польшчы, дык яны разьвяжуць гэтаму народу пакуль што стрыманыя інстынкты для расправы тымі спосабамі, якія народу толькі даступны:

„Калі мы ня ведаем і ня ўпэўнены, што ўсе, якія *лічаць* сябе ў Заходняй Расіі палякамі, дадуць верную гарантыю свае спакойнасьці, дык як стрымліваць народ, як адважыцца на такую справу, якая можа хоць і фальшыва, але моцна пераканаць народ Заходняй Расіі, што там і палякі і рускія ў адну дудку дзьмуць і проці яго?" [1]).

На якіх-жа ўмовах маглі палякі на Беларусі і тыя, што лічаць сябе палякамі пагадзіцца з народнымі масамі? Свой погляд на гэтае пытаньне Каяловіч выказаў у сувязі з тымі адрасамі, якія пачалі хутка пасьля пачатку паўстаньня паступаць ад мясцовых зямляўласьнікаў. Напалоханыя чырвонай пропагандай Каліноўскага яны сьпяшаліся, як вядома, заявіць сваю вернасьць цару, каб пазбавіцца ад альтэрнатывы—набыўшы незалежную Рэч Паспалітую, пазбыцца ўласных маёнткаў.

„Палякі Заходняй Расіі выказалі свае палітычныя адносіны да Расіі", піша М. Каяловіч. „Яны верны нашай дынастыі і ствараюць адно цэлае з Расіяй. Дазволена, аднак, думаць, што гэтага мала. Яны павінны-б выказаць ня толькі палітычныя свае адносіны, але і народныя. Нам патрэбна ведаць, якія адносіны яны думаюць мець да „западно-русскаго" народу. Нам патрэбна, каб яны далі нам сваю *народную програму*.

Мінула сто год, як пала дзяржаўная ўлада Польшчы ў Заходняй Расіі. Мы ня можам думаць, каб у гэтыя амаль сто год палякі Заходняй Расіі толькі і рабілі, што марылі аб адбудаваньні ў гэтым краі Польшчы. Шмат хто з іх валадае скарбамі краю, шмат хто вельмі адукаваны, уважліва назіральны: не маглі яны ня ўдумацца ў сэнс мінулых часоў і ня прыйсьці да сьвядомасьці, што ў Заходняй Расіі немагчыма Польшча, не маглі яны ня прыдумаць якой-небудзь іншай тэорыі свайго становішча тут... Калі-ж няма такой тэорыі, калі ў „западно-русских" палякаў ня можа быць іншай тэорыі, апрача польскай, дык... delenda est Carthago!—яны павінны зьбірацца да хаты, у сваю сапраўдную Польшчу" [2]).

Як бачым, Каяловіч не акрасьляе, *у чым* павінна быць выражана гэтая „народная тэорыя". Ён не дагаворвае свае думкі, баіцца яе выказаць. Дый трудна яму, прававерному „западно-руссу", найглыбейшым акрэсьленьнем якога было не нацыянальнае пачуцьцё, а пачуцьцё рэлігійнае, адказаць на гэтае пытаньне. Яно магло завесьці яго залішне далёка,—да прызнаньня Беларусі, як гэткай, і Каяловіч спыняецца на пажаданьні—запытальніка.

---

[1]) „Народное движение" etc.

[2]) „Верноподданичество поляков Западной России". „День", 1863 г. № 39.

„Ці ня значыць гэта (адшуканьне новай тэорыі) вымогі, каб яны выракліся свае народнасьці? Ці ня патрабуецца, каб яны пакінулі нават сваю веру і зрабіліся-б праваслаўнымі? На гэта мы адкажам: мы, сапраўды, ад усёй душы жадалі-б, каб яны *прынамсі ўспомнілі* (курсіў наш—*А. Ц.*), што не заўсёды яны былі палякамі і лацінянамі і што ў тыя старыя часы, калі яны ня былі палякамі і лацінянамі, яны часта блізка стаялі ля народу і выпрацоўвалі шмат добрага народнага“ [1]).

Толькі „ўспомніць“ аб гэтым, для Каяловіча, было, зразумела, мала. Мясцовыя палякі павінны былі „ўспомніць“ сваё мінулае, каб зрабіцца, па прыкладу самога Каяловіча, „западно-руссамі“ і праваслаўнымі. Сярэдзінны шлях, шлях вуніі, на якім, як мы бачылі, згаджаліся сыйсьціся з Каяловічам „дзеля народу“ „мясцовыя людзі“, быў не для яго. „Западнорусизм“ і змагаўся з вуніяй, як са скрытым пераходам да каталіцтва. Вымагаючы ад процілежнага лягеру „хоць-бы ўспаміну“ аб старым, Каяловіч проста спадзяваўся, што далей іх „пераможа час“, што пры далейшым адыходзе іх ад Польшчы, ад каталіцтва і польскай культуры, іх „перасіліць дзівосны ідэал праваслаўнага мінулага іхняй бацькаўшчыны, прад якім нікнуць усе польскія ідэалы ў Заходнай Расіі“ [2]).

З тагачасных „лепшых мясцовых людзей“, якія згаджаліся зьмяніць каталіцтва на вунію, ніхто не аддаўся „гістарычным успамінам“ па рацэпту Каяловіча. Што-ж датычыць „іншай тэорыі“, аб якой ён клапаціўся, дык, як убачым ніжэй, яна знайшлася крыху пазьней, але знайшлася ў выглядзе, мала падобным да ідэалу „западно-руссизма“ — у форме народніцкай ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Так безнадзейна выглядала спроба „западно-руссизма“ вырашыць першую проблему беларускага жыцьця,—проблему народна-культурную.

Яшчэ больш заблытанай і зусім нявырашанай засталася ў „западнорусской“ програме наступная проблема—соцыяльна-клясавая.

Трэба аддаць справядлівасьць М. Каяловічу, што пры першых сваіх разважаньнях аб лёсах краю, ён адразу і рашуча схапіў істотную загану становішча,—проціленасьць інтарэсаў польскага пана-памешчыка і беларускага мужыка-селяніна.

І першае, аб чым ён руба пачаў пісаць, дык ласьне аб гэтым.

На чый бок стаць: на бок дваранскага стану, які бунтуе, ці на бок бяспраўнага народу, які пачаў расправу з панамі, карыстаючыся агульнай разрухай? Ва ўмовах дваранскай монархіі адказаць на гэтае пытаньне было нялёгка,—і Каяловіч бясьсільна ходзіць навокал яго, часамі абмаўляючыся выразамі, ад якіх славянафілаў кідала і ў жар і ў холад.

„Якая жахлівая дылема—біць або сваю, або польскую сілу ў Заходняй Расіі“, разважае ён на тэму аб масавых выступленьнях сялян проці памешчыкаў. „Але ці-ж гэта навіна? Яна здаўна і добра знаёма

[1]) „Верноподданичество поляков в З. России“, „День“.

[2]) Ibid.

людзям, што блізка стаяць да інтарэсаў і да кіраўніцтва ў Заходняй Расіі. У адным з данясеньняў віленскага кіраўніцтва прабіўся выраз, што ўлада пастаўлена ў вялізарную труднасьць тэй абставінай, што прыходзіцца прыводзіць да паслухмянасьці верных Расіі сялян тым людзям (памешчыкам), якія самі паўстаюць проці гэтае Расіі. Вось вам дылема і сьвядомасьць труднасьці выйсьці з яе! Народ, пачынаючы выступаць масай, ня можа трымацца ў межах чыстай свае справы і не пераходзіць у палкія, неразумныя крайнасьці... Што-ж аднак рабіць? Часы Хмяльніцкага і гайдамацкай вайны ясна паказваюць, што „западно-русский“ народ ня бачыў іншага выхаду з гэтай дылемы, як даручыць свой лёс казацкай зброі. Няўжо símават цяпер Вялікая Расія, збагачаная пладамі заходня-эўропэйскай цывілізацыі, застанецца таксама бясьсільнай?“ [1]).

І прад духоўнымі вачыма пабожнага акадэміка-славянафіла Каяловіча малюецца стары, выпрабаваны ў гісторыі спосаб—той самы, аб якім ён неасьцярожна спамянуў,—гайдамацкі. Праўда, ён заклікае для барацьбы з паўстаўшай Польшчай „силу русского духа“, ён заклікае да „нравственных начал“, якія выяўляюцца ва „ўсёдаруючым праваслаўі“, успамінае аб „гістарычнай нацыянальнай жывучасьці народнай стыхіі“, але ўсё гэта па яго ўласным прызнаньні—„надзеі, сьветлыя і трывалыя але ўсё-ж т'кі надзеі“. „Што-ж рабіць сёньня, заўтра? Справа не чакае“, і Каяловіч адказвае: „народ павінен мець сваю організаваную сілу. Ён павінен быць узброены. З прычыны аграмаднага абшару краю і раскіданасьці насельніцтва, народу немагчыма мець скрозь сталую абарону ад паўстанчых бандаў і таму трэба мець народнае апалчэньне, якое, як усім відаць, само сабой ужо складаецца: народная энэргія шукае выхаду“ [2]).

Каяловічу ня якава за свой мілітарызм, але ён ім захоплены: „першы раз выходзяць з-пад майго літаратурнага пяра вайсковыя меркаваньні, і калі я магу чым-небудзь апраўдаць гэтае непаразуменьне, дык толькі тэй сьвядомасьцю, што насталі часы, калі народная справа Заходняй Расіі непарыўна зьвязваецца з вайсковай. Мячы і пер'і за адно і разам! Які час!.. Быццам паўстаюць часы Хмяльніцкага, калі казакі і кіеўская акадэмія дзеялі разам, як адна сіла. Нібы-то аднаўляюцца бліжэйшыя да нас часы гайдамацкай вайны 1768 году, калі эпіскоп Гервасій і ігумен Мельхіседэк Яворскі падрыхтоўвалі падзелы Польшчы“ [3]).

Аднак захапленьне гайдамацкай распраўай палохае і самога Каяловіча, і ён, шчыра ці ня шчыра, але сьпяшаецца вытлумачыць, што сучасная гайдамаччына, да якой ён фактычна падбухторваў, і той „народны рух“, які пачаў разьвівацца сярод беларускага сялянства, і дзякуючы

---

[1]) Народное движение etc.

[2]) Ibid.

[3]) Ibid.

якому сялянства пачало падводзіць разьлікі з памешчыкамі,—што гэта „зусім ня тое, як гэта хочуць прадставіць „лжетолкователи“. Ён старанна падкрэсьлівае, што ў гэтым народным руху няма элемэнтаў соцыяльнай разрухі, што гэта ня бунт прыгонных рабоў проці паноў, не паўстаньне пролетарыяту проці ўласнасьці: „чыннасьць сялян усюды законная, прыватная ўласнасьць нідзе не парушана“, запэўняе ён [1]).

Але падобнае запэўненьне было слабой уцехай. Адусюль ішлі весткі аб рэволюцыйнай чыннасьці чырвоных, усюды адчувалася, што калі паўстаньне ня будзе стрымана, дык яно абернецца ў сялянскую рэволюцыю.

„Вашым чытачом, спадзяюся, вядома,—піша ён ў „День“, што ні вы, ні я, ні ўсе мы, публіцыстыя, ня можам стаць на бок разьюшаньня народных антыпатый, ня здраджваючы свайму прызначэньню. Але гэта не перашкаджае мне бачыць наступную бяду. Вялікі прынцып законнай праўды прыводзіць да таго, што шмат польскага зла тоіцца ад улады і дражніць народ, які сьвядомы свайго чалавечага і гістарычнага права,— права не цярпець ад яго. З гэткага парадка рэчаў можа выйсьці адно з двух: або народ бязупынна будзе рвацца зьнішчыць гэтае зло і падпадаць за гэта новай адказнасьці прад сваёй законнай уладай, або, бачачы немагчымасьць выкараніць яго (бо ўлада забараняе), пачне уваходзіць з польскім злом у паразуменьне. З гэтай падвойнай бяды можа вывесьці народ толькі моцны ўдзел у ягонных справах расійскага грамадзтва. Яно паставіць самую ўладу ў патрэбу бачыць і караць кожнае польскае зло. Яно пераканае народ, што няма патрэбы ні біць палякаў, ні ўваходзіць з імі ў паразуменьне, бо гэта дасьць яму веру ў свае сілы. Гэтай сілы заходня-рускі народ можа набрацца толькі ва ўдзеле ў яго справах расійскага грамадзтва, у моральнай моцы славянскай Расіі“. „Моральная славянская сіла Расіі,—кліча Каяловіч, — бязумоўна разьвернецца так шырака і ў такіх дзеяньнях, што яны пераканаюць і заходня-рускія самародныя сілы і польскія заблудлыя, што нягожа і бязмэтна весьці барацьбу няправільную па ідэі, што справядлівая справа, *справа зямлі* выйграе і без шалёнай бітвы“ [2]).

Аднак нават у тым-жа 1863 г. Каяловіч убачыў, што ўдзел расійскага грамадзтва ў народнай „западно-русской“ справе нятрывалы, што ён толькі моднае зьявішча, што Пецярбург хутка „стаміўся ад узбуджэньня“, а расійскаму грамадзтву ўжо абрыдлі „западно-русские“ лемантацыі і што мясцовыя ўлады краю ўсё часьцей арыштоўваюць сялян за напады на памешчыкаў.

І Каяловіч, хоць і ўпэўнены ў тым, што патрэбны зварот у пачуцьці і разуменьні расійскага грамадзтва на карысьць заходняга краю адбыўся, аднак галоўнае дасягненьне ў выніку няўдалага паўстаньня бачыць ня ў

---

[1]) „Несколько слов о народном движении в Белоруссии“ „День“, 1863. № 18.

[2]) „Народное движение“ etc.

гэтым звароце, а ў народным усьведамленьні самое Баларусі, у тым, што там „па дамох, па камяністых па летках, па лясных трушчобах і па купінках балот стварылася імкненьне да ўласнага адраджэньня“.

„Ітак, факт адбыуся,—упэўнена кажа Каяловіч,—народ беларускі, які доўга быў палучаны з Польшчай духам і крывёю,—паўстаў проці гэтае самае Польшчы; ніхто не падгаворваў, ніхто не навучаў гэтаму сялян; гэта было поўнае і разам з тым нястрыманае выяўленьне глыбока-ўтоенай, вякамі ўзгадованай нянавісьці да чужаземнага ярма, гэта было першае імкненьне да ўласнага адраджэньня народу, які адчуў сваю сілу“.

„Вось як бліскуча заяўляе тутэйшы народ свае правы на належнае яму месца ў сям'і эўропэйскіх нацыянальнасьцяй! Дарма хочуць прадставіць гэтую вялікую справу паўстаньнем пролетарыяту проці ўласьнікаў; тутэйшы селянін не пролетары, — значыць, гэта мана. Таксама няўдала думаюць растлумачыць гэты рух нянавісьцю былых прыгонных сялян да сваіх гаспадароў. Няма чаго таіцца,—у першыя часы было шмат крайнасьцяй, якія так рэзка кідаліся ў вочы, што ў першыя часы нават хвалі пад сабою законную прычыну паўстаньня,—гэта быў толькі першы выбух народнага гневу“ [1]).

„Будзьце справядлівы, панове,—зьвяртаецца Каяловіч да тых, што „лічаць сябе палякамі“ на Беларусі,—вы думалі, што стагодні прыгон полёнізму прыдушыў у беларусах пачуцьцё ўласнай самастойнасьці, што крывавая вунія, якая пакінула сьляды яшчэ і да гэтае пары, назаўсёды зьнішчыла ў іх сьвядомасьць уласнай народнасьці. Вы жорстка памыліліся, панове, і за гэтую памылку маеце кару. Зразумейце, што гэта ня буйства, і ня помста былых прыгонных людзей проці сваіх гаспадароў, але моцнае выяўленьне рускага духа, які ніколі ня ўміраў. Пераканайцеся, што гэта—вырашэньне пытаньня аб народнасьці заходня-рускага краю, вырашэньне гэткае, якога ня прыдумаць ніякім конфэрэнцыям і конгрэсам усіх эўропэйскіх дзяржаў“ [2]).

Сам „западно-русс“, Каяловіч быў моцна пераконаны, што беларускае пытаньне падобным „народным адраджэньнем“ было вырашана. Ён быў пэўны, што беларускае сялянства ў сярэдзіне 60-х год усьвядоміла сваю нацыянальную сувязь з Расіяй, і што такім чынам папярэднія спробы мясцовых „лепшых людзей“, якія хацелі-б павесьці народ да адраджэньня разам з Польшчай проці Расіі, — што гэтыя спробы скончыліся фіяска. Наадварот,—шляхам процістаўленьня сялянскіх і панскіх інтарэсаў у паўстаньні, „дух заходня-рускай народнасьці“ запанаваў над ста-

1) „Несколько слов о народном движении“ etc. Аб падобным „добрым выніку“ паўстаньня М. К—іч зазначае таксама ў Публічнай лекцыі ў Географ. О-ве—„Об Этнографической границе между Зап. Россией и Польшей“, 3 красавіка 1864 г., гл. „Русский Инвалид“, 1864. № 27.

2) „Несколько слов о народном движения в Белоруссии“, ibid.

рымі сымпатыямі да Польшчы і дзякуючы гэтаму ў краі ўтварыўся як нельга лепшы грунт для разьвіцьця наогул „западно-русской" партыі *).

Прагноз Каяловіча аказаўся верным толькі напалову: што датычыць „западно-русскаго" народнага адраджэньня як масавага руху, дык яго Каяловіч наогул ня прыждаў: яно было, як будзе відаць з далейшага, немагчымым таму, што па ідэі, па сутнасьці сваёй было недарэчным. Што-ж датычыць „западно-русской" партыі, дык працаваць над яе стварэньнем і ўгрунтоўваць яе Каяловічу прышлося цэлых дваццаць год.

У першы момант, г. зн. у гады панаваньня на Беларусі Муравьёва, Каяловічу не пашанцавала замацаваць сваю праграму на практыцы. Ня гледзячы на тое, што на яго баку было вялікае кола ўплывовых знаёмых у Маскве і Пецярбургу і ня гледзячы на тое, што імя яго зрабілася вельмі папулярным сярод беларускага духавенства па ўсёй Беларусі, ён ня здолеў пры Муравьёве заняць кіраўнічага палажэньня ў Вільні Больш таго, паміж ім і Муравьёвым адразу-ж вызначылася заметнае разыходжаньне.

Справа ў тым, што Муравьёв не падзяляў прынцыповага патрабаваньня Каяловіча абаперці барацьбу з полёнізмам перш за ўсё на „западно-русской" партыі. На погляд Каяловіча „западно-руссы" былі больш дасьведчаны ў гэтай справе, лепш ведалі мясцовыя абставіны, усе моцныя і слабыя пункты польскіх уплываў; яны былі трывалы ў барацьбе з полёнізмам больш, чым хто-небудзь іншы, бо давялі гэта ўсёй шматвяковай сваёй гісторыяй, урэшце, ім належала першае месца ў гэтай справе, як мясцовым ураджэнцам, як мясцовай партыі. Наадварот, з пункту гледжаньня Муравьёва ўсе мясцовыя людзі былі падазронымі на полёнізм, незалежна ад таго, ці былі яны каталікамі, ці праваслаўнымі; розьніца паміж палякамі „западно-руссамі", а тым больш беларусамі,—была, па пераконаньні Муравьёва, зусім нязначная. Яго давер'ем карысталіся толькі карэнныя вялікаросы, толькі „истинно-русские люди". Усё, што ня было „истинно-русским", з цэнтральных вялікарускіх губэрняў, усё, на чым ляжала пячатка тутэйшасьці, мясцовай гісторыі і культуры,—усё гэта выглядала ў вачох Муравьёва „палякуючым" і „лацінствуючым". Вышэй мы пака-

*) Падобнага пераконаньня трымаліся сьледам за Каяловічам і іншыя „западно-руссы" таго часу. „Ёсьць у нас прыемная зьява,—пісаў адзін з іх, Балвановіч—гэта беларусы маладога пакаленьня, якія толькі што выступілі на арэну жыцьця, але якія ўжо зусім усьвядомілі сваю рускую нацыянальнасьць. Яны горача любяць сваю бацькаўшчыну, пераконаны, што шчасьце яе заключаецца ў магчыма хутчэйшым зьяднаньні ня з Польшчай, як думаюць некаторыя палякі ruskiej wiary, а з Вялікарасіяй, і ў гэтым сэнсе дазваляюць сабе выказвацца ўжо даволі голасна. На жаль, дадае корэспондэнт, становішча іх пакуль што надзвычайна незавіднае: з аднаго боку палякі, і асабліва, апалячаныя расійцы накідаюцца на іх градам зьдзекаў, лаянкі і маны; з другога—некаторыя ісьціна-рускіе, бог ведае з якой прычыны, пазіраюць на іх з нейкім недавер'ем і кажуць: „даруйце, якія-ж яны расійцы, у іх нават і прозьвішчы не з расійскімі канчаткамі" (Я. Балвановіч—„Что такое русское общество в С.-З. крае", „Вестн. Зап. России", 1863 г. июль).

залі[1]), што нават да беларускіх „бацюшак“, якія захавалі стары быт, былі раней зьвязаны з вуніяцтвам і ў штодзенным ужытку карысталіся польскай мовай, што нават і да іх Муравьёв і яго адміністрацыя ставіліся падазрэнна і дамагаліся замены іх папамі з Вялікарасіі. Аб іншых слаёх грамадзтва няма чаго і казаць.

Карыстаючыся гэтым разыходжаньнем, ініцыятыву ў Вільні захапіў, як мы бачылі, Гаворскі, які і рэпрэзэнтаваў доўгі час пры Муравьёве і пасьля яго „западно-русскую“ справу на свой капыл. Сваім практычным нюхам Гаворскі зразумеў, што калі для „обрусения“ Беларусі былі пасунуты сотні і тысячы чыноўнікаў—вялікаросаў, дык ня так ужо важна было гаварыць аб „мясцовай“ партыі: „западно-русская“ партыя магла быць створана і не з мясцовых работнікаў.

Каяловіч ня мог дараваць гэтага ні Муравьёву, ні Гаворскаму. Ня мог ён даравацьім і таго, што дзякуючы іхняму панаваньню праваліласяў Вільні справа з выданьнем „Народнай Газэты“, у проектаваньні якой Каяловіч прымаў у 1862 г. бліжэйшы ўдзел; ня мог даравацьі таго, што Вільня засталася без унівэрсытэту і нават бяз духоўнай акадэміі, як гэта плянаваў папярэднік Муравьёва—ген. губ. Назімов разам з кн. Шырынскім-Шахматавым і самым Каяловічам.

У сваіх „западно-русских“ клопатах аб „обрусении“ Беларусі, Каяловіч вельмі крытычна ставіўся да тых гура-вялікарускіх патрыётаў, якія наехалі на Беларусь з мэтай прывесьці яе да парадку. Ён усюды, дзе толькі можа, зазначае сваё нездаволеньне гэтай зьявай, прычым заўважае яго амаль ня з першых дзён дзейнасьці Муравьёва. Заўважае ён таксама і казённы, афіцыйны характар „обрусения“ Беларусі, які ён, як прынцыповы „западно-русс“, лічыць абразьлівым для свайго гонару, непатрэбным і шкодным.

„У расійскіх людзях вялікая патрэба ў Заходняй Расіі. Пашлі сюды часам найлепшыя асобы, але пашло шмат такіх, якім лепш было-б сядзець сярод сваіх, пад моцным контролем моцнае грамады [1]).

Асабліва рэзка выказваўся Каяловіч аб гэтых справах у прыватнай перапісцы, бо ў газэтах пісаць на падобныя тэмы было нязручна. У адным з лістоў да І. Корнілова ў Вільню ён выказвае абурэньне тэй абставінай, што мясцовае начальства не прыняло на службу І. Катовіча, яго добрага знаёмага, чалавека „з салідная западна-рускай асьветай“:

„Мучыць мяне думка, што гэта прыдумана для таго, каб між вамі і мной кінуць яблыка нездаволенасьці і халоднасьці. Я не падыму гэтага яблыка, але не магу сатравіць гэткую дзічызну, нібы масквіч лепшы за „западно-русса“... Я і ад другіх даведваўся, што ў вас (у Вільні) процістаўляюць масквіча і „западно-русса“. Вось гэта і значыць

[1]) Гл. „Полымя“ 1928 г.; № 2.

[1]) „Об отношении русского общества к Западной России“, письмо к редактору газ. „День“, 1863, № 27.

русіць Заходнюю Расію кулаком, а не маральнай сілай, бо няма нічога кулачней, як адмаўляць (у правох) і сьпіхаць на бок гатовую маральную сілу краю“ [1]).

„Паміж расійцамі і намі няма поўнага адзінства, зазначае ён у другім месцы. Як стварыць гэтую паўнату? Мне шмат прыходзілася думаць аб гэтым і мне здаецца, што замацуе яе не матэрыяльная расійская сіла, ні нават расійскі розум, а расійская душа, скарбніца якой зьяўляецца надзеяй усіх славянскіх народаў“ [2]).

Спасылка на „душу“, як галоўны паратунак у барацьбе з полёнізмам і як галоўны сродак замацаваньня „западно-русскаго“ адраджэньня Беларусі, для Каяловіча вельмі характэрны. На матэрыяльны бок справы, г. зн. на тое, што больш за ўсё абыходзіла і цікавіла практычнага Гаворскага і офіцыйную расійскую ўладу ў Вільні, ён зварочваў вельмі мала ўвагі як пад час паўстаньня, так і пасьля. Ён сам шмат разоў заўважае, што экономічныя пытаньні, справы мясцовага капіталу, зямлі і зямельнай рэформы, яго мала абыходзяць. Гэта зьяўляецца вялікім недахопам у працах Каяловіча і не дае нам магчымасьці прасачыць па галоўным кірунку разьвіцьцё „западно-русской“ ідэолёгіі. Адно толькі мы маглі вышэй заўважыць, а ласьне тое, што Каяловіч добра разумеў экономічную залежнасьць беларускага сялянскага насельніцтва ад польскага памешчыка, але баяўся аб гэтым голасна і да канца гаварыць.

У стасунку да Муравьёва асабіста Каяловіч увесь час захоўваў сьцюдзёнасьць. Калі праз дваццаць год пасьля віленскіх падзей у Пецярбургу была паднята думка збудаваць Муравьёву помнік, Каяловіч пісаў І. Корнілову: „вам усім, бліжэйшым супрацоўнікам і сябром Муравьёва, натуральна яму ўсё прыпісваць, але мне, які стаяў крыху паводдаль ад яго, і як гісторыку, натуральна глядзець на яго інакш. Там, дзе вы бачыце ўсё ў Муравьёве, я бачу ў ім гістарычнага слугу, а ня творцу справы, якая будавалася і ўсьвядомлівалася і да яго і пры ім“ [3]).

Наскольки няўдалай была на першым пачатку практычная чыннасьць М. Каяловіча, скіраваная на замацаваньне ў краі ўласнай „западно-русской“ партыі, нагэтулькі грунтоўнай была яго навуковая дзейнасьць. У дзедзіне навуковай яго „западно-русская“ абарона Беларусі ад польскіх дамаганьняў была па свайму часу выключна аўторытэтнай і ўсебаковай.

---

[1]) Ліст М. Каяловіча да І. Корнілава ад 17 верасьня 1863 г. (У Рукапісным Аддзеле Ленінградзкай Публіч Бібліотэкі).

[2]) З прамовы М. Каяловіча на агульным сходзе віленскага брацтва, „Вестник Зап. России 1865-66 г.“, кн. 10. разьдз. IV. стар. 74-75.

[3]) Ліст М. Каяловіча да І. Корнілава ад 5 красавіка 1883 г. (У рукапісным Аддзяленьні Публічнае Бібліотэкі). У гэтым лісьце Каяловіч між іншым зазначае, што той артыкул, які ён падрыхтаваў да друку аб Муравьёве і ў якім выказаў больш падрабязна свой погляд на яго,— „прыдзецца схаваць у шуфляду, бо інакш выйдзе разнагалосьсе“.

Да рэчы, аб адносінах „западно-руссов“ да Польшчы, як гэткай. Каяловіч ведаў, што польскае грамадзтва бачыць у яго асобе аднаго з найбольш зацятых сваіх ворагаў і ненавісьнікаў і таму ня раз імкнуўся вытлумачыць сваю позыцыю ў польскім пытаньні. Да гэтага яго прымушала яшчэ і славянафільства, якое, як мы бачылі з лістоў І. Аксакова, вельмі блізка цікавілася вырашэньнем гэтага пытаньня. Каяловіч заяўляе, што ён, як „западно-русс“, ня вораг палякаў, што ён разумее і спачувае сапраўднай этнографічнай Польшчы, але што ён адносіцца варожа—адмоўна да тэй шляхецкай панска-іезуіцкай Польшчы, якая прагнула і прагне praглынуць Беларусь.

„Я разумею зямлю польскую нават пры апанаваўшай яе не-славянскай цывілізацыі. Я магу бачыць на гэтай зямлі польскі элемэнт нават скрозь пякельны змрок заходня-эўропэйскай рэволюцыі і езуіцтва. На гэтай сапраўднай польскай зямлі, у гэтым сапраўды польскім элемэнце можна бачыць польскае сэрца. Але, пераносячыся адсюль у Заходнюю Русь з думкай аб польскай зямлі, польскім элемэнце і польскім сэрцы, як пераконваюць усіх палякі, я ня бачу і не магу бачыць ні гэтай зямлі, ні гэтага элемэнту (чыстага, сапраўднага польскага), ні гэтага сэрца. Я толькі бачу тут тыранію і зьдзекам вырытыя польскія барозны на рускай зямлі, на якіх ня можа быць жыцьця роднаму семені. Я бачу тут разбэшчанае польскае шляхецтва, ператворанае ў арыстократызм, які гэтак ненавідзяць самі палякі. Я бачу тут польскае езуіцтва, якое Польшча сама выкідала ўсімі сіламі, як нягодную траву, і толькі набліжаючыся да сваёй гістарычнай сьмерці, усыпала яе пладамі свой хаўтурны паход. На няшчасьце, яна выкідала езуіцтва ў Заходнюю Расію*)“...

Усе свае немалыя веды з гісторыі і этнографіі Беларусі, Каяловіч выкарыстаў, каб давесьці перад расійскім грамадзянствам і перад расійскай навукай той факт, што прэтэнзіі палякаў на Беларусь ні на чым не заснаваны. Трэба зазначыць, што вывучэньне Беларусі з расійскага боку пачалося гадоў за 20 перад Каяловічам. Першыя спробы ў гэтым кірунку пачаліся яшчэ ў 30—40-х гадох пры міністры Пяроўскім, калі побач з офіцыйнымі статыстычнымі досьледамі ў цэнтральнай Расіі была зьвернута ўвага і на „Западный Край“. Аднак працы таго часу былі занадта павярхоўныя, вынікі іх разглядаліся як нейкі канцэлярскі сакрэт і не публікаваліся да агульнага ведама. Тады-ж у розных расійскіх часопісях пачалі зьяўляцца першыя нататкі аб Беларусі, пераважна апісальна-этнографічнага характару. Гэта быў пачатак цікавасьці да „народнасьці“—вынік дзейнасьці Уварова і першых славянафілаў. Больш аўторытэтна пачаў пісаць аб Беларусі П. Шпілеўскі (1817—1861), які быў родам беларус, з Менскай губэрні і які быў моцна замілаваны ў беларушчыну. Працы яго, што зьявіліся ў расійскай літаратуры, адзначаліся навіной, хоць і мелі сваёй крыніцай ужо друкаваныя польскія досьледы.

*) „Народное движение в Зап. России“ ibid.

Пачынаючы з 50-х год, Беларусь зьвярнула на сябе большую ўвагу Географічнага Таварыства, якое з першага тому сваіх „Этнографічных Зборнікаў“ пачало публікаваць адпаведныя матэрыялы. Аднак і ў гэтыя гады весткі аб Беларусі былі выпадковыя і няправільныя, так што для этнографічных справак прыходзілася часам карыстацца старэнькай і невялічкай этнографічнай картай Шафарыка. Працы беларускіх дасьледчыкаў—І. Барычэўскага, О. Турчановіча і М. Бэз-Карніловіча з пункту погляду навуковасьці таксама мала чаго былі варты; іх хутчэй можна разглядаць, як справачнікі па беларускай гісторыі, пераважна царкоўнай, і як зборнікі гістарычных апавяданьняў аб Беларусі.

Больш дакладныя працы афіцэраў генэральнага штабу,—А. Коревы аб Віленскай губ., П. Баброўскага аб Горадзенскай губ. і І. Зеленскага аб Менскай губ.,—хоць і пачатыя пры канцы 50-х год, вышлі ў сьвет ужо з пачаткам 60-х год, калі „Літоўская вунія“ Каяловіча была ўжо на руках. Таксама ў гэтую пару ў сувязі з польскім паўстаньнем былі выданы для шырокага чытача вядомыя атлясы Заходняй Расіі—Р. Эркерта і Рыцьціха.

Ня гледзячы аднак на ўсе пералічаныя працы, аб Беларусі ў шырокіх колах расійскага грамадзтва ведалі вельмі мала. Аксаков казаў правільна, што аб беларускай справе сярод расійцаў існуе поўная няпісьменнасьць; ня толькі звычайныя абывацелі, але людзі з вышэйшай асьветай, нават спэцыялістыя лічылі тады тэрыторыю на захад ад Дняпра—польскай зямлёй. Што датычыць Горадзенскай і Віленскай губэрняў, дык аб іх няпольскасьці і гутаркі ня было.

Каяловіч, як шчыры „западно-русс“, прысьвяціў шмат энэргіі, каб зьнішчыць гэткі забабон і акрэсьліць сапраўдную польска-беларускую граніцу. Ён піша артыкулы ў газэты і часопісі, чытае закрытыя і публічныя лекцыі на гэту тэму, публікуе дакуманты, выдае кнігі *). „Документы, об'ясняющие историю Западной Россіи и ее отношение к восточной Россіи и Польше“, выдаюцца пры гэтым en regard на францускай мове, каб азнаёміць з гісторыяй Беларусі і этнографічнай мяжой яе з Польшчай, заходня-эўропэйскую навуку і грамадзкую апінію.

Трэба вызнаць, што працы Каяловіча па высьвятленьні этнографічнай і гістарычнай беларуска-польскай мяжы былі вельмі грунтоўныя. Па

*) Галоўныя працы М. Каяловіча ў галіне этнографіі: „О расселении племен Западной Россіи“ („Русск. Инвалид“, 1863, № 114, 486—488; „День“, 1863, № 20); „Взгляд г. Экерта на „Зап. Россію“ („Русск. Инвалид“, 1864, № 174, „СПБ Ведомости“, 1864, № 68 і інш.); „Об этнографической границе между Россией и Польшей“ (Руск. Инв. 1864, № 78 і ў „СПБ Ведомости“, 1864, № 77); Этнографічная карта Заходняй Расіі, якая была прыложана да другога выданьня „Лекций по истории Западной Россіи“, і інш. Апошняя праца М. К-ча—асноўная ў галіне гісторыі краю. Яна вытрымала тры выданьні,—у 1864 г. і ў 1884 г. (у апошні год „Лекции“ выйшлі два разы, пад назвай—„Чтения по истории Западной Россіи“). За гэтую працу М. К. атрымаў у тым-жа годзе вялікую Ламаносаўскую прэмію (гл. ліст яго да І. Карнілова ад 3 траўня 1884 г. у Рук. Аддзял. Публічн. Бібліотэкі).

сутнасьці, толькі ён ды П. Баброўскі маглі лічыцца ў той час сапраўднымі аўторытэтамі ў гэтай галіне. Калі пазнаёміцца з тагачаснымі досьледамі аб Беларусі, лёгка можна заўважыць, які значны крок наперад быў зроблены дзякуючы навуковай дзейнасьці гэтых двох „западно-руссов“ (П. Баброўскага мы таксама далучаем да „западно-руссов“, толькі крыху іншага адценьня і ня так напорыстага). Бо, прыкладам, нават у 1861 г. так паважная ўстанова, як „Российское Географическое Общество“, афіцыяльна выдала для агульнага карыстаньня працу афіцэра генштабу М. Лебёдкіна, дзе з дакладнасьцю да адзінак гаворыцца аб насельніках Беларусі—драўлянах, палянах, крывічох, валынянах, ціверцах, вуглічах, харватах, яцьвягах і г. д. (харватаў, прыкладам, М. Лебёдкін налічыў у 1861 г.—17.228 чал., ціверцаў і вуглічаў—8.398 і г. д.). Падобныя-ж веды зьмяшчаліся ў памянёных вышэй падручніках Вэбэра і Вальбі.

Зьвернем увагу на чарговую, надзвычайна характэрную дэталь у працах Каяловіча, як правадыра „западно-руссизма“. Мова ідзе аб крытыцы этнографічнага атлясу Эркерта, названы „атлясам провінцый“, заселеных цалкам ці ў часьці палякамі“. Каяловіч протэстуе супроць самае назвы атлясу, і справядліва кажа, што „ўраджоны западно-русс“ ніколі так-бы яго не назваў: на жаль, дабаўляе ён, гэты мясцовы „западно-русский“ пагляд яшчэ вельмі мала ўсьвядомлены і мала атрымаў правоў у навуцы і жыцьці“; Каяловіч дасканала потым выпраўляе недакладнасьці і памылкі Эркерта аб граніцах і лічбах расьсяленьня розных пляменьняў, у тым ліку граніцы беларуска-польскія на захадзе Горадзенскай губэрні, па Бугу і Нёману; правільна выкладае адносіны паміж беларусамі і літоўцамі і г. д.,—але з грунтоўным недахопам працы Эркерта,—з адзнакай веры, якую той кладзе ў аснову нацыянальнага акрэсьленьня насельніцтва Беларусі,—Каяловіч згаджаецца.

„Прынцып гэты,—кажа ён,—найлепшы цяпер для падзяленьня жыхароў Беларусі на палякаў і беларусаў; мяне заўсёды дзівяць спробы шмат каго ў нашай літаратуры вырашаць жыцьцёвыя пытаньні ў Заходняй Расіі не на аснове рэлігійнага пытаньня. Я глыбака пераконаны, што пройдзе, прынамсі, сталецьце, пакуль можна будзе ўзяцца за які-небудзь жывы бок „западно-русскага“ жыцьця, абыходзячы веру“ *). Праўда, крыху далей Каяловіч агаворваецца, што „шмат якія лаціняне шляхецкага, мяшчанскага стану і ўсё каталіцкае сялянства захоўваюць яшчэ свае самародныя, мясцовыя пачаткі, ня робяцца палякамі. Але, безнадзейна канчае ён сваё разважаньне, „гэта вельмі складанае пытаньне і *разабрацца ў ім трудна*“. (Курсіў мой—*А. Ц.*).

Іншымі словамі, гэта значыць, што калі беларус па веравызнаньні каталік, дык для Каяловіча ён ужо не сапраўдны беларус, ён ужо не

*) „О расселении племен Западного Края России“—доклад в Общем Собрании географического общества 8 мая 1863 г.

„западно-русс“, а як-бы напалову паляк. Для Каяловіча вера азначала ўсё,—і нацыянальнасьць і народнасьць і самую „русскую душу“. Як і для Гаворскага, так і для яго „вне православия“ не магло быць Расіі, і тыя беларусы, якія ходам гісторыі прынялі каталіцтва і якія нават па ўласным яго прызнаньні захавалі мову і звычай беларускія, тым самым ужо выключаліся з ліку беларускага насельніцтва і аддаваліся Польшчы.

На першы пагляд здаецца зусім незразумелым,—як гэта такі знаўца Беларусі, як Каяловіч, мог выключаць каталікоў-беларусаў з ліку беларусаў і залічаць іх да палякаў. Аднак факт застаецца фактам. Пазьней мы ўбачым, што падобны вывад быў для Каяловіча, як правага славянафіла, зусім пасьлядоўны. Ён ня мог далучыць да адзінага „русскаго организма“, абапертага ў сваім сусьветным значэньні на праваслаўі, беларусаў-каталікоў. Каталіцтва ў яго вачох было гістарычным азначэньнем нацыі, яно накладала на псыхолёгію народнае масы большы ўплыў, чым мова, звычаі і агульныя географічныя, гістарычныя і экономічныя ўмовы бытаваньня. Праўда, ён не адважваецца канчаткова згадзіцца з сваім уласным прынцыпам, бо занадта добра ведае з жыцьця, што ў нацыянальна-бытавым сэнсе розьніцы паміж беларусамі-праваслаўнымі і каталікамі ніякай няма; для яго пытаньне гэтае „складанае“, яму „трудна ў ім разабрацца“.

Адзіна, хто падняў у той час голас проці гэтае забойчае для Беларусі тэорыі і скрытыкаваў атляс Эркерта, быў памянёны вышэй П. Баброўскі. Верны „западно-русскому“ погляду, ён таксама даводзіць у сваім „Историческом обзоре“ аб паходжаньні пляменьняў Горадзенскай губ., што ў тутэйшым краі „амаль з самага пачатку Русі вера і мова славянскіх плямён паміж Прыпяцьцю і Нёманам заўсёды знаходзіліся ў цеснай сувязі з славянскімі плямёнамі, якія жылі на поўнач, на поўдзень і на ўсход ад гэтае губэрні“, што Беларусь ёсьць край „русский“, і г. д. Але ён не згаджаецца з Каяловічам і з Эркертам, нібы веравызнаньне грае якую-небудзь ролю ў нацыянальным акрэсьленьні Беларусі. Эркерт, па яго словах, „глядзеў на Беларусь па ўражаньнях, якія вынес з палацаў і касьцёлаў, што ляжалі па яго маршруту“*).

„Адзінай адзнакай для падзелу насельніцтва Беларусі на беларусаў і палякаў можа быць мова,—зазначае П. Баброўскі.—Думка Эркерта, быццам „каталіцкія беларусы па сваіх думках, прывычках і роду жыцьця зусім палякі“,—ня вытрымлівае ніякай крытыкі“.

„Чым, як ня мовай,—заўважае аўтар,—кіраваўся Эркерт, пры разьмежаваньні беларусаў ад украінцаў? А тымчасам ён ня хоча прыняць гэтага-ж прынцыпу для разьмежаваньня беларусаў ад палякаў“. „Нічога ня значыць, што беларусы, па словах Эркерта, не называюць сябе гэтым сваім імем. Беларусы, ня ведаючы, што яны беларусы, захавалі і ў штодзеннай гутарцы і ў песьнях і ў прыслоўях свае азначаныя нацыянальныя, лёгіч-

*) П. Бобровский: „Можно ли одно вероисповедание принять в основание племенного разграничения славян Зап. России?“ („Русск. Инвалид“, 1864, № 75, 80).

ныя формы, свой азначаны характар, свае правы[1]), звычаі і г. д. Беларус-селянін, ці будзе ён праваслаўны, ці каталік, мае свае пераконаньні, сваю моральную філёзофію і перадае гэта разам з мовай сваім дзецям і ўнукам. Ксёндз і памешчык ніколі ня скажуць аб беларусу, каталіцкага веравызнаньня, што ён беларус, а скажуць: „літвін". Пагутарце з гэтым літвінам, і вы пачуеце беларускую гаворку. Пад час нашай працы ў Горадзенскай губэрні, кажа Баброўскі, мы мелі этнографічныя сьпісы (насельніцтва) ад сьвяшчэньнікаў і ксяндзоў. На сьпісах тых і другіх сяляне як праваслаўныя, так і каталікі, названы „літвінамі", і тут прыкладзены ўзоры іхняе мовы,—вы думаеце літоўскае? Не,—беларускае. Ксёндз рабіў гэта таму, што гэтыя беларусы калісьці ўваходзілі ў склад народнасьцяй літоўскае дзяржавы. Мы бачым тут не палітычную памылку, як мысьліць Эркерт, а палітычную праўду і вельмі грубую этнографічную памылку".

Ня гледзячы на тое, што меркаваньні П. Баброўскага былі згодны з сапраўднасьцю, погляд яго не адразу знайшоў прызнаньне ў расійскай этнографіі. Нават гэткі паважаны этнограф, як А. Пыпін, і той хутчэй схіляўся ў спрэчцы аб беларуска-польскай мяжы на бок М. Каяловіча, чым на бок П. Баброўскага, нагэтулькі ў сьвядомасьці расійцаў польскасьць заходніх губэрань была зьвязана з каталіцтвам[2]).

Няма чаго казаць, што польская навука з радасьцю падхапіла гэтыя прызнаньні і, узмацняючы іх сваёй аргумантацыяй, да сёнешняга дня залічае ўсіх каталікоў-беларусаў да палякаў. У гэтым сэнсе правадыр „западно-руссизма" дрэнна прыслужыўся расійскай экспансіі на Беларусі і пазьнейшыя эпігоны яго ніколі не маглі яму гэтага дараваць.

* * *

„Утомление" западно-русской модой", аб якім казаў і якога баяўся М. Каяловіч, той спад інтарэсу да польска-беларускіх спраў, аб якім ён так непакоіўся, надышоў хутчэй, чым хто-небудзь мог думаць. Як мы паказалі вышэй (гл. „Полымя", 1928, № 3), ужо ў 1868 г. па Вільні і па ўсім краі пранесьліся чуткі, нібы Пецярбург зьмяніў свой стасунак

---

[1]) А. Пыпін памылкова выпраўляе слова П. Баброўскага „*правы*" на „*нравы*". („Ист. р. Этн.", т. IV, стар. 107 прым.), кажучы, што так будзе „больш вероятно". Баброўскі быў тут больш дазнаным, чым славуты этнограф: беларусы заўсёды мелі свае асобныя *мясцовыя правы* (сямейнае, зямельнае ды інш.), і Баброўскі гэта дасканала ведаў, таксама як ведаў аб працах Ігн. Даніловіча ў гэтай галіне.

[2]) А. Пыпіна вельмі ўразіла розьніца ў лічбах палякаў на Беларусі па вылічэньнях Эркерта і Баброўскага. Згодна першаму, палякаў у Горадзенскай губ. было ў 1864 г. 270.000 чал. згодна другому—толькі 83.000 чал. „Відаць, заўважае А. Пыпін, Баброўскі справядліва ўказваў на мову і народныя звычаі, як на істотныя адзнакі этнографічнае мяжы; але, з другога боку, ня зусім памыляўся і Эркерт,—ён ставіў пытаньне на практычны грунт (?) і не без аснаваньня знаходзіў, што пры даных умовах (?) веравызнальная адзнака была можа важнейшай" (гл. „История русск. этногр". т. IV, стар. 109).

да „мятежных“ палякаў і замяніў гнеў на міласьць. Гэта была праўда. Пачалася „патапаўшчына“,—эпоха спаду політычнай увагі да заходніх губэрняў, на характарыстыцы якой мы спыняліся ў папярэднім нарысе. „Западно-русским“ людзям заставалася ў гэтую эпоху сядзець моўчкі і, схаваўшы свае пераконаньні пад спуд, чакаць лепшых часоў.

Зразумела, справа была тут ня ў „стомленасьці“ расійскае ўлады і ня ў „модах“ пецярбурскай політыкі. Потапов і яго наступнікі ня былі нечым індывідуальным і ня дзеялі ў краі па сваіх уласных сымпатыях або антыпатыях. Як мы паказалі вышэй, яны проста выконвалі волю паслаўшага іх міністэрства, былі паслухмянай прыладай у яго руках. У сваю чаргу, паслаўшае іх міністэрства, як і наогул урад, былі выразам таго звароту агульнай расійскай політыкі, які вызначаўся пры канцы 60-х і ў 70-х гадох мінулага веку, калі загарожанае ў сваім клясавым інтарэсе расійскае дваранства пачало дыктаваць цару і ўраду сваю волю.

Польская зямельная арыстократыя з заходніх губэрняў была шчыльна зьвязана з Пецярбургам і дасканала выкарыстала новую сытуацыю: заявіўшы аб сваёй клясавай солідарнасьці з расійскім дваранствам і дэкляраваўшы прад прастолам шляхам адпаведных адрасоў сваю вернасьць манарху, яна тым самым выбіла зброю з рук сваіх ворагаў „западно-руссов“.

І што характэрна,—самі заядлыя „западно-руссы“ прылажылі руку да таго, каб паслабіць свае позыцыі. Ніхто іншы, як Каяловіч і яго прыхільнікі сваёй нястрыманай злабой проці ўсяго польскага, сваімі разважаньнямі аб гайдамацкай расправе з панамі і аднаўленьня казацкіх войнаў, напалохалі Пецярбург і пераканалі яго ў патрэбе як мага хутчэй спыніць антыпольскі курс. Чым больш стараўся Каяловіч і яго прыхільнікі ў Маскве і ў Вільні, чым больш было праяў таго „народнага руху“, якімі яны ганарыліся і ў якім бачылі адраджэньне заняпалай краіны,—тым больш непакоіліся ў міністэрстве ўнутраных спраў і пры двары. „Западно-русская“ пропаганда рабіла там зусім адваротнае ўражаньне, чым хацела. Газэта „Весть“, выдаваная пад той час у Пецярбургу, якая бараніла інтарэсы буйнай зямляўласнасьці, адкрыта пачала абвінавачваць Каяловіча ў пропагандзе сэнсымонізму і пачала заклікаць уладу палажыць канец яго падбухторваючай пісаніне.

У выступленьні „западно-руссов“ проці польскага панства, абаронцы польскае зямляўласнасьці на Беларусі бачылі амаль тыя самыя вынікі, як і ад дзейнасьці „чырвоных“: як тыя, так і другія зьбіраліся „біць паноў дубінай“ і выкарчоўваць панскія маёнткі. У тым, што „чырвоныя“ хацелі рабіць гэта з мэт соцыяльна-рэволюцыйных, а „западно-руссы“—з мэт нацыянальна-расійскіх і патрыотычных,—розьніца для „охранительных начал“ была малая. І „западно-руссам“ заткнулі рот.

„Дылема“, перад якой бясьсільна стаяў Каяловіч і якую выкладаў гэткай эзопавай мовай, дылема, хто каго мусіць нішчыць: беларускі му-

жык польскага пана, ці польскі пан беларускага мужыка, была выражана Пецярбургам у 70-х гадох на карысьць пана. Ва ўмовах дваранскай імпэрыі іншага выв аду наогул зрабіць было нельга,—гэтага не разумеў можа адзін Каяловіч у сваім „западно-русским" захапленьні.

Пры канцы 60-х і ўвесь пэрыод 70-х год расійская прэса, як сталічная, так і краёвая, ужо маўчала аб заходнім краі. У Вільні дажываў апошнія дні „Вестник Западной России" Гаворскага (спыніўся ў 1871 г.); ня было І. Семашкі—аднаго з найбольш уплывовых і ўпартых „обрусителей"; расьцярушылася і ўся мураўёўская кампанія.

Палякі пачалі залечваць свае раны. З пачаткам 70-х год пачалі ўсё больш і больш вяртацца са ссылкі з Сібіры і з далёкіх усходніх губэрань паўстанцы,—пераважна мясцовая шляхта, памешчыкі, менш ксяндзы і зусім у нязначным ліку сяляне*).

Політычна і грамадзкі ўвесь край абярнуўся ў нейкі мёртвы абшар. Мясцовыя газэты, так. зв. „Губернские Ведомости" былі ў той час чым хочучы, толькі ня прэсай. Нават „Виленский Вестник"—орган і ўласнасьць віленскай вучэбнай акругі, які заўсёды імкнуўся быць голасам краю,—нават і той у гэтае дзесяцігодзьдзе нічым не адрозьніваўся ад „Губернских Ведомостей" і справачных „Памятных Кніжак". Звычайны выгляд яго аддае глыбокім провінцыялізмам: на першым месцы даведкі аб вэксальных курсах, потым празначэньні і нагароды па службе, абвесткі і рэзолюцыі віленскай судовай палаты, час ад часу весткі аб праяжджаючых праз Вільню славутых профэсарох, фокусьніках, артыстых,—хроніка крымінальных падзей, офіцыйныя тэлеграмы з Парыжу і Бэрліну, і калі-ні калі „літаратурны фэльетон" на тэму аб „агульна-зразумелых настаўленьнях проці шаленства сабак", або аб фізычным і моральным выхаваньні жанчыны па Дарвіну". Хроніка—якая хочаце: маскоўская, тульская, валагодзкая—толькі не мясцовая. Найбольш, канешне, замежная. Агляд замежнай політыкі, інтрыг Бісмарка, каронных прыёмаў ангельскай каралевы Вікторыі, а пры канцы дзесяцігодзьдзя—балканскай і франка-прускай вайны, займаў звычайна 3/4 нумароў „Вестника".

Аб Беларусі, аб тым, як жывуць і чым дыхаюць усе пяць губэрань знамянітага раней „Заходняга Краю",—у „Виленском Вестнике" на працягу шэрагу год мы не знаходзім ніводнага слова. Маўляў Беларусі ня было, маўляў—яна не існавала на карце імпэрыі. Ненормальнасьць падобнага становішча заўважалі нават некаторыя расійскія часопісі: „Виленский Вестник" цалкам прысьвячае свае старонкі загранічнай політыцы і перадрукам з іншых газэт усякіх унутраных паведамленьняў"—казала ўплывовая ў 70-х гадох „Беседа",—і захоўвае аб краі маўчань-

*) Большасьць сакрэтных спраў канцэлярыі Менскага губарнатара за 70-ыя гады, з якімі нам прышлося азнаёміцца пад час працы ў Беларускім Цэнтра-архіве, складаецца з хадайніцтваў былых паўстанцаў вярнуцца дадому і з перапіскі па гэтых справах усякіх адміністрацыйных органаў.

не, годнае лепшага прыстасаваньня. Можа атрымацца ўражаньне, што „западно-русское“ пытаньне вырашана тут аканчальна“ [1]).

Па сутнасьці яно так і было,—беларускае пытаньне было ў тую эпоху вырашана гэтак-жа акрэсьлена, як і ў эпоху паўстаньня, толькі ў адваротным выглядзе; яго папросту выкрэсьлілі са сьпісу актуальных палітычных пытаньняў, паставілі над ім крыж. Зусім сьвядома ўлада абярнула ўвесь край у нешта шэрае, у нейкую шэрую пляму, дзе дарма было шукаць якога-небудзь грамадзкага ці культурнага руху. У гэтым ласьне і было назначэньне новага курсу: забыць аб Беларусі, забыць і замаўчаць проблемы яе нацыянальнага і соцыяльнага жыцьця, у тым ліку дражлівую і небясьпечную з пункту погляду паміж клясавага супакою проблему аб польска-расійскіх і беларускіх адносінах.

Замест абгаворваньня мясцовых пытаньняў, прэса, улада, а за імі і ўсё грамадзтва Вільні і провінцыі, занялося балямі, вечарамі, афіцыйнымі і прыватнымі пагулянкамі і прыёмамі. Гэтага ў 70-х гадох на Беларусі не бракавала. Больш таго,—на фоне агульнай грамадзкай трупехласьці і мярцьвячыны, балі і вечары набылі палітычны характар: гэтым шляхам краёвая адміністрацыя, пачынаючы Потаповым, за ім Альбедзінскім, Тотлебенам і г. д. імкнулася надаць жыцьцю бястурботны і вясёлы выгляд і разам з тым—знайсьці форму замірэньня з мясцовым дваранінам-памешчыкам. У атмосфэры спэктаклю і балю, за зялёным сталом і пры буфэце, лягчэй за ўсё знаходзіліся патрэбныя словы і запаміналася ўзаемная варожасьць, выкліканая паўстанчай разрухай.

„У цяперашнюю зіму віленскае грамадзтва асабліва ажывілася“, патэтычна пачынае сваю навагоднюю перадавіцу „Виленский Вестник“ у 1875 г., напісаную, па ўсім відаць, па загаду гэнэрал-губарнатара [2]). „Колькі мы памятуем, ніколі ня бывала гэткага мноства баляў і сабраньняў, як у цяперашнім сэзоне. Тэатр наведваецца вельмі старанна, амаль ня гледзячы на якасьць спэктакляў; на сямейных вечарох дваранскага клюбу, а таксама ў афіцэрскім сабраньні лік наведвальнікаў амаль падвоіўся. Шмат хто з прыватных асоб і нават корпорацый завялі ў сябе сталыя вечары. Дзякуючы паказанаму настрою грамадзтва, у горадзе аднавіўся гандаль і радасна ажылі трапіўшыя было ў застой модныя магазыны, дамскія краўцы і магазыны з мануфактурнымі і шаўковымі таварамі“. І затым даецца тлумачэньне:

„Тлумачэньне гэтай зьяве, г. зн. перамене ў настроях грамадзтва, можна знайсьці часткова ў агульным „умиротворении умов“ пасьля перажытых краем узрушаньняў. У большым „умиротворении“ розных элемэнтаў грамадзтва і матэрыяльным, які відочна разьвіваецца, дабрабыце краю“.

---

1) „Беседа“, 1871, кн. X: „из Северо-Зап. Края“, Д. А. Миропольского, стар. 202.

2) „Виленский Вестник“, 1875 г., № 5 (Рэдактар С. Поль).

Першы прыклад падобнага „умиротворения“ мусіў падаваць, канешне, у Вільні генэрал-губарнатарскі палац. Ён быў цэнтрам увагі ўсяго краю, тут імпэратарская Расія паказвала сваю магутнасьць і бляск, тут мясцовы магнат мог і павінен быў знайсьці агульную мову з адміністрацыяй.

І „Виленский Вестник“ аж душыцца казённым запалам пры апісаньні балю ў Альбэдзінскага:

„Вечары ў пана ген.-губарнатара адзначаюцца бляскам і памерамі, недаступнымі для прыватных асоб. Усе пакоі другога паверху вялізарнага ген.-губарнатарскага дому напаўняюцца натоўпамі гасьцей, лік якіх дасягае часам 400. Вагромістая саля ледзь можа памясьціць усіх танцораў, якія танцуюць кадрыль па дзьве шарэнгі ў 32 пары. Асьвятляецца саля бязьлічным мноствам сьвечак і аздабляецца жывымі расьлінамі і кветкамі. За саляй ідзе алькоў замест гасьціннай для дам, за ім—буфэт, раскошна аздоблены фруктамі, цукеркамі ды іншымі дэсэртамі. За буфэтам—далей пакоі, якія адведзены для карт... Самы баль зьяўляецца цудоўным відовішчам. Мноства дам у раскошных туалетах, вагромістасьць натоўпу, гукі музыкі і бляск асьвятленьня ўсіх варожыць. Вечар канчаецца раскошнай вячэрай і госьці вяртаюцца дахаты ўжо а чацвертай гадзіне раніцы“.

„Зразумела,—дабаўляе „Вестник“,—што пры гэткіх умовах ген.-губарнатарскія балі прывабліваюць і гэткіх асоб, якія раней цураліся зносін з віленскай адміністрацыяй. На апошнім балі ўжо было шмат асоб з вышэйшай мясцовай арыстократыі“.

Ня дзіва, што „западно-руссы“, пры гэткім павароце спраў, былі зусім не да двара. Яны былі ня толькі не карысны, яны былі проста шкодны, усе гэтыя палітыкуючыя папы, сэмінарскія патрыёты, розначынныя прафэсары, якія „да сьмерці“ хацелі біцца з палякамі-панамі. І замест таго, каб іх падтрымліваць, іх адапхнулі на самы задні плян, раўнаючы часам да зьбянтэжаных „мураўёўцаў у адстаўцы“, дзяржыморд, п‘яніц і бандытаў*).

Прымушаны быў сьціхнуць і кінуць сваю публіцыстыку і М. Каяловіч. Ён зноў адыходзіць у пыл архіваў, зноў вяртаецца да распрацоўкі гісторыі вуніяцтва.

У гэты час, між іншым, у Пецярбургу, у яго адбылася вельмі характэрная і непацяшальная для „западно-русской“ справы размова з Юр. Самарыным, ягонным прыхільнікам і натхніцелем у галіне славянафільства.

---

*) У гэты пэрыод знаходзім шмат скаргаў і жальбаў былых „мураўёўцаў“ на ўціск іх з боку новай улады на Беларусі; лаялі іх і той час публічна і не шкадушчы („Беседа“, 1871, кн. X, 206).

„Калі я,—пераказвае М. Каяловіч,—пачаў гутарку з Ю. Самарыным аб розных „западно-русских“ няўдачах і аб невыстарчальнай там расійскай дапамозе, ён амаль з жорсткасьцю мне адказаў, што самі западно-руссы вінаваты: самі яны павінны былі-б працаваць і папраўляць свае справы“.

І Каяловіч меў поўную рацыю, калі ў 1876 г., на агульным сходзе пецярбурскага аддзелу Славянскага Таварыства з горкасьцю *перапрашаў* прысутных за тое, што ён *дазволіць* сабе прыпомніць справы, відаць, зусім забытыя, справы „западно-русские“.

*(Працяг будзе).*

# ПОЛЬСКА-САВЕЦКІЯ АДНОСІНЫ І РЫСКІ МІР

Проф. Уладзімер Пічэта

Разьдзел I

## Польскае пытаньне і расійскае самаўладзтва

Расійскі царскі ўрад глядзеў на Польшчу, як на частку расійскай імпэрыі, ды імкнуўся праводзіць русіфікатарскую політыку, не жадаючы рабіць ніякіх уступак зусім законным нацыянальным вымаганьням палякаў. Політыка расійскага ўраду была даволі цьвёрдай, і ў гэтых адносінах усе надзеі польскай буржуазіі дабіцца мірным спосабам нацыянальна-культурных палёгкаў для Польшчы ад расійскага ўраду пацярпелі поўную няўдачу. Праўда, польская буржуазія была ўзнагароджана тым, што польская прамысловасьць працавала на шырокі расійскі рынак і давала польскім прадпрыемцам вялікія дывідэнты.

Імпэрыялістычная вайна 1914 г. высунула польскае пытаньне на першы плян, і ў працягу значнага часу яго абгаварвалі як у расійскіх урадавых сфэрах, так і ў колах польскай буржуазіі. 1/14 жніўня 1914 году былы вялікі князь Мікалай Мікалаевіч апублікаваў адозву да палякаў, у якой ён заклікаў палякаў да барацьбы за волю, якая павінна надыйсьці тады, калі расійскае войска пераможа ворага. „Паўтара стагодзьдзі таму назад,—гаварылася ў адозьве,—жывое цела Польшчы было парвана на кавалкі, але душа яе не памерла. Яна жыла надзеяй, што надыйдзе час уваскрашэньня польскага народу, братэрскага замірэньня з Вялікай Расіяй.

Расійскае войска нясе вам добрую вестку гэтага замірэньня. Няхай сатруцца межы, што парвалі на часткі польскі народ, няхай аб'яднаецца ён пад уладай расійскага цара! Пад уладай гэтай адродзіцца Польшча, вольная ў сваёй веры, у мове і самакіраўніцтве.

Аднаго чакае ад вас Расія—тэй пашаны да правоў народнасьцяй, з якімі зьвязала вас гісторыя.

Са шчырым сэрцам, з працягнутай пабратэрску рукой ідзе вам насустрач Вялікая Расія. Яна верыць, што не заіржавеў меч, які рэзаў ворага пры Грунвальдзе.

Ад берагоў Ціхага акіяну да Паўночнага мора ідзе расійскае войска. Золак новага жыцьця займаецца для вас. Няхай загарыцца ў тым золаку сьцяг крыжу—сымбалю пакуты і ўваскрашэньня народаў“ *).

*) „Русско-польские отношения в период мировой войны“. Выд. Цэнтраархіву. Масква, 1926 г., стар. 155.

Гэта адозва галоўнакамандуючага мела на мэце ўзьняць настрой польскай буржуазіі і перацягнуць яе на свой бок у тэй барацьбе, якая тады пачыналася. Ад пачатку да канца ўся гэта адозва прасякнута непамерным фальшам. Як магло здарыцца, што самаўладзтва, якое прыгнятала Польшчу, раптам зробіцца крыніцай адраджэньня і аб'яднаньня Польшчы. Імпэрыялістычныя тэндэнцыі расійскага ўраду выразна выявіліся і ў гэтай адозьве. Расійскі ўрад марыў аб аб'яднаньні ўсёй Польшчы пад уладай расійскага імпэратара з тым, каб даць Польшчы самакіраўніцтва, свабоду веравызнаньня і мовы. Гэткая была мінімальная польская програма, якая вышла са стаўкі галоўнакамандуючага.

Публікацыя гэтай адозвы, разумеецца, ня мела ніякага юрыдычнага значэньня. Недарма вышэйшыя ўрадавыя колы сурова асудзілі публікацыю гэтай адозвы. Частка польскай буржуазіі ўхапілася за гэту адозву і нейкі час, пакуль на гэта быў дазвол ураду, выказвала сваё захапленьне рознымі малебнамі і ўрачыстымі службамі.

Аднак, і расійскаму ўраду прышлося хоцькі-ня-хоцькі адгукнуцца на адозву вярхоўнага галоўнакамандуючага. Расійскі ўрад пачаў з таго, што забараніў абмяркоўваць польскае пытаньне ў пэрыодычным друку. З гэта часу польскае пытаньне пачало абмяркоўвацца ў глыбіні міністэрскай канцэлярыі. Міністры расійскага ўраду ня мелі аднаго погляду на польскую проблему. Сярод міністраў узьніклі дзьве партыі. Міністар замежных спраў С. Д. Созонов з меркаваньняў палітычнага характару лічыў патрэбным організаваць будучы польскі край, у склад якога павінны былі ўвайсьці Прывісьлянскія губэрні і польскія землі, якія ў выпадку пераможнай вайны адыйдуць да Расіі ад Нямеччыны і ад Аўстрыі ў Заходняй Галіцыі, як асобнае намесьніцтва, межы самакіраўніцтва якога будуць вызначаны царскім законадаўствам. Пры гэтым, па думцы Созонова, павінна быць забясьпечана непадзельнасьць краю з імпэрыяй, для чаго „ўсе агульнадзяржаўныя інтарэсы павінны, як і раней, падлягаць імпэрскаму законадаўству і быць пад загадам органаў імпэрыі, пры захаваньні ўдзелу прадстаўнікоў Польшчы ў імпэрскім законадаўстве". Замежныя справы, пытаньне абароны і арміі павінны быць выключаны з-пад ведама мясцовага самакіраўніцтва. Таксама „ў галіне фінансаў і шляхоў павінна быць разьмяжована чыннасьць імпэрскіх і мясцовых органаў". Па думцы Созонова, да мясцовых спраў належаць: „царква, школа, краёвая і мясцовая гаспадарка і ў пэўных абхватах суд і грамадзянскі правапарадак з захаваньнем, аднак, улады урадавага Сэнату, як вышэйшай інстанцыі". Вышэйшая і мясцовая адміністрацыя павінна быць падначалена намесьніку. Выкладаньне вядзецца ў польскіх школах—у вышэйшых, сярэдніх і ніжэйшых—на польскай мове, з абавязковым, аднак, выкладаньнем, практычным і тэорытычным, расійскай мовы ў школах сярэдніх і вышэйшых. Правы расійскага жыхарства ў краі ў пытаньнях веравызнаньня, школы і мовы павінны быць цьвёрда забясьпечаны. Роў-

насьць і вольнасьць веравызнаньня забясьпечваецца ў краі. Ва ўсіх мясцовых установах, у тым ліку і судовых, павінна быць забясьпечана абавязковае ўжываньне, побач з польскай, расійскай мовы [1]). Такі проект Созонова. Даючы Польшчы нязначнае самакіраўніцтва і магчымасьць карыстацца сваёй мовай у школе, судзе і кіраўніцтве, а таксама вольнасьць веравызнаньня,—проект Созонова адначасна цесна зьвязваў Польшчу з расійскай імпэрыяй, а расійскае жыхарства ставілася ў Польшчы ў асабліва прывілейнае становішча. Таксама і расійская мова абвяшчалася роўнапраўнай з польскай мовай.

Другую запіску склалі найбольш рэакцыйныя міністры: Маклаков, Касо і Шчэгловітов. Па думцы гэтых міністраў, будучы польскі край павінен быць сурова абмяжован у граніцах этнографічнай Польшчы. А таму з Прывісьлянскіх губэрняў у склад гэтага краю ня можа ўваходзіць Сувальская губэрня, якая пераважна заселена літоўцамі, а не палякамі. Новы край павінен быць цесна зьвязан з Расіяй, бо „дзяржава расійская—адзіная і непадзельная“. Усе агульнаімпэрскія справы павінны вырашацца агульнадзяржаўнымі ўстановамі. Мясцовыя ўстановы могуць атрымаць „пэўныя поўнамоцтвы ў срога вызначаных межах мясцовых гаспадарчых патрэб, без якіх-бы то ні было поўнамоцтваў заканадаўчага характару і без перадачы ім агульнаімпэрскага кіраўніцтва“. Пры ажыцьцяўленьні сваіх задач мясцовыя ўстановы польскага краю могуць карыстацца польскай мовай, але каб усё дзелаводзтва канечна адбывалася на агульнадзяржаўнай расійскай мове. За гэтымі межамі ва ўсіх дзяржаўных пастановах павінна ўжывацца расійская мова, як „жывы паказальнік адзінства і непадзельнасьці расійскай дзяржавы“. Усе пытаньні наконт праваслаўнай царквы, замежнай політыкі, ваеннай абароны, працы і вучэбнай справы, чыгунак, фінансаў, за выключэньнем выдаткаў, якія належаць да бюджэтаў органаў самакіраўніцтва, агульнадзяржаўныя пазыкі, грашовыя звароты, мытная і акцызная справа, паштовыя, тэлеграфныя і тэлефонныя зносіны немясцовага значэньня, ня могуць быць перададзены мясцовым органам самакіраўніцтва польскага краю. Усе чыноўнікі павінны ведаць польскую мову. На дзяржаўную службу можна прымаць палякаў, якія ведаюць расійскую мову, але з тым, каб іх ва ўстановах ня было больш за расійцаў. Вольнасьць веравызнаньня ў краі ўводзіцца аднолькавая з іншымі часткамі імпэрыі [2]).

Тэндэнцыя запіскі трох міністраў—выразная. Міністры проці фактычнага самакіраўніцтва ў Польшчы, проці польскай школы, проці польскай мовы ў кіраўніцтве і судзе. Міністры згодны даць невялікае самакіраўніцтва, перадаўшы апошняму справы мясцовага значэньня ў вузкім сэнсе гэтага слова, адначасна захаваўшы за расійскай нацыянальнасьцю і расійскай мовай права пануючай нацыянальнасьці.

---

[1]) „Русско-польские отношения“, стар. 10—11.
[2]) „Польско-русские отношения“, № 1.

Паміж 5 і 15 лістапада 1914 году адбыліся тры пасяджэньні рады міністраў, спэцыяльна прысьвечаныя польскаму пытаньню. На гэтых пасяджэньнях польскае пытаньне не пасунулася далей, бо абодва бакі трымаліся розных поглядаў і, разумеецца, не маглі згадзіцца паміж сабой. Да думкі Созонова аб неабходнасьці даць будучай Польшчы самакіраўніцтва далучыўся часткова Крывашэін. Ён нават згадзіўся, каб у Варшаўскім унівэрсытэце выкладаньне вялося на польскай мове, апрача некаторых дысцыплін, але затое ў Львове ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы зьмяняюцца ў расійскія. Крывашэін лічыў Галіцыю краем расійскім, а не украінскім. Апрача гэтага, абмяркоўваючы проект Созонова, Крывашэін лічыў патрэбным паставіць будучы польскі край у вялікую залежнасьць ад цэнтру. А таму, па думцы Крывашэіна, намесьнік краю павінен назначаць чыноўнікаў не на ўсе пасады, а каб на важнейшыя з іх назначалі з Петраграду *).

Нарада міністраў у лістападзе месяцы паказала, што ў міністраў няма адзінага погляду на польскае пытаньне і што думка аб самакіраўніцтве для польскага краю і нацыянальна-культурным самавызначэньні выклікае з боку большасьці міністраў адмоўныя да сябе адносіны. Такім чынам, рада міністраў паказала, што не жадае даваць будучаму польскаму краю шырокае самакіраўніцтва і адначасна з гэтым адмовіцца ад падпарадкаваньня польскага краю расійскай культуры і расійскаму ўплыву. Усе гэтыя проекты былі пахованы ў канцэлярыі міністэрстваў і не атрымалі ніякага далейшага руху. Так вырашалася польскае пытаньне ў расійскіх урадавых колах у канцы 1914 году.

У гэты час Галіцыя была акупавана расійскім войскам. Генэрал-губарнатар Галіцыі граф Бобрынскі праводзіў сваю ганебную русіфікатарскую палітыку. З ваенным генэрал-губарнатарам Галіцыі трымаў сувязь профэсар Львоўскага унівэрсытэту Станіслаў Грабскі, які падаў на разгляд графа Бобрынскага дакладную запіску; у гэтай запісцы ён выказваў свае меркаваньні наконт польскіх спраў. Запіска С. Грабскага зьяўляецца даносам на паасобных прадстаўнікоў польскай грамадзкасьці, якія лічыліся гэрманафіламі і сярод якіх былі соцыялістыя—Дашынскі, Марэк і Кракаўскі консэрватыўны профэсар Яворскі. З другога боку, у Галіцыі ёсьць нацыянальныя партыі, да якіх належаць: профэсар Гломбінскі, доцэнт Развадоўскі, граф Скарбэк, купец Рыдэль і Грабскі, нацыянальныя консэрватары, князь Чартарыйскі, князь Любамірскі і шэраг іншых асоб. Згодна заявы Грабскага, партыя нацыянал-дэмакратаў як магла пярэчыла аўстра-нямецкай палітыцы і стаяла на пункце погляду славянскіх інтарэсаў. Даносячы графу Бобрынскаму на сваіх палітычных ворагаў, пан С. Грабскі думае, што пэўную частку гэрманафілаў можна будзе пераканаць і „гэта будзе мець вялікае значэньне, калі якраз тыя,

1) „Польско-русские отношения“, № 3.

што ня мелі да гэтага часу маркі русафільскай, далучацца да адозвы, якая вышла-б ужо не ад імя толькі Царства Польскага, але і ад усяго польскага народу, так што на баку Нямеччыны засталіся-б адны соцыялістыя[1]). Запіску Грабскага граф Бобрынскі пераслаў у стаўку. Адначасна профэсар С. Грабскі падаў графу Бобрынскаму дакладную запіску аб тым, якімі павінны быць правы польскага народу ў Галіцыі. Грабскі стаіць за тое, каб даць Галіцыі, як польскаму краю, аўтономію і нацыянальна-культурнае самавызначэньне. Польская мова павінна стаць мовай пануючай. Па думцы Грабскага, такая організацыя Галіцыі была-б „пачаткам аб'яднаньня з 10-ю мільёнамі палякаў, з якімі галічане ў працягу ста гадоў былі разлучаны гранічнымі слупамі, але якія заўсёды адчувалі сябе адзіным народам. Гэта думка павінна быць выказана ў асобнай адозьве, апублікаванай ад імя расійскага ўраду". Па думцы Грабскага, выпушчаная адозва павінна была заканчвацца абяцанкамі „даць аб'яднанай Польшчы права карыстацца нацыянальнай воляй: польскай мовай у школе, у грамадзкім жыцьці і ва ўстановах, а таксама мець законадаўчую адміністрацыйную аўтономію па ўсіх справах унутранай культуры, гаспадаркі і ўнутранага распарадку і быць вольнымі ў захаваньні сваёй веры, мовы і самакіраўніцтва Польшчы [2]).

Запіска Грабскага адбівала агульна-польскія погляды нацыянал-дэмократаў, для якіх Галіцыя была польскім краем; яго належала полёнізаваць, у той самы час, як граф Бобрынскі праводзіў рэзкую політыку русіфікацыі. Зусім зразумела, што гэта запіска не магла даць ніякіх вынікаў, але ў той-жа самы час яна выразна малявала настроі польскіх нацыянальных дэмократаў, на чале якіх стаяў Грабскі.

Ня гледзячы на тое, што расійскі ўрад не жадаў займацца абмяркаваньнем польскага пытаньня, час ад часу да яго прыходзілася варочацца. Гэта залежала, з аднаго боку, ад цэлага шэрагу няўдач на заходнім фронце, няўдач, якія прымусілі расійскае ваеннае камандваньне пакінуць занятыя войскам мясцовасьці. З другога боку, націск англа-францускіх дыплёматаў, якія дамагаліся вырашэньня польскага пытаньня. Разумеецца, расійскі ўрад ня мог адхіліць гэтыя вымаганьні і вымушан быў рабіць выгляд, што ён цікавіцца польскім пытаньнем і шчыра хоча вырашыць яго. Сапраўды-ж расійскі ўрад трымаўся погляду Маклакова, Касо і Шчэгловітова і ані не хацеў ісьці насустрач нават тым нязначным уступкам, якія, паводле думкі Сазонова, павінны быць зроблены для Польшчы.

Польскае пытаньне горача абмяркоўвалася і ў польскіх консэрватыўных грамадзкіх колах. У гэтым сэнсе заслугоўвае ўвагі запіска графа Сігізмунда Велепольскага ад 27 красавіка 1915 г. і запіска графа Ўладыслава Велепольскага ад 15 мая 1915 году. Граф С. Велепольскі быў член Дзяржаўнай Рады. У адозьве галоўнакамандуючага, паводле думкі Веле-

[1]) „Русско-польские отношения" стар. 27—33.
[2]) „Русско-польские отношения", стар. 35—37.

польскага, расійская грамадзкая думка, таксама як і польская, бачыла заклік да канчатковага вырашэньня вялікай задачы мірнага сужыцьця двух братэрскіх народаў у межах адзінай дзяржавы. У той-жа час, адзначае Велепольскі, „у колах ураду і яго органах існуюць непаразуменьні і розныя плыні, якія імкнуцца зьменшыць значэньне гістарычнага акту, і вялая чыннасьць, праўда, накірованая да здаволеньня ў пэўнай меры і форме некаторых экономічных і культурных патрэб польскага народу, але зусім не адпавядальная прынцыпам, якія абвясьціў вярхоўны галоўнакамандуючы". Граф Велепольскі думае, што надышоў момант братэрскага замірэньня з Вялікай Расіяй. Спатканьне расійскага войска польскім народам і нязьлічоныя ахвяры, якія церпіць польскі народ, найлепш паказваюць настроі польскага народу. Граф Велепольскі пакуль што ня думае аб проектах організацыі будучай аб'яднанай Польшчы. Ён лічыць патрэбным перабудаваць кіраўніцтва Царства Польскага „на непарушных падставах". Царства Польскае павінна мець самакіраўніцтва, польскую мову трэба выкладаць ва ўсіх школах, палякаў трэба прымаць на розныя пасады, і трэба скончыць тое недавер'е, якое да гэтага часу было з боку расійскай улады [1]). 21-га мая 1915 году ў Петраградзе адбылася нарада па польскім пытаньні, на якой прысутнічалі: прадстаўнік рады міністраў, міністар унутраных спраў, міністар народнай асьветы, варшаўскі генэрал-губарнатар, граф С. І. Велепольскі, Ул. Ф. Грабскі, Раман Дмоўскі, лідэр народнай дэмократыі і міністар замежных спраў Польшчы ў 1923 годзе. Політычныя пажаданьні польскіх дзеячоў былі невялікія. Раман Дмоўскі дамагаўся ад ураду ўсяго толькі пэўнай самастойнасьці ва ўнутраным кіраўніцтве польскім краем, а Ўладыслаў Грабскі, будучы прэм'ер польскай рэспублікі, выступаючы ад імя простага польскага народу, г. зн. шэрых мас палякаў, сялян і гарадзкога жыхарства, прасіў у цара праз царскіх міністраў такіх рэформ, якія ў Царстве Польскім павінны пашыраць „асноўныя погляды ў справе самакіраўніцтва на ўсё тое, што датычыць культуры і краёвай гаспадаркі," так, каб усе пытаньні культурнага і гаспадарчага значэньня Царства Польскага маглі вырашацца ў законадаўчым парадку асобна для гэтага краю, з вылучэньнем асобных сродкаў і асобных органаў выкананьня [2]). Такія былі нязначныя вымаганьні польскай буржуазнай грамадзкасьці. Аднак, і гэтыя вымаганьні ня былі здаволены, а ў далейшым, калі Польшча была окупавана немцамі, пытаньне аб самакіраўніцтве ў Царстве Польскім страціла сваю актуальнасьць.

Окупацыя Царства Польскага аўстра-нямецкім войскам і замеры нямецкага ўраду паставіць польскае пытаньне на абмеркаваньне, прымусіла заварушыцца расійскі ўрад і зноў паставіць польскае пытаньне на абмеркаваньне. У выніку гэтага міністар замежных спраў Созонов 17 кра-

[1]) „Русско-польские отношения", стар. 50 - 53.

[2]) „Русско-польские отношения" стар. 60—77.

савіка 1916 году падаў дакладную запіску з проектам статуту аб дзяржаўным упарадкаваньні Царства Польскага*). Созонов, надаючы міжнароднае значэньне польскаму пытаньню, лічыў, аднак, што вырашэньне яго нельга перадаваць Эўропе і пераносіць на міжнародны конгрэс. Паводле думкі Созонава, Расія ня можа дапусьціць формальна міжнародную пастаноўку польскага пытаньня і абавязана перад сваім мінулым і дзеля сваёй будучыні сама яго вырашыць. Паводле думкі Созонова, цяпер сур'ёзна можна абгаварваць толькі тры вырашэньні польскага пытаньня: незалежнасьць Царства Польскага, самабытнасьць існаваньня Царства, яднаньне з Расіяй і больш або менш провінцыяльнае самакіраўніцтва краю. Другія вырашэньні Созонов лічыць спозьненымі і політычна надта нявыгоднымі для Расіі. Созонов не дапушчае думкі аб незалежным існаваньні Польшчы. Незалежная Польшча можа трапіць пад уплыў Нямеччыны і зрабіць Варшаву асяродкам політычнай інтрыгі, накіраванай проці Расіі. Созонов лічыць, што провінцыяльнае самакіраўніцтва для Польшчы было-б таксама нездавальняльным з пункту погляду інтарэсаў Расіі, асабліва пасьля прамовы статс-сакратара Горемыкіна ад 19 ліпня 1915 году. Даючы Польшчы провінцыяльнае самакіраўніцтва, па думцы Созонова, прыдзецца затраціць вялізныя сілы на барацьбу з польскім нацыянальным рухам, і гэта ў той час, калі ўсе нашы патугі будуць накіраваны на організацыю абароны будучых політычных нашых межаў і на справу разьвіцьця вытворчых сіл Расіі. Созонов лічыць, што трэба ўтварыць у Польшчы такую політычную організацыю, якая захавала-б за Расіяй і яе монархам кіраўніцтва лёсам польскага народу і ў той-жа час давала-б нацыянальнаму руху шырокі выхад, пры гэтым не на шлях далейшага змаганьня з Расіяй, а на шлях правільнага ўпарадкаваньня ўнутранага політычнага жыцьця краю. Кіруючыся такімі прынцыпамі, міністар Созонов улажыў проект статуту аб політычным упарадкаваньні Царства Польскага. Гэты статут, па думцы Созонова, больш за ўсё адпавядае інтарэсам Расіі, а з другога боку, ён будуецца на прызнаньні за царствам права самабытнага політычнага жыцьця з захаваньнем за Расіяй і яе царом вышэйшай улады ў краі. Гэта асноўная думка адбілася ў першым артыкуле статуту: „Царства Польскае зьвязана з Расійскай Дзяржавай непадзельнасьцю трону і адзінствам агульнадзяржаўных спраў. У сваіх унутраных справах яно кіруецца законамі на падставах спэцыяльнага законадаўства". Што-ж датычыцца агульнадзяржаўных спраў, дык яны вырашаюцца ў парадку, устаноўленым асноўнымі дзяржаўнымі законамі і іншым законадаўствам, якое мае моц у расійскай дзяржаве. Царства Польскае мае свайго намесьніка, якога назначае імпэратар. Законадаўчае права належыць сойму, які складаецца з дзьвюх палат: палаты прадстаўнікоў і сэнату. Сойм мае права законадаўчай ініцыятывы. Рада міністраў і міністэрства Царства Польскага мае выканаўчае права. Дзяржаўны расклад

*) „Русско-польские отношения", № 15, стар. 85—94.

выдаткаў і прыбыткаў Царства Польскага кожны год вызначаецца ў законадаўчым Царства Польскага парадку. Усе пытаньні наконт трону, устанаўленьня імпэратарскай фаміліі, міжнародных пытаньняў, арміі і флёту, праваслаўнай царквы, агульнадзяржаўнага раскладу прыбыткаў і выдаткаў, пазык, дзяржаўнага банку, мытнага законадаўства, пабочных падаткаў, пошты, тэлеграфу, радыё-тэлеграфу, тэлефону, паветраных зносін, чыгунак, казённых монополій і г. д., аўтарскага права, прамысловай уласнасьці і г. д. складаюць галіну агульнаімпэрскага законадаўства. Польскае жыхарства мае прадстаўніцтва ў Дзяржаўнай Радзе па выбарах і ў Дзяржаўнай Думе, але не бярэ ўдзелу ў абмеркаваньні і вырашэньні пытаньняў агульна-імпэрскага значэньня. Усе расійскія падданыя карыстаюцца правамі, якія даны сталаму жыхарству Царства. Новая запіска Созонова бязумоўна больш лібэральная ў параўнаньні з яго пэршай запіскай. Яе лібэралізм быў прадыктаваны агульна-палітычным становішчам і окупацыяй Польшчы аўстра-нямецкім войскам. Запіска сьведчыць аб плянах Созонова, але, разумеецца, яна ня мела ніякага значэньня для практычнага вырашэньня польскага пытаньня.

Статут пра дзяржаўнае ўпарадкаваньне Царства Польскага Созонов пачаў складаць пасьля таго, як ён атрымаў ліст ад расійскага пасла ў Парыжы Ізвольскага; гэты ліст ён атрымаў 25 красавіка 1916 г. *). Ізвольскі адзначаў шырокі развой полёнофільскіх настрояў сярод французскай публікі і даводзіў да ведама Созонова аб жаданьнях францускіх палітычных дзеячоў перанесьці польскае пытаньне на міжнародную глебу і змусіць францускі ўрад зрабіць для гэтай мэты належныя крокі ў Петраградзе. У сваім лісьце Ізвольскі паведаміў падрабязнасьці свайго спатканьня з Дмоўскім, які перадаў яму проект згоды паміж Нямеччынай і Аўстра-Вэнгрыяй наконт будучыні Польшчы. Па словах Дмоўскага, Галіцыя падзяляецца на дзьве часткі: на заходнюю, або польскую і ўсходнюю, або украінскую. Большая частка Царства Польскага разам з Заходняй Галіцыяй складае польскую дзяржаву і ўваходзіць у склад Аўстрыі прыблізна на тых самых падставах, на якіх Харватыя ўваходзіць у склад Вэнгрыі. Холмшчына далучаецца да ўсходняй Галіцыі і разам з ёю ўваходзіць у склад Вэнгрыі. Прусія спрашчае сваю граніцу і далучае да сябе часткі пагранічных польскіх губэрняў. Дмоўскі зазначыў Ізвольскаму, што такое вырашэньне польскага пытаньня ня можа здаволіць польскую грамадзкасьць і з свайго боку лічыць, што Расія павінна цяпер-жа апрацаваць проект вырашэньня польскага пытаньня ў сэнсе аб'яднаньня ўсіх трох частак Польшчы і заснаваньня з іх нацыянальнай польскай дзяржавы, зьвязанай з Расіяй на такіх падставах, якія забясьпечвалі-б супольнасьць дзяржаўнае абароны і эканомічных інтарэсаў. Гэты проект мог-бы стаць на абгавораньне Расіі і яе саюзьнікаў. Пры гэтым няма ніякай патрэбы ўрачыста абвяшчаць пра

*) „Русско-польские отношения“, № 16.

гэту згоду. Досыць, калі палякі тым ці іншым спосабам даведаюцца пра яе існаваньне і зьмест з газэтных паведамленьняў. У сваім лісьце Ізвольскі адзначыў, што палякі, страціўшы веру ў Расію з прычыны яе ваенных няўдач, адхіляюцца ад Расіі і гатовы прыняць з рук нашых ворагаў той лёс, які хоць і не здаволіць іхных нацыянальных імкненьняў, але ўсё-ж забясьпечыць большай частцы польскай нацыі ў непасрэдным аб'яднаньні з Аўстрыяй такія вольнасьці ў галіне самакіраўніцтва, рэлігіі і мовы, якія ім да гэтага часу не ўдалося атрымаць ад Расіі. Ізвольскі лічыць, што такая пастаноўка справы вельмі пагражае ня толькі Расіі, але і ўсяму саюзьніцкаму блёку, бо гэта можа перш за ўсё дапамагчы Нямеччыне і Аўстрыі ў формаваньні польскага войска. Па думцы Ізвольскага, трэба пераканаць палякаў у тым, што перамога саюзьнікаў забясьпечыць ім лепшую будучыню, а для гэтага перш за ўсё трэба вярнуць ім страчаную веру да абяцанай Расіі; гэтага магчыма дасягнуць толькі ў тым выпадку, калі Расія зараз-жа возьме на сябе апрацоўку проекту шырокай аўтономіі аб'яднанай Польшчы і калі да гэтага проекту ў тэй або іншай меры далучацца яе саюзьнікі.

Такім чынам, неабходна дэкляраваць проект шырокай аўтономіі аб'яднанай Польшчы. Гэта добра разумеў Созонов, але з поглядамі Созонова не згаджаўся тагачасны старшыня рады міністраў Шцюрмэр. Созонов паказаў ліст Ізвольскага Мікалаю Романову, які паклаў на ім такую рэзолюцыю: „пакажэце старшыні рады міністраў“ [1]). У выкананьне гэтай рэзолюцыі Шцюрмэр падаў дакладную запіску Мікалаю Романову, у якой ён аднёсься зусім адмоўна да проектаў Ізвольскага і Созонова [2]), Шцюрмэр прызнае ўсю сур'ёзнасьць становішча, але лічыць, што „нельга згадзіцца з тымі вывадамі, якія робяцца з гэтага становішча бяз шкоды для годнасьці і моцы Расійскай Дзяржавы“. А таму Шцюрмэр лічыць, што цяпер няма ніякіх прычын, якія змушалі-б „абавязкова штоколечы заяўляць па польскім пытаньні, іменна цяпер і да таго-ж неадкладна, калі такімі прычынамі ня лічыць, з аднаго боку, даведзеную гісторыяй нэрвовасьць палякаў, а з другога—гатоўнасьць грамадзкіх і палітычных дзеячоў любой краіны ахвяроўваць для прыгожага гэсту самымі каштоўнымі і рэальнымі задачамі нават сваіх прыяцеляў і саюзьнікаў“.

Адначасна з гэтым польскі магнат князь Любамірскі адзначае, што „Расія нічога не зрабіла ў адносінах да польскага пытаньня“, і прапануе, бяручы пад увагу тагачаснае палітычнае і ваеннае становішча, неадкладна абвясьціць асобным дзяржаўным актам тыя ўзаемаадносіны, якія павінны быць паміж Расіяй і Польшчай. Будучая Польшча павінна быць „пад уладай расійскага цара, мець свой самастойны ўнутраны лад і вызначыць адносіны Польшчы да непадзельнасьці Расійскай Імпэрыі“ [3]).

[1]) „Русско-польские отношения“, стар. 98.

[2]) „Русско-польские отношения“, стар. 98—101.

[3]) „Русско-польские отношения“, стар. 101—103.

Паводле думкі Любамірскага, агалашэньне праў Польшчы не павінна ставіцца ў залежнасьць ад памераў польскага краю, які застанецца пад Расіяй. Калі ў выніку вайны пад Расіяй засталася-б толькі частка польскага краю, дык яна павінна атрымаць поўнасьцю абяцаны лад, бо толькі пры гэтых умовах яна складзе асяродак, да якога будуць імкнуцца нямецкія і аўстрыйскія польскія дзялянкі. Любамірскі лічыць, што гэты акт трэба агаласіць як найхутчэй. Тая нявыразнасьць, у якой знаходзіцца цяпер польскае пытаньне, надта карысна цэнтральным дзяржавам у той час, як „памянёны вышэй акт, вырашаючы канчаткова польскае пытаньне, папярэдзіў-бы ўсе іхныя пляны і паралюшаваў-бы іхную злонамераную і шкодную чыннасьць“.

Запіску Любамірскага Мікалай Романов перадаў Шцюрмэру, які нарыхтаваў належны даклад адносна гэтай запіскі[1]). Шцюрмэр глядзіць зусім адмоўна на проект князя Любамірскага. Шцюрмэр гатоў прызнаць нарастаньне аўстра-нямецкіх сымпатый сярод расійскіх палякаў. Польская газэта ў Петраградзе „Дзеньнік Петраградзкі“ была прасякнута аўстра-нямецкімі настроямі, так выразна выяўленымі, што Шцюрмэр яе зачыніў. У запісцы Любамірскага Шцюрмэр бачыць толькі „пагрозу з боку расійскіх палякаў, што адхіленьне іхных умоў можа мець вынікі, карысныя Аўстрыі і Нямеччыне“. Шцюрмэр лічыць, што „пакуль Царства Польскае знаходзіцца ў руках ворага, ня трэба рабіць ніякіх заяў, бо кожная заява, зробленая з поваду польскіх прэтэнзій, была-б шырока скарыстана, як заява, што зьвязвае Расію на будучы час і, зразумела з усімі з гэтага вынікамі. Будучы вельмі карысна для палякаў, яна практычна ня толькі нічога не дала-б Расіі, а, наадварот, адбірала-б ад яе“. Вымаганьні палякаў, на думку Шцюрмэра, бязьмежны, а ў сваіх імкненьнях да адлучэньня ад Расіі яны непапраўныя.

Барацьба паміж Шцюрмэрам і Созоновым з-за польскага пытаньня скончылася адстаўкай Созонова. Аднак, Созонову ўдалося пераканаць Мікалая Романова ў неабходнасьці публікацыі польскага маніфэсту, складаньне якога было даручана дзяржаўнаму сакратару Крыжаноўскаму. Проект гэтага маніфэсту быў пададзен Мікалаю Романову і, згодна яго рэзолюцыі „неадкладна разглядзець на пасяджэньні рады міністраў“, быў пераданы на разгляд рады міністраў[2]). Трэба адзначыць, што галоўнакамандуючы паўднёва-заходняга фронту Брусілов у лісьце на імя Алексеева ад 16 чэрвеня 1916 году таксама адзначаў, што „адзіная магчымасьць перацягнуць палякаў на бок Расіі ў тым, каб зараз-жа, не марудзячы, рэальна ажыцьцявіць абяцанае ім у тых абхватах, якія прызнаюцца цяпер дапушчальнымі, але якія, бязумоўна, не павінны быць меншымі за тое, што прапануе палякам Аўстрыя[3]). З свайго боку

[1]) „Русско-польские отношения“, стар. 104—107.

[2]) „Русско-польские отношения“, стар. 109—112.

[3]) „Русско-польские отношения“, № 27.

Алексеев, паведамляючы Шцюрмэра пра ліст Брусілава, цалкам да яго далучыўся і выказаў пэўнасьць у тым, „што прапанованае ім вырашэньне польскага пытаньня зьяўляецца цяпер адзіна-карысным, і таму было-б пажадана ажыцьцявіць яго па магчымасьці неадкладна [1]).

Проект маніфэсту разглядала рада міністраў 13, 16 і 18 ліпня 1916 году [2]). Міністэрская нарада, лічачы, што проект статс-сакратара Крыжаноўскага „зьяўляецца толькі рэдакцыйнай перабудовай складзеных Созоновых прапаноў", у сваёй большасьці аднеслася адмоўна да самога проекту, бо, на іх думку, ён даваў палякам занадта шырокія правы. Дапускаючы патрэбу апублікаваць такі маніфэст, большасьць рады міністраў выказала пераконаньне ў неабходнасьці „ўкласьці гэты маніфэст па магчымасьці ў больш асьцярожныя формы, каб адхіліць узьнікненьне непажаданых гутарак і агітацыі сярод саюзных з намі дзяржаў". Большасьць членаў рады міністраў лічыла карысным зьвязаць публікацыю маніфэсту з будучым уваходам расійскага войска ў межы польскага краю. Адначасна з гэтым большасьць членаў рады міністраў склала проект маніфэсту, які адпавядаў выказаным імі поглядам. Складзены проект маніфэсту Шцюрмэр падаў Міколаю Романову. Аднак, Шцюрмэр не жадаў публікацыі нават такога маніфэсту, які гаварыў аб аўтономіі краю, хоць і не вызначаючы яго межаў. Пасьля звароту са стаўкі ён паслаў Міколаю Романову тэлеграму, у якой паведамляў, што „па загаду яе вялікасьці, ён павінен давесьці да ведама вашай вялікасьці просьбу затрымаць вырашэньня польскага пытаньня да прыезду яе вялікасьці ў стаўку" [3]).

Пасьля прыезду Аляксандры Романовай у стаўку польскае пытаньне перасталі абмяркоўваць. І толькі 12 студзеня 1917 г. нанова назначаны старшыня рады міністраў Мікалай Голіцын зноў „прасіў дазволу на скліканьне нарады па польскаму пытаньню з удзелам у нарадзе членаў Дзяржаўнай Рады, палякаў графа Велепольскага і Шэбеко, а таксама, калі гэта будзе прызнана пажаданым, і некаторых членаў Дзяржаўнай Думы польскай нацыянальнасьці". Голіцын лічыў, што скліканьню такой нарады па польскаму пытаньню, „з прычыны сучаснага агульна-палітычнага становішча, было-б пажадана надаць характар тэрміновасьці" [4]). Патрэба такой нарады зьявілася ў выніку загаду Мікалая Романова арміі і флёту ад 12 сьнежня 1916 году, у якім між іншым было сказана, што задачы, высунутыя вайной, яшчэ не дасягнуты, а іменна: заўладаньне Царгорадам і пралівамі, а таксама ўтварэньне вольнай Польшчы са ўсіх трох яе цяпер разлучаных частак яшчэ незабясьпечана [5]). Так Мікалай Романов, адмовіўшыся ад думкі апублікаваць

1) „Русско-польские отношения", № 22.

2) „Русско-польское отношения", стар. 114—122.

3) „Русско польские отношения", № 24 і 25,

4) „Русско-польские отношения", № 28.

5) „Русско-польские отношения", № 27.

маніфэст аб аўтономіі будучай Польшчы, усё-ж быў змушан пад націскам саюзьнікаў і агульна-палітычнага становішча ўспомніць аб утварэньні ў будучыні вольнай Польшчы і адначасна з гэтым прамаўчаць пра форму яе дзяржаўнага ладу.

Так на працягу ўсёй імпэрыялістычнай вайны, аж да канца самаўладзтва, польскае пытаньне, якое абмяркоўвалася са ўсіх бакоў, заставалася нявырашаным. Расійскі ўрад, верны сваім рус фікатарскім тэндэнцыям, нават напярэдадні сваёй пагібелі пабаяўся апублікаваць проект аўтономіі Польшчы, якая ў гэты час уся была ў руках аўстра-вэнгерскага окупацыйнага войска. Ня гледзячы на тое, што вайна адбывалася на тэрыторыі Царства Польскага, і было вельмі неабходна падтрымліваць русафільскія настроі палякаў, расійская адміністрацыя мала лічылася з агульнапалітычным становішчам, трасла і арыштоўвала падазрэных асоб, не выключаючы і моладзі. Бязумоўна, такая палітыка варшаўскай паліцыі адбівала сапраўдныя адносіны расійскага ўраду да Польшчы і не магла дапамагаць умацаваньню ў палякаў пэўнасьці ў тым, што самаўладная русіфікатарская Расія можа адрадзіць вольную незалежную Польшчу [1]). Нічога няма дзіўнага ў тым, што польскія буржуазныя партыі ў сваёй большасьці перасталі спадзявацца на Расію, і сярод іх да пэўнага моманту панавала аўстра-вэнгерская орыентацыя.

Разьдзел II

## Польшча і савецкая ўлада

Адносіны савецкай улады да польскага пытаньня выявіліся перш за ўсё ў прызнаньні незалежнасьці Польшчы адразу-ж пасьля Кастрычнікавага перавароту. У другі пэрыод берасьцейскіх перамоў на пашыраным пасяджэньні 12 студзеня 1918 году [2]) расійская дэлегацыя выступіла з дэкларацыяй, у якой заяўляла, што „старыя межы былой Расійскай Імпэрыі, межы ўтвораныя гвалтам і злачынствам проці народаў і, паасобна проці народу польскага, разваліліся разам з царызмам. Новыя межы братэрскага саюзу народаў Расійскай Рэспублікі, якія пажадаюць выйсьці з яе складу, павінны быць вызначаны вольным вырашэньнем адпаведных народаў“. Расійская дэлегацыя заяўляла аб сваім нежаданьні якім-колечы чынам і надалей гвалтаваць народы далучэньнем памянёных краёў да расійскай дзяржавы. Дэклярацыя адзначыла неабходнасьць забясьпечыць гэтым краём сапраўдную вольнасьць самавызначэньня ў пытаньнях унутранага дзяржаўнага ўпарадкаваньня і міжнароднага становішча. У той-жа час дэлегацыя сьцьвердзіла, што за ўвесь час „окупацыі аўстра-вэнгерскім войскам нідзе, ні ў Польшчы, ні ў Літве, ні ў Курляндыі ня ўтво-

---

[1]) „Русско-польские отношения“, стар. 137—154.

[2]) „Мирные переговоры в Брест-литовске“, том I, Масква 1920 г., стар. 92—94.

рана і не магло быць утворана і ня існуе якога-колечы дэмократычна выбарнага органу, які хоць-бы з найменшым правам мог прэтэндаваць на ролю выяўніка волі шырокіх колаў жыхарства". Дэлегацыя выказала пэўнасьць, што „канчатковае вырашэньне пытаньня аб будучым лёсе краёў, якія цяпер самавызначаюцца, павінны адбывацца ў абставінах поўнай палітычнай свабоды і адсутнасьці якога-б то ні было знадворнага націску, а гэта магчыма ажыцьцёвіць толькі пасьля выхаду з гэтых краёў чужаземнага войска". Пры абмеркаваньні пытаньня на Барасьцейскай мірнай конфэрэнцыі аб праве народаў окупацыйных краёў на нацыянальнае самавызначэньне праз галасаваньне, аўстра-нямецкая дэлегацыя ўзьняла пытаньне аб запросінах у Бярэсьце прадстаўніка польскай рэгэнцыйнай рады, складзенай нямецкім камандаваньнем, польскага міністрапрэзыдэнта Кухаржэўскага. Такі намер старшыні нямецкай дэлегацыі выклікаў адмоўныя адносіны з боку расійскай дэлегацыі, якая ў асобе т. Троцкага адзначыла „пажаданасьць удзелу ў мірных перамовах польскіх палітычных партый праз утварэньне часовага прадстаўніцтва незалежнай Польшчы спосабам добраахвотнай згоды польскіх палітычных партый, якія апіраюцца на народныя масы і, паасобку, на рабочую клясу". Ад імя дэлегацыі было заяўлена, што яна гатова прызнаць такое поўнамоцнае прадстаўніцтва цалкам бяз усякіх абмежаваньняў. З тэй прычыны, што польская рада, утвораная па жаданьні цэнтральных дзяржаў, мае намер браць удзел у мірных перамовах, зацікаўленыя дэлегацыі цэнтральных дзяржаў маглі-б утварыць адпаведныя ўмовы для ўдзелу польскага міністэрства ў гэтых перамовах. „Калі мы ня лічым,—казаў т. Троцкі,— міністэрства Кухаржэўскага, на падставе пэўных даных, поўнамоцных прадстаўніцтвам польскага народу, дык гэта зусім ня значыць, што мы не прызнаем польскай дзяржавы і польскага народу..." „Мы прызнаем без якіх-бы то ні было абмежаваньняў права польскага народу і польскай дзяржавы на самастойнае і незалежнае існаваньне, але мы ня можам заплюшчваць вачэй на тое, што цяпер польская дзяржава окупавана чужаземным войскам і што так званы польскі ўрад мае свабоду ў рамках, якія яму вызначаны зьверху"*). Так ад імя савецкай улады было ўрачыста абвешчана аб прызнаньні Савецкай Расіяй права Польшчы на поўную незалежнасьць і ў той-жа самы час і аб адмаўленьні прызнаць нямецкую окупацыйную ўладу або прадстаўнікоў польскай буржуазіі, пастаўленых на чале фіктыўнага польскага ўраду, сапраўднымі прадстаўнікамі і правадырамі польскага народу. На пасяджэньні палітычнай камісіі расійска-нямецкай і аўстра-вэнгерскай дэлегацыі 7 лютага 1918 году член дэлегацыі Бабінскі і Радэк, як прадстаўнікі соцыял-дэмократаў Літвы і Польшчы, агаласілі дэклярацыю, у якой было адзначана, што „ў спрэчках па польскім пытаньні яшчэ ня было чуваць голасу непасрэдна зацікаўленай краіны, голасу польскага народу". Т. т. Бабінскі

*) „Мирные переговоры", стар. 157—159.

і Радэк апублікавалі сваю дэкляраацыю ня толькі „як удзельнікі дэлегацыі, ня толькі як выяўнікі волі двухмільённага жыхарства так званага Царства Польскага, жыхарства, загнанага вайной у Расію, але адначасна і як прадстаўнікі пролетарыяту Царства Польскага“. Дэклярацыя вымагала неадкладнага вываду окупацыйнага войска і ачышчэньня Польшчы ад усіх урадавых органаў, утвораных окупацыйным войскам, бо толькі такія ўмовы дадуць народу магчымасьць свабодна выказаць сваю волю. Для ажыцьцяўленьня гэтага патрэбна ўвядзеньне поўнай свабоды друку, слова, сходаў і саюзаў. Неабходна вярнуць усіх уцекачоў, выгнаных вайной, і рабочых, прымусова вывезеных у Нямеччыну і Расію. Зруйнаваныя польскія краі павінны быць адбудованы на сродкі міжнароднага фонду, складзенага праз абкладаньне маемасьці заможных кляс усіх дзяржаў, якія ваююць. Пытаньне аб межах вырашаецца галасаваньнем зацікаўленага ў гэтай справе жыхарства і радай з суседзямі.

Калі цэнтральныя дзяржавы, паводле думкі польскіх прадстаўнікоў дэлегацыі, адмовяцца выканаць гэтыя вымаганьні, спасылаючыся на неабходнасьць падтрыманьня парадку ў Польшчы, дык дэлегацыя лічыла неабходным заявіць, што польскія народныя масы, і асабліва, рабочая кляса здольны падтрымаць парадак у краіне. Польскія дэлегаты ў сваёй дэклярацыі адзначылі, што „заява прадстаўнікоў Аўстра-Вэнгрыі і Нямеччыны аб тым, што Польшча самавызначылася, не адпавядае сапраўднасьці; таксама не падлягае сумненьню і тое, што ўсё жыхарства Польшчы і асабліва яе пролетарыят адносіцца адмоўна да окупацыі і да нямецкіх плянаў па пытаньні аб будучыні Польшчы“... „Адмаўленьне Нямеччыны, паводле думкі польскіх дэлегатаў, вывесьці войска з Польшчы зьяўляецца нічым іншым, як нежаданьнем адмовіцца ад замераў зрабіць Польшчу зброяй завяявальных імкненьняў Нямеччыны, а гэта зьяўляецца скрытай анэксіяй і ўмешваньнем ва ўнутраныя справы Польшчы. Разам з тым гэта політыка падтрымлівае польскія заможныя клясы на шкоду інтарэсам польскіх працоўных мас. Царскі прыгон заменен у Польшчы прыгонам больш сучасным. Польская рабочая кляса, якая мае за сабой у мінулым героічную барацьбу з царызмам, ніколі з гэтым ня згодзіцца“ *).

Заява польскіх прадстаўнікоў расійскай дэлегацыі выклікала вялікае абураньне і нездаволеньне з боку аўстра-нямецкіх дэлегатаў. Галава нямецкай дэлегацыі Кюльман заявіў ад імя дэлегацыі, што „прачытаная заява зрабіла на яго ўражаньне політычнай агітацыі і што ён зусім не разумее, як можна думаць, што такія мітынговыя прамовы могуць паслужыць на карысьць нашых перамоў“. Лічачы, на падставе тлумачэньняў тав. Троцкага, што гэта заява была зроблена не офіцыйна ад імя дэлегацыі, а ад прадстаўнікоў працоўных мас польскага народу, прыцягнутых да ўдзелу ў дэлегацыі, як больш компэтэнтных у гэтым пытаньні,

*) „Мирные переговоры“, стар. 171—175.

Кюльман заявіў, што „на далей ён адмаўляецца прымаць з боку расійскай дэлегацыі якія-б то ні было заявы, якія ня будуць рабіцца афіцыйна ад імя ўсёй дэлегацыі“. Такія заявы, на думку Кюльмана, „парушаюць цярплівасьць саюзьніцкай дэлегацыі і што ня толькі ў нямецкім друку ўзьнікне вельмі сур'ёзнае сумненьне ў сапраўднасьці замераў расійскай дэлегацыы давесьці мірныя перамовы да пажаданага канца“ *). Зусім зразумела, чаму заява Бабінскага і Радэка ад імя працоўных мас Польшчы выклікала такое абураньне з боку статс-сакратара Кюльмана. Дэклярацыя прадстаўнікоў польскага пролетарыяту выкрывала затоеныя пляны нямецкага камандваньня, ад якіх яно не жадала адмаўляцца, маючы на ўвазе цьвёрды замер тым або іншым спосабам анэксаваць Польшчу.

Пляны аўстра-нямецкіх анэксіяністых, аднак, ня мелі посьпеху. Абставіны на заходнім фронце пачалі складацца не на карысьць аўстра-нямецкай коаліцыі. Няўдачы на заходнім фронце і рэволюцыя ў Нямеччыне змусілі аўстра-нямецкую дэлегацыю капітуляваць перад англаамэрыканскай і францускай коаліцыяй.

Вэрсальскі мір утварыў новую самастойную Польшчу. Урад Рэгенцкай рады быў заменен новым урадам, на чале якога стаяў Марачэўскі. Савецкая ўлада, трымаючыся сваіх поглядаў, цалкам прызнала незалежнасьць Польшчы, ня гледзячы на тое, што гэта незалежнасьць была абмяжована рамкамі буржуазнай дзяржавы. Для савецкай улады было, разумеецца, вельмі важна, што польскі народ атрымаў, урэшце, пэўную нацыянальна-палітычную самастойнасьць. Савецкі ўрад выяўляў у адносінах да Польшчы палітыку найвялікшай міралюбнасьці і ў выпадку ўзьнікненьня конфліктаў стараўся вырашаць гэтыя конфлікты мірным спосабам, аднак, не сустракаючы такіх самых адносін з боку польскага ўраду.

Дробна-буржуазны польскі ўрад, спачатку на чале з Дашынскім, ніяк ня мог згадзіцца з існаваньнем Савецкай Рэспублікі і з тым, што, па меры вызваленьня Беларусі і Літвы ад окупацыйнага войска, паўстаўшыя народныя масы ўтваралі Савецкія Рэспублікі. Утварэньне незалежных рэспублік было фактам надзвычайнай важнасьці, і зусім зразумела, што буржуазная Польшча баялася руху народных мас у Польшчы. Бязумоўна, польскі ўрад ня мог пагадзіцца з існаваньнем Савецкай Расіі і стараўся весьці такую палітыку, каб ня толькі не залагоджваць узьніклыя непаразуменьні, але, наадварот, стараўся розным спосабам іх завастраць. Пасьля заснаваньня Рэгенцкай рады апошняя мела сваё прадстаўніцтва ў Маскве, дзейнасьць якога была пад непасрэдным уплывам нямецкага прадстаўніцтва. Зусім зразумела, што калі Польшча стала незалежнай рэспублікай і Рэгенцкая рада перастала існаваць, дык польскія народныя масы, што былі ў Маскве, не пажадалі прызнаваць прад-

*) „Мирные переговоры“, стар. 175—176.

стаўніцтва Рэгенцкай рады і замянілі яго сваім выбарным прадстаўніцтвам. Гэта тлумачылася часткова тым, што выбары галавой ураду соцыял-дэмократа Дашынскага дапамаглі распаўсюджаньню чутак аб тым, што ў Польшчы адбылася соцыялістычная рэволюцыя і што ўладу ўзяў соцыялістычны ўрад. У сваёй ноце ад 27 лістапада 1918 году Народны Камісар Чычэрын паведамляў польскага міністра замежных спраў Васілеўскага, што савецкі ўрад і яго орган Польскі Камісарыят ня бралі ўдзелу ў гэтай справе і што Народны Камісарыят нічога ня ведае пра захоп архіву гэтай дэлегацыі якім-небудзь савецкім органам. Па вестках Народнага Камісарыяту, польскія ўцекачы апячаталі дакуманты дэлегацыі, каб яны не загінулі, за выключэньнем шоўку, мыла ды іншых тавараў, якія ня могуць быць залічаны да дыплёматычнага архіву. Са свайго боку Народны Камісарыят Замежных Спраў лічыць сваім абавязкам даць прадстаўнікам Рэгенцкай рады аж да самага выезду тыя самыя правы, якімі яны карысталіся да гэтага часу. Выезд-жа гэтых прадстаўнікоў адбудзецца адразу-ж пасьля таго, як толькі нямецкая окупацыйная ўлада дасьць на гэта свой дазвол. У канцы ноты Чычэрын выказваў пажаданьне мець у Маскве польскага прадстаўніка і адначасна з гэтым устанавіць „сталыя зносіны па радыё-тэлеграфу і абмен весткамі аб становішчы спраў; гэта будзе дапамагаць разьясьненьню і мірнаму ўлагоджаньню розных конфліктаў, якія могуць узьнікнуць паміж абедзьвюма дзяржавамі“ [1]). У адказ на гэту ноту была атрымана 6 сьнежня нота міністра замежных спраў Васілеўскага, які энэргічна протэставаў „проці гвалту над польскай місіяй у Маскве і яе аддзяленьнем у Петраградзе і ад імя ўраду дамагаўся неадкладнага зьняцьця пячатак з дому, усіх будынкаў, абстаноўкі і дакумантаў, а таксама са скрынак місіі і патрабаваў вярнуць усё гэта саветніку місіі Яну Жарноўскаму ў Маскве, або асобам, якіх ён пакажа“. Польскі ўрад ускладаў адказнасьць на расійскі савецкі ўрад за лёс місіі і ўсіх залежных ад яе ўстаноў і за цэласьць служачых ды іх сем'яў [2]).

Польскі ўрад перадаў ахову польскіх інтарэсаў у Расіі дацкаму прадстаўніцтву. Дацкі пасол Скавэніус у сваёй ноце ад 7 сьнежня прасіў Камісарыят Замежных Спраў „зрабіць належны загад аб перадачы яму архіваў, грошай ды іншых рэчаў, якія знаходзяцца ў памяшканьнях польскай місіі ў Маскве і Петраградзе. Такое становішча, пры якім прыватныя асобы займаюць памяшканьне, цягаюць адтуль дакуманты, на думку дацкага пасла, робіць немагчымым выкананьне жаданьня польскага ўраду“ [3]). Народны Камісарыят Замежных Спраў у ноце ад 10 сьнежня 1918 г. паведамляў польскі ўрад, што ў той час, калі „новы

---

[1]) „Красная книга, сборник дипломат. документов о русско-польских отношениях з 1918—1920 г.“, Москва, 1920 г. № 5.

[2]) „Красная книга“, № 8.

[3]) „Красная книга“ № 7.

ўрад польскай рэспублікі абвясьціў Рэгенцкую раду па-за законам, урад Савецкай Рэспублікі лічыць, што паўнамоцтвы дэлегацыі Рэгенцкай рады ў Расіі страцілі сваю моц, і таму ня меў ніякіх падстаў перашкаджаць пераходу спраў гэтай дэлегацыі да камітэту польскіх уцекачоў“, бо дэлегацыя Рэгенцкай рады, на думку польскіх уцекачоў, ні ў якай меры ня была „прадстаўніком польскага народу, а была толькі органам нямецкай окупацыйнай улады; гэта сьцьвярджаецца ўсёй чыннасьцю дэлегацыі ў Расіі“. З тэй прычыны, што ўрад польскай рэспублікі лічыць магчымым прызнаць некаторых асоб ранейшай дэлегацыі Рэгенцкай рады сваім прадстаўніцтвам у Расіі, савецкі ўрад „ня бачыць ніякіх падстаў для няпрызнаньня паўнамоцтваў тых з іх, якіх урад польскай рэспублікі вызначыць для гэтай мэты; гэтым асобам будзе зроблена ўсякая дапамога. Архівы і грошы ранейшай дэлегацыі будуць перададзены пану Я. Жарноўскаму“ [1]). Ноччу 15 сьнежня таго-ж году Чычэрын паведамляў аб прызнаньні ім Жарноўскага дыплёматычным прадстаўніком і прапанаваў зрабіць такі-ж акт і з польскага боку ў адносінах да прадстаўніка Савецкай Расіі [2]). Такім чынам, дзякуючы ціхамірнай політыцы Савецкай Расіі, першы інцыдэнт паміж Польшчай і Савецкай Рэспублікай быў ліквідаваны, і польскія прадстаўнікі мелі поўную магчымасьць выехаць з Савецкай Расіі.

Ня гледзячы на мірнае вырашэньне конфлікту, польскі ўрад ня спыняў ваяўнічую політыку ў адносінах да Савецкай Расіі. Польскі ўрад ніяк ня мог бачыць у факце звароту апячатанай маемасьці польскай місіі ў Расіі адзнакі ціхамірнай політыкі Савецкай Расіі. Адзін толькі факт звароту маемасьці гэтага яшчэ не даводзіць. Польскі ўрад лічыць, што „шматлікія факты паказваюць ваяўнічую ды імпэрыялістычную політыку з боку расійскага савецкага ўраду, войска якога навадняе Літву і Беларусь, уводзячы гэтым самым савецкую адміністрацыю ў чужыя для яе краі і заневальняючы народы. З тэй прычыны, што частка гэтых тэрыторый бясспрэчна польская, гэтыя меры непасрэдна закранаюць жыцьцёвыя інтарэсы польскай нацыі. Далей, наяўнасьць у шэрагах савецкага войска польскіх палкоў, прызначаных па самых пэўных вестках да заняцьця польскай рэспублікі, каб выклікаць там социяльную рэволюцыю, нельга ня лічыць за факт агрэсыўны, які абавязвае польскі ўрад рэагаваць самым энэргічным чынам“. Вымагаючы звароту страт, якія пацярпелі члены місіі ў Маскве і Петраградзе, а таксама назначэньня суровага сьледзтва па пытаньні аб выкананьні сьмяротных прысудаў над польскімі грамадзянамі ў Расіі па загаду савецкага ўраду, польскі ўрад, ня бачачы фактаў, якія могуць сьведчыць „аб перамене варожых замераў расійскага савецкага ўраду, лічыць немагчымым цяпер увайсьці ў непасрэдны контакт з расійскім савецкім урадам і баіцца, што ў бліжэйшай

[1]) „Красная книга“, № 11.
[2]) „Красная книга“ № 12.

будучыні яму прыдзецца бараніць узброенай сілай недатычнасьць тэрыторый, заселеных польскай нацыяй, ад уваходу войска расійскага савецкага ўраду“ [1]). Такім чынам польскі ўрад адмовіўся аднавіць дыплёматычныя зносіны і ўпяршыню стаў пагражаць вайной, спасылаючыся на савецкі імпэрыялізм.

Адносіны польскага ўраду да Савецкай Расіі асабліва выразна выявіліся ў трагічным здарэньні 2 студзеня 1919 г., калі арыштаваныя прадстаўнікі Расійскага Чырвонага Крыжу былі расстрэлены агентамі польскага ўраду ў вёсцы Мене, Бельскага павету. Адзін з членаў дэлегацыі Леон Альтэр выпадкова выратаваўся (ён быў контужан і прыняты за забітага), прыехаў у Менск і паведаміў пра ўсё гэта Цэнтральны Камітэт Соцыял-дэмократычнай Партыі Польшчы [2]). ЦК адразу-ж паведаміў пра ўсё Народнага Камісара Замежных Спраў. Народны Камісар Чычэрын у ноце ад 8 студзеня 1919 г., протэстуючы проці зьверскага расстрэлу місіі Чырвонага Крыжу, катэгорычна вымагаў зрабіць неадкладнае сьледзтва гэтага нячуванага злачынства і суровага пакараньня яго вінавайцаў. Чычэрын паведамляў, што члены былой дэлегацыі Рэгенцкай рады і камісія па справах ваеннапалонных заарыштаваны і расійскі савецкі ўрад лічыць іх сваімі заложнікамі, тым больш, што пасьля гэтага здарэньня мы ня можам лічыць жыцьцё грамадзян Расійскай Савецкай Рэспублікі ў Польшчы ў бясьпецы [3]). Старшыня Цэнтральнага Камітэту Расійскага Таварыства Чырвонага Крыжу тэлеграмай ад 17 студзеня паведамляў, што місія Расійскага Таварыства Чырвонага Крыжу ў Варшаве ня можа далей працаваць і, таму яе адклікаюць, ускладаючы ўсю адказнасьць за лёс расійскіх ваеннапалонных, што знаходзяцца ў межах польскай дзяржавы і праз яе эвакуюцца, на польскі ўрад [4]).

Зьмена ўраду ў Польшчы і назначэньне на пост міністра замежных спраў Падарэўскага адкрывае новую старонку ў адносінах паміж Польшчай і Савецкай Расіяй. У ноце ад 7 лютага 1919 г. Падарэўскі паведамляе аб падрабязным расьсьледваньні справы з расстрэлам місіі і аб арышце ўсіх асоб, западозраных у злачынстве ў адносінах да членаў місіі расійскага Чырвонага Крыжу. Падарэўскі, прызнаючы, што конфлікт паміж абодвума ўрадамі да гэтага часу яшчэ незьліквідаваны і лічачы вінаватым у гэтым савецкі ўрад, усё-ж прапанаваў паслаць да савецкага ўраду спэцыяльнага дэлегата ў асобе грамадзяніна Аляксандра Вэнцкоўскага, на якога ўскладаецца абавязак дайсьці да згоды з савецкім урадам па розных пытаньнях, узьнятых апошнім і якія ў інтарэсах абодвух урадаў неабходна вырашыць як найхутчэй [5]). У ноце ад 10 лютага

---

[1]) „Красная книга“, № 17.
[2]) „Красная книга“, № 21.
[3]) „Красная книга“, № 23.
[4]) „Красная книга“, № 24.
[5]) „Красная книга“, № 26.

Чычэрын паведамляў, што Расійская Савецкая Рэспубліка, якая імкнецца жыць у цеснай згодзе са ўсімі народамі, заўсёды жадала і цяпер горача жадае захаваць мірныя добрасуседзкія адносіны з польскім народам... Таксама горача жадаючы ўхіліць і цяпер розныя прычыны конфліктаў з урадам польскай рэспублікі і наладзіць з ім нормальныя зносіны, расійскі савецкі ўрад прыме дэлегата польскай рэспублікі. Чычэрын паведамляў, што савецкі ўрад увайшоў у зносіны з братэрскімі рабоча-сялянскімі савецкімі ўрадамі Літвы і Беларусі, каб забясьпечыць дэлегатам ураду польскай рэспублікі бесьперашкодную паездку да Масквы і выявіць найбольш адпаведны для іх маршрут. Наладжаньне нормальных адносін паміж абедзьвюма рэспублікамі, на думку Чычэрына, тым больш патрэбна ў інтарэсах саміх польскіх народных мас, што некалькі сот тысяч польскіх уцекачоў яшчэ чакаюць на тэрыторыі Савецкай Расіі жаданага моманту, калі яны атрымаюць магчымасьць вярнуцца на бацькаўшчыну. Гэтыя ўцекачы просяць польскі ўрад, каб ён паскорыў момант, калі яны могуць вярнуцца дамоў і каб ён дапамог ім наладзіць нормальныя абставіны жыцьця [1]). 18 сакавіка польскі дэлегат Вэнцкоўскі выехаў з Варшавы і 21 сакавіка ён быў у Маскве, дзе яго сустрэлі надта ветліва. 21 сакавіка польскі дэлегат перадаў Народнаму Камісарыяту Замежных Спраў усё дзелаводзтва наконт расьсьледваньня справы забойства місіі Чырвонага Крыжу. Паданыя дакуманты, на думку Вэнцкоўскага, павінны выразна паказаць, што ўрад польскай Рэспублікі зрабіў усе захады да выяўленьня вінавайцаў злачынства. Для канчатковага сьледзтва патрэбна было паказаньне Альтэра, і Вэнцкоўскі прасіў, каб ён хутчэй прыехаў у Варшаву і даў належныя паказаньні [2]). Для таго, каб яшчэ больш супакоіць расійска-польскія адносіны, Вэнцкоўскі ў лісьце на імя Чычэрына ад 24 сакавіка прасіў Народнага Камісара перадаць Расійскаму Таварыству Чырвонага Крыжу, што ўрад польскай рэспублікі лічыць сваім абавязкам выказаць яму свой шчыры і глыбокі жаль з прычыны ганебнага забойства членаў яго місіі на польскай тэрыторыі, тым больш, што, як відаць, гэта агіднае злачынства здарылася не бяз віны агентаў польскай жандармэрыі [3]). У адказ на заяву Вэнцкоўскага ўрад РСФСР вызваліў як усіх затрыманых членаў дэлегацыі, так і асоб, якія ўваходзілі ў провінцыяльныя камісіі забесьпячэньня ўцекачоў [4]).

Такім чынам інцыдэнт у сувязі са зьверскім забойствам місіі Чырвонага Крыжу ў Польшчы быў ліквідаваны. Савецкі ўрад імкнуўся ня толькі ліквідаваць бягучыя спрэчныя пытаньні, але і жадаў таксама прыйсьці да агульнай згоды, аб чым быў паведамлен Вэнцкоўскі, які перадаў гэта паведамленьне польскаму ўраду [5]). Аднак, ніякай агульнай

[1]) „Красная книга", № 28.
[2]) „Красная книга", № 35.
[3]) „Красная книга", № 37.
[4]) „Красная книга", № 39.
[5]) „Красная книга", № 40.

згоды і быць не магло, бо, ня гледзячы на поўную гатоўнасьць савецкага ўраду пайсьці на вырашэньне цэлага шэрагу спрэчных пытаньняў, польскі ўрад выяўляў у адносінах да Савецкай Рэспублікі вельмі варожыя адносіны, хоць савецкі ўрад і выказваў жаданьне вырашыць пытаньне аб усходніх граніцах Польшчы пры ўмове, каб па гэтым пытаньні адбылося ў належных мясцовасьцях галасаваньне працоўных, зноў-жа пры ўмове вываду чужога войска. Савецкі ўрад заяўляў, што ён гатоў бараніць гэты пункт погляду перад урадам Літоўска-Беларускай Рэспублікі [1]). У адказ на гэту мірную палітыку польскі ўрад пачаў перасоўваць свае войска на тэрыторыю Савецкай Рэспублікі Літвы і Беларусі; гэта, разумеецца, сьведчыла аб сапраўдных ваяўнічых плянах польскага ўраду.

Урэшце ў пачатку мая польскія легіонэры, пераапрануўшыся ў форму чырвонаармейцаў, напалі на Вільню і распачалі дзікую рэакцыю, арышты і катаваньні, якія рабіліся рэгулярным польскім войскам ў адносінах да мірнага жыхарства тых мясцовасьцяй Літвы і Беларусі, якія былі захоплены польскімі легіонэрамі [2]). У адказ на гэтыя расстрэлы, у Маскве было арыштавана ў якасьці заложнікаў 250 грамадзян польскай буржуазіі, у тым ліку біскуп барон Ропп і барон Дэнгель. Усё прадстаўніцтва былой, Рэгенцкай рады ў Маскве і Петраградзе было арыштавана [3]). Віленскія здарэньні і зносіны польскага ўраду з Дзянікіным наяўна паказалі сапраўдныя настроі польскага ўраду. Ясна было, што пры такім становішчы ня можа быць ніякай агульнай згоды паміж польскай рэспублікай і РСФСР. Аднак, ня гледзячы на гэта глыбокае вераломства, Вэнцкоўскі атрымаў магчымасьць пакінуць межы Расіі. У той-жа час Народны Камісар выказваў поўную гатоўнасьць аднавіць мірныя перамовы, як толькі польскае войска спыніць свае наступленьне [4]). Мірная палітыка РСФСР, разумеецца, не магла даць ніякіх практычных вынікаў. Наступленьне на Вільню лепш за ўсё сьведчыла аб ваяўнічных плянах польскага ўраду і аб жаданьні зьнішчыць Савецкія Рэспублікі ў Літве і на Беларусі. Савецкая нота ад 3 чэрвеня правільна абмалявала агульнае палітычнае становішча і настрой польскага ўраду. „Савецкі ўрад,—гаварылася ў ноце,—добра ведае сапраўдныя настроі ўраду паноў Пілсудзкага і Падарэўскага“.

У той час, як нота савецкага ўраду ад 24 сакавіка, у якой выказвалася поўная гатоўнасьць да мірных перамаўленьняў з адначасным выводам войска са спрэчных мясцовасьцяй засталася без адказу, а самы тэкст ноты быў спачатку ўтоены ад польскага грамадзянства, польскі ўрад і паслухмяны перад ім сойм выразна выказаліся за патрэбу пашы-

1) „Красная книга“, № 30.
2) „Красная книга“, № 44.
3) „Красная книга“, № 46,
4) „Красная книга“, № 44, 48.

рэньня польскай дзяржавы да Дзьвіны і Дняпра. Зусім відочна, што польскія кіруючыя колы ня імкнуцца ні да чога іншага, як толькі да яўных анэксій, да актыўнай барацьбы з расійскім, беларускім і літоўскім рабочым рухам, як апорай сусьветнай рэволюцыі, і асабліва, да асноўнай і непасрэднай мэты рэстаўрацыі латыфундыяльнай ўласнасьці на Беларусі і Літве, мэты якой не адважваліся прызнаць адкрыта нават у лягеры Калчака. Урэшце, савецкая нота вымагала спыненьня з боку польскай улады бязьмежна ганебнай практыкі сыстэматычных пагромаў нявіноўнага жыхарства і масавага забойства соцыялістычных дзеячоў. Урад РСФСР вымагае, каб захопленым у баёх салдатам і камандзірам савецкай арміі былі забясьпечаны правы і адносіны, агульнапрынятыя для ваеннапалонных*).

Так закончылася місія Вэнцкоўскага ў Маскве. Польскі ўрад, захапіўшы Вільню і ўстанавіўшы ваенную дыктатуру ў сталіцы Літвы, выразна выявіў свае сапраўдныя замеры, ажыцьцяўленьня якіх трэба было чакаць у бліжэйшай будучыні. Палітыка польскага ўраду ў адносінах да Літвы і Беларусі была выразная. Польшча ня толькі хацела вярнуць панскія маёнткі, але па магчымасьці адапхнуць ад межаў Польшчы РСФСР, існаваньне якой было, разумеецца, няпрыемна для польскай буржуазіі. Ня гледзячы на ўсе ваяўнічыя замеры польскага ўраду, урад РСФСР адказваў да крайнасьці ціхамірнай палітыкай і рабіў усё, што мог, каб ухіліцца конфлікту з польскай рэспублікай.

Надыходзіў новы момант у польска-савецкіх адносінах.

*(Працяг будзе)*

*) „Красная книга“, № 48.

# РЭВОЛЮЦЫЙНЫМ ШЛЯХАМ [1])

*(Да дзесяцілецьця літаратурнай творчасьці Міхася Чарота)*

**З. Жылуновіч**

Бадай што аднačасна з поэмаю „Марына“ [2]) зьявілася ў сьвет поэма М. Чарота „Карчма“, пятая па ліку поэма нашага песьняра. Але поэмны жанр зьяўляецца ўлюбёным жанрам яго творчасьці. Гэта характарнасьць, якраз кажа аб дадатных бакох Чаротавага таленту. У песьняра раз-по-разу насьпяваюць суцэльныя багатыя ідэі-вобразы, якія цалкам ахапляюць найвыразьнейшую палосу жыцьця Савецкае Беларусі.

Пясьняр старанна і пільна вывучае яе з усіх бакоў (а часта ў процэсе жыцьця яна вывучаецца сама) і пасьля, пераплавіўшы ў сваім пачуцьці, падносіць нам ва ўмела і здольна пабудаваным малюнку. Чатыры папярэдня разгледжаныя поэмы адбілі нам выдатныя, гістарычныя моманты процэсу вялікага сутрасеньня старых прыгонных падстаў жыцьця і нараджэньня новага, вольнага існаваньня беларускіх працоўных гушчаў. У яскравых мулях прайшлі перад намі „Босыя на вогнішчы“ („Босыя на вогнішчы“), блеснуў яркаю весялухаю лік „Леніна“, („Ленін“), страсянуўшы сваім адыходам у постацьнае нябыцьцё, зірнулі сьветлыя далёкі сусьветнае рэволюцыі („Чырвонакрылы вяшчун“). Гэтыя вобразы ўзьняліся разам са ўздымам магутных хваль героічнага пэрыоду да новых дзён соцыялістычнага будаўніцтва.

У поэме „Карчма“ М. Чарот сплятае свае пераживаньні ў іх сувязі з грамадзкімі здарэньнямі. Да гэтага часу пясьняр цалкам быў адданы службе колектыву, вышэйшым заданьням і мэтам грамадзкага жыцьця. Аб сабе—як аб ядынцы—ня кажучы.

Маладым акунуўшыся ў вір цыклёпічных падзей рэволюцыі, ён ня меў вольнае хвіліны, каб азірнуцца на маланкаю прамігнуўшы перад ім жыцьцёвы шлях. А тымчасам, у ім столькі цікавага і завабнага для палкіх мараў поэты! Сапраўды—вось-вось, некалькі гадоў таму, ён яшчэ пастух, пасьля вучань, затым настаўнік, сьледам афіцэр, далей паўстанец, барацьбіт за ідэі вызваленьня і адраджэньня свае краіны.

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 3.

[2]) Поэма „Марына“ ўпяршыню друкавалася ў № 2 „Полымя“ за 1925 г., а ў 1926 г. вышла асобным выданьнем у Белдзяржвыдавецтве.

І разам—пясьняр, поэта... Гэтулькі захопных жыцьцёвых перыпэтый! Ды столькі, на працягу пражытых гадоў, выбухных, бліскучых, рашаючых ідэалаў, жаданьняў, мэтаў. Які дзіўны пераплёт жыцьцёвых зьяў! І што за размах у іх разьвіцьці!

Узважыўшы гэта, поэта спыняецца на думцы напісаць умоўна біографічную поэму і тэмаю для яе бярэ вясковую карчму. Яму

...чамусьці, успомнілась сёньня
Нашай вёскі старая карчма.
Каля вуліцы зломаны ганак,
Прызбы зрытыя, вокна бяз шыб,
Але там – ад рана да рана
Быў прастор для мужыцкай душы.
Пад страху абымшэлай драніцы,
Абы золак з пасьцелі падняў,
Помню, богу шкляному маліцца
Я з бацькам ішоў штодня...

Не выпадковым, хоць і дзіўным, зьяўляецца тое, што поэта адпраўным момантам для свае новае поэмы бярэ вясковую старую карчму. З ёю, з гэтаю карчмою, у М. Чарота зьвязана вельмі многа імкненьняў, жаданьняў, намераў.

Карчма, уцягнуўшы яго змалку, дзякуючы бацькавай слабасьці да яе, паміма адмоўнай службы, саслужанай песьняру, мела шмат і дадатных момантаў, зрабіўшых уплыў на яго псыхіку. Наведваючы яе, поэта шчыльна яднаўся з сялянскімі гушчамі, вывучаў іх настроі, недахопы, імкненьні. У карчме Шлёмы пясьняр упяршыню знаёміўся з новым для яго жыцьцём прадстаўніка яўрэйкага насельніцтва на Беларусі, і, нарэшце, дзякуючы карчме яму трапілася пражыць першае, у даных умовах вельмі каразьлівае, захапленьне каханьнем да карчмарскае дачкі чорнавокае Рахілі, з-за якое

У карчме—піў атруту я чаркай,
У садку—піў салодыч жыцьця.

Агульны зьмест карчомнага жыцьця дарэволюцыйнае вёскі, бязумоўна, меў у сабе многа пікантнага і разам шмат сумных асаблівасьцяй. Там быў амаль не адзіны прыстанак заморанага працаю на пана селяніна.

У карчме абгаварваліся здарэньні бягучага жыцьця, пытаньні грамадзкіх попытаў. За чаркаю гарэлкі, сьмялеючы, селянін разьвязваў язык і адводзіў душу ў вострых лаянках на сваё існаваньне. Пракідкі карчмар умеў рознымі спосабамі яшчэ болей узбагаціць зьмест гутарак—ён быў граматны і любіў апавядаць вычытаныя з газэт навіны.

Такім чынам, перад поэтаю паўставаў новы сьвет, які цікавіў і вабіў да сябе. Але, зразумела, што асноўным момантам у наведваньні карчмы і ў зьмесьце гэтага наведваньня было каханьне поэтаю дачкі карч-

мара. Поэту сустрэлася яна на жыцьцёвай дарозе, каб усхваляваць яго палкую душу і ўзбагаціць маладое пачуцьцё. Абставіны падобнага каханьня паміж беларускай і яўрэйскай моладзьдзю ў дарэволюцыйныя часы справоджваліся неперарможнымі перашкодамі з боку амярцьвелых законаў яўрэйскае і праваслаўнае рэлігій. Асабліва варожа ўганялі гэта яўрэйскія рэлігійныя законы.

Дзякуючы гэткім цяжкасьцям каханьне заўсёды набывала вялікую вострасьць і пікантнасьць, канчаючыся звычайна трагедыяй. Сварылася маці і на Рахіль кажучы:

На каханьне, Рахіль, будзь ашчоднай.

Але гэта не памагала нічому. Рахіль не астывала ў любасьцях да сялянскага хлопца, плачучы і адракаючыся бацькавай веры. Будучага поэту гэта моцна хвалявала, усё-ж каханьне вылілася ў адзін эпізод пясьнярскага роману...

Праўда, гэты эпізод быў асабліва яскравым і палкім, пакінуўшы па сабе месца ў нутры поэты.

Уласна кажучы, увесь зьмест карчомных абставін, цесна зьвязаных з жыцьцём М. Чарота, разгорнуты ім фонам для больш рэльефнага акрэсьліваньня соцыяльных зьявішч у іх паступовым разьвіцьці. Скрозь ружовасьць любоўных настрояў, поэта выразна заўважаў цёмныя бакі існуючага ў той час ладу.

Цяжка мне... і Шлёме нялёгка,
Мне падаткі, а Шлёме—акцыз,
І вураднік жыве недалёка...
Лёс адзіны над намі навіс...

Аб гэтым лёсе, апроч іншых адносін з карчмаром, пясьняр меў блізкія, шчырыя гутаркі. Яны

...часта гаманілі да ночы...
Ну, чаму нешчасьлівы наш край?

Але заціснуты бядотаю Шлема шукаў забвеньня ў талмудзе, які раіў яму карыцца лёсу і марыць аб Палясьціне. Праз гэта не знаходзіў выйсьця сваім думкам і юнак-поэта. Яго настрой зводзіўся к таму, што яго:

Шрам—заставаўся на сэрцы,
Шрам глыбокі і поўны крыві...
Загаіць я ня думаў да сьмерці,—
Мужыку дзе там шчасьця злавіць?..

У адказ на гэта мораль Шлёмы даўбіла сваё:

— У цябе калі кіне хто камень—
Падымі і вазьмі ў кішэню.

І поэту здавалася, што „гора, нядолю можна ў карчме пахаваць“. Гэты настрой, захапіўшы ў свае абдымы маладога песьняра, тым з боль-

шым эфэктам уступіў месца надышоўшым здарэньням, якія хлынулі на вёску з чуткамі пра вайну.

Вёска ўжо хвалявалася, вышла з каляіны цягучае будзёншчыны і нават

Пра цара хтось размову заводзіць—
Шлёма шэпча:—чаму ён ня здох!

Далей поэта ў сваёй поэме на фоне рэволюцыйных падзей і пасьля рэволюцыйнага мірнага будаўніцтва прапускае перад намі гісторыю існаваньня карчмы і лёсу яе гаспадара.

Пачынаецца з часу рэволюцыі. Нашароханы рэволюцыйным уздымам, карчмар-Шлёма хутка ўспрымае прынесенае ёю новае жыцьцё. Гэта адбываецца ў час расстаньня поэты з сваёю вёскаю і з карчмою.

Зварот на радзіму пасьля прызыву становіць яго перад фактам закончанага процэсу ўспрыняцьця ёю (радзімай) новага жыцьця. Вялікасьць гэтага ўсхваляла перароджанага нутром юнака, ужо барацьбіта і песьняра і выклікала ў ім бадзёрыя словы вітаньня вольнаму жыцьцю.

На сцэне—Шлёма-карчмар у новых умовах; ён кідае свой ранейшы занятак і жыве на хутары. Ён і „чуць ня хоча аб карчме". Замест талмуду чытае брошуры—„Як пасеяць пшаніцу, ячмень". Закінуў ён і Палясьціну і паліць сьвечкі на шабас.

На старым месцы, дзе ўсё-ж тырчаць рэшткі карчмы, вее сьвежым маладым подыхам „залатога ўраджаю, што мужыцкімі знойдзен плячмі!"

Гэткім чынам, у „Карчме" М. Чарота мы бачым яскравы вобраз нашае краіны Беларусі. Яна песьняром прапушчана перад намі ў разрэзе вялікіх гістарычных падзей. Малюнак вобразу, як ня трэба лепш, увабраны прыгожасьцю муль. Насычанасьць зьместу дае тая асаблівасьць яго, якая дадатна падае на ўвод аўтарам у пераплёт соцыяльных пытаньняў і нацыянальных момантаў.

У гэтай адлегласьці беларускае жыцьцё мала чэплена беларускімі пісьменьнікамі.

Тут ізноў М. Чарота трэба аднесьці да пачынальнікаў. І цікава, што ня гледзячы на гэта, ён здолеў цалкам справіцца з тэмаю. „Карчма", як і іншыя яго творы, вышла суцэльным маляўнічым вобразам. Вельмі трапна зрабіў пясьняр таксама і з тым, што ўвёў у поэму біографічныя рысы. Яны выпучалі нам асобу поэты ў процэсе яго псыхолёгічнага афармленьня... Дарэчы, умовы, у якіх адбывалася гэта аформленьне, не наводзяць нас на добрыя разважаньні. Прыходзіцца няласкавым словам зьвяртацца да тых абставін, якія акалялі жыцьцё маладога М. Чарота. Але ў тых ці іншых варыяцыях роўна адмоўныя абставіны справоджвалі разьвіцьцё ўсёй дарэволюцыйнай сялянскай моладзі. Рэдкія адзінкі выдаваліся з агульнае гушчы яе, трапляючы на больш роўную дарогу. Аколеньне М. Чарота, нагляданае па „Карчме", няцікавае. Трэба радавацца,

што яно не засмактала ў сваю бросьню будучага поэту, здолеўшага так горача і моцна праклясьці паганае мінулае і гэтак палка апець празрыстае наступнае.

Што датычыцца формальнага боку разгляданай поэмы, то яна, як і іншыя, беззаганна. Болей таго, верш „Карчмы“, паважны, эпічны, вельмі пасуе да апавядальнага тыпу твору. Слоўнік сакавіты, багаты.

Але ў гэтым кірунку М. Чарот сям-там не саромеецца і перагнуць палку, ужываючы зрэдка мала ўдзячныя выразы, як „дрызну“, „раздавім“ (плямку), „моўчкі памацае“ і інш. Падобныя эпітэты ды плюс занадта згушчаная фарба п‘янага няўтрыманьня, мэрам-бы знарочыста выпукленага аўтарам, дазваляюць думаць аб лёгкім перайманьні на гэты раз некаторых рысаў ва ўлюбёных ім расійскіх поэтаў (прыватна С. Есенін). Поэма шмат болей выйграла-б з боку настраёвасьці, каб аўтар турбаваўся ў асобных мясцох аздобіць яе крыху сьвятлейшымі фарбамі. Затое ў даным выглядзе ў ёй больш жыцьцёвай шчырасьці і непасрэднасьці. У гэтых адносінах „Карчма“ адрозьніваецца ад папярэдніх поэм, у якіх, асабліва ў „Чырвонакрылым вяшчуне“, пераважае настраёвасьць над пачуцьцём...

У наступнай поэме „Беларусь лапцюжная“, якраз поэта зноў вяртаецца да героічнага жанру ў сваёй творчасьці. Героічнасьць беларускае сапраўднасьці, якая к часу напісаньня песьняром шостае поэмы дала сябе адзнаць у выглядзе выпукленых посьпехаў на ніве савецкага будаўніцтва.

Балячкі часоў вайны пачалі загойвацца. Перш слабейшыя, а што далей—то мацнейшыя, яскравейшыя эфэкты нараджэньня вольнага жыцьця адчынілі сабою новыя кругавіды. Гісторыя цьвёрдымі фактамі апраўдвала Кастрычнік, адбіваючы яго жыцьцёвасьць на хуткім разьвіцьці прамысловага, сельска-гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Яшчэ помпезьней квяціўся Кастрычнікавы пераварот на фоне вырашэньня нацыянальна-дзяржаўнага пытаньня. Ва ўмовах Беларусі гэта набывала асаблівага значэньня, надаючы ўсяму тэмпу аформленьня новага жыцьця надзвычайную ўрачыстасьць. На вачох, ачула і выразна бурліў процэс паднімальня з нябыцьця да дзяржаўнае ўлады вякамі забітага і прыгнечанага народу. Нараджалася своеасаблівая, цалкам прасочаная потам і працаю дасканала працоўная культура. Яе рэволюцыйны поступ рашуча крышыў на сваёй дарозе адвечныя гвалтоўныя перашкоды, рэшткі якіх у іншых выглядах прыкарэлі і да пасьлякастрычнікавых часоў. Цьвёрдымі крокамі выходзілі з шэрых хат, з сялянскіх гушчаў кадры палкіх патрыотаў соцыялістычнае дзяржавы. Усё пауней рабіліся скарбніцы сьвежых здабыткаў матэрыяльнае і духовае культуры. Доўгі зацяжны сум і маркота, зьвіўшыя моцныя гнёзды пад заімшэлымі саламянымі стрэхамі брудных вёсак, гінулі ў праменьнях бліскучае радасьці вызваленьня.

Перачуўшы гэта, наш поэта з натхненьнем, з гордасьцю, з гонарам пераможцы-ваякі абвясьціў“:

Гэй, лапцюжнікі, слухай!
Наша вёска ня будзе больш плакаць...
Па бруку гораду,
Бач, рухае,
Рухае горда
Лазою падплецены лапаць!..
З балота,
З ракітавай далі,
Акіянам аўсяных ніў,
Мы—Беларусі бяднота—
Сюды прынесены хваляй,
Хваляй сярдзітай, бурлівай...

Горад і вёска, вёска і горад у іх жыцьцёвым пераплёце—вось канва поэмы М. Чарота „Беларусь лапцюжная“.

Да рэволюцыі гэта найважнейшае пытаньне ў беларускіх умовах вырашалася з-пад сякеры і пугі. Бедная беларуская вёска, як рэзэрвуар дарэмнае прыгоннае працы для падначаленага рускаму чыноўніку, польскаму пану і яўрэйскаму купцу гораду. З другога боку—расійская офіцыяльная культура і польская панская культура—у горадзе, а ў вёсцы—хамская мова для пакорлівай, гасьцiннай гутаркі. Ад Слуцка ці Барысава (спраўнік) праз Менск (губарнатар), Вільню (генэрал-губарнатар)—у Пецярбург, да Зімніх палацаў—вось як працягалася стужка дзяржаўнага рэгуляваньня... Кастрычнік разбурыў дашчэнту і раскідаў па кавалачку гэтыя драбіны самадзяржаўна-панскага прыгону. Вёска ў цесным яднаньні з горадам рукамі рабочых і бядняйшых сялян закліканы жыцьцём да паяднанай зьлітнай працы для будаўніцтва соцыялізму.

Прыгожасьць гэтае злукі—гэткімі мулямі адбівае ў сваёй поэме М. Чарот:

Горад дымны і вёску ў шэрані
Злучыць у адно—вышлі першымі.
Сьпевам-морам
Поле залілося...
Грукат фабрыкаў, рогат іх труб,
Сінь прастору
Шэпчацца калосьсем,—
Вёска з горадам едуць браць шлюб!

Мы ўжо сустракаліся адзін раз з падобнымі малюнкамі ў песьняра, калі казалі аб яго лірычных вершах. У поэме „Беларусь лапцюжная“ яны двойчы перад намі. Поэта ня можа іх абмінуць, ці чапіць мімаходам. „Шлюб вёскі з горадам“ нагэтулькі вялікае, нагэтулькі грандыёзнае пытаньне, што вырашэньне яго хавае ў сабе не адзін і ня два захопных моманты для поэты. Тым болей вынаходзіць героічнае пекнаты ў разь-

вязаньні падобных пытаньняў той поэта, які адначасна зьяўляецца і непасрэдным будаўнікам жыцьця. М. Чарот належыць да апошніх.

Яму, як гэткаму, відней ад другіх перадстае ўся вялікасьць і неахопная значнасьць для будучага соцыялістычнага жыцьця пасьпяховага вырашэньня гэтага пытаньня. Вось загэтым поэта і знаходзіць у сабе столькі натхненьня і пачуцьця, фарбаў і дынамікі, мастацка апяваючы проблему гораду і вёскі.

І чую песьню зноў заводу,
Ён будзіць поле, лес, пакосы...
Імгліць, іскрыцца над балотам
Пажоўкла-злотным лісьцем восень.
Ахапкі промняў ткуць у высі
Узор зямлі: СССР...
Аб сонца ночы змрок разьбіўся,
Дзень новы прыдзе—маю веру.

Па багацьцю радасных настрояў, па размаху бадзёрых напеваў, па рэволюцыйнай насычанасьці—„Беларусь лапцюжная“ вельмі блізка падыходзіць да „Босыя на вогнішчы“. У „Беларусі лапцюжнай“ М. Чарот ізноў падняўся на ўзровень выдатнейшых трубадураў нашай гістарычнай сучаснасьці. Гэта поэма зьяўляецца гымнам соцыялістычнай творчасьці і пэрлам у беларускай пасьлякастрычнікавай літаратуры.

Характарнай асабістасьцю стае ўжыты песьняром у поэме параўнальны мэтод напісаньня. Дзякуючы гэтаму мэтоду, праз усю поэму праходзіць свайго роду калываньне ў настроях, адбываецца частае пераможаваньне між уздымамі пачуцьця. Кожны з трынаццаці падзелаў поэмы складае, як-бы асобны малюнак, вырваны з будаўнічага процэсу і адбіты ў сваяасаблівай адлегласьці.

Калі ў падзеле другім пясьняр затрымлівае вас на „апавітай журбою вёсцы“, якое „сыны ў далёкай краіне“, то ў трэцім падзеле ён разганяе гэту журбу апяваньнем пераможнага змаганьня, у якім:

Загуло... Вагнястальлю заляскала...
Песьня вольная стогне віхурай...

Ды ня толькі ў падзелах поэмы, а і ва многіх чатырохвершшах пясьняр падносіць вам вострыя контрасты паміж мінулым і бягучым.

Мо' затым і цярпеў я сьцюжы,
Быў галодны і ночы ня спаў,
Што я сын Беларусі лапцюжнай,
Аб якой пройдзе громкая слава.

Ад гэтых контрастаў поэта пераходзіць да нявыжытых супярэчнасьцяй, якія атрымаліся між горадам і вёскаю ў процэсе разгарненьня НЭП'у. Апошні нават крыху крануў пясьнярскіх настрояў.

Пясьняр пабайваецца, каб горад у процэсе свайго шумлівага жыцьця не адсунуў на задні плян пытаньні вёскі.

Гэй жа, гэй!.. Зашумі, сасоньнік,
Засьвішчэце віхуры, у полі,
Каб пачуў я ў горадзе сёньня
Песьню вёскі аб знойдзенай долі.
Каб пачуў я, як жыве і можа
Стары бацька—сівенькі лунь,
Ці пабольшала сена і збожжа
У струхнелай, пакрыўленай пуні...

Жывучы ў горадзе, адчуваеш шыбкі тэмп адноўленага жыцьця. Тут нясьціхана круціцца кіраўнічая машына, тут насьпяваюць і вырашаюцца рознастайныя пытаньні—політычныя, культурныя, гаспадарчыя. Горад заўважна пасуваецца наперад згодна закону экономічнага разьвіцьця.

Затым кідаецца ў вочы яго гегемонія над вёскаю. У горадзе

Вуліцы, завулкі,
Твар белы камяніцы...
Фабрык сьпевам гулкім
Горад весяліцца.
Па бруку ботамі
  Чок-чок!
Ідуць на стрэчу... Што там ім
Да тых лапцюжных, што далёка?!
Абутыя яны, ці не?!

Жахі вясковай мінуўшчыны да таго сьвежыя, да таго ўразьлівыя, што поэта ня хоча ні на хвілю аб іх забываць. Вёска, згодна яго думак, павінна ня выходзіць з фокусу напружанае да яе ўвагі з боку гораду. Вёска мусіць не адставаць у сваім разьвіцьці ад апошняга. Праўда, каб было што-кольвечы ня так,—М. Чарот і не намякае. Ён досыць загартаваны рэволюцыянэр, каб дапускаў да сябе недавер‘е. І ў тых радкох, якія, мэрам-бы, наводзяць на гэта,—усяго пясьнярская знарочыстасьць, якую дыхтуе яму шчырая дбайнасьць аб вёсцы...

М. Чарот няўхільна на працягу ўсёй сваёй творчасьці мае ўстаноўку на сялянскую беднату, на вясковую басоту. У ёй ён бачыць значную, часам пераважную, рухавую сілу рэволюцыі. Гэта характарная асабістасьць поэты надана яму станам беларускае экономікі, які надае важнейшую ролю ў рэволюцыйным руху беларускаму сялянскаму пролетару. Але яна перакорыць сутнасьці экономічнага разьвіцьця. Згодна апошняй, асноўную сілу, якая вядзе чалавецтва да соцыялізму, бязумоўна, складаюць сабою гарадзкія фабрычныя пролетары-рабочыя. Праўда, у беларускай рэволюцыйнай сапраўднасьці вёска адыграла агромністую ролю. На ёй таксама ляжыць багата заданьняў і ў справе соцыялістычнага будаўніцтва. Усё-ж актыўнейшым рухавіком у апошнім—гарадзкі пролетары...

Не наперакор, зразумела, і не ў адлічча ад гарадзкога пролетарыяту М. Чарот у сваёй поэме „Беларусь лапцюжная“ ізноў падкрэсьлівае сваё сялянскае паходжаньне.

Лапцюжнай вёскі сын і, вось, не ўцяку я,—
Адважна стрэчу я ўсіх ворагаў удар!

І далей:

Ты, Беларусь, нізіны пройдзеш, кручы
І вір жыцьця свайго—пераплывеш.
Лапцюжная! Рады злучыўшы цесна,
Плыві ты ўдаль бурлівай грознай лавай...
Сваёй мужыцкай, сьмелай песьняй
Табе прарочу славу!

М. Чарот сьвядома не аддзяляе сябе ад вёскі. Мы яго стрэлі прадстаўніком яе ў першыя часы яго поэтыцкай творчасьці, мы і праз дзесяць гадоў бачым яго ў тым-жа аблiччы. Гэта простасьць (прямота) М. Чарота пуката падкрэсьлівае суцэльнасьць і ідэёва-клясавую існасьць яго індывідуальнасьці. На формаваньне яго соцыялістычных поглядаў, на развой яго рэволюцыйнага пачуцьця цалкам уплыла бядняцкая вясковая „басанож“. Яе і ўзьвёў поэта на п'едэстал магутнай рухавой сілы ў здарэньнях апошняга дзесяцігодзьдзя.

У адлічча ад плакальнікаў па кулацкім дабрабыце, якое чуецца з нізін „Узвышша“, М. Чарот даў нам героічныя эпопеі рэволюцыйнае, перадавое, бядняцкае вёскі. На долю гэтае апошняе выпала шчасьце памагаць рабочаму стану будаваць новае, соцыялістычнае жыцьцё. Увесь багацейшы зьмест памянёнай місіі, ускладзенай на вясковую бядноту,—і дае натхненьне нашаму песьняру для яго сапраўды бурапеннай творчасьці. Тыя-ж самыя мотывы яшчэ служаць і падставаю дзеля шчырага прызнаньня поэтаю свае належнасьці да сыноў „лапцюжнае вёскі“. За гэтую вёску ён гатоў памерці, абы „ўваскросла Беларусь“. Беларуская вёска—у новым, адроджаным жыцьці, у нясупыннай дынаміцы руху наперад—радасьць поэтавага існаваньня. Ён жыве, цешыцца і пяе, калі чуе і бачыць перад сабою, як

З балота,
З ракітавай далі,
Акіянам аўсяных ніў,
Беларусі бяднота
    Нясецца
    Далей,
    Далей
    І далей...
Нясецца хваляй,
Хваляй сярдзітай, бурлівай.

---

У поэму „Беларусь лапцюжная“ М. Чарот уклаў многа поэтычнага пачуцьця і натхненьня. Яго творчы дар блісnуў у ёй прыгожаю, шматкаляроваю вясёлкаю. Яскравыя, празрыстыя фарбы твору, яго дына

мічны, трапяткі настрой, сакавіты, хвалюючы зьмест—пакідаюць моцнае і багатае ўражаньне. Паасобныя мясьціны ў поэме асабліва бліскучы і яскравы.

Уцалку гэты твор значна выгадвае перад іншымі поэмамі М. Чарота, як: „Чырвонакрылы вяшчун“, „Марына“ і „Карчма“ і шчыльна падбліжаецца да „Босыя на вогнішчы“.

З апошняю поэмаю—„Беларусь лапцюжная“ лучыцца яшчэ і непасрэднай блізкасьцю зьместу. „Босыя на вогнішчы“—гэта пролёг да таго музычнага твору жыцьця, якім стае соцыялістычнае будаўніцтва. „Беларусь лапцюжная“—першы абраз гэтага будаўніцтва.

Абедзьве поэмы зьмяшчаюць у сабе паўнату героічнага моманту ў жыцьці беларускага працоўнага народу... І з гэтага боку М. Чарот цесна зьвязвае сваёю творчасьцю пэрыод пасьлякастрычнікавы з пэрыодам нашаніўскім у беларускай літаратуры. Ён, гэткім чынам, зьяўляецца і адным з рэльефнейшых поэтаў кастрычнікавага пэрыоду з боку нацыянальнага аформленьня літаратурнае творчасьці. Апошняе ў вялікай меры ўласьціва нашаму песьняру, надаючы яго творам жыцьцёвасьць, багацьце эмоцый і прыгожасьць пачуцьцёвых уздымаў...

На поэме „Беларусь лапцюйжная“ на нейкі час як-бы перапыняецца творчасьць М. Чарота. Пасьля яе пакуль ня вышла ніводнага больш-менш закончана вершаванага твору поэты. Зрэдку то сям, то там друкаваліся паасобныя яго лірычныя вершы, але ў іх нельга знайсьці нічога гэткага, што-б іх высунула з шэрагу перагледжаных намі вершаў у зборніку „Выбраныя вершы“ (выданьне „Маладняк“). Нельга нічога пэўнага сказаць і аб адрыўку яшчэ аднэй поэмы М. Чарота „Атаман“, зьмешчаным у № 1 за 1925 год „Полымя“. Тэма для „Атамана“ ўзята аўтарам ізноў-жа з галіны паўстаньня беларускага працоўнага народу. Магчыма загэтым, што трэцяя поэма на адну і тую, хоць і багатую, тэму не магла з погляду поэты ўнесьці новых мотываў і новага пачуцьця, чаму ён і пакінуў яе няскончанай.

Гэткім чынам, поэма „Беларусь лапцюжная“, як-бы завяршае сабою акрэсьлены пэрыод творчасьці Чарота. Гэты пэрыод убірае ў сябе з вершаваных твораў шэсьць пералічаных поэм [1]), два зборнікі вершаў [2]), адрывак з сёмае поэмы „Атаман“ і рэдкія вершы, якія ня трапілі ў зборнікі.

Але, на працягу гэтага пэрыоду, творчасьць М. Чарота не абмежавалася пералічаным. Апроч вершаў і поэм, ім за час з 1917 па 1927 год напісана яшчэ шмат твораў бэлетрыстычных, новэль і апавяданьняў. Апошнія сабраны ім і выданы паасобным зборнікам „Веснаход“.

---

[1]) „Босыя на вогнішчы“, „Чырвонакрылы вяшчун“, „Ленін“, „Марына“, „Карчма“ і „Беларусь лапцюжная“.

[2]) „Завіруха“ і „Выбраныя вершы“.

Бэлетрыстычныя творы М. Чарота, як і яго вершаваныя творы, маюць вялікую папулярнасьць і карыстаюцца значным посьпехам. Гэта сьведчыцца хуткім разыходжаньнем зборніку „Веснаход“, які за тры гады распаўсюдзіўся ў ліку пяці тысячаў экзэмпляраў. Ды гэта ня дзіва. М. Чарот канвою для сваіх апавяданьняў, новэль і аповесьцяй таксама бярэ падзеі з часаў рэволюцыйных падзей на Беларусі. Першая новэля зборніку „Пасьля буры“ прысьвечана прыходу бальшавікоў на Беларусь. Вуснамі старога дзядулі пісьменьнік перадае тую радасьць, з якою вёска спаткала сваіх вызваліцеляў.

„Баба, а, баба!—загукаў я на жонку:—пячы бліны... госьці ідуць“, апавядае стары дзядуля, укладваючы ў гэтыя словы вялікае замілаваньне да чырвонаармейцаў. Дзядуля разумее ўсё значэньне рэволюцыі, адчувае вынікі яе прыходу і рашуча адмяжоўваецца ад праклятае мінуўшчыны. Дзядулю таксама непакоіць, што „нешта хмурна заўсёды ў тым баку, куды кожны дзень сонца заплывае“... Тут гутарка аб Заходняй Беларусі.

Новэлі „Самалёт“ і „Кірмаш“ малююць сабою абразкі з сялянскага жыцьця, абноўленага рэволюцыяй. Першая паказвае нам настрой сялян вёскі „Веньцяры“ у момант, калі да іх заляцеў самалёт. Закінутае ў глухі куток насельніцтва Веньцяроў было адрэзана ад усяго сьвету, жыло сваясаблівым жыцьцём, мірным і спакойным. Самалёт зьявіўся нечаканым госьцем, перапалохаўшы веньцяроўцаў і выклікаўшы ў іх вялікае зьдзіўленьне. Яны пачалі разглядаць самалёт і лётнікаў. Апошнія пачалі даваць парады веньцяроўцам, як выйсьці на дарогу новага жыцьця... Парада лётнікаў мела вялікі посьпех, і веньцяроўцы з крыкамі віталі лётнікаў на прашчаньне і беглі ў бок за самалётам.

Як бачым, „Самалёт“ падносіць нам тую-ж думку М. Чарота, якую ён праводзіць у поэме „Чырвонакрылы вяшчун“. Але там яна прыкладаецца да ўсёй зямной кулі, а ў новэлі „Самалёт“ да аднэй Беларусі.

Сымболь лётніка, увасабляючага сабою рэволюцыю, ёсьць улюбёны сымболь у творчасьці поэты. Нельга адказаць яго трапнасьці і прыгожасьці...

У новэлі „Кірмаш“ пясьняр падае характарыстыку вясковага жыцьця з боку рэлігійнага. Кастрычнік унёс глыбокую расколіну ў векавы ўплыў папоўства на цёмных сялян. Сяляне, разам з палітычным вызваленьнем, рашуча пачалі вызваляцца і духова. Рэлігійны дурман быў самым пэўным сродкам для падтрыманьня няволі соцыяльнай і нацыянальнай. Далоў-жа яе разам з папамі—чмуцьнікамі працоўнага сялянства! У фэставы дзень „сьвятога Макавея“, наперакор ранейшым гадом, сяляне ня толькі ня моляцца ды не нясуць папу ахвяр, а ў большасьці ідуць на працу. Прыклад дае моладзь, якая рашуча дэманструе супроць рэлігійных забабонаў...

Адно з апавяданьняў у зборніку датыркае балючага пытаньня самагонакурэньня ў вёсцы („Споведзь самагоншчыка“), некалькі іншых—пытаньняў сялянскага жыцьця.

Большая частка новэль і апавяданьняў зьмешчаных у „Веснаходзе“, напісаны проста, у рэалістычным кірунку. Сюжэтнасьць іх слабаватая, інтрыгі бракуе. Але яны бяруць лёгкасьцю мовы і здаровым гумарам, якімі М. Чарот перасыпае кожнае з іх. Праўда, адсутнічае ў іх і псыхолёгічны момант ды соцыяльны аналіз вакольных умоў, у якіх адбываецца чыннасьць. М. Чарот ня мае ў намеры ацяжваць бліскучасьць фарбаў згусткамі цёмных рысаў. Ён бярэ жыцьцё і яго зьявы ў дынамічным калыханьні. Ня гледзячы на гэта, чытач поўнасьцю ўяўляе сабе абставіны, зьмест і мэты, з якіх складаецца апавяданьне.

Паступова як форма, гэтак тэма і складанасьць конструкцыі ў Чаротавых апавяданьнях заўважна багацеюць. Здольнасьць яго, як бэлетрыстага, вачавідкі расьце. Гэта вельмі ясна паказана разьмяшчэньнем твораў у зборніку „Веснаход“.

Калі новэлі „Пасьля буры“, „Самалёт“, „Кірмаш“, „Споведзь самагоншчыка“ аддаюць прастатою формы і пабудовы, то „Талачка-шкрабалачка“, „Саматканая сьвітка“ і „Галя“ прадстаўляюць ужо сабою цэльныя, сакавітыя і цікавыя гісторыі жыцьця. Пры гэтым характарна, што М. Чарот у іх зьяўляецца сталым майстрам пабудовы сюжэту і распрацоўкі інтрыгі. Гэтыя яго апавяданьні, што называецца, захопліваючы і цікавы...

Разгледзім з большага кожнае з памянёных апавяданьняў. У „Талачка-шкрабалачка“ выводзіцца эпархіялка Талачка Сьвяньціцкая, лепшая ў школе вучальніца. Яе любяць настаўнікі і настаўніцы, ставячы яе ўсім вучальніцам у прыклад.

Талачка—прыгожая дзяўчына. Яе бацька—вясковы поп Еўдакім, які за „богу ўгодныя малітвы“ атрымаў чын папа. Загэтым ён сваю дачку выхаваў у „суровых канонах“. Зразумела, жыцьцё дзяўчыны ішло марудна і аднатонна. Гэта прымушала Талачку многа думаць. Між іншым, яна марыла і аб тым, каб выйсьці замуж за „гарадзкога чалавека“. Падобныя думкі выклікалі ў яе нутры перакору, як грэшныя, і яна іх праганяла „сьвятымі“ кніжкамі... Адзін раз увесну Талачка, рыхтуючыся да экзамену, аддалася „грэшным“ думкам і апынулася з імі каля вакна, каб палюбавацца харaствам надворку. Яе заўважыў афіцэр, чамусьці назваўшы яе цялушачкай. Дзяўчыне было досыць угледзець афіцэра, каб ім захапіцца.

Восеньню Талачка скончыла школу і стала настаўніцаю школы ў глухім кутку Беларусі. „Пашлі лекцыі“... Школьны вартаўнік Рыгор ня раз дапамінаў настаўніцы аб хлопцу. „Хлапца, хлапца трэба дзяўчыне, а то загіне ў гэтай глушы“, пераказваў ён...

Адзін раз гэты самы Рыгор паведаміў Талачку аб прыехаўшым чыноўніку, які быў інспэктарам Аляксеем Аляксеевічам Турчанінавым. Інспэктар пераначаваў у Талачкі і гэтым унёс новы струмень у яе жыцьцё. Пасьля пачаўся роман праз лісты...

Лютаўская рэволюцыя яго перапыніла. На Талачку рэволюцыя зрабіла вялікае ўражаньне, калі ў яе клясе дзеці парвалі портрэт цара і папячыцеля віленскай акругі. Нейкі час яна прасядзела дома, у баку ад здарэньняў рэволюцыйнага характару. А калі ўвосень вярнулася ізноў да працы ў школе, то ўжо стрэлася з інструктарам, які назваў яе „таварыш Сьвянціцкая". Гэта ўжо было пры савецкай уладзе, якую, чамусьці, школьны вартаўнік абгаварваў, як нясталую. Цэлы год Талачка пражыла ў нудзе, а на другі год той-жа інструктар з іншымі ведамсьцьвеннымі лістамі, прыслаў ёй цыдульку, у якой назваў Талачку шкрабалачкай. Гэта абразіла ў ёй папоўскую дачку і заставіла прасіць, каб ад яе забралі школу. Але ёй растлумачылі, што слова шкрабалачка не абразьлівае і ўгаварылі не здаваць школы. Аднак трэба было прайсьці цэлым тром гадом бурлівага часу, каб у Талачкі зрабіўся пералом...

Зусім выпадкова, якраз каля будынку эпархіяльнага вучылішча яна стрэла таго-ж афіцэра, які калісьці абазваў яе цялушачкай. Афіцэр меў бедны выгляд. Гэта зрабіла на яе дрэннае ўражаньне... Афіцэр быў для яе ня толькі чужым, а і гідлівым, як прадстаўнік старога часу. Зусім інакш павеяла на яе ад камандзіра роты чырвонаармейцаў, якога яна ўгледзела з вакон хаты. Талачка аб ім стала марыць. Нарэшце, прахо-дзячы між аднаго рэсторану, у грамадцы вайсковых пазнала яго. Талачка сьмела ўвайшла ў рэсторан і падышла да кампаніі вайсковых, дзе пазнаёмілася з жаданым чалавекам. Аказалася, што ён ёсьць ні хто інакшы, як той самы стары офіцэр, які называў яе „цялушачкай"...

Але Талачка абманулася: у нутры камандзіра заставалася пачуцьцё бессаромнага гвалтаўніка, які абмануў яе. На другі раз з тымі-ж думкамі ізноў ён наведаў Талачку, але Талачка яго выгнала, не падаўшыся яго ўгаворам.

Гэты выпадак ізноў вярнуў яе ў вёску, дзе праз нейкі час, нечакана для Талачкі давялося ізноў стрэцца з ракавым для яе камандзірам...

Вось зьмест усяго апавяданьня. Яго ідэя—паказаць тып настаўніцы ў разрэзе рэволюцыйных падзей. М. Чарот знарок узяў асобу, якая выхавалася ва ўмовах рашучай адмоўнасьці да перадавых ідэй—дачку папа, які малітвамі набыў сабе гэту годнасьць. Аднак рэволюцыя, хоць і на працягу доўгага часу, усё-ж зьнішчыла закаранелыя погляды Талачкі і зрабіла з яе стараннуюсамаафярную савецкую настаўніцу. І вось яна па свайму нутраному складу стаіць на многа вышэй ад чалавека, якому выпадкова дастаўся ўбёр камандзіра Чырвонае арміі...

Апавяданьне аб Талачцы-шкрабалачцы не складанае, усё-ж мае цікавую пабудову і паказвае на здольнасьць у яго аўтара да сюжэтных малюнкаў. Адна загана, што М. Чарот, ня зусім старанна распрацаваў яго. Застаецца ўражаньне, што Талачка-шкрабалачка пісана ім насьпех, без належнае ўвагі; загэтым відаць частыя і крутыя перапынкі разьвіцьця падзей у апавяданьні. У многіх мясцох наглядаюцца зацяжкі ў іх разь-

віцьці, у той час як побач аддае дынамічнасьцю ў іх разьбегу. Апавяданьне трапна надарае чытача неспадзеўкамі. Таксама адметна сваясаблівасьць М. Чарота, як бэлетрыста, у яго незацікаўленасьці ў абмалёўках абразкоў прыроды. Апавяданьне складаецца з дыялёгаў і апісальных момантаў, часта нават заўважна сухаватых.

Адсутнічае ў М. Чарота і ўхіл да сантымэнтальных пачуцьцяў, уласьцівых некаторым з беларускіх пісьменьнікаў. Ізноў-жа рэволюцыйная шліфоўка поэты адыгралі тут сваю ролю. У дадатак, М. Чарот як-бы назнарок, сьвядома, сваю бэлетрыстычную творчасьць становіць на другое, другараднае месца ў параўнаньні з вершаванай.

Асноўнае патрабаваньне ў М. Чарота да сваіх бэлетрыстычных твораў—гэта, каб самы зьмест апавяданьня меў неабходныя яму адпаведнасьць рэальнаму і ідэёвае абгрунтаваньне...

Паводле гэтых меркаваньняў, пабудована М. Чаротам і другое з узятых намі трох значнейшых яго твораў са зборніку „Веснаход“.

Назва яго—„Саматканая сьвітка“. Схэма апавяданьня наступная.

Па шляху з Менску да Слуцку ехала фурманка. Стары селянін Антось вёз дадому студэнта—Сьцяпана. Апошні быў у саматканай сьвітцы. Антось скардзіўся Сьцяпану на калатніну, якую прынесла вайна. А Сьцяпан хваліўся аб службе ў Маскве і аб магчымасьці з навукі мець белы хлеб. Вечарам апынуліся дома. Да Сьцяпана ў хату назьбіралася шмат людзей. Ізноў сяляне скардзіліся, а Сьцяпан хваліўся. Далей Сьцяпан аддаўся асабоваму жыцьцю—сустрэўся з Марысяю, якую кахаў. Гэта было на ад‘езьдзе ў Менск.

У Менску Сьцяпану далі назначэньне на службу ў Маскву і надзялілі мандатамі. Па дарозе ў Маскву, куды ён хутка паехаў, Сьцяпан пазнаўся з адным пасажырам у дарагім паліце. Гэта яго засмуціла, бо ў самога была саматканая сьвітка. Адзнаньне гэтага не пакідала Сьцяпана. Яму здавалася, што і калёсы цягніка адбіваюць „Сьвітка! Сьвітка! Сьвітка!“

Далей—Сьцяпан у Маскве. Ён ужо ў ангельскім паліце, з портфэлем; швайцар яму адчыняе дзьверы. Да яго цяжка дайсьці. Калі таварыш намякае на перамену ў ім, Сьцяпан ня хоча і слухаць, ускладаючы віну на занятасьць вялікаю адказнаю працаю. У гэты час на Случчыне, адкуль родам Сьцяпан, пашлі розныя гутаркі аб яго вялікім чыне. Марыся, якую ён забыў, суцяшае сябе тым, што нібы Сьцяпану няма часу пісаць ёй лісты, бо ён вучыцца і працуе.

Праз нейкі час Сьцяпан на аўтомобілі прыехаў дамоў у госьці. Ён зусім другі, „нібы перарадзіўся“. Каля яго маці хадуном-ходзіць, корміць-поіць. Сяляне глядзяць на яго, як на пана. А калі зайшоў наведаць Сьцяпана дзядзька Антось, дык яго саматканая сьвітка стала адваротнай Сьцяпану. Пакінуў ён любіць і Марысю, не захацеўшы з ёю і гаварыць аб гэтым.

Яксьці, едучы на трамваі ў Маскве, Сьцяпан пачуў гутарку рабочых, у якой яны нядобра адзываліся пра тых, хто езьдзіць на аўтомобілі. Успомнілі пра сьвітку, кажучы, „адзець-бы такім сьвітку і паставіць каля качагаркі“. Гэта смуціла Сьцяпана. „І тут сьвітка?—падумаў ён:—няўжо сьвітка мяняе чалавека?“. Калі, вярнуўшыся дамоў, ён думаў аб гэтым выпадку, да яго прышла Аня, яго знаёмая-каханая. Пачаліся гутаркі пра жыцьцё. Аня выказала яму свае пажаданьні ў гэткіх словах:

„Я хачу, каб ты жыў поўным жыцьцём. Падумай толькі, як можна жыць на тваім месцы“. Сьцяпан уразумеў гэта і з свайго боку падзяліўся з Аняю думкамі, якія формуюцца ў наступным: „я хачу разам з табою так жыць, каб усёй Маскве моташна стала“.

Калі назаўтра пасьля гэтага да Сьцяпана трапіў брат у саматканай сьвітцы, ён перш-на-перш вялеў зьмяніць сьвітку.

Далей Сьцяпан да таго разбазыраў, што пачаў езьдзіць у рэстораны, гуляць з дзяўчатамі. Грамадзкую справу зусім занядбаў. Гэта кінулася ўсім у вочы, дайшло да начальства і яго зьнялі з пасады. Сьцяпан ізноў вярнуўся да сьвіткі, з якою хацеў разьвітацца назаўсёды. Едучы з Масквы калёсы грукацелі: „Сьвітка! Сьвітка!“. І ўжо ад гэтага Сьцяпану рабілася страшна.

Ізноў-жа, як бачым, просьценькі сюжэт, але цікавая ідэя. І, дзякуючы апошняму, апавяданьне зразумелае, чытабельнае і ўлюбёнае чытачом. Тып Сьцяпана, узяты М. Чаротам, вельмі яскравы на фоне ня так сучаснасьці, як мінуўшчыны; трапна выхаплены з жыцьця. Хто ня стыкаўся з падобнымі зьявішчамі і іх ня ведае? І таму, што ў „Саматканай сьвітцы“ ачулая, пукатая сапраўднасьць, апавяданьне лёгка даецца чытачу і выклікае ў яго цікавасьць. Гэтаму яшчэ спрыяе плаўкасьць пісьма і выразнасьць думкі аўтара. Узмоцнены-ж тэмп разгарненьня падзей гаворыць яшчэ і за іншыя дадатнасьці апавяданьня. Праз гэта зусім не заўважваецца простасьць фабулы, якая, здаецца, неад'ёмна і няпрыменна для перадачы характарных драбніц нашага жыцьця...

Апошняе таксама бярэцца не без знарочыстасьці з боку М. Чарота. Паколькі жыцьцё складаецца з простых зьяў, пераходзячы ў складаныя ў процэсе пераплёту першых,—тады для іх дастаткова ў меншай меры думак і развaг, комбінацый і куншцюкоў. Затое бушуе шчырая сапраўднасьць.

Не адасабляецца ад першых двух апавяданьняў і трэцяе „Галя“. І ў ім чуецца той самы падыход да бэлетрыстычнага твору, які абраў сабе М. Чарот. Лёгкі сказ, плаўкае цячэньне думкі, рэалістычнасьць падзей. Тыя-ж удалыя неспадзяванкі, якія час ад часу пераймаюць чытача; пераменны тэмп цякучасьці гісторыі, трапныя характарыстыкі паасобных герояў і неадменная вострасьць ды чоткасьць у дыялёгах. Адрыўнасьць і паўната сказаў.

Да прыкладу: „Я ня спаў“. „Коні за ёю прыехалі“. „Мы часта з ёю спатыкаліся“. „Я забываюся на ўсё. Бягу да яе“. Адсутнасьць калу-

паніны ў дробязях, як гэта наглядаецца, да прыкладу, у К. Чорнага. Нават часамі акрэсьленая схэматычнасьць, як: „Мне было толькі дзесяць гадоў. Сонца, нібы зачапіўшыся за гальлё хвойніку, не хацела заходзіць“. Тым ня меней аўтар прыцягае да сябе і прымушае з захапленьнем перачытваць кожную сваю бэлетрыстычную рэч.

„Галя“ чытаецца яшчэ цікавей за папярэднія апавяданьні. Ды і фабула яе цікавейшая. Яна вядзецца ад першае асобы і пабудавана наступна.

Галя—дачка пана. Андрэй, мужыцкі хлапец, спаткаў яе ў белай сукенцы, у чорных лякерках на дзядзінцы маёнтку, прышоўшы з бацькам прасіць у пана сенакосу. Галя падышла да Андрэя і назвала яго дзікім. Пазьней ён стрэў Галю ў лесе, будучы на начлезе. Галя яго пазнала і ткнула пальцам, сказаўшы: „А ты ўжо пасьмялеў“. Андрэю было тады ўсяго дзесяць гадоў ад нараджэньня. Чарговую стрэчу з Галяю Андрэй меў у вагоне, будучы вучнем у горадзе. Яны адно другога пазналі і загутарылі. Далей-болей, і Андрэй правёў Галю ў маёнтак.

У сэрца запала іскрачка надзеі. З гэтага часу паміж імі ўсталявілася знаёмства, спатканьні. Адзін раз, калі Андрэй скончыў сярэднюю школу, а Галя была гімназісткаю, яны спаткаліся на сенакосе і прызналіся адно другому ў каханьні. Мужыцкае паходжаньне сароміла Андрэя, але пачуцьцё любасьці брала над сорамам верх.

Праз нейкі час Андрэй, прыехаўшы дамоў, не знайшоў панскага маёнтку—пан яго прадаў, а сам пераехаў жыць у другое месца. Андрэй вярнуўся ў горад. На адным вечары ў знаёмых ён пазнаўся з Зосяй Ганцкай, чорнарабочай, дачкою рабочага. У гутарцы з Андрэем, Зося прагаварылася аб Галі, якая была беспрацоўнаю і колегавала з Зосяю. Угаварыліся спаткацца на біржы, але Галя ня прышла. Тады Андрэй з Зосяю пашлі да Галі. Нечаканасьць стрэчы ў гэткіх умовах моцна кранула абодвух. Ізноў аднавіліся стрэчы, успаміны, гутаркі аб сэнсе жыцьця. Аднак у Андрэя пачуцьцё любасьці стала здаваць пачуцьцю спагады. Андрэй казаў сабе: „А дзе ёсьць шкадаваньне, там ня можа быць каханьня“. Назаўтра Галя прышла прасіць, каб яе Андрэй уладзіў на працу... Праз тыдзень Зося паведаміла яму, што Галя хворая. Разам з Гэтым Андрэй праведаў, што Галю хочуць выдаць за аканома. Ад‘яжджаючы адзін раз дамоў, ён атрымаў ад Галі ліст, у якім яна пісала, каб Андрэй яе забыў.

Спусьціўшы некалькі часу Андрэй ехаў з вёскі Беліцы. Фурман завёз яго на адзін хутар палуднаваць, расказаўшы, што на ім жыве панская дачка. Выявілася, што то была Галя—Андрэй, угледзеўшы яе, пазнаў. Застаўся начаваць і праведаў, што Галя мужа ня любіць, бо „кажуць, у горадзе кавалер застаўся“. На другі дзень Андрэй ізноў вярнуўся да хутару, дзе Галя тайком ад мужа „цела яму сваё прынесла“, а ён яе адпіхнуў ад сябе. Ніякая самаахвярнасьць з яе боку гэтаму не перашкаджала...

Праз нейкі час Андрэй спаткаўся з Зосяю Ганцкай у час мітынгу на заводзе. Зося казала прамову і гэтым захапіла Андрэя. У гутарцы яна яму паведаміла, што „Галю жыцьцё пакалечыла“ і што „яна кудысьці з гораду выехала“. Была зіма, калі Андрэй напаткаў Галю ў горадзе ў ролі „начнога матылька“. Галя пазнала яго, спыніла і запрасіла зайсьці да сябе. Андрэй зайшоў, загутарыў аб мінулым. Галя прызналася яму, што ёй не засталося нічога іншага рабіць, як рашыцца аддацца простытуцыі. Калі-ж Андрэй умольваў яе кінуць гэта, яна праз сьлёзы казала: „Сілы няма... сілы“.

Увесну Андрэй адным вечарам гуляў з Зосяю ў садзе. Зося расказала яму, што Галя выяжджае ў новы горад „з нейкім новым каханкам“. Пры гэтым Зося перадала Андрэю ліст ад Галі. У лісьце Галя пісала, што ўсё, што было паміж ёю і Андрэем,—нельга назваць каханьнем, што яе „жыцьцё пакалечыла“. Андрэй са злосьцю адкінуў ад сябе ліст, а ў яго „галаве шэраю мышкаю прабегла думка, што ён ніколі не пакахае“.

Апавяданьне на гэтым абрываецца. Застаецца ўражаньне, мэрам-бы яно не дакончана. Прычынаю гэтага—тая-ж лёгкая нядбайнасьць М. Чарота да пільнейшае яго апрацоўкі. Але гэта нядбайнасьць уласьціва пісьменьніку ў пачатку яго зацікаўленасьці бэлетрыстычнымі творамі.

Спусьціўшы нейкі час, ён передумоўвае свае адносіны да празаічнай творчасьці і наважваецца надаваць ім большае глыбіні і размаху. Мы бачым гэта тады, калі М. Чарот піша сваю аповесьць „Грышка Сьвінапас“ *).

Гэты твор задуманы аўтарам у далёка шырэйшым маштабе за ўсе папярэднія яго бэлетрыстычныя творы. Падругое, фабулу для яго М. Чарот узяў з эпохі польскае окупацыі на Беларусі. Героі аповесьці—партызаны, у ліку якіх быў і сам пісьменьнік. Такім чынам, яму добра вядомы і абставіны, у якіх адбываліся дзеі і зьмест гэтых дзеяў; гэтак званы духовы склад партызан, як больш ня трэба, быў знаны М. Чароту таксама. Яго-ж здольнасьць да пабудовы сюжэту і да разьвіцьця інтрыгі пасобілі „Грышку Сьвінапасу“ набыць усе якасьці адмысловай, насычанай сюжэтнасьцю аповесьці. Дзякуючы апошняму ды плюс багацьце зьместу яна, паслужыла ўдзячным матэрыялам для першага беларускага фільму „Лясная быль“.

Няма патрэбы спыняцца на падрабязговым разглядзе „Грышкі Сьвінапаса“, паколькі гэты твор М. Чарота стаў блізка вядомы шырокаму колу жыхарства не аднае БССР. Тая зацікаўленасьць, якую „Грышка Сьвінапас“ выклікаў з боку гледача—найлепшы сьведка і ацэншчык гэтага твору нашага поэты-пісьменьніка.

---

*) Адрыўкі з яе друкаваліся ў часопісі „Маладняк“ за 1924 год.

Нам застаецца ўсяго дадаць, што і ў галіне бэлетрыстычнай творчасьці М. Чарот можа даць беларускай літаратуры і беларускаму чытачу многа багатых і цікавых падарункаў. Выходзячы з ацэнкі напісаных ім бэлетрыстычных твораў,—М. Чароту даводзіцца адвесьці зусім асобнае месца ў шэрагу беларускіх прозаікаў. Акрэсьленасьць гэтай асаблівасьці, галоўным чынам, заключаецца ў арыгінальнасьці манеры і формы яго пісьма. З гэтага боку М. Чарот блізка нагадвае нам з зарубежных пісьменьнікаў Іоганэса Р. Бехэра, Л. Сінклера і Джэка Лёндона. Бязумоўна ўсё-ж такі адно, што ў кірунку бэлетрыстычнай творчасьці яму прывядзецца шмат папрацаваць, адначасна і канчаткова выrашыўшы, якому жанру творчасьці аддаць перавагу. Паколькі відаць, М. Чарот паступова схіляецца да прозы, аднак, ёсьць весткі, што ім пішацца шырока разгорнутая вершаваная поэма „Асінград“, у якой поэта мерыцца намаляваць багаты вобраз новае стадыі ў працэсе соцыялістычнага будаўніцтва Савецкае Беларусі.

Нерасставаньне М. Чарота з вершаванай творчасьцю, зразумела, мае пад сабою грунтоўныя падставы. У агульным зьмесьце сваіх літаратурных дасягненьняў вершаваныя творы пісьменьніка займаюць асноўнае значэньне. Бясспрэчна, што дагэтуль мы прадстаўляем сабе М. Чарота, як выдатнага таленавітага песьняра, маючы на ўвазе яго вершаваныя творы, вянком якіх зьяўляецца поэма „Босыя на вогнішчы“. Бэлетрыстычныя рэчы яго натуральна адсоўваюцца на задні плян. Маючы гэта на ўвазе, крытыка і была так ашчадна на агляд гэтага боку Чаротавай творчасьці.

У тых рэцэнзіях, якія зьявіліся на „Веснаход“ выразна падкрэсьлівалася думка, што М. Чарот непараўнана слабейшы бэлетрысты ад поэты. З гэтымі думкамі нельга было не згадзіцца, паколькі мы мелі справу з адным „Веснаходам“. Калі-ж М. Чарот даў нам, хоць і не закончаную ў друку, аповесьць „Грышка Сьвінапас“, нашліся ўсе даныя на тое, каб гэту думку грунтоўна перагледзець.

Заглядаючы ў наступнае, зразумела, пакуль цяжка асьмеліцца паставіць кропкі над і. Якраз гэта цяжкасьць ускладняецца яшчэ і фактам трохгадовага перапынку ў творчасьці М. Чарота. З часу выйсьця яго поэмы „Беларусь лапцюжная“ пясьняр нам нічога ня даў. Мы толькі жылі аднымі чаканьнямі,—калі-ж нарэшце, зьявяцца распачатыя пісаньнем яго новыя творы? Час ідзе, а іх усё ня відаць. На гэтай глебе даводзіцца сустракаць розныя, непажаданыя размовы, якія сеюць трывогу ў шырачэзных колах прыхільнікаў нашага выдатнага поэты. Трэба спадзявацца—а на гэта ўсе падставы—што М. Чарот спыніўся на пэўны тэрмін у сваёй творчасьці з тым, каб у хуткім часе паўстаць перад намі ў яе новым, яшчэ больш шумлівым уздыме. Яго маладыя гады, неастываючая энэргія, паўната сіл, бадзёрасьць імкненьняў, настрояў—дарукаю гэтаму.

Ня быў-бы поўнасьцю выяўленым портрэт М. Чарота, каб мы абмінулі яго працу ў галіне літаратурна-організацыйнай. Гэта праца ў процэсе будаўніцтва новае пролетарскае беларускае літаратуры зьяўляецца дапаўняльным элемэнтам непасрэднай літаратурнай творчасьці М. Чарота.

Соцыялістычнае будаўніцтва Савецкае Беларусі цесна зьвязана з яе культурным разьвіцьцём. Апошняе не павінна адставаць ад першага, захопліваючы ў свае абоймы найшырэйшыя колы рабоча-сялянскіх грамад. Літаратура, як актыўнейшы фактар у комплексе рухавых культурных процэсаў, не павінна замыкацца ў вузкія рамкі адасобленага жыцьця.

Бяз сувязі з працоўнымі гушчамі—яна прызначаецца на застываньне, на пасыўнасьць, на пустасьць. Тым болей гэта ва ўмовах беларускіх, дзе беларускай культуры даводзіцца пракладаць сабе дарогу няпрыбранымі мясьцінамі. Апроч усяго іншага, цесная жывая сувязь з насельніцтвам краіны шляхам дакладаў, вечарын, організацый адчыняе шырокія магчымасьці ў справе паглыбленьня культурных дасягненьняў праз выяўленьне новых здольнасьцяй у літаратурным будаўніцтве.

Разумеючы гэта, М. Чарот організацыяй пісьменьніцкага аб'яднаньня „Маладняк" трапна вырашыў пытаньне моманту. Але яго праца ў „Маладняку", зразумела, перабівала сабою працу па пісаньню. Тры гады заўзятай грамадзка-літаратурнай чыннасьці адабралі ад нас не адзін твор М. Чарота. Тым ня меней вынікі Чаротавай працы па організацыі маладых сіл вакол беларускай літаратуры ў значнай меры компэнсуюць гэту страту. Дзякуючы менавіта М. Чароту, так широка быў разгарнуў сваю працу „Маладняк", уцягнуўшы ў сваю орбіту перадавую беларускую моладзь. Яго аўторытэт, як здольнага пролетарскага поэты, служыў прыкладам сур'ёзнасьці і дзелавітасьці маладнякоўскай чыннасьці.

Чаротавы творы служылі штуршком для пачынаючых маладнякоўцаў у іх пісьменьніцкім выяўленьні. „Маладняк", выпхнуўшы з сваіх шэрагаў купку заблытаных у сялянска-кулацкай ідэолёгіі, зьвіхнутых настроем сябраў, усё-ж ня згубіў свайго значэньня і аўторытэту, пакуль у ім быў М. Чарот. Выйсьце яго разам з бліжэйшымі і здальнейшымі таварышамі, адразу абяскровіла аб'яднаньне. Яно пахудзела, стала шэрым. І пакуль ня знойдзена сродкаў, якімі-б можна было хоць напалову прыдаць яму вагі і аўторытэту.

У адноўленым „Маладняку" мы заўважаем значны прарыў суцэльнасьці настрою і еднасьці ідэолёгічнага кірунку. Ненатуральны сымбіёз паміж Галавачом, І. Барашкаю і А. Моркаўкаю з аднаго боку і імітыраванымі пад савецкіх ортодоксаў У. Жылкаю і якімсьці Гаўруком з другога—дзіўная таму адзнака.

Вывучаючы гісторыю „Маладняка", першым чынам спыняешся на яго аснавальніку і кіраўніку М. Чароце. І аглядаючы літаратурную творчасьць М. Чарота, ня можаш не аддаць вялікае ўвагі яго багатай про-

дукцыйнай працы ў „Маладняку“. Гэтым бокам свае чыннасьці М. Чарот яшчэ раз падкрэсьліў сваю сугучнасьць з эпохаю, сваю цесную злуку з пролетарскаю ідэолёгіяй работніцка-сялянскае грамады—будаўніка новага жыцьця.

Гэткім чынам, падрахоўваючы вынікі дзесяцігадовае літаратурнае працы М. Чарота, нельга з гонарам не пахваліцца яе буйнай высокай значнасьцю, яе вялікай каштоўнасьцю. Асоба М. Чарота набывае ёю нязвычайнай сілы і выдатнасьці, займаючы адно з першых месц у гісторыі беларускае літаратуры.

Няхай-жа посьпехі поэты-ваяўніка і грамадзяніна работніцка-сялянскае грамады паслужаць імпульсам для яго далейшай бліскучай працы на ніве беларускай пролетарскай літаратуры.

# ДА ПЫТАНЬНЯ ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЮРЫДЫЧНУЮ ТЭРМІНОЛЁГІЮ

**Л. Окіншэвіч**

На пачатку 1927 г. вышла ў сьвет, выданая Інстытутам Беларускае Культуры тэрмінолёгія права. Гэта—выпуск дзесяты беларускае навуковае тэрмінолёгіі. На пасяджэньні Юрыдычнае Сэкцыі Навуковага Таварыства пры Беларускім Унівэрсытэце 22 лістападу 1926 г. быў зачытаны даклад пра працу над укладаньнем праўнае тэрмінолёгіі. Аўтарам гэтага дакладу быў укладальнік, аўтар тэрмінолёгіі права—Мікола Гуткоўскі. Даклад гэты надрукованы пад назвай „Беларуская праўная тэрмінолёгія“ ў № 14—15 Праў Беларускага Унівэрсытэту. З гэтага вельмі цікавага артыкулу маем мажлівасьць даведацца пра ўсе ўмовы працы па ўкладаньні тэрмінолёгіі ды галоўныя прынцыпы, якія пры гэтым ставіліся.

З артыкулу чытач пазнае, што першы проэкт „праўнай“ тэрмінолёгіі быў скончан распрацоўкай у пачатку 1923 г. і трапіў у чаргу на разгляд Этнолёго-Лінгвістычнага Аддзяленьня ІБК у верасьні 1923 г. Этнолёга-Лінгвістычнае Аддзяленьне ІБК разглядала праўную тэрмінолёгію на працягу 10 месяцаў і патраціла на гэтую работу 87 пасяджэньняў, прыблізна па 3 гадзіны на пасяджэньне. Такім чынам, на ўсю работу па разгляду проэкту праўнай тэрмінолёгіі было патрачана блізка 250 гадзін часу“ (с. 86). Проэкт быў разасланы ў цэнтральныя савецкія ўстановы, а таксама і ў акруговыя ды раённыя выканаўчыя камітэты. Але крытыкі з месц не было „апроч двух раённых выканаўчых камітэтаў, якія вярнулі назад прысланыя ім экзэмпляры проэкту з нязначнымі ўвагамі“ (с. 89).

Як кажа М. Гуткоўскі, „абгаварэньне тэрмінолёгіі насіла больш габінэтны характар. Камісіі былі вельмі вузкія і аб выніках свае працы не інформавалі шырокія колы зацікаўленых асоб. Юрыстаў, якія прымалі ўдзел у гэтай рабоце, было ўсяго 3—4. Тлумачыцца гэта нашаю культурнаю беднасьцю, але факт гэты зьява ненормальная і ня мог не адбіцца на працы“ (с. 90). З прычыны гэтага „аўтару проэкту было досыць цяжка адчуваць сваю адзіноту сярод асоб, меўшых малое дачыненьне да праўных навук. Роля аўтара проэкту заключалася пераважна ў растлумачэньні праўных разуменьняў і ў адстайваньні вызначанага цыклю тэрмінаў“ (с. 86).

4, 1928

Якімі прынцыпамі кіравалася праца? Этнолёгічна-Лінгвістычнае Аддзяленьне Інбелкульту „імкнулася пабудаваць праўную тэрмінолёгію на жывой мове і пераклаcьці на беларускую мову па магчымасьці ўсе навуковыя разуменьні. Але не заўсёды ўдавалася знайсьці такія словы. Іх ня было ні ў жывой мове, ні ў гістарычных помніках... Такім чынам, вытрымаць гэты асноўны прынцып—найсьці для праўнае тэрмінолёгіі толькі беларускія словы, Этнолёга-Лінгвістычнаму Аддзяленьню не ўдалося“ (с. с. 86—87), і далей—імкненьнем усіх камісій, праглядаўшых проэкт праўнае тэрмінолёгіі, было даць самабытную беларускую праўную тэрмінолёгію і ўсе праўныя разуменьні выразіць па мажлівасьці на беларускай мове, даўшы на кожнае разуменьне адзін тэрмін. Але мы ўпэўніліся, што даць на беларускай мове ўсе тэрміны ніякім чынам нельга. Тэрміны, выпрацаваныя навукаю і ўжываныя ва ўсіх эўропэйскіх мовах павінны быць пакінуты без перакладу... Большасьць такіх агульна-эўропэйскіх слоў і пакінута непераложанымі. Захаваньне гэтага прынцыпу дасьць мажлівасьць не ламаць галавы над прыдумваньнем беларускіх слоў і над іх перакладам, калі іх часта і пераклаcьці нельга“ (с. 89). Тут мы бачым асноўныя прынцыпы камісій і поўныя сумненьні ў мэтазгоднасьці іх галоўнага аўтара проэкту.

Сваю думку пра гэтыя прынцыпы падам ніжэй. А цяпер паглядзімо як фактычна справіліся з сваёй задачай аўтар і рэдактары слоўніку.

Перш-на-перш поўната яго. Нешта пра гэта кажа ў сваім артыкуле М. Гуткоўскі. „Камісія імкнулася даць мажлі а сьціслы цыкль тэрмінаў і з 4000 выкінула каля 400 слоў—10 проц. Выкінуты, напр., такія тэрміны: абстрактный, авария, авторитет, акцессия, анализ юридический, аналогия, асоциация, аттрибут, афоризм юридический, аффект і інш. Выкінуты не таму, што яны навуковыя агульна-эўропэйскія тэрміны, а таму, што ня лічылі іх праўнымі тэрмінамі“ (с. 86). Бясспрэчна, паданыя тут тэрміны—тэрміны юрыдычныя, бясспрэчна, бяз іх слоўнік-тэрмінолёгія ня зусім поўны. Пры павярхоўным праглядзе тэрмінолёгіі я зазначыў на адсутнасьць хоць-бы такіх расійскіх юрыдычных тэрмінаў ды разуменьняў: аваль (парука на вэксалі), авизо, автократия (форма дзяржавы; бясспрэчна, што ў тэрмінолёгію права павінны быць занесены і тэрміны права дзяржаўнага). Адоптировать (усынаўляць), алиби (няпрысутнасьць на месцы ўчыненьня злачынства); ассигнат; бездеятельность (напр., службовая—як від злачынства; да рэчы і слова служебный у слоўніку няма). Беспатентный. Вдохновитель (злачынства). Визировать (напр., пашпарт—тэрмін міжнароднага права). Виндикация; виселица (аджа і формы і спосабы кар павінны быць у юрыдычнай тэрмінолёгіі). Вселять (у наш час актуальны тэрмін кватэрнага права). Дань (тэрмін з гісторыі права). Двустепенный (тэрмін дзяржаўнага права, напр., д. выбары). Дэбаты; дэбош; денационализация; династия; диффамация; жиро (тэрмін вэксальнага права). Законопроект; законоположение; заточение (тэрмін гісторыі права). Избивать. Иммунитет

(у юрыдычным значэньні гэтага слова). Империализм. Индоссамент (тэрмін вэксальнага права). Инкриминировать; интерпретация (напр., закону). Коммандитный (напр., к. таварыства—таварыства на веры). Легат (загад у тэстамэнце, каб спадчынаёмец даў пэўную частку спадчыны або пэўную суму грошай трэцяй асобе). Магистрат; майорат; муниципалитет. Наем; налет; недееспособность. Оккупация (у сэнсе юрыдычным). Освоение. Отпирательство (тэрмін судовага права). Парламент; переуступка; подкуп, поднаследник (субститут). Поединок. Покаяние (напр., злачынцы на процэсе). Полномочие; правопоражение; приоритет; присовокупление (напр., дакумэнтаў да справы, ці рэчавых доказаў). Пристройка; причинение (шкоды, пабояў і г. д.). Провокация; промесса; протори (судовыя выдаткі). Процесс (судовы процэс. Незразумелы пропуск!) Раб (як тэрмін гісторыі права). Расследование. Расстрел (як форма кары). Ратифицировать (тэрмін міжнароднага права). Реабилитация, ресконтро (кніга рахункаў). Реституция. Розга (форма кары ў гісторыі права). Самодержавие (форма дзяржавы). Самозащита; самосуд; сейм (як тэрмін дзяржаўнага права). Симуляция. Смертоубийство; спекуляция; сторона (у юрыдычным значэньні, як старана ў процэсе). Телесное наказание. Тратта; трассант; трассат. Поличное. Уния (форма дзяржавы). Фальшивомонетчик; экстерриториальность. Юрисдикция. Монетный двор... Усё гэта—юрыдычныя тэрміны, некаторыя з іх вельмі важныя і пропуск іх—пропуск прыкры. Ён робіць юрыдычную тэрмінолёгію Інбелкульту тэрмінолёгіяй няпоўнай; тым больш, што пры спэцыяльным дасьледваньні гэтага пытаньня мажліва што сьпісак прапускоў можна было-б дапоўніць яшчэ.

З некаторымі перакладамі расійскіх юрыдычных тэрмінаў цяжка згадзіцца. Падамо тут некаторыя новыя думкі на гэты конт „Аренда"—у тэрмінолёгіі перакладзена правільна „арэнда". Але побач з гэтым можна паставіць і стары беларускі тэрмін „пасэсія". Вено—у слоўніку „пасаг". Тут вялікая памылка. Вена—гэта тэрмін з гісторыі беларускага права. Гэта, калі жаніх унасіў у супольную маемасьць сям'і частку свае маемасьці, пераважна адпаведную пасагу маладой, якая была асабістым забясьпечаньням маладой—вось што значыў гэты тэрмін у старым беларускім праве. Аўтары тэрмінолёгіі, якія і „приданое" пераклалі словам пасаг, пераклалі гэтым тэрмінам дзьве розныя юрыдычныя катэгорыі. Ды вена і перакладаць ня трэба было: гэта-ж стары беларускі тэрмін, якога расійская мова і ня ведае! „Вид на жительство"—„від на пражываньне". Няясна нашто тут пакінулі выпадковы тэрмін царскае Расіі „від". Замест гэтага можна было сказаць „дакумант на пражываньне".

І „владелец" і „властелин" перакладзена ў слоўніку як „уладар". Аднак першы тэрмін хутчэй адносіцца да прыватнага права, а другі да дзяржаўнага. Мажліва што „владелец" лепш было-б перадаць лацінскім тэрмінам „пасэсар", тэрмінам зусім ня чужым беларускай мове. І „влияние" и „воздействие" перакладаюцца словам „уплыў". Тымчасам разу-

меньні гэтыя ня зусім аднолькавыя. У „Практычным расійска-беларускім слоўніку“ Байкова і Гарэцкага для „воздействия“ ёсьць слова „ўзьдзеяньне“. Магчыма, што лепей было-б яго і ўзяць для тэрмінолёгіі права.

„Выгодность“ перакладзена „выгаднасьць“. Пабеларуску „выгадваць“ хутчэй значыць „придумывать“ нешта пра некага. Думаю, што тут лепш было-б узяць беларускае старое слова „спажытачнасьць“. І для „властелина“ і для „держателя“ ў слоўніку маем „дзяржаўца“. Тут зноў розныя тэрміны публічнага і прыватнага права. Паколькі „держатель“ ёсьць сынонім „владельца“—і гэты тэрмін лепш вызначыць словам „пасэсар“. „Даход“ у тэрмінолёгіі перакладзена, „даход, прыбытак“. Першае слова—не беларускае, тут непатрэбны русізм. Замест яго лепей было-б узяць беларускае слова „зыск“. „Договор“ перакладаецца—„дагавор, умова“. Да гэтых слоў трэба дадаць яшчэ „контракт“. „Доследование дела“ ў тэрмінолёгіі—„дасьледваньне справы“. Вельмі няўдалы пераклад, бо гэта будзе значыць „исследование дела“—разуменьне запэўна зусім не аднолькавае. Трэба было сказаць проста „дадатковае сьледзтва“.

„Естественное право“ перакладзена „прыроднае права“. Як відаць, лепей было тут узяць бліжэйшае да эўропэйскага слова „натуральнае права“ (jus naturale), тым больш, што пабеларуску „природа“—і „прырода“ і „натура“ (практычны расійска-белар. слоўнік Байкова і Гарэцкага). „Звание“ ўдала перакладзена як „годнасьць“. Але ў пэўных значэньнях гэта ёсьць „стан“. „Имение“ перакладаецца „маемасьць“; „имущество“ таксама—„маемасьць“. А гэта юрыдычныя разуменьні ня зусім аднолькавыя. Я думаю, што „маемасьць“ трэба пакінуць для „имущества“, а „имение“ перакладаць па Байкову ды Гарэцкаму —„двор, маёнтак“. „Иск“ пакінута не перакладзеным—„іск“. Такога слова беларуская мова, бясспрэчна ня ведае. Гэта—чыста расійскае слова. „Иск“ лепш передаць старым беларускім словам і цяпер ня чужым беларускай мове,—„позыў“ ці „позва“. Таксама і „истец“ у тэрмінолёгіі—„іcьцец“. Ня ведаю чаму ня ўзяты добры тэрмін з Байкова ды Гарэцкага „пазывальнік“? „Казна“ перакладаецца „скарб“. Гэтым-жа словам перакладаецца і „клад“ і „сокровище“. Ну, а як, напр., сказаць „казенное отношение к делу“? Мабыць, правільней пераклала „казну“ украінская юрыдычная тэрмінолёгія як „казна, дзяржаўны скарб“. „Клятвопреступник“ выражана цераз—„вераломнік“. А слова „вероломство“ перакладзена цераз „вераломства“. Ясна, відавочна, што адсюль і „вероломный“ ёсьць „вераломны“? Тут яўная блытаніна. „Клятвопреступник“ трэба перакласьці іншым словам, напр., „прысягазломнік“. „Линия родства“ перакладаецца як „лінія сваяцтва“. Але-ж „родство“ ды „свояцтво“ значэньні ў юрыдычным сэнсе розныя. Лепш было-б узяць „лінія роднасьці“.

„Лист окладной“—„ліст акладны“. Зноў увядзеньне ў беларускую мову расійскага канцэлярскага слова. А можна было-б сказаць пабеларуску „падатковы ліст“. „Мелиорация земель“ перакладзена „асушка

зямель". Але тэрмін мэліорацыя шыршы; яго і трэба паставіць побач з „асушкай". „Община" ў слоўніку—вобшчына". Тэрмін штучны, не беларускі. Лепей мабыць было ўзяць—„вясковая грамада". І гэта—тым больш, што „земельное общество" перакладаецца „грамада". А што-ж такое „община" як не „земельное общество"? Обыск у тэрмінолёгіі—„вобыск". Зноў—русізм. У Байкова і Гарэцкага ёсьць і „ператраска", бо „обыскивать"—"трэсьці". Гэта—больш правільны тэрмін. „Отказ"—„адмова". Але парасійску „отказ" гаворыцца і ў значэньні "легата", трэба было-б даць тэрмін і для гэтага значэньня, бо „адмова" тут не падыходзіць. „Патрон" ды „патронат" перакладаюцца як "апякун, патрон" і „апякунства, патронат". Тут на першым месцы трэба паставіць якраз „патрон і патронат", бо апякун тэрмін вузейшы. Тым больш, што і „попечитель" перекладзена „апякун" (паміж іншым ня зусім дакладна, бо „опека" і „попечительство" не цалком аднолькавыя разуменьні). „Подмастерье"—„чаляднік". А ў Байкова і Гарэцкага—„вучань, падмайстар". З усіх гэтых тэрмінаў апошні дакладнейшы, бо вучань—гэта ніжэйшае палажэньне перад падмайстрам; чаляднік-жа не паказвае на юрыдычна дакладнае становішча падмайстра ў старых, да-рэволюцыйных рамесьніцкіх цэхах.

„Показание"—даслоўна „паказаньне". Але побач з гэтым можна было-б паставіць і стары беларускі юрыдычны тэрмін—„сьведчаньне". „Приказчик"—„даручны". Можна было для акадэмічнага ўжо інтарэсу (вось-жа тэрмінолёгія „навуковая") паставіць і „цівун", што значыў у часы прыгону „приказчик имения". „Прекращение" перакладаецца „спыненьне". Але як сказаць „прекращение дела": „спыненьне справы"? Дык гэта будзе значыць хутчэй „приостановка дела". Можа тут лепш будзе „канчатак". „Пытка" добра перакладзена—„катаваньне". Побач з гэтым можна было-б паставіць і тэрмін старога беларускага права—„мукі" (аджа ўзяў яго украінскі юрыдычны слоўнік). „Справка"—„спраўка". Мабыць лепш—„даведка". „Прения"—„спрэчкі", можна яшчэ і—„дэбаты".

„Таможенная пошліна"—„таможная пошліна". А чаму не пабеларуску—„мытны збор"? „Таможня" тэрмін не беларускі. Гэта тэрмін расійскі, ад слова „тамга"—дань, каторую завялі ў Маскоўскай Русі татары. Зноў-жа русізм—і пераклад слова „тяжба"—„цяжба", гэта цалкам не беларускае слова. Тут лепш было-б сказаць „позва", „процэс". „Тяжущийся"—„цяжбенік". Няпрыгожа. Лепш ужо ўзяць стары беларускі юрыдычны тэрмін „процэсавая старана" або „старана ў процэсе".

„Улика"—„уліка". Гэта—не пабеларуску. Мусіць лепш было-б сказаць „довад". „Уложение"—„улажэньне". Гэта ня тое. Калі казаць у сэнсе кодэксу, дык ёсьць-жа беларускае слова „статут", а расійскі тэрмін „улажение", калі ідзе мова пра кодэкс 1648 г. „Уложение царя Алексея Михайловича" мажліва браць у лапкі. „Уголовный"—перакладаецца як „крымінальны". Побач з гэтым мажліва паставіць і „карны". Нават трэба мабыць апошняе слова паставіць на першым месцы, бо корань гэтага

слова—беларускі. „Укрывательство“ перакладзена „пакрываньне“. Сапраўды, можна сказаць „укрывательство преступления“—„пакрываньне злачынства“. Але як, напр., сказаць „укрывательство вора в своем помещении“. Тут трэба ўжо даць іншы тэрмін замест „пакрываньне“. „Поклажа“ пакінута „паклажа“. Я думаю, што калі-б спытаць першага лепшага беларускага работніка ці селяніна ці нават інтэлігента—не-юрыстага, дык ніхто сапраўднага значэньня, юрыдычнага значэньня гэтага слова ня скажа. Лепш было-б перадаць расійскую „поклажу“ як „дэпозыт“, тэрмін, які ёсьць у савецкім законадаўстве ды які ўжо ведаюць і шырокія масы. „Судимость“ перакладзена як „суднасьць“. Я думаю, што лепей было-б узяць „суджанасьць“, бо гэтае слова паказвае на мінулы час, які ёсьць і ў значэньні слова „судимость“.

„Безнравственность“ у слоўніку—„распутства“. Побач з гэтым трэба было-б сказаць і „неэтычнасьць“ ці „немаральнасьць“. „Гражданский“ перакладаецца „грамадзянскі“. Мне думаецца, што тут добра было аддзяліць два значэньні гэтага слова. Значэньне грамадзкасьці—тут трэба пакінуць тэрмін „грамадзянскі“; ды значэньне прыватнасьці—тут мажліва ўзяць тэрмін „цывільны“ ці „прыватны“. „Дисциплинарный“ у тэрмінолёгіі—„дысцыплійны, карны“. Але „карны“, як я ўжо пісаў, хутчэй наогул „уголовный“. Тут трэба пакінуць толькі „дысцыплійны“. „Заведение“—„заклад“. Побач з гэтым можна паставіць і „ўстанова“, бо ў расійскай мове „заведение“ і „учреждение“ раз-па раз—сынонімы. „Арбитр“—„пасрэднік“. А „арбитражная комиссия“—„арбітражная камісія“. Гэта цалкам непасьлядоўна. Відавочна побач з „пасрэднікам“ трэба пакінуць і „арбітр“.

Я ўжо рэкомэндаваў заместноватвораў ці русізмаў—некаторыя тэрміны старое беларускае мовы. Тут яшчэ скажу, што старыя словы можна было-б скарыстаць пры такіх перакладах. „Запись“ у тэрмінолёгіі перакладзена „запіс“. Побач з гэтым можна было-б узяць і старое—„упіс“. „Участок“ перакладзена як „участак“. Замест гэтага слова лепей было-б паставіць старое слова „дзяльніца“ (Слоўнік Гарбачэўскага, с. 91), слова, якое і цяпер ведае народная мова. „Ипотека“ у тэрмінолёгіі—„гіпотэка“. Цалкам правільна. Але побач з гэтым можна было-б паставіць і стары тэрмін „застава“, хоць-бы ў концэпцыі „застава нярухомасьці“. „Потрава“ перакладаецца як „патрава“, „шкода“. Першае з гэтых слоў хутчэй—не беларускае. Замест яго можна было ўзяць стары тэрмін „іспаша“. „Исполнение“—„выкананьне“. Побач з гэтым вельмі добра было-б сказаць і старым беларускім юрыдычным тэрмінам „адправа“...

Урэшце ня можна згадзіцца з перакладам і некаторых, так сказаць, напоў-юрыдычных, блізкіх да юрыдычных тэрмінаў. Некаторыя з перакладаў выклікаюць пэўныя сумненьні. Напрыклад „барьер“ у тэрмінолёгіі перакладзена „застава“. Але „заклад“ таксама „застава“. Вось-жа „барьер“ можна было і не перакладаць. „Базар“—„рынак“. Тут добра было-б пакінуць слова „рынак“ толькі для тэорытычнага разуменьня, як

вось „рынак тавараў, рынак збыту“. А „базар“ лепш перакладаць беларускім словам „торг“ або „кірмаш“. „Галлюцинация“ перакладаецца „здань“. Але „здань“ значыць хутчэй „привидение“. Тэрмін „галюцынацыя“ можна было-б пакінуць. „Дефект“ перакладзена „ганьба, недахват“. „Ганьба“ хутчэй значыць „позор“. Так і перакладзена слова „позор“ у тэрмінолёгіі. Я думаю, што добра пераклалі гэтае слова Байкоў і Гарэцкі—„дэфэкт, брак, загана, недахват“.

„Жребий“ у слоўніку перакладаецца „жэрабя“. А чаму запомнена беларускае слова „лёс“? „Заказ“ перакладзена „заказ“. Але „заказ“ пабеларуску значыць хутчэй „запрет“. Так і перакладзена слова „запрет“ у Байкова і Гарэцкага. Я думаю, што „заказ“ лепей перадаць словам „замаўленьне“. Тады і „заказное пісьмо“ няверна перакладзена—„заказны ліст“. „Изувечить“ перакладаецца словам „абязьвечыць“. Здаецца, што гэта новае слова мабыць у слоўніку Байкова і Гарэцкага лепш сказана „калечыць, скалечыць“.

„Исполнительность“ у тэрмінолёгіі „спраўнасьць“, і „исправность“ таксама „спраўнасьць“. Ці-ж гэта аднолькавыя разуменьні? „Купец“ перакладаецца як „купец“; „покупатель“ таксама перакладаецца „купец“. Цікава як-бы сказалі аўтары тэрмінолёгіі „покупатель купил у купца товар“? „Купец купіў у купца“? Дык гэта-ж бязглузьдзіца! Думаю, што „купец“ лепей перакладаць „гандляр“. А „покупателя“ добра пераклалі Байкоў і Гарэцкі словам „пакупнік“.

„Междуусобие“—перакладзена „міжусобіца“. Ня думаю, каб было такое беларускае слова. Зноў невядома чаму ня ўзяты добры пераклад Байкова ды Гарэцкага „нязгода, дамовая вайна“. І таксама справа стаіць са словам „мятеж“ перакладзеным „мяцеж“ ў тэрмінолёгіі і беларускімі словамі „бунт, паўстаньне“ у Байкова і Гарэцкага. „Наследственность“ перакладаецца „пераймальнасьць“. Але і „подражание“ перакладзена „перайманьне“. Ясна адсюль, што і „подражательность“ — „пераймальнасьць“. Зноў лепей у Байкова і Гарэцкага—„насьледнасьць, спадчыннасьць“, і менавіта апошні тэрмін (першы—русізм). „Невеста“ ў слоўніку-тэрмінолёгіі „нявехна“. Народ больш ужывае „маладая“. „Недоимка“—„нядоімка“. Мабыць трэба сказаць „недабор“. „Последствие“—„вынік“. Побач з гэтым магчыма паставіць і „скутак“. „Предложение и спрос“ перакладаецца „посул і попыт“. Ці ж „посул“ беларускае слова? Мабыць трэба сказаць „прапанаваньне“. „Пробел“—„пярэрва“. Але гэта будзе хутчэй значыць „перерыв“. „Раздор“ добра перакладзена „звада“, але можна яшчэ сказаць „нязгода“. „Разрушение“ — „разбурэньне“, а „разрушительный“—„руйнавальны“. Вось-жа значыцца і „разрушение“ магчыма перадаць цераз „руйнаваньне“. „Сырьё“ — „сырызна“. Мо‘ лепш у Байкова і Гарэцкага—„сыравіна“. „Торг“ перакладаецца „торг“. Лепш мусібыць „гандаль“, бо „торг“ гэта расійскі „рынак“. „Укрупнение“—„умацаваньне“. Думаю што „ўмацаваньне“ значыць перш-на-перш

„усиление". І ўрэшце „холостяк"—„халасты". У Байкова і Гарэцкага ж беларускія словы—„нежанаты, дзяцюк". Іх лепей было б і ўзяць.

„Ці можна... лічыць наш праэкт праўнае тэрмінолёгіі канчатковым і бясспрэчным, пытае М. Гуткоўскі. Бязумоўна, не. У ёй знайдзецца добрых 10 проц. слоў, якія доўга будуць спрэчнымі. І практычныя работнікі, якія працуюць над тэкстамі беларускіх законаў, і якія зьяўляюцца ініцыятарамі апрацоўкі тэрміналёгіі, ясна адчуваюць, што спыніцца на гэтым проэкце нельга, што ён патрабуе далейшай распрацоўкі..." (с. 91). Аўтар слоўніка-тэрмінолёгіі ставіць тут цалкам адкрыта і проста пытаньне пра непаўнату тэрмінолёгіі ды яе пэўныя хібы. Пра некаторыя з іх я ўжо гаварыў. І падаў да іх некаторыя корэктывы. Паводле мае думкі, аснаўная хіба тэрмінолёгіі—гэта яе беднасьць тэрмінамі. Сапраўды, пры слоўніку тыпу украінскае юрыдычнае тэрмінолёгіі можна было-б проста ды бязболезна развязаць проблему пра тое—якім словам перакладаць спэцыяльныя тэрміны—беларускім ці чужаземным. Калі-б былі ў тэрмінолёгіі варыянты, сынонімы, тэрміны з рознымі адценьнямі, мажліва было-б ўвадзіць і чужаземныя і беларускія тэрміны. Апроч таго, трэба ў тэрмінолёгіі даць і фразэолёгію, асобныя тыповыя сказы ды высловы юрыдычнае мовы. Такую фразэолёгію дае украінскі слоўнік. Трэба думаць, што беднасьць тэрмінолёгіі кепска адаб'ецца на яе ўжываньні практычнымі работнікамі. Аджа пры літаральным сьледаваньні за ёй, мова судовых ды адміністрацыйных установ volens—nolens, будзе беднай, бледнай, канцэлярскай. Цяжка будзе ўкласьціся ў гэтую мову новаму складу работнікаў гэтых установ, работнікаў, якія пераважна не прайшлі канцэлярскае вывучкі царскае Расіі, з яе беднай ды стэрыотыпнай канцэлярскай мовай.

Кепска таксама ў тэрмінолёгіі—справа з русізмамі. Чытач майго артыкулу напэўна пабачыў, што ў шмат якіх выпадках, калі можна было перакласьці пэўны тэрмін беларускім словам, тэрмінолёгія ўводзіць расійскія словы, дапасоўваючы іх (не заўсёды трапна) да беларускае мовы. З гэтым цяжка згадзіцца. Для чаго і для каго гэта робіцца? Калі для тых з цяперашніх работнікаў установ, якія ня ведаюць беларускае мовы, то трэба сказаць, што, па-першае—яны гэтую мову ўрэшце будуць ведаць, а па-другое—што гэтае навуковае выданьне Інбелкульту напэўна разьлічана не на кароткі час. А жыцьцё дае ўсё болей ды болей работнікаў установ, якія выходзяць з працоўных мас работнікаў ды сялян БССР. Гэтым людзям беларуская мова ня чужая, яны добра адчуваюць яе чыстату ці засьмечанасьць. З усіх поглядаў засьмечваць мову тэрмінолёгіі ня трэба было.

Я ўжо паказваў, што шэраг старых слоў старое юрыдычнае мовы Беларусі можна было-б увесьці ў тэрмінолёгію. Так рабіла украінская юрыдычная тэрмінолёгія. М. Гуткоўскі пра гэта ведае. Ён піша, што крыніца праўнае мовы—„праўныя гістарычныя акты Літоўска-Беларускае Дзяржавы. Зразумела, што распрацаваць грунтоўна гэтыя матэрыялы

аднэй асобе—рэч немажлівая. Прыходзілася карыстацца гэтым бязьмерна каштоўным матэрыялам павярхоўна, пераважна тымі альфабэтнымі паказчыкамі, якія далучаны да некаторых выданьняў гэтых актаў... Гэтыя крыніцы могуць даць надзвычайна важныя і каштоўныя матэрыялы для праўнае тэрмінолёгіі. Калі мы разгледзім толькі „Указатель" да I тому Літоўскай Мэтрыкі, то можам без памылкі сказаць, што 25 проц. зьмешчаных там слоў жывуць і да гэтага часу ў народзе" (с 85). Сапраўды, трэба сказаць, што гэты каштоўны матэрыял надта мала скарыстаны ў тэрмінолёгіі. Шэраг старых юрыдычных тэрмінаў сапраўды і цяпер ужывае народ. Але апроч таго шэраг іншых старых слоў можна было-б зноў увесьці ў юрыдычную тэрмінолёгію, бо яны сугучныя беларускай мове і іх шмат хутчэй засвоіць народ, чым сьпехам прыладжаныя да беларускае мовы словы з іншых моў ці выдуманыя тэрміны.

„Зараз, піша М. Гуткоўскі, праўная сэкцыя Інбелкульту мае на ўвазе падняць пытаньне аб утварэньні новае пастаяннае камісіі з практычных работнікаў, якая магла-б праводзіць далейшую работу над праўнаю тэрмінолёгіяю". Такую працу трэба вітаць. Трэба пажадаць, каб побач з працаў філёлёгаў ды компэтэнтных знаўцаў беларускае народнае ды літаратурнае мовы была тут шырэй скарыстана і праца спэцыялістых-юрыстых. Трэба думаць, што патрэбныя сілы тут можна будзе знайсьці.

У новай тэрмінолёгіі трэба будзе скарыстаць новыя артыкулы ды працы на юрыдычныя проблемы, артыкулы, пісаныя па-беларуску. Дагэтуль было вельмі цяжка тварыць на новым, неаратым полі навуковую юрыдычную тэрмінолёгію. Пры большым-жа ліку навуковых артыкулаў, па-беларуску пісаных (а не перакладзеных), пры добрым скарыстаньні наяўных беларускіх навуковых сіл можна тут будзе атрымаць добры матэрыял для слоўніка.

Такі матэрыял мабыць дадуць і законы, выданыя па-беларуску. А таксама і лекцыі ва унівэрсытэце, калі гэта пастунова пярэйдзе на беларускую мову выкладаньня.

Шмат можа даць зьвязак новае працы над тэрмінолёгіяй з практычнымі работнікамі савецкае адміністрацыі ды суду БССР. М. Гуткоўскі піша, што толькі два раённыя выканаўчыя камітэты далі адказ на пытаньні пра тэрмінолёгію, ды й то далі яны нязначныя папраўкі. Магчыма, што тут няўмела падыйшлі да загружаных работай людзей. Мажліва, што пытаньні трэба было паставіць конкрэтна, тыпу анкеты... Але скарыстаць з дасьведчаньня практычных савецкіх работнікаў абавязкова трэба.

Трэба ўрэшце шырэй скарыстаць жывую народную беларускую мову. Магчыма, што калісьці шмат для гэтага дадуць краёвыя слоўнікі беларускае мовы (тыпу Касьпяровіча). Калі яны зьявяцца—яны дадуць вялікі матэрыял для юрыдычнае тэрмінолёгіі. Якраз у іх трэба будзе шырока скарыстаць тэрмінолёгію народнага, звычаёвага права.

# КНІГАПІС

**М. Нікановіч. Крык працы.** *Апавяданьні. Б Д В, Менск 1928 г. Стар. 66. Цана 35 к.*

Нікановіч добра вядомы нашаму чытачу як паводле паасобных сваіх твораў, што друкаваліся даволі часта за апошнія гады ў розных часопісах, гэтак і паводле двух яго папярэдніх зборнікаў. За параўнальна кароткі час Нікановіч прыдбаў сабе рэпутацыю аднаго з выдатнейшых нашых маладых прозаікаў. Таму-та адчыняючы новую яго кніжку, што толькі-што вышла з друку, чытач спадзяецца знайсьці ў ёй цікавы, зусім дабраякасны матэрыял.

Але, відаць, лёгка здабытая вядомасьць нават людзям, што ўладаюць пэўным талентам, не заўсёды ідзе на карысьць. Прачытаўшы „Крык працы", чытач будзе адчуваць сябе ў значнай ступені расчараваным.

Зборнік гэты складаецца з 4 апавяданьняў, з якіх два—перад тым ужо друкаваліся ў часопісах, а два—друкуюцца ўпяршыню. Першае апавяданьне „Крык працы" малюе жыцьцё вёскі ў гарачую працоўную пару. На вялікі жаль, апавяданьне ня мае пэўнае фабулы і таму неяк нуднавата. Аўтар занадта захапляецца пэйзажамі, нацюрмортамі і іншымі такімі магчыма дужа эстэтычнымі рэчамі, і яны часам затуляюць у яго жывых людзей. Нельга ні ў якім разе сказаць, каб такі прыём дапамагаў ажыўленьню апавяданьня. Наадварот, ён надае яму занадта многа статычнасьці. Захапляецца аўтар гэтак сама і „хараством" і „прыгожасьцю" сялянскае працы. Яе „хараству" ды „прыгожасьці" ён аддае куды больш увагі, як яе цяжкасьцям. Тымчасам, мы ведаем, што ў сучаснасьці сельская гаспадарка ў нас стаіць яшчэ на вельмі нізкім узроўні, і таму праца нашага селяніна куды ў большай ступені цяжкая, чымся прыгожая. Таму вось улада і партыя і зьвяртаюць гэтак многа ўвагі на справу перабудаваньня нанова ўсяго вясковага гаспадарчага ўкладу. У апавяданьні-ж Нікановіча вясковае жыцьцё выяўляецца аж занадта прыгожым, такім, прыблізна, як малявалі яго „мужыковствующие" панкі тургенеўскае пары. Такі ўхіл у нашага пісьменьніка нельга прызнаць жаданым.

Апавяданьне „Ноччу Купальскай" значна лепшае. Наогул, эротычныя настроі і перажываньні Нікановічу ўдаюцца добра. Фабула, як і ў першым апавяданьні, слабаватая. Адчуваецца некаторая расьцягненасьць. І яшчэ: Нікановічу трэба падумаць: ці ня час ужо скончыць апавяданьне забабонаў і розных прасякнутых наскрозь містыкай сноў. Літаратура наша пакуль-што бедная. Дзеля гэтага бадай кожны твор, хаця-нехаця, выкарыстоўваецца школьнай моладзьдзю. Над гэтым варта падумаць не аднаму Нікановічу, а цэламу шэрагу нашых маладых пісьменьнікаў.

Апавяданьне „Так часта бывае" паказвае малюнак п'янага разгулу вясковых самагоншчыкаў. Распрацавана слабавата, робіць уражаньне пісанага насьпех.

Самае каштоўнае з боку тэматыкі, бязумоўна, апавяданьне „На начлезе". Гэта адначасна і самае вялікае апа-

вяданьне — яно адно займае прыблізна палову ўсяго зборніку. У шчырых, рэалістычных танох малюе яно быт новае вёскі; клясавае расслаеньне сучаснага сялянства, антагонізм між беднатою, з аднаго боку, і кулацтвам і шляхтаю, з другога боку, змаганьне за тое, што для селяніна зьяўляецца самым дарагім, — за зямлю. У распрацоўцы тэмы ёсьць і хібы. Так, напрыклад, бядняцкая маса ў Нікановіча занадта ўжо пасыўная; занадта перавялічана значэньне ў справе барацьбы за абрэзку кулацкіх надзелаў асобы бедняка-актывістага — сакратара вясковае ячэйкі Адася. Канцоўку апавяданьня нельга ні ў якім разе прызнаць удалай: кулацкі сын Сёмка ў апавяданьні паказаны злым, але лёгічным, разважлівым чалавекам, да таго-ж сталым і спакойным. Часу для падрыхтоўкі свае помсты ён меў шмат, бо забойства задумаў даўно. Была поўная дагаворанасьць з іншымі кулакамі. Усё мясцовае кулацтва было добра згуртавана супольнай нянавісьцю да Адася, і заўсёды было гатова дапамагчы Сёмку ў яго злачынстве. Тымчасам Сёмка замах свой бадай зусім не падрыхтаваў. А самагубства Сёмкі пасьля забойства псыхолёгічна не апраўдана. Ёсьць у апавяданьні і выразныя памылкі. Выразным фальшам рэжа вушы, напрыклад, наступны малюнак:

„А як уся вёска пачала касіць сена ды жаць жыта — той, хто атрымаў прырэзку ці надзел, гэтак сама кінуўся касіць, *жаць* і звозіць тое, што папала ад кулака ў яго вучастак надзелу...

— От, цяпер, брат, паглядзім, хто гультай, а хто працаўнік, калі я і ты зраўняліся!..

Гэтак кідаў не адзін бядняк „свайму“ кулаку цераз мяжу надзелу...

Той толькі скрыгаў зубамі...“

(стар. 33).

Паводле савецкіх законаў, ураджай здымае той, хто яго засеяў, і пасьля зямляўпарадкаваньня новы гаспадар пачынае распараджацца зямлёю толькі пасьля таго, як папярэдні гаспадар здыме ўраджай. Сяляне вельмі добра ведаюць гэты закон і шануюць яго, так што ў практычным жыцьці выпадкі парушэньня яго здараюцца надзвычайна рэдка. Калі дзе такая няпраўнасьць і мела месца, дык яна не зьяўляецца хоць колькі-небудзь характарнай, а таму ўводзіць яе ў апавяданьне зусім няварта.

Такіх памылак аўтару было-б лёгка ўнікнуць, каб толькі ён крыху глыбей вывучаў тыя пытаньні, аб якіх піша.

Ня гледзячы на ўсе вышэй паказаныя хібы, апавяданьне „На начлезе“ ўсё-ж такі чытаецца з цікавасьцю. Гэтаму спрыяе войстрасьць і сучаснасьць тэмы, лёгкасьць і дынамічнасьць стылю. Да агульных недахопаў усяго зборніку трэба аднесьці некаторыя шурпатасьці мовы і русіцызмы, што дзе-ні-дзе часам сустракаюцца на яго старонках.

Калі мы столькі ўвагі аддалі хібам творчасьці Нікановіча, дык гэта іменна таму, што лічым яго адным з выдатнейшых нашых маладых празаікаў, якому пры наяўнасьці добрага жаданьня будзе вельмі лёгка ўнікнуць у далейшым памылак, падобных дапушчаным ім у даным выпадку.

Ня гледзячы на ўсе свае хібы, „Крык працы“ — кніжка ўсё-ж такі цікавая і каштоўная. Прачытаць яе раім кожнаму.

**М. Грэскі.**

**Г. Ильинский. К вопросу о происхождении названия „Белая Русь“.** *Адбітак з часопісу* „Slavia“. *1927. Стар. 388—393. Прага.*

Невялікі досьлед проф. Ільінскага вельмі цікавы тым, што закранае пытаньне паходжаньня назвы „Белая Русь“. Шэраг вучоных ставіў гэтае пытаньне пачынаючы з канца XVIII ст. і спэцыяльна яго распрацоўвалі такія вучоныя, як Ламанскі, Пацябня, Кар-

скі; погляды раздвойваліся: адны бачылі прычыну ўзьнікненьня гэтае назвы ў этнографічных асаблівасьцях народу, а другія—у гістарычных умовах краю. І нарэшце, проф. Ільінскі высунуў новую гіпотэзу гістарычнага паходжэньня назвы „Белая Русь“. На падставе аналёгіі паходжэньня назвы „Чырвоная Русь“ ад групы украінскіх „чэрвеньскіх“ гарадоў, профэсар робіць спробу давесьці, што і назва „Белая Русь“ узьнікла ад групы „бельскіх“ гарадоў, пад якімі разумее групу паселішч, якія палітычна і экономічна цягнулі да гор. Бельску (б. Горадзенскае губ.). Паказаньня ў летапісах на існаваньне падобнай групы бельскіх гарадоў няма, да і не магло быць з прычыны нязначнай гістарычнай ролі Бельску у XII-XIII ст.; гэты здогад профэсара асн0ваны на украінскай аналёгіі, на якой будуецца ўся новая тэорыя. Далей проф. Ільінскі піша „в истории образования имен Червоной и Белой Руси, по существу, мы имеем дело с одним и тем же процессом—процессом перенесения названия пограничной области на страну того же этнографического состава“. Але справа ў тым, што тэрыторыя паўдзённае Горадзеншчыны з даўных часоў носіць назву ня Белай, а Чорнай Русі; гэта сьцьвярджаецца шэрагам дакумантальных даных, а таксама знаходзіць поўнае апраўданьне ў этнографічных матэрыялах, якія аднагалосна сьведчаць аб чорным пакрої вопраткі тамтэйшых жыхароў. А гэта кажа за тое, што Чорная Русь тэрмін этнографічнага паходжэньня, а з другога боку, паказвае, што „бельскія“ гарады, нават пры ўмове іх існаваньня, ня мелі ўплыву на ўтварэньне назвы нават блізкіх да іх тэрыторый; ясна, што тут няма чаго казаць аб уплыве гэтых гарадоў на такія далёкія землі, як Полаччына, якая ў XIV ст. ў Польшчы і Нямеччыне была вядома пад назвай „Белая Русь“. Аналёгія з назвай „Чорная Русь“ (узьнікшай ад вопраткі чорнага колеру) гаворыць і за паходжэньне назвы „Белая Русь“ ад вопраткі, характэрнай белым колерам (што таксама адзначана ў этнографічнай літаратуры). Ёсьць шэраг даных, якія гавораць, што такія назвы, як, напр., Белавеж, Белабярэжжа і шэраг іншых узьніклі ў старыя часы якраз дзякуючы фігураваўшаму ў іх беламу колеру.

Прыведзеныя думкі і адсутнасьць дакумантальных і гістарычных даных для ўзмацненьня тэорыі „бельскіх“ гарадоў усё-ж такі, як нам здаецца, пакідае непарушнай старую тэорыю паходжэньня назвы „Белая Русь“ ад шэрагу этнографічных прычын.

**Ал. Шлюбскі.**

**Асьвета**. Часопісь Народнага Камісарыяту Асьветы і Саюзу працаўнікоў асьветы. 176 × 264 мм. Менск, 1928; № 1, 144. стар., цана 80 кап.; № 2, 152 стар., цана 80 кап., № 3, 144 стар., цана 80 кап. Адказны рэдактар **І. Мазур**, тэхнічны рэдактар **Р. Казела**, рэдколегія: **Яз. Мацюкевіч, П. Панкевіч, С. Рывес, Касмовіч, Самковіч**. *Выданьне Нар. Кам. Асьветы БССР.*

Шматлічная армія нашых асьветнікаў заклікана выхоўваць новае пакаленьне, як будаўніка соцыялістычнага ладу; разам з тым яна павінна зрабіць усё магчымае для перавыхаваньня старога пакаленьня ў гэтым кірунку. Агульнымі сіламі асьветнікі і выконваюць сваё заданьне; але раскіданасьць галоўнай масы асьветнікаў па вёсках Беларусі ў значнай меры пераносіць адказнасьць за працу данага асьветніка на яго самога. Для колектыўнага вырашэньня таго ці іншага пытаньня бягучай працы асьветнікі ня могуць зьбірацца так часта, як-бы гэта пажадана было. Масавы інспэктарскі апарат яшчэ вельмі слабы ў нас на Беларусі. Таму ў нас асабліва значэньне мае пэдагогічны часопіс і як орган кіраваньня і як орган падліку і аб'яднаньня.

Яго задачы надзвычайна цяжкія і надзвычайна важныя.

Аб вырашэньні гэтых задач і клапоціцца наш адзіны беларускі пэдагогічны часопіс „Асьвета“. На пятым годзе свайго існаваньня ён дасягнуў значных посьпехаў як колькасных, так і якасных. Часопіс акуратна выходзіць у свой час, памерам у 140-150 стар., у ліку 2500 паасобнікаў. Зразумела, улічваючы колькасьць нашых асьветнікаў, яшчэ нельга сказаць, што часопіс зрабіўся масавым, але значны лік школ і іх настаўнікаў ужо маюць часопіс і карыстаюцца ім. Раней-жа гэтага сказаць нельга было. Праўда, у кірунку сувязі з масамі асьветнікаў часопіс павінен чым хутчэй вырашыць яшчэ адну задачу: часопіс павінен тварыцца масаю асьветнікаў. Пакуль што ён робіцца пераважна сталічнымі працаўнікамі. У гэтых трох нумарох часопісу налічваецца каля 67 артыкулаў; з іх каля 58 належыць менчанам; ды і з рэшты артыкулаў частка належыць мясцовым апаратнікам. Неабходна, каб часопіс прыняў усе магчымыя меры да ўцягненьня настаўнікаў пачатковых і сямігадовых школ, а таксама хатнікаў і дашкольнікаў, у шэрагі сваіх супрацоўнікаў. Яны прынясуць у часопіс практыку *масавай* школы, пакажуць яе іншым, і часопіс зможа *аб‘яднаць* гэту мясцовую практыку і выявіць *колектыўны* досьлед.

Гэтыя тры нумары не паказваюць, што часопіс трымаецца сталага пляну; яно і добра і дрэнна. Добра таму, што часопіс пры такіх парадках лёгка можа адгукацца на любую новую зьяву і кампанаваць свой матэрыял у любым парадку; дрэнна—таму, што чытачу трудней орыентавацца у матэрыялах часопісу і знаходзіць тое, што яму ў першую чаргу патрэбна. Нават сама рэдакцыя зайшла ў тупік са сваёй зьменай назваў аддзелаў: у першым нумары адзін аддзел называецца „Мэтодолёгія і практыка“, у другім ён-жа—„Мэтодычныя пытаньні школы“ і ў трэцім—„Пытаньні школы“. Ужо ў такім відзе гэта назва такая шырокая, што служыла назваю для цэлых часопісаў; а калі пасьлядоўнасьць зьмен будзе захоўвацца далей, ды ў чацьвертым нумары застанецца для назвы гэтага аддзелу толькі адно слова: „Школа“?... На нашу думку ва ўмовах беларускай сучаснасьці лепш трымацца сталага пляну. А то зноў можа дайсьці да таго, што падпішчык замест часопісу будзе атрымліваць зборнікі програм у вокладцы часопісу, як гэта было ў мінулых гадох.

У агульным аддзеле трох нумароў часопісу зьмешчана 8 артыкулаў, з якіх трэба адзначыць: „Проблемы культурнай рэволюцыі“ і „Аб рашаючых дробязях у вялікім пытаньні“ *В. Кнорына*, а таксама „Аб грамадзка-політычным выхаваньні асьветнікаў“ *А. Платуна.* Яны высьвятляюць найважнейшыя бягучыя пытаньні для асьветнікаў. Артыкулы: „Саюзныя масы ў вытворчасьці“ *Яз. Мацюкевіча* і „Настаўніцтва і таварыства „Прэч няпісьменнасьць“ *Сабалеўскага* стала абмяркоўваюць вельмі важныя частковыя пытаньні асьветніцкай працы. Вельмі цікавая праца *П. Капаевіча* і *М. Сеўрука* „Чырвоны куток і яго работа на вёсцы“ папала ў гэты аддзел выпадкова; калі ня было больш матэрыялаў, то можна было стварыць для гэтай працы асобны аддзел, як гэта зроблена ў тым-жа нумары для пэдолёгічнага артыкулу „Рацыяналізацыя апарату і функцыянальная сыстэма ў галіне народнай асьветы“ *А. Аніхоўскага* і „Нарада акруговых інспэктараў народнай асьветы“ *Р. Казелы*—артыкулы ведамсьцьвенныя; але і яны павінны зацікавіць асьветніцкія масы, якім больш, чым каму, неабходна ведаць пра сыстэму кіраваньня асьветай.

Найноўшае захапленьне пэдалёгіяй адбілася ў часопісе двума інформацыйнымі *(Рывеса* і *Эйнгорна)* і трыма іншымі артыкуламі *(З. Сьцяпуры, Германа* і *Рывеса)*, з якіх бясспрэчную цікавасьць для асьветнікаў мае

грунтоўная праца *Сьцяпуры* „Цяжкія для выхаваньня дзеці“.

Пытаньням профэсыянальнай асьветы прысьвечаны наступныя працы: „Пэдагогічныя ўстановы ў Магілеве“ *Аніхоўскага*, „Аб грамадзка-палітычным выхаваньні вучняў у профшколах“ *Капялюша* і „Аб фабрычна заводзкай сямігодцы“ *Панкевіча*. Сюды-ж прымыкае і „Стан школ сялянскае моладзі“ *Мазура* з аддзелу „інформацыі“ ды „Практыка пазашкольнае працы Ш. С. М.“ *Фалкіна* з аддзелу „Школ практыкі“. Палітасьветніцкае пытаньне абмяркоўваецца ў артыкуле *Капаевіча* і *Сеўрука* „Выпускі на лікпунктах і барацьба з рэцыдывам няпісьменнасьці“. Большае месца занялі пытаньні дашкольнага выхаваньня. У гэтым аддзеле ёсьць два цікавых артыкулы: „Гульня і месца яе ў дашкольных установах“ *Цэйтлінай* і „Як праводзіць экскурсіі з дзяцьмі-дашкольнікамі“ *Маршака*, ды інформацыя: „Стан дашкольных устаноў па г. Менску на 1. 12. 27 навуч. (?) году“.

Самы, так кажучы, асноўны матэрыял часопісу—аб працы пачатковай і сямігадовай школы—зьмешчаны ў гэтых трох нумарох часопісу ў 5 аддзелах: „Мэтодолёгіі і практыкі“ (№ 1) „Выхаваньне ў школе і па-за школай“, „Мэтодычныя пытаньні школы“, „Школьная практыка“ (№ 2) і „Пытаньні школы“ (№ 3). Тутака мы знаходзім каля 28 артыкулаў, з якіх каля 16 абмяркоўваюць пытаньні сямігодкі, каля 8—агульныя пытаньні для розных школ і толькі каля 4—пытаньні пачатковай школы... Такім чынам, асноўная маса чытачоў—вясковыя настаўнікі—ня маюць у патрэбнай колькасьці таго матэрыялу, які цікавіць іх у першую чаргу. Быць можа, гэта залежыць ад таго, што асноўная маса супрацоўнікаў часопісу (менчукі) ня можа даць гэтага матэрыялу. Тым больш у такім выпадку неабходна клапаціцца аб прыцягненьні ў шэрагі супрацоўнікаў мясцовых работнікаў.

З артыкулаў па пытаньнях вясковай школы асаблівую цікавасьць маюць наступныя: „Граматыка беларускай мовы ў комплексных праграмах для аднакомплектовае школы“ *А. Лёсіка* і „Дзіцячыя організацыі ў вясковай школе“ *П. Шалканоўцава*. З артыкулаў, якія маюць вялікае значэньне для абодвых концэнтраў нашай школы, неабходна адзначыць „Каліграфія і ортографія ў школьным пісаньні“ *Казелы*, „Да пытаньня аб выпраўленьні ортографічных памылак“ *Хв. Сьцепановіча* і „Больш увагі выхаваўчай працы ў школе“ *Мазура*.

Самае большае месца, як ужо вядома, займаюць пытаньні сямігадовай школы. Тутака ў першую чаргу варта спыніцца на артыкуле *Зьм. Жарынава*: „Краязнаўства і грамадазнаўства ў сучаснай школе“. У ім аўтар зусім слушна даводзіць, што школьнае краязнаўства зьяўляецца не апанаваньнем комплексу ведаў аб краі, а самастойным вывучэньнем краю пад кіраўніцтвам настаўніка. Мэтаю тутака зьяўляецца галоўным чынам ня вынік працы, а самы процэс вывучэньня краю, які мае вялізнае значэньне ў справе выхаваньня і навучаньня. Нам здаецца толькі, што краязнаўства мае ня меншае значэньне і ў галіне прыродазнаўчых і інш. дысцыплін, а ня толькі ў грамадазнаўстве. Артыкул *Жарынава* зьяўляецца адзіным у даным пытаньні ня толькі ў беларускай пэдагогічнай літаратуры і таму ён асабліва каштоўны. З іншых артыкулаў гэтага роду трэба адзначыць наступныя: „Беларуская літаратура ў комплекснай сыстэме выкладаньня“ *І. Самковіча*. „Конспэктаваньне, схэмы, дыяграмы і пісьмовыя работы пры выкладаньні грамадазнаўства“ *А. Каўпака*, „Сучасная вучэбная і мэтодычная літаратура па выкладаньні мовы“ *В. Тэпіна* і інш.

Трэба мацней паставіць у часопісе аддзелы інформацыі, хронікі і кнігапісу. У першым з іх асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на высьвят-

леньне стану народнай асьветы ў іншых савецкіх рэспубліках і ў капіталістычных дзяржавах, а ў апошнім—на рэцэнзаваньне ўсёй той літаратуры, якая можа быць карыснай для настаўніка. Аддзел кнігапісу павінен кіраваць чытачом у справе выбару ім кніг да чытаньня; адна (№ 3), дзьве (№ 2), а то і чатыры рэцэнзіі (№ 1) выканаць гэтага ня змогуць. Апрача таго, неабходна даваць бібліографічныя паказьнікі літаратуры па пэўных цыклях; у № 1 рэдакцыя зрабіла гэтакую спробу, але эпізодычным, выпадковым зьмяшчэньнем матэрыялу мэты не дасягнеш. Вельмі карысны новы аддзел „Гутарка", дзе абмяркоўваюцца пытаньні аб тых ці іншых словах беларускай мовы.

З 1928 году рэдакцыя шмат што і даволі ўдала зьмяніла ў галіне мовы часопісу. Бясспрэчна, што ў той час, калі мова яшчэ формуецца, асабліва патрэбна некаторая вольнасьць у мове—стварэньне новатвораў, адшуканьне старых слоў і г. д. А ў такой вялікай справе няўхільны і памылкі, як „стацейка" замест „артыкул", „абчаскі" замест „грамадзкі", „вобчаства" заміж „грамада" і інш., якія бясшкодна з часам адамруць.

Агулам часопіс для ўсіх нашых асьветнікаў надзвычайна каштоўны, адзначаныя дробныя хібы зусім другарадныя і іх вельмі лёгка ўхіліць. Галоўнае—трэба трымаць курс на мясцовых асьветнікаў у справе супрацоўніцтва ў часопісі, каб рэдакцыя магла больш рэдагаваць і менш пісаць (у гэтых трох нумарох членамі рэдколегіі—усіх іх 7—зьмешчана 13 артыкулаў, прычым такіх, якія альбо маглі быць напісаны мясцовымі працаўнікамі, альбо для галоўнай масы чытачоў, г. зн. вяскоўцаў, не зьяўляюцца першачарговымі). У гэтай-жа справе галоўнае значэньне павінен мець пачын саміх мясцовых працаўнікоў, яны-ж ужо часопісам зацікавіліся і таму яшчэ большы посьпех яго забясьпечаны.

**М. І. Касьпяровіч.**

Белорусское Общество Культурной Связи с заграницей. **Белорусская Культура. Сборнік І.** *БССР. Минск. 1928, 8°, 75 ст.*

Надзвычайна хуткі рост беларускага культурнага будаўніцтва, як вынік Кастрычнікавай рэволюцыі і вызваленьня Беларусі ад прыціску царскага самаўладзтва, выклікае да сябе натуральны інтарэс з боку ўсіх народаў СССР і заграніцы.

Лічачыся з гэтым інтарэсам, Беларускае Таварыства Культурнай Сувязі з заграніцай распачало выданьне пэрыодычных зборнікаў, афяраваных пытаньням беларускай культуры ў самым шырокім сэнсе слова.

Першы з такіх зборнікаў выйшаў адначасна ў расійскай і нямецкай мовах.

Ён зьмяшчае ў сабе шэраг інформацыйных артыкулаў, апрацаваных пры ўдзеле А. Баліцкага, Зьм. Жылуновіча, М. Шчакаціхіна і інш асоб.

Тут знайшлі сабе месца наступныя артыкулы: „Культурное строительство БССР к десятой годовщине Октябрьской революции", „Белорусская литература", „Белорусский театр", „Белорусское изобразительное искусство", „Музыка в Белоруссии", „Белорусский Государственный Музей", „Архивы БССР", „Белорусская Государственная Библиотэка", „Книга на белорусском языке". Урэшце йдзе,—„Хроника и книгообмен с заграницей".

Артыкулы аздоблены портрэтамі некаторых пісьменьнікаў і здымкамі, якія ілюструюць дасягненьні беларускай культуры ў галіне мастацтва. Удачныя здымкі з пастановак 1-га Беларускага Дзяржаўнага Тэатру.

З артыкулаў найбольш жывыя—аб беларускай літаратуры і беларускім маляўнічым мастацтве. Крыху сухавата,—„па-казённаму" напісаны артыкулы аб музэйнай і архіўнай справе. Такіх сухіх інформацый лепей было-б ухіляцца рэдактарам зборнікаў пры выданьні наступных выпускаў.

Ёсьць недахопы і з рэдакцыйнага боку. Кідаецца ў вочы нейкая дзіўная блытаніна ў перадачы прозьвішчаў у расійскім тэксьце. Некаторыя з іх даюцца ў рускай транскрыпцыі, у іншых-жа ў расійскай мове захаваны асаблівасьці беларускага пісьма. Так чытаем на ст. 32-й: М. Грамыки, А. Рамановіча, і тут-жа досыць дзіўнае для расійца „Б. Шоў" побач з „Кальдерон".

Але наогул зборнік выдадзен досыць ахайна і можа, бязумоўна, дапамагчы азнаямленьню з беларускай культурнай сучаснасьцю, расійскай публікай у СССР і за рубяжом.

З інтарэсам прачытаў-бы зборнік і „тутэйшы" чытач на тэрыторыі БССР.

Дзеля гэтага прыходзіцца пашкадаваць, што кніга выдадзена ў вельмі абмяжованым ліку—усяго 500 экз. і, як відаць, у продажы зьявіцца ня можа.

**М. Аршэньнік.**

**Я. Маур. У краіне райскае птушкі.** *БДВ. Менск, 1928 г. Стар. 150. Цана 1 р. 75 к.*

У нашай літаратуры даўно ўжо адчуваецца недахоп дробна-выданых прыгожых кніжок, якія можна было-б падараваць дзецям у выпадку якой-небудзь урачыстасьці ці сьвята. І вось, нарэшце, Дзяржаўнае Выдавецтва наважыла зьнішчыць гэтую хібу. Першым крокам, накіраваным да гэтае мэты, і зьяўляецца выданьне кніжкі Я. Маура.

Аповесьць Маура мае напалову прыгодніцкі, напалову краязнаўчы характар. Надзвычайна прыгожа малюе яна цудоўную зваротнікавую прыроду выспы Новае Зэляндыі, на якой адбываецца ўся дзея, яе клімат, флёру і фауну. Добра паказаны быт папуаскае вёскі, звычаі тубыльцаў, цяжкія, зусім нялюдзкія ўмовы працы кітайскіх кулі на каўчукавых плянтацыях, уся агідная мэханіка гаспадараньня заходня-эўропэйскае буржуазіі ў колёніях, мэтоды, ужываныя імі для вярбоўкі рабоч.-кітайцаў, дзікая, шалёная зусім эксплёатацыя, барбарскія мэтоды, ужываныя для ўтрыманьня сваіх нявольнікаў у паслухмянасьці.

Добра паказана ўся бяздушная лютасьць адкідаў заходня-эўропэйскага грамадзтва, якія так ахвотна выкарыстоўваюцца капіталістымі для кіраўніцтва іх заморскімі колёніяльнымі прадпрыемствамі, і ўся двудушнасьць, хлусьлівасьць іх гутарак пра тое, што яны нібы-нясуць дзікунам культуру.

З вялікай шчырасьцю і псыхолёгізмам, які пераконвае хоць якога чытача, Маур апавядае пра тое, як выгадаваны эўропэйскімі папамі-місіонэрамі малады папуас, наскрозь прасякнуты хлусьлівымі і двудушнымі хрысьціянскімі ідэямі, стыкнуўшыся з сапраўдным жыцьцём і азнаёміўшыся з ганебнай практыкай эўропэйскіх колёнізатараў лёгка і хутка расчароўваецца ў прышчэпленых яму папоўскіх забабонах і аддае набытыя ім ад эўропэйцаў веды і ўсё сваё жыцьцё справе вызваленьня свайго народу, справе яго асьветы, справе яго організацыі дзеля змаганьня з драпежнікамі-чужынцамі.

Аповесьць напісана лёгкім стылем, чыстаю, прыгожаю і лёгка зразумелаю для дзяцей моваю, і будзе чытацца імі, бязумоўна, з захапленьнем.

Кніжка Маура, падараваная дзіцяці ад 12 да 15 год, дасьць апошняму, у сэнсе пашырэньня яго кругагляду, шмат карысьці,—гэта з аднаго боку, з другога-ж—яна дасьць яму і шмат вельмі прыемных хвілін.

Кніжка выдадзена на вельмі добрай паперы, у прыемнай для вока прыгожай кардоннай вокладцы і аздоблена эфэктнымі, добра выкананымі ў сэнсе мастацкім і зусім добраякаснымі ў сэнсе тэхнічным малюнкамі,—чорнымі—у тэксьце і каляровымі—на асобных уклееных у кніжку аркушох. Цана, праўда, крыху дарагавата,—але нішто: кніжка, бязумоўна, варта гэтых грошай і зьяўляецца як у сэнсе заместу, гэтак і ў сэнсе якасьці выданьня надзвычайна каштоўным укладам у нашу дзіцячую літаратуру.

**А. Бярэскі.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

**Сярод пісьменьнікаў, поэтаў і літаратараў**

* У сьнежні месяцы бягучага году адбудзецца *дваццацігодзьдзе літаратурнай чыннасьці Цішкі Гартнага.*

Для сьвяткаваньня юбілею пісьменьніка Наркамасьветы БССР злажана камісія.

* *Якуб Колас* рыхтуе да друку другі том сваіх твораў. Першы том хутка выйдзе з друку ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве. Біографічна-крытычны артыкул да збору твораў Я. Коласа напісаў У. Дзяржынскі.

* *З. Жылуновіч* падрыхтаваў да друку зборнік крытычных артыкулаў аб беларускай літаратуры „Узгоркі і нізіны“.

* *Тодар Глыбоцкі* здаў Белар. Дзяржаўнаму Выдавецтву зборнік сваіх літаратурна-крытычных нарысаў пад назваю „Пра літаратурныя справы“.

* *Алесь Гародня* напісаў новую п‘есу-сатыру з жыцьця Заходняе Беларусі пад назвай „Пісар пана Куркуса“. Гэты-ж аўтар зараз піша вялікі артыкул аб клясавай дыфэрэнцыяцыі ў беларускай літаратуры.

**Бр. Тарашкевіч* (засуджаны польскім урадам па процэсу „Грамады“) у вастрозе працуе над перакладам на беларускую мову „Пана Тадэуша“ Адама Міцкевіча.

* З чэрвеня адбыўся сход аб‘яднаньня пісьменьнікаў „Полымя“. На сходзе стаялі пытаньні пра летнія канікулы і бягучыя справы. Пастаноўлена: час з першага чэрвеня па 15 верасьня прысьвяціць індывідуальным заняткам па літаратурнай працы і чытаньню. З бягучых пытаньняў вырашана да 15 жніўня ўсім сябрам аб‘яднаньня падрыхтаваць матэрыял для альманаху, які павінен выйсьці к кастрычнікаўскім сьвятам.

* На сходзе аб‘яднаньня „Полымя“ была разгледжана заява т. Я. Дылы аб залічэньні яго сябрам „Полымя“. Сход прыняў Я. Дылу ў аб‘яднаньне.

* З чэрвеня ў Віцебску, у залі Палацу Працы адбыўся вялікі літаратурны вечар „Маладняка“.

У Віцебск выяжджалі А. Вечар, А. Салагуб, Бандарына і Барашка.

Пасьля літаратурнага выступленьня адбыўся концэрт артысткі М. Шэкун-Каломійчэнко.

* У хуткім часе Менская філія „Маладняка“ наладжвае дыспут на тэму: „Нова-буржуазныя плыні ў сучаснай беларускай літаратуры“.

* Вядомы пісьменьнік і нацыянальны поэта Латвіі Ян Райніс складае кнігу па гісторыі беларускай літаратуры. Разам з гэтым ён узяўся за організацыю ў Рызе Латвійска-Беларускага таварыства для ўзаемнай культурнай сувязі.

* Народны Камісарыят Асьветы БССР зацьвердзіў новую рэдколегію часопісі „Полымя“ ў складзе: А. Баліцкага, З. Жылуновіча, Янкі Купалы, М. Чарота і Васілевіча, і рэдколегію часопісі „Маладняк“ у складзе: П. Галавача, Я. Ліманоўскага, В. Каваля, А. Моркаўкі і Звонака.

* У апошніх лічбах красавіка ў Менску адбыўся ўсебеларускі сход членаў „Беларускай літаратурна-мас-

тацкай Комуны", на якім вырашылася пытаньне аб яе ліквідаваньні. Адначасна з гэтым члены „Комуны"— Апанас Атава, Пятрусь Броўка, Янка Відук і Макар Шалай падалі заяву аб прыёме іх у склад аб'яднаньня „Маладняк".

**Тэатр, мастацтва, музыка**

* Другі Беларускі Дзяржаўны тэатр мае перарабіць для пастаноўкі ў наступным сэзоне апавяданьне Цішкі Гартнага „Гаспадар".

* Сябра аб'яднаньня пісьменьнікаў „Полымя" А. Ляжневіч здаў у Белдзяржкіно сцэнары „Пела вясна" паводле апавяданьня Якуба Коласа „На прасторах жыцьця". Хутка пачнуцца здымкі. Далей т. А. Ляжневіч прыступае для апрацоўкі кіносцэнарыяў паводле п'есы Ц. Гартнага „На стыку" і „Дзьве Сілы".

* Пісьменьнікам А. Вольным напісаны для Белдзяржкіно сцэнары карціны „Атаман Муха". Карціна мае быць гатовай к зіме бягучага году. А. Вольны працуе над комэдыяй з беларускага жыцьця, якую таксама набывае Белдзяржкіно для пастаноўкі.

* Колегія Наркамасьветы канчаткова вырашыла пытаньне аб організацыі ў Менску ў гэтым годзе беларускага дзіцячага кіно-тэатру. Апошні будзе знаходзіцца ў памяшканьні кіно-тэатру „Пролетары". Тэатр будзе трымаць курс на організаванага гледача.

* Кіно-камітэт зацьвердзіў сцэнары „Пагранічныя слупы" з жыцьця пагранічных беларускіх вёсак, прадстаўлены групай маскоўскіх пісьменьнікаў і сцэнарыстых.

* Наркамасьветы зацьвердзіў плян працы Беларускіх Дзяржаўных тэатраў на 28—29 г. Згодна пляну, 1-ы Беларускі Дзяржаўны тэатр будзе працаваць увесь тэатральны сэзон у г. Менску. БДТ 2 з 1 кастрычніка 1928 г. да 1 лютага 1929 г. будзе працаваць у Магілеве, а потым да канца сэзону ў Віцебску. Бел. Дзярж. Яўрэйскі тэатр адчыніць тэатральны сэзон у Віцебску і прабудзе там да 1 лютага, а потым пераедзе ў Магілеў, дзе будзе працаваць да канца сэзону.

Па сканчэньні тэатральнага сэзону 1927—28 г. 1 БДТ пераедзе ў Менск, 2-гі—у Магілеў і яўрэйскі—у г. Віцебск.

* БДТ 2 пачынае з наступнага тэатральнага сэзону падрыхтоўку актораў са складу найбольш выяўленых прадстаўнікоў рабочых і сялянскіх тэатральных гурткоў. Усяго мае быць набрана 5—7 асоб (мужчыны), якія будуць працаваць стала пад кіраўніцтвам тэатральнай рэжысуры.

Гэта дасьць магчымасьць папаўняць сваімі сіламі патрэбныя акторскія кадры.

* Ужо каля паўтара месяца Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр пад кіраўніцтвам У. Галубка, пасьля пастаноўкі прэм'еры „Таміла" ў Менску, працуе ў Полаччыне. У самым горадзе Полацку тэатр даў 17 пастановак, якія прайшлі пры вялікай зацікаўленасьці перапоўненых аўдыторый, што складаліся пераважна з рабочых і сялян Полаччыны.

Тэатр мяркуе аб'ехаць 18 раёнаў Полаччыны і пабываць у самых глухіх кутках.

* У Менск зьвярнуўся пасьля 7-месячнага аб'езду акруг Першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр.

Тэатр за гэты час даў цэлы шэраг спэктакляў у Віцебску, Магілеве, Воршы, Горках і г. д. Тэатр у Менску дасьць новыя тры пастаноўкі, незнаёмыя для менскага гледача.

* Барысаўскі рабочы-композытар т. Іваноў напісаў марш, прысьвечаны к дню вызваленьня Савецкай Беларусі ад белапалякаў. Твор Іванова пасланы на разгляд у Музтэхнікум.

* У наступным тэатральным сэзоне БДТ 2 рыхтуе да пастаноўкі п'есу М. Зарэцкага „Віхор на балоце", п'есу „Зарава" з часоў грамадзянскай вайны і п'есу Лебядзінскага.

Апроч таго, т. Ільынскі канчае п'есу пад назвай „Перад сьвітаньнем“, у якой адбіваюцца плыні барацьбы за колектыўнае будаўніцтва ў нашай вёсцы.

* Мастацкая рада зацьвердзіла чарговую пастаноўку БДТ 2—п'есу Юр'іна „Калі сьпяваюць пеўні“ ў мастацкім афармленьні Гольца, пастаноўка рэжысэра Міцкевіча. У гэтай п'есе БДТ 2 выпукляе вострыя соцыяльныя моманты сучаснасьці на буржуазным Захадзе. У ёй характарызуюцца нарастаньні сымпатый рабочых Захаду да Савецкага Саюзу і да будаўніцтва соцыялізму, якое ўбачылі ў нас сваімі вачыма рабочыя дэлегацыі Нямеччыны.

* Пры Наркамасьвеце адбылася нарада беларускіх кіно-сцэнарыстых пад старшынствам т. З. Жылуновіча. Нарада абгаварыла пляны далейшай работы беларускай кіно-сцэнарнай групы. Прызнана організаваць кіносэкцыю пры беларускім таварыстве драматургаў, якое будзе кіраваць работай сцэнарыстых у Менску і БССР.

* У дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва (ГИТИС) заканчвае зараз сваю акадэмічную падрыхтоўку беларускі сьпявак Янка Сарачынскі. Свой багаты голас—бас ён паказаў пры выкананьні адказных роляй у опэрах Русалка (партыя мельніка) і „Сарачынская ярмарка“. Янка Сарачынскі, будучы ў Маскве, увесь час падтрымліваў цесную сувязь з Беларусьсю, прымаў блізкі ўдзел у беларускім хоры па сканчэньні (ГИТИС) Сарачынскі пераяжджае на сталую работу ў БССР — Менскі Дзярж. Тэатр.

**Хроніка беларускага друку**

* Паступіла ў друк у Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве вялікая навуковая праца на расійскай мове вядомага пісьменьніка Л. Клейнборта „Молодая Белорусь“—очерки белорусской литературы с 1905 по 1928 г. Кніга мае быць багата ілюстраванай.

* Вышла з друку на нямецкай мове „Беларуская культура“—выданьне Беларускага таварыства культурнае сувязі з зарубежжам.

* Профэсар Праскага унівэрсытэту Е. Ляцкі па запрашэньню ангельскае часопісі „The Slavonic Rewiew“ напісаў артыкул пра беларускую літаратуру. Таксама пр. Е. Ляцкім зьмешчаны артыкул пра М. Багдановіча ў італьлянскай часопісі „Rivisto della literrturi slave“.

* „Deutsche qeselschaft zum Studium Osteuropas“ зьвярнулася з просьбаю да сябра Інбелкульту С. Некрашэвіча напісаць у яго орган артыкул пра становішча беларускае навукі. Гэтымжа таварыствам наладжана гістарычная выстаўка ў Бэрліне, на якой значнае месца адведзена беларускай літаратуры.

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва выдае ў перакладзе Янкі Купалы творы украінск. пісьменьніка, П. Панча „Зямля“ і А. Любчэнка—„Пастух“, „Ціхі хутар“ і „№ 2002“.

* У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве вышлі на польскай мове апавяданьні: Я. Нёманскага „Маці“ і Я. Коласа „На пасторах жыцьця“.

* Міхайла Грамыка перапрацаваў і здаў да друку Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву сваю п'есу „Каля тэрасы“.

* Падрыхтаваны і зданы для друку ў Беларуск. Дзяржаўнае Выдавецтва А. Звонакам новы зборнік вершаў „Буры ў граніце“.

* П. Пінкевіч і А. Казлоў напісалі і далі Белдзяржвыдавецтву для надрукаваньня падручнік „Грамадазнаўства ў школе“ на беларускай мове.

* Беларускае Дзярж. Выдавецтва ў хуткім часе выдае асобным зборнікам усе поэмы беларускага поэты Міхася Чарота.

* У Беларускім Дзярж. Выдавецтве рыхтуецца да друку „Краязнаўства на Беларусі“ (нарысы) М. Касьпя-

ровіча разьмерам 10—12 друкаваных аркушоў.

* Друкуецца Беларуск. Дзярж. Выдавецтвам новая беларуская дзіцячая літаратура: Якуб Колас—„Кавалі“, казка; М. Крыніцкі—„Праваўчка“, апавяданьне; Мур—„У бурную ноч“, апавяданьне; Матвіенка—„Аленка“, апавяданьне.

* Беларускі драматург У. Галубок здаў Белдзяржвыдавецтву для друку сваю п'есу „Ганка“.

* Інбелкультам утворана камісія пад старшынствам В. Ластоўскага для падрыхтоўкі да выданьня першага польска - беларускага і беларуска-польскага слоўніка.

* Проф. БДУ М. М. Піотуховіч напісаў нарысы па гісторыі беларускае літаратуры, якія зданы ўжо ў друк і неўзабаве паступяць у продаж. Нарысы ахапляюць сабою 19 і пачатак 20 стагодзьдзя і будуць надрукаваны на 13 аркушох.

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва падрыхтавала да друку новы зборнік апавяданьняў на беларускай мове француcкага пісьменьніка Анры Барбюса „Розныя здарэньні“, у перакладзе Ю. Земеля.

* Інстытут беларускага мастацтва пры Інбелкульце выдае вялікую кнігу М. Шчэкаціхіна „Гісторыя беларускага мастацтва“. Гэтая кніга ахопіць гісторыю беларускага мастацтва, пачынаючы з X веку і канчаючы нашымі днямі. Кніга будзе ілюстравана.

* Вышла з друку (Вільня) кніжка „Стары замак“ В. Няміровіча-Данчэнка ў перакладзе на беларускую мову Б. Ст., выданьне „Беларускае Крыніцы“.

* У Маскве выдавецтва „Молодая Гвардия“ выдала зборнік беларускай сучаснай мастацкай літаратуры ў перакладзе на расійскую мову пад назвай „Соки Целины“. У зборніку зьмешчаны творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, М. Чарота, М. Зарэцкага і інш. Да зборніку напісана Антонавым прадмова.

* З першага ліпеня гэтага году часопіс „Полымя“ будзе выходзіць штомесячна, дванаццаць нумароў у год замест паўтарамесячнай і 8 нумароў.

## Рознае

* У маі (20) месяцы г. г. адбылося дзесяцілецьце са дня сьмерці вядомага беларускага пісьменьніка і грамадзкага дзеяча Каруся Каганца (Кастравіцкага). Творы Каганца друкаваліся ў „Беларускіх Календарох“, у „Нашай Ніве“ і „Вольнай Беларусі“, частка твораў была надрукавана пасьля яго сьмерці ў часопісі „Адраджэньне“.

* СНКБ утварыў камісію ў складзе т. т. Сташэўскага, Баліцкага, Яцкевіча, якой даручыў у месячны тэрмін падаць у СНК конкрэтныя прапановы аб памяшканьні пад дом пісьменьнікаў.

* Галоўнавука Беларусі атрымала запрашэньне прыняць удзел у міжнароднай выстаўцы гістарычнай кнігі, якая адкрываецца праз два тыдні ў Бэрліне. У сувязі з гэтым Белдзяржвыдавецтва накіроўвае на выстаўку шэраг комплектаў кніг—падручнікі па гісторыі Беларусі, комплект часопісі „Полымя“ і г. д.

* Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка вядзе шырокі абмен выданьнямі з унівэрсытэтамі і навуковымі бібліотэкамі замежных краін.

Так, гэтымі днямі атрымана вялікая партыя кніг (500 штук) ад вядомай бібліотэкі „Конгрэс“ у Вашынгтоне.

Буйная партыя кніг таксама атрымана ад Брэнскага унівэрсытэту ў Чэха-Славакіі.

Мюнхенскі унівэрсытэт у абмен на беларускія выданьні прыслаў дысэртацыі (дыплёмныя работы) свайго унівэрсытэту (100 кніг).

* У Менск прыехала з Масквы геолёгічная экспэдыцыя ВСНГ СССР на чале з профэсарам Жырмунскім, вядомым знаўцай заходняй часткі СССР. Мэта экспэдыцыі—зрабіць

геолёгічныя досьледы ў Менскай, былСлуцкай і Віцебскай акругах, што зьвязана з пабудовай у Беларусі новых заводаў і скарыстаньнем мінэральных багацьцяў. Экспэдыцыя прабудзе ў Беларусі 4 месяцы.

* Дырэкцыя Беларускага Дзяржаўнага Музэю мяркуе ўвосень сёл. г. наладзіць усебеларускую выстаўку плякатаў.

Мэта організацыі гэтай выстаўкі—падняць мастацтва ў вытворчасьці плякатаў.

* Геоботанічная катэдра распачала досьледы расьлін у ваколіцах Менску. Гэтыя досьледы ахопліваюць тэрыторыю радыусам 12—15 вёрст вакол Менску. З прычыны таго, што гэтая тэрыторыя вызначаецца асаблівасьцю глебы, вільгаці і рэльефу, а таксама таму, што ў ваколіцах Менску ўсе гэтыя географічныя фактары прадстаўлены ў вялікай рознастайнасьці, таму і досьледы тут набываюць асаблівую тэорытычную цікавасьць. Яны з цягам часу будуць праводзіцца і па ўсёй Беларусі і маюць сувязь з геоботанічным вывучэньнем асноўных баз Ленінскім дасьледчым інстытутам у Сьляпянцы і Прылуках. На падставе вывучэньня ўсёй расьліннасьці ваколіцы Менску, будзе складзена самая падрабязная карта, якая зьявіцца вялікай дапамогай пры ботанічных экскурсіях у ваколіцах Менску.

* Аддзел „Стары Менск" Беларускага Дзяржаўнага Музэю, у якім зьбіраюцца помнікі гісторыі і мастацтва, датычныя Менску, за апошнія часы значна папоўніўся. У апошнія часы ў гэты аддзел паступіла цікавая зарысоўка акварэльлю невядомага мастака, на якой намалёван выгляд Пляцу Волі ў 1870-х гадох, а таксама цэлы шэраг зарысовак цікавейшых будынкаў Менску. Зараз Беларускі Дзяржаўны Музэй мае ў сваім распараджэньні шмат такіх зарысовак, з якіх намячаецца скласьці і выдаць друкаваны альбом—„Стары Менск".

* СНК прыняў пастанову па дакладу Інбелкульту і ВСНГ аб выніках дасьледчай працы ў галіне дасьледваньня прыродных вытворчых сіл БССР. СНК прызнаў мэтазгодным, каб Геолёгічны Інстытут Інбелкульту ў сваім далейшым разьвіцьці забясьпечваў распрацоўку матэрыялаў геолёгічных досьледаў БССР і сваячасова абслугоўваў заяўкі гаспадарчых установ на геолёгічныя працы. Інбелкульту даручаецца організаваць працу па вывучэньні дробна-экономічнага раёнаваньня БССР, а Беларускаму Навукова-Дасьледч. Інстытуту—організаваць працу па вывучэньні сельска-гаспадарчага раёнаваньня. Інбелкульту таксама даручаецца скончыць глебавыя здымкі па ўсіх акругах БССР з тым, каб вынікі іх маглі быць скарыстаны на 1-й Усебеларускай Выстаўцы сельска-гаспадарчай прамысловасьці. Сталаму Прадстаўніцтву даручаецца паставіць перад адпаведнымі органамі СССР пытаньне аб дачы Інбелкульту таможанных льгот, якія даюцца Акадэміі Навук СССР. Дзяржпляну даручаецца падрыхтаваць проект пастановы СНК аб урэгуляваньні і контролі навукова-дасьледчай працы па вывучэньні прыродных і вытворчых сіл рэспублікі.

СНК прызнаў патрэбным пабудаваць новы будынак для Інбелкульту, для чаго апошняму запрапанавана падрыхтаваць матэрыялы і проекты і падаць у СНК конкрэтны даклад па гэтым пытаньні. Прызнана мэтазгодным, каб ВСНГ БССР у бягучым годзе скончыў распачатую горна-дасьледчую працу па вывучэньні пакладаў крэйды, фосфорыту, кварцавых пяскоў і іншых выкапняў у Парадзінскім раёне. Інбелкульту даручаецца распрацаваць пытаньне аб організацыі сэкцыі прыкладной біолёгіі пры Геолёгічным Інстытуце Інбелкульту, а ВСНГ—распрацаваць пытаньне аб організацыі керамічнай лябораторыі і дасьледчай станцыі па мэханічнай апрацоўцы карысных выкапняў.

* У Інстытут Беларускай Культуры прыслана ад выкладчыка Бел. Сел.-Гасп. Акадэміі тав. Цытовіча праца аб рэволюцыйным руху на Беларусі (паўстаньне 1863 г.) у былым Горацкім павеце. Гэтая праца напісана паводле архіўных матэрыялаў і мае каля 12 друкованых аркушоў.

* Аддзел прыроды і гаспадаркі ІБК організуе сёлета тры экспэдыцыі: антрополёгічную, зоолёгічную і саматужнае прамысловасьці.

* Антрополёгічная экспэдыцыя выяжджае ў пачатку чэрвеня ў цэнтральную частку Магілеўшчыны, дзе мае дасьледаваць раён паміж Прапойскам і Старым-Быхавым.

* Зоолёгічная экспэдыцыя ўжо пачала сваю працу ў паўднёвай Запрыпяцкай частцы Мазыршчыны. Апроч гэтага, экспэдыцыя прадоўжыць сваю працу ў паўднёва-ўсходняй частцы Гомельшчыны.

* Аднэй з галоўных тэм экспэдыцыі зьявіцца вывучэньне прадстаўнікоў леса-стэпавай фауны, якія жывуць у гэтай частцы БССР.

* Экспэдыцыя па вывучэньні саматужных рамёстваў мае быць накіравана ў Аршаншчыну, дзе адна партыя будзе вывучаць ганчарства, а другая тэхніку і экономіку народнага ткацтва.

* Дырэкцыя Беларускага Дзяржаўнага Музэю організуе сёлета 2 этнографічныя экспэдыцыі, з якіх адна будзе накіравана на поўдзень, а другая на поўнач БССР.

Набытыя экспонаты дадуць магчымасьць папоўніць этнографічны аддзел Музэю.

### Замежныя краіны аб Беларусі

* У нумары 8 чэскай часопісі „Reflektor“ на першай старонцы на ўсю старонку зьмешчана фотографія паўстанца з фільму „Лясная Быль“. Малюнак падпісаны: „Вартаўнік Рэволюцыі“.

* У Чэхіі выдана на францускай мовай брошура „Proces 490“, прысьвечаны процэсу над „Грамадой“.

* У № 19 рабочай ілюстрацыі, якая выдаецца ў Бэрліне „A. I. Z.“, адведзена старонка, прысьвечаная процэсу над „Грамадою“. Старонка ілюстравана здымкамі паслоў за кратамі, сілуэтамі сялян-сьведак і фігураю селяніна-беларуса.

* У № 4 „Der Rote Helfer“ зьмешчаны артыкул пад назваю „Massen Protest gegen die Hromada“, ілюстраваны шасьцю портрэтамі дзеячоў Бел. Сял-Раб. Грамады.

* У № 21 часопісу „Die Weltbuhne“ зьмешчаны надзвычайна цікавы артыкул рэдактара часопісу пад назваю „Weiss-Russland“. Артыкул заклікае інтэлектуалаў і працаўнікоў протэставаць супроць польскага гвалту над Заходняй Беларусьсю.

* Артыкулы пра суд над Бел. Сял.-Раб. Грамадой надрукованы ў наступных нямецкіх газэтах: „Berliner Tagesblatt“, „Deutsche Allgemeine Zeitung“, „Der Tag“, „Deutsche Presse“ (Прага), „Hermania“ і „Vorwärts“. Таксама адвялі месца гэтаму пытаньню наступныя чэскія газэты: „Rude Pravo“, „Robotnicke Noviny“, „Narodne Osvobodzene“, „Podebracke Noviny“ „Rude Večernik“ і інш.

* У дадатку да украінскае газэты: „Вісты“ (орган УЦВК) „Культура і Побыт“ № 21 і 22 зьмешчаны нарысы пісьменьніка т. Паніва аб бываньні украінскай пісьменьніцкай дэлегацыі ў Менску.

* Знаўца беларускай літаратуры чэскі-грамадзкі дзеяч Адольф Чорны рыхтуе да друку агляд сучаснай беларускай літаратуры.

* Рэдакцыя швэдзкай газэты ў Гэтэборзе „Wäst Kuriren“ выпусьціла спэцыяльны нумар, прысьвечаны Беларусі. У нумары ёсьць цэлы шэраг артыкулаў, якія малююць сучаснае становішча беларускай літаратуры, асьветы і экономікі.

* Профэсар Варшаўскага унівэрсытэту Голомбэк у часопісу „Жыцьцё тэатру“ зьмясьціў вялікі артыкул на тэму „Тэатр у Савецкай Беларусі“.

# ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Вядомая перакладчыца Юлія Віргінія працуе над перакладам галоўных твораў Тараса Шэўчэнкі на нямецкую мову. Зараз перакладзены ўжо „Кабзар“.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны абвясьціла конкурс на дзіцячую п‘есу для школьнага тэатру.

* У сярэдзіне мая г. г. па запрашэньню літаратурнага аб‘яднаньня „Полымя“ прыяжджалі ў Беларусь украінскія пісьменьнікі, якія азнаёміліся з культурна-нацыянальным будаўніцтвам Савецкай Беларусі. Пісьменьнікі наведалі ўсе культурна-асьветныя ўстановы: Інбелкульт, Наркамасьветы, Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, рэдакцыі газэт: „Савецкая Беларусь“ „Зьвязда“ і інш.

Таксама украінскія пісьменьнікі бачылі пастаноўкі першага і другога Беларускіх Дзяржаўных Тэатраў.

Быў наладжан з іх удзелам вялікі масавы вечар, на якім зроблены былі даклады аб культурных дасягненьнях Украіны і Беларусі. На вечары былі выступленьні саміх украінскіх пісьменьнікаў. Так Андрэй Панів падаў аўдыторыі паукраінску ўрывак з „Безназоўнага“ Янкі Купалы; Уладзімер Сасюра прачытаў свой пераклад вершу беларускага поэты Александровіча; маладняковец Паўло Усэнка прадэклямаваў у перакладзе на укр. мову верш Дудара „Зацьвіла зара малінаю“; Панч прачытаў абразок-аповесьць з эпохі грамадзянскае вайны; Аркадзь Любчэнка зачытаў сваю мастацкую новэлю; Валяр‘ян Палішчук прачытаў урывак з поэмы Чарота „Босыя на вогнішчы“; Іван Кулік даў малюнак зьдзеку „дэмакратычных“ янкі над чорнакожымі і кітайцамі; Паўло Тычына прачытаў уласныя творы, а Сяргей Піліпенка паказаў на украінскай мове Крапіву і ўласныя байкі-алегорыі.

На днях украінскія пісьменьнікі прыслалі на імя Цішкі Гартнага пісьмо, у якім пішуць:

*Дарагі таварыш!*

Вельмі шкадуем, што ў часе наведаньня Беларусі, мы ня мелі магчымасьці бачыць сярод тых, што рэпрэзэнтуюць Савецкую Беларусь, Вас, дарагі таварыш! Мы разумеем, што абставіны важнейшыя, чым спатканьне з намі, зрабілі гэту прыкрасьць.

Мы пасылаем Вам нашае шчырае пролетарскае прывітаньне і жадаем як найхутчэй спаткацца з Вамі на Украіне, каб яшчэ больш узмацніць культурную сувязь паміж рэспублікамі Савецкага Саюзу.

*С. Піліпенка, А. Любчэнка А. Паніў, В. Палішчук, П. Панч, І Кулік, В. Сасюра, П. Усенка, П. Тычына.*

20-5—1928 г.

* Украінскае Дзяржаўнае Выдавецтва пачало друкаваць поўныя зборы твораў украінскіх клясыкаў: Франка, Вінічэнка, Чарняўскага і інш. Творы Франка пад рэдакцыяй С. Піліпэнка разьлічаны на 36 тамоў.

* Аб‘яднаньне пісьменьнікаў „Плуг“ падрыхтавала чарговы „Альманах“ № 4, у якім будуць зьмешчаны творы Ю. Будзяка—„Інжынэры“, Якавенка —„Антон Гірмаш“, Шыманскага—„Бунт крыві“, Жылка — „Кам‘яна баба“ (поэма), В. Страменка—„Гнілая кроў“ і інш.

* Камісія пры Народным Камісарыяце Украіны пачала падрыхтоўчую работу па пабудове вялікага помніка вядомаму украінскаму пісьменьніку М. Кацюбінскаму.

* Малады пісьменьнік Ів. Мікітэнка напісаў і здаў у друк ДВУ новую сваю вялікую аповесьць „Вуркаганы“.

* Да рэволюцыі украінскі тэатр меў амаль што выключна бытавы кірунак. Пасьля рэволюцыі ў Кіеве з'арганізаваліся 2 першыя тэатры, якія пачалі ставіць эўропэйскі рэпэртуар. Гэта быў малады і так званы дзяржаўны тэатр, але украінскі дробна-буржуазны ўрад штучна выхоўваў нацыянальную абмежаванасьць, бо баяўся буйнага росквіту. У той час гэтыя 2 тэатры штучна аб'ядналі, прычым эўропэйскі рэпэртуар зьмяшалі з украінскім, а гэта затармазіла росквіт тэатру і выхад яго на больш шырокую арэну. Найлепшыя культурныя сілы украінскага тэатру перайшлі тады на студыйную працу і разьехаліся па провінцыі.

На провінцыі з сіл маладога тэатру аформіліся 2 найлепшыя украінскія трупы, якія характарызуюць два асноўныя кірункі украінскага рэволюцыйнага тэатру:—тэатр „Бэрэзіль“ пад кіраўніцтвам найбуйнейшага з украінскіх рэжысэраў Алеся Крубаса і тэатр імя Янкі Франка—пад кіраўніцтвам Ігната Юра.

Побач з гэтымі тэатрамі ў 1920 г. пачала працаваць у Кіеве экспэрымэнтальная студыя імя І. Міхайлічэнка; організаваўся таксама дзярж. тэатр імя Шэўчэнкі і, апрача таго, найлепшыя культурныя сілы гістарычнага тэатру згуртаваліся ў трупу імя М. Занькавецкай.

Зараз на першым месцы стаіць сталічны Дзяржаўны тэатр „Бэрэзіль„. Дзякуючы дапамозе савецкай улады, ранейшая провінцыяльная студыя цяпер займае адно з першых месц ня толькі сярод савецкіх, але і эўропэйскіх тэатраў. На апошняй усясьветнай выстаўцы ў Парыжы тэатр „Бэрэзіль“ за макеты сваіх пастановак атрымаў залатую мэдаль.

Апрача „Бэрэзіля“ у Харкаве грае ўвесь час яшчэ 3 тэатры: Харкаўскі Дзяржаўны народны тэатр, які абслугоўвае рабочыя раёны Харкава; тэатр сатыры—„Вясёлы пролетары“—абслугоўвае клюбы і часта выяжджае ў провінцыю, і рабоча-сялянскі перасоўны тэатр, які абслугоўвае вёскі Харкаўскай акругі.

У г. Кіеве працуе Дзяржаўны драматычны тэатр імя Я. Франка; гэты тэатр пасьля „Бэрэзіля“ займае другое месца і адрозьніваецца ад апошняга большым ухілам да рэалізму. Далей ідуць Дзяржаўны драматычны тэатр імя Шэўчэнкі ў Днепрапятроўску і Адэскі Дзяржаўны тэатр.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Ліманоўскі**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ.

*Ад Інстытуту Навуковае Мовы*

У журнале „Полымя“ № 3 і „Узвышша“ № 2 зьмешчаны рэцэнзіі на граматычна-лінгвістычную тэрмінолёгію, апрацованую Гал. Тэрмінолёгічнаю Камісіяю,—у першым рэцэнзія М. Байкова, а ў другім—Я. Бяльkевіча.

Выказаўшы некалькі сваіх асабістых меркаваньняў і спаслаўшыся на друкарскія памылкі, абодва рэцэнзэнты заключаюць свае рэцэнзіі вывадам, што „ў такім выглядзе“ граматычна-лінгвістычная тэрмінолёгія „абавязковаю для аўтараў падручнікаў і настаўнікаў быць ня можа“.

Інстытут Навуковае Мовы, як заступнік усяе былое тэрмінолёгічнае работы ў Інбелкульце, прымушан протэставаць проціў зьмяшчэньня ў прэсе такіх *дэзорганізатарскіх* вывадаў.

Кожная тэрмінолёгія, апрацаваная і выданая Інбелкультам, падлягае разбору і крытыцы (аб чым пішацца ў прадмове да кожнага выпуску тэрмінолёгіі), але яна зьяўляецца абавязковаю для нашых школ і ўрадовых інстытуцый, покі ня зроблены зьмены прынятым у Інбелкульце парадкам, каб устанавіць адзінства ў нашай навуковай мове.

Дарэктар І. Н. М. *Я. Лёсік*
Сакратар І. Н. М. *Л. Цьвяткоў*

Члены І. Н. М.
*К. Міцкевіч (Я. Колас)*
*Ів. Луцэвіч (Я. Купала)*
*А Гурло*
*Міх. Грамыка.*

**Ад рэдакцыі**. Рэдакцыя „Полымя“, зьмяшчаючы артыкул М. Байкова і „Ліст у рэдакцыю“ сябраў „Інстытуту Навуковае Мовы“, лічыць мажлівым і дапушчальным для рэцэнзэнта рабіць свае асабістыя заключэньні аб тэй ці іншай кніжцы, на якую ім пішацца рэцэнзія.

# ЗЬМЕСТ

# МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА
# БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА

**Александровіч А.** „Па беларускім бруку“. Збор вершаў. Менск, 1925 г. Стар. 48. . . . . . . . . . Ц. — 25 к.
**Александровіч А.** „Паўстанцы“ (Сцэнічны абразок). Менск, 1925 г. Стар. 19. . . . . . . . . . Ц. — 8 к.
**Александровіч А.** „Угрунь“. Зборнік вершаў. . . . Ц. — 80 к.
**Багушэвіч Ф.** „Дудка Беларуская“, „Смык Беларускі“. Збор вершаваных твораў уваднэй кнізе. Выд. „Адраджэньне“. Менск, 1922 г. Стар. 92. . . . . . . . . . . Ц — 30 к.
**Бядуля Зьмітрок.** „На зачарованых гонях“. Апавяданьні. „Выд. Савецкая Беларусь“. Менск, 1923 г. Стар. 144. . . . Ц. — 40 к.
**Бядуля Зьмітрок.** „На зачарованых гонях“. Апавяданьні. Выд II. Менск, 1927 г. . . . . . . . . . Ц. 1 р. 25 к.
**Бядуля-Ясакар.** „Буралом“. Выбраныя вершы. Менск, 1925 г. Стар. 56 Ц. — 40 к.
**Бядуля Зьмітрок.** „Апавяданьні“. Менск, 1925 г. Стар. 95. . Ц. — 35 к.
**Бядуля Зьмітрок.** „Поэмы“. Зборнік поэм. . . . . . Ц. 1 р. — к.
**Вольны А.** „Два“. Аповесьць. Менск, 1925 г. Стар. 68. . . Ц. — 40 к.
**Вольны А.** „Табе“. Збор лірычных вершаў. Менск, 1927 г. Стар. 40. Ц. — 25 к.
**Вольны А. і Александровіч А.** „Комсамольская нота“. Вершы. Выд. „Белтрэстдрук“. Менск, 1924 г. Стар. 32. . . . Ц. — 25 к.
**Вольны А., Александровіч А. і Дудар А.** „Ваўчаняты“. Роман беларускіх лясоў. Менск, 1925 г. Стар. 120. . . . . Ц. — 40 к.
**Галавач П.** „Дробязі жыцьця“. Зборнік апавяданьняў. Менск, 1927 г. Стар. 176. . . . . . . . . . Ц. — 75 к.
**Гарэцкі М.** „У чым яго крыўда“. Менск, 1926 г. Стар. 73. . . Ц. — 20 к.
**Гарэцкі М.** „Досьвіткі“. Апавяданьні. Менск, 1926 г. Стар. 101. . Ц. — 40 к.
**Гарэцкі М.** „Ціхія песьні“. Менск, 1926 г. Стар. 165. . . Ц. — 40 к.
**Гартны Ц.** „Песьні працы і змаганьня“. Збор вершаў. Выд. „Навукова-Літарацкага Аддзелу Наркамасьветы БССР“. Бэрлін, 1922 г. Стар. 100. . . . . . . . . . Ц. — 35 к.
**Гартны Ц.** „На дзень пятнаццацігодчага юбілею яго працы“. (1908—1923 г. г.). Выд. Інбелкульту . Менск, 1923 г. Стар. 80. Ц. — 50 к.
**Гартны Ц.** „Урачыстасьць“: 1. Рэволюцыі. 2. Жыцьця. Збор вершаў. Менск, 1928 г. Стар. 102. . . . . . . Ц. — 75 к.
**Гартны Ц.** „Трэскі на хвалях“. Збор апавяданьняў. Выд. „Савецкая Беларусь“. Менск, 1924 г. Стар. 256. . . . . . Ц. 1 р. 50 к.
**Гартны Ц.** „Трэскі на хвалях“. Збор апавяданьняў. Выд. 2-ое. Менск, 1927 г. . . . . . . . . . Ц. 1 р. 70 к.
**Гартны Ц.** „Сокі цаліны“. Роман, ч. І. Выд. „Навукова-Літар. Аддзелу Наркамасьветы“. Бэрлін, 1922 г. Стар. 160. . . . . Ц. — 40 к.
**Гартны Ц.** „На перагібе“, 2-ая квадра роману „Сокі цаліны“. Менск, 1926 г. Стар. 328. . . . . . . . Ц. 2 р. — к.
**Гартны Цішка.** „Прысады“. Зборнік апавяданьняў. . . . Ц. 2 р. — к.
**Грамыка М.** „Плынь“. Вершы і поэмы. . . . . . Ц. — 80 к.
**Гурло А.** „Барвенак“. Збор вершаў. Выд. „Савецкая Беларусь“, Менск, 1924 г. Стар. 216. . . . . . . . . Ц. — 50 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „У палескай глушы“. Аповесьць. Выд. „Віленскае Выдавецтва Б. Клецкіна“. Вільня, 1923 г. Стар. 186. Ц. 1 р. — к.
**Гушча Тарас** „У палескай глушы“. Аповесьць. Менск. 1928 г. . Ц. 1 р. 50 к.
**Гушча Тарас** (Якуб Колас). „У глыбі Палесься“ (працяг аповесьці „У палескай глушы“). Менск, 1927 г. 202 стар. . . Ц. 1 р. 60 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „Першыя крокі“. Апавяданьні для дзяцей. Менск, 1925 г. Стар. 72. . . . . . . Ц. — 40 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „Крок за крокам“. Апавяданьні. Менск, 1925 г. Стар. 40. . . . . . . . . Ц. — 30 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „У ціхай вадзе“. Збор гумарыстычных апавяданьняў. Менск, 1925 г. Стар. 92. . . . . . Ц. — 80 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „У ціхай вадзе“. Выд. II. Менск, 1927 г. Ц. — 70 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „На рубяжы“. Апавяданьні. Менск, 1925 г. Стар. 56. . . . . . . . . . Ц. — 45 к.
**Гушча Тарас** „На прасторах жыцьця“. Менск, 1926 г. Стар. 217. . Ц. 1 р. 50 к.
**Дарожны С. і Плаўнік І.** „Звон вясны“. Менск, 1926 г. Вершы. Стар. 55. . . . . . . . . . Ц. — 25 к.

**Дубоўка Ў**. „Строма“. Вершы. Выд. „Наша Будучына“. Вільня, 1923 г. Стар. 32. . . . . . . . . . Ц. — 20 к

**Дубоўка Ў**. „Трысьцё“. Вершы. Менск, 1925 г. Стар. 103. . . Ц. — 20 к.

**Дудар А**. „Беларусь бунтарская“. Верш. Менск, 1925 г. Стар. 28. Ц. — 20 к.

**Журба Я**. „Заранкі“. Вершы. Выд. „Савецкая Беларусь“. Менск, 1924 г. Стар. 100. . . . . . . . . . Ц. — 25 к.

**Зарэцкі М**. „У віры жыцьця“. Збор апавяданьняў, Менск, 1925 г. Стар. 192. . . . . . . . . . Ц. 1 р. 50 к.

**Зарэцкі М**. „У віры жыцьця“. Выд. 2-ое . . . . . Ц. 1 р. 40 к.

**Зарэцкі М**. „Пад сонцам“. Апавяданьні. Менск, 1926 г. Стар. 100. Ц. — 50 к.

**Зарэцкі М**. „Голы зьвер“. Менск, 1926 г. Стар. 95. . . Ц. — 35 к.

**Колас Якуб**. „Водгульле“. Збор вершаў. Выд. „Адраджэньне“ Менск, 1922 г. Стар. 112. . . . . . . . . Ц. — 35 к.

**Колас Якуб**. „Новая зямля“. Поэма. Выданьне 2-ое. . . Ц. 2 р. — к.

**Колас Якуб**. „Сымон Музыка“. Поэма з портрэтам аўтара і прадмовай ад Выдавецтва. Менск, 1926 г. Стар. 278. . Ц. 1 р. 60 к.

**Колас Якуб**. „Казкі жыцьця“. Менск, 1926 г. (Апавяданьні). Стар. 73. Ц. — 50 к

**Крапіва**. „Крапіва“. Збор сатырычных вершаў. Менск, 1926 г. Стар. 144. Ц. — 85 к.

**Крапіва**, „Біблія“. Менск, 1926 г. Стар. 96. . . . . Ц. — 50 к.

**Крапіва**. „Байкі“. Сатырычныя вершы. . . . . Ц. — 45 к.

**Купала Янка**. „Шляхам жыцьця“. Збор вершаў. Выд. II. Выд. „Віленск. Выдавецтва Б. Клецкіна“. 1923 г. Стар. 270. Ц. 1 р. 25 к.

**Купала Янка**. „Спадчына“. Вершы. Выд. „Адраджэньне“. Менск, 1922 г. Стар. 224. . . . . . . . . . Ц. 1 р. — к.

**Купала Янка**. „Безназоўнае“. Вершы. Менск, 1925 г. Стар. 104. Ц. 1 р. — к

**Купала Янка**. „Поўны збор твораў“. Том I. „Гусьляр“. „Жалейка“. З портрэтам, жыцьцёпісам і крытычным нарысам. Менск, 1925 г. Стар. 280. . . . . . . . . . Ц. 2 р. — к.

**Купала Янка** „Збор твораў“, т. II. Менск, 1926 г. Стар. 353. Ц. 2 р. 40 к.

**Купала Янка**. „Збор твораў“, т. III. . . . . . Ц. 2 р. 30 к.

**Купала Янка**. „Збор твораў“, т. IV. (Друкуецца). . . . —

**Купала Янка**. „Эрос і Псыха“. Пераклад з польскай мовы. (Рыхтуецца да друку). . . . . . . . . —

**Нёманскі Я**. „На зломе“. (Апавяданьні). Менск, 1926 г. Стар. 322. Ц. 1 р. 65 к.

**Нікановіч М**. „Радасьць“. Менск, 1926 г. Стар. 57. . . Ц. — 25 к.

**Нікановіч М**. „Золак“. Менск, 1926 г. Стар. 141. . . . Ц. — 75 к.

**Пушча Язэп**. „Дні вясны“. Збор вершаў. Менск, 1927 г. Стар. 86. Ц. — 60 к.

**Трус П**. „Ветры буйныя“. Вершы. . . . . . . Ц. — 70 к.

**Чарнушэвіч Н**. „Дзіва“. Вершы. . . . . . . Ц. — 30 к.

**Чарот М**. „Завіруха“. Збор вершаў. Выд. „Белтрэстдрук“. Менск, 1922 г. Стар. 136. . . . . . . . Ц. — 40 к.

**Чарот М**. „Босыя на вогнішчы“. 1-ае выд., Менск, 1925 г. Стар. 36. Ц. — 10 к.

**Чарот М**. „Веснаход“. Збор апавяданьняў. Выд. „Савецкая Беларусь“. Менск, 1924. г. Стар. 180. . . . . . . Ц. 1 р. 10 к.

**Чарот М**. „Веснаход“. Выд. 2-ое. Збор апавяданьняў. Менск, 1925 г. Стар. 178. . . . . . . . . . Ц. 1 р. 10 к.

**Чарот М**. „Чырвонакрылы вяшчун“. Поэма. . . . . Ц. — 20 к.

**Чарот М**. „Беларусь лапцюжная“. Поэма. . . . . Ц. — 20 к.

**Чорны Кузьма**. „Пачуцьці“. Менск, 1926 г. Стар. 163. . . Ц. — 75 к.

**Чорны Кузьма**. „Хвоі гавораць“. Менск, 1926 г. Стар. 109. . Ц. — 50 к.

**„Чырвоны Дудар“**. Беларускі дэкляматар. З портрэтамі пісьменьнікаў. Злажылі Я. Купала і Цішка Гартны. Выд. „Савецкая Беларусь“. Менск, 1924 г. Стар. 356. . . . . . . Ц. 2 р. — к.

**Ядвігін Ш**. „Бярозка“. Апавяданьні. Выд. „Віленскае Выд. К. Клецкіна“. Вільня, 1923 г. Стар. 48. . . . . . Ц. — 40 к.

**Ясакар**. „Пад родным небам“. Збор вершаў. Выд. „Адраджэньне“. Менск, 1923 г. Стар. 136. . . . . . . Ц. — 65 к.

*Заказы робяцца ў акругах і раёнах праз аддзяленьні БДВ, а ў Менску праз цэнтральны магазын БДВ і выконваюцца хутка.*

# ПАСТУПІЛІ Ў ПРОДАЖ

## ва ўсе кнігарні

## БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА

# НОТЫ І СЬПЕЎНІКІ:

1. **„Бяспутнасьць“**, романс. Муз. Аладава М. Цана 30 кап
2. **„Зялёны дубочак“**, народная песьня. Запіс і гармонізацыя Прохарава Я. . . Цана 50 кап.
3. **„Замучаны цяжкай няволяй“**. Муз. Аладава М. . . . . . . Цана 25 кап.
4. **„Лісты валяцца“**, романс. Муз. Аладава М. Цана 15 кап.
5. **„Лета“**, романс. Муз. Аладава М. . . Цана 30 кап.
6. **„Сасонка“**, романс. Муз. Аладава М. . Цана 20 кап.
7. **„У мгле“**, романс. Муз. Прохарава Я. . Цана 40 кап.
8. **Равінскі М.** Збор песень з нотамі. 72 стар. Цана 40 кап.
9. **Тэраўскі Ў.** „Беларускі лірнік“. Сьпеўнік на 4 галасы. 99 песень. 90 стар. . Цана 75 кап.
10. **Луцэвіч В. і Савёнак А.** Зборнік песень для малодшых дзяцей (канчаецца друкам).
11. Комсамольскі сьпеўнік выд. 2-ое. 57 стар. Цана 20 кап.
12. Піонэрскі сьпеўнік (22 песьні). 50 стар. Цана 25 кап.
13. Сьпеўнік комсамольца. 32 стар. (на польскай мове) . . . . . Цана 20 кап.
14. **Ліманэ.**—Дзіцячы яўрэйскі сьпеўнік. 28 стар. Ц. 1 р. 20 к.

---

*Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва*
*Менск, Савецкая, 63.*


B000000 1829422